МАЗЫРСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ПЕДАГАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ
ІМЯ Н.К.КРУПСКАЙ

І.М.КУЧУК, А.К.МАЛЮК

# ПАЛЕСКІ СЛОЎНІК

## ЛЕЛЬЧЫЦКІ РАЁН

Мазыр 2000

МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ
МАЗЫРСКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ПЕДАГАГІЧНЫ ІНСТЫТУТ
ІМЯ Н.К.КРУПСКАЙ

І.М.КУЧУК, А.К.МАЛЮК

# ПАЛЕСКІ СЛОЎНІК

## ЛЕЛЬЧЫЦКІ РАЁН

Мазыр 2000

УДК 800.87(03). 26
ББК 81(2Б)-4
П14

Рэцэнзенты: **І.Я.Яшкін,** кандыдат філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік аддзела дыялекталогіі і лінгвагеаграфіі Інстытута мовазнаўства імя Я.Коласа НАН Беларусі;
**А.І.Равуцкі,** кандыдат філалагічных навук, прафесар кафедры рускай мовы МазДПІ імя Н.К.Крупскай

Друкуецца па рашэнні рэдакцыйна-выдавецкага савета
Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута
імя Н.К.Крупскай

**Кучук І.М., Малюк А.К.**
П14 Палескі слоўнік: Лельчыцкі раён. – Мазыр: МазДПІ імя Н.К.Крупскай, 2000. – 156 с.
ISBN 985-6613-01-9

У слоўніку ўпершыню сабраны і сістэматызаваны дыялектны матэрыял Лельчыцкага раёна і яго памежжа, які адлюстроўвае рэгіянальныя асаблівасці лексікі, фанетыкі, марфалогіі і іншыя раздзелы граматыкі. Слоўнікавыя артыкулы ілюструюцца канкрэтнымі прыкладамі.

Слоўнік разлічаны на выкладчыкаў, настаўнікаў, студэнтаў і ўсіх тых, хто любіць і шануе народнае слова.

УДК 800.87(03). 26
ББК 81(2Б)-4

ISBN 985-6613-01-9

# УВОДЗІНЫ

Лельчыцкі раён размяшчаецца ў цэнтральнай частцы ўсходняга Палесся, па левы і часткова правы бок Убарці – прытока ракі Прыпяць. Цікавасць этнографаў, дыялектолагаў і фалькларыстаў да ўсходнепалескай зоны беларускай мовы з яе багатым і ў многім яшчэ загадкавым мінулым агульнавядома. Але лексічныя багацці гэтай зоны і асабліва Лельчыцкага раёна амаль што не засведчаны.

«Палескі дыялектны слоўнік» напісаны на лексічным матэрыяле, сабраным у Лельчыцкім раёне аўтарам гэтых радкоў і часткова студэнтамі /каля 12% ад агульнай колькасці засведчаных мясцовых слоў/. У слоўніку з ліку зарэгістраваных больш за 3 000 слоў і фанетычных варыянтаў.

Адбор лексікі ажыццяўляўся на аснове дыферэнцыяльных прыкмет дыялектнага слова, а таму ў слоўнік не была ўключана лексіка,якая поўнасцю супадае ў гаворках і літаратурнай беларускай мове /ярмо, цэп, ятроўка, панчоха, наймічка, андарак, біч, корж, чаравік, крупнік, пернік, дышаль, стог, ночвы, сусед, і інш./. З розных наддыялектных крыніц праніклі ў гаворку запазычаныя словы, якія ў мясцовых умовах дэфарміраваліся ў пэўным напрамку і набылі ў выніку гэтага дыферэнцыяльныя прыкметы /беркулёз – туберкулёз, мацыклет – матацыкл, лісапета – веласіпед, антобус – аўтобус, матэфон – магнітафон, радзіво – радыё, протавар – тратуар і інш./. Такія словы таксама звычайна не ўключаліся ў слоўнік. Па-за межамі слоўніка засталіся шматлікія засведчаныя ў гаворках устойлівыя выразы, фразеалагічныя звароты, у складзе якіх апорныя словы пры ўмове іх свабоднага ўжывання не маюць прынятых дыферэнцыяльных прыкмет /хваціць маку на насенье, а людзей на веселье; далеко лежало – мало грэло; смерць да родзіны не гледзяць ніякай годзіны; хто прожыве ў горосі, а хто ў оўсе; сеў на бобах; даць дуба; мух поўны нос; не дай бог два разы жэніцца й два разы селіцца і інш./.

Сярод такіх выразаў шмат агульнанародных. Яны вядомы на ўсей тэрыторыі рэспублікі і за яе межамі. У гаворках Лельчыцкага раена засведчаны разнастайныя варыянты агульнанародных фразеалагічных адзінак /колка гостры на голове; не лові вороняк; рэшэтом воду носіць; лішне вода й млін ломае; з свого мозоля; я зо свого Хому, дзе хоч озьму,а ты свою Марынку – водзі по рынку; на палцах ходзіць і інш. /, а таксама ўстойлівыя, фразеалагічныя выразы, якія ўзніклі рознымі спосабамі на сваей дыялектнай лексічнай базе і ўжываюцца, відаць, у межах усходнепалескай зоны беларускай мовы /хай чэловек постол, а цегні его за стол; прылеціць сітка – не трэбо світка; пуйці на козлы; рукі зайшлі ў пазурэ; як не будзе пахці, так не будзе воніць; крышкі з бацько здубіў і інш./.

З такіх выразаў прыказкі і прымаўкі ўключаны ў слоўнік як звычайныя цытаты з мовы жыхароў раёна для падмацавання лексічнага значэння рэестравых слоў.

У склад слоўніка ўвайшлі мясцовыя словы з дыферэнцыяльнымі прыкметамі, г.зн. такія словы, якія ў большай ці меншай ступені адлюстроўваюць рэгіянальныя асаблівасці гаворак і ў сувязі з гэтым адрозніваюцца ад літаратурных адпаведнікаў *а/* каранёвай марфемай /бло́шчыца – клоп, жэўж – верабей, веселе́ц – журавель, в'я́ліца – сухастой, в'я́зы – жылы, ду́бчык – гаплік, ;*б/* фанемным складам /го́стры – востры, буя́х – буяк, брушні́ца – брусніца, глы́бко – глыбока/; *в/* марфалагічнай структурай /весня́ны – вясенні, дрэ́нчывы – дрэнны, глі́нны – гліняны, даўня́шні – даўні, ві́шнік – вішняк, бурако́ві –бурачны /; *г/* пастаноўкай націску не на адным і тым жа складзе /спе́ваць –спяваць, дру́гі – другі /; *д/* граматычным значэннем роду /бу́цел – бутля, кіломе́тра – кілометр /; *е/* лексічным значэннем /цалкам ці часткова/ пры аднолькавым фанемным складзе /від – твар; ягода – 1.ягада; 2.шчака; квас – 1.квас; 2.кампот/.

Большую частку слоўніка складаюць мясцовыя традыцыйныя дыялектызмы і даўнія ўсходнепалескія рэгіяналізмы. Гэта такія, напрыклад, словы, як брошэ́нь – стрыечны брат, ра́ло – саха, віш – атава, вужо́ўкі – ядавітыя грыбы, мач – ві́лы, на́глы – вялікі, пота́пцы –крышані, поўрэ́ – вырай, шыле́г – лаза, я́вар – таполя/. У слоўнік уключана частка мясцовай анамастыкі /мікратапонімы, некаторыя антрапонімы/, а таксама засведчаныя мясцовыя новыя словы /драпачы́ – культыватар, драця́нік – электрык/, якія ўзніклі ў выніку сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў і росту культуры на Палессі пасля Кастрычніка.

Лексікаграфічная інтэрпрэтацыя мясцовага лексічнага матэрыялу, засведчанага ў гаворках Лельчыцкага раёна,ажыцяўлялася ў слоўніку ў адпаведнасці з агульнапрынятымі патрабаваннямі да слоўнікаў такога тыпу. Дадатковага тлумачэння патрабуюць толькі некаторыя пытанні, якія па-рознаму вырашаюцца ў лексікаграфічнай практыцы:

*а/* У рэестры пададзены дыялектныя словы ў транскрыпцыі, якая адлюстроўвае іх гучанне ў межах магчымасці беларускай графікі, напрыклад:

СОЎЯ́К м. 1. Падасінавік. То я то́лько й беру́ со́ўяка й гры́ба, а во́сенью – зелені́цы. Ліпляны. 2. Ядомы грыб, апрача баравіка. Рэшо́цькі, моховікі́, маслюкі – е́то ўсе соўя́кі. Што ты набра́ла? – Рэшо́цькоў, маслюко́ў, моховіко́ў. Тонеж. 3. Мухамор. Ётые соўя́кі е кра́сные й бе́лые, іх не беру́ць. Тонеж.

*б/* Фанетычныя варыянты слова змешчаны ў адным слоўнікавым артыкуле напрыклад:

ВІ́ДОЎЖЫЦЬ і ВУ́ДОЎЖЫЦЬ зак. Выцягнуць. Ліса́ ві́доўжыць шыю, понюхае – і чэлове́ка почу́е. Падварак. Ужэ́ но́гі мо́жно ву́доўжыць, а то соўсі́м позакля́калі. Лельчыцы.

*в/* Словы з эмацыянальна-экспрэсіўнай афарбоўкай суправаджаюцца паметай «экспр.» , напрыклад:

ПУСТО́ЛЬГА ж., экспр. Нядбайны чалавек, гультай. Пусто́льга ты, тру́цень!Як то́лькі жо́нка з тобо́ю жыве́! Астражанка.

*г/* Лексічнае значэнне батанічных тэрмінаў звычайна тлумачыцца шляхам падбору літаратурных адпаведнікаў /плюшнік – аер, бобоўнік – капытнік, соўнях – сланечнік, лепеха – плывунец, зайчыкоў шчавер – кісліца, дзерэўянка – святаяннік, качалка – рагоз/. У асобных выпадках тлумачэнне такіх тэрмінаў абмежавана з-за адсутнасці патрэбнай інфармацыі тым, што ў ілюстрацыйнай частцы слоўніка або ў той яго частцы, дзе падаецца лексічнае значэнне слова, адзначаны толькі некаторыя выяўленыя прыкметы адпаведных дрэў ці травяністых раслін, напрыклад:

ЦІПЕЦ м. Кусцістая нярэзкая трава. От вукосіў ціпец чысто. Той его добрэ вукосе, хто ўмее строіць косу. Ліпляны.

СТОНОЎНІК м. Травяністая расліна. У стоноўніку кругом лістка зубчыкі, росце по порослях. Его параць і п'юць от жывота. Ліпляны.

*д/* Кантэкстуальныя, фразеалагічныя значэнні пададзены ў слоўніку побач з іншымі значэннямі мясцовага слова; выразы, у якіх рэалізуюцца кантэкстуальныя значэнні, падкрэслены, напрыклад:

КОЗЛЫ мн. 1. Сталюга. Пустаўлім козлы да рэжэм полено удвох. Тонеж. 2. Расці з раздваеннем стаяка на вялікія сукі. Ета сосна пуйшла на козлы. Тонеж. 3. Раздвоены стаяк. На козлох помешчаецца лежак боком. Маркоўскае.

*е/* Тэксты, цытаты з мовы жыхароў Лельчыцкага раёна запісаны спрошчанай транскрыпцыяй, у якой выкарыстаны сродкі беларускай графікі. Гэтыя сродкі дазволілі адлюстраваць фанетычныя асаблівасці лельчыцкіх гаворак: оканне /рогач – дышаль у возе для валоў, рогожа – рагоз/; лабіялізацыю галоснага гука «ы» /вугледка – люстэрка, вуворот – вываратэнь/; ужыванне ўказальна-асабовага займенніка 3-яй асобы з прыстаўным «в» /вон – ён/; спалучэнне «губны + л» у 1-ай асобе адзіночнага ліку і 3-яй асобе множнага ліку дзеясловаў другога спражэння з асновай на губны /кормлю – кормляць , сплю – спляць/ і інш.

*ж/* У транскрыбіраваным запісе мясцовых матэрыялаў мяккасць зычных абазначана знакам «ь» у сярэдзіне слова перад цвёрдым зычным /бульбашка – бурбалка, бусько – бусел/ і на канцы слова /горбыль – аполак, лапоцень – свердзел/; пазіцыйная мяккасць зычных не адзначана /краснюк – падасінавік, есцека – ёсць/.

Прызначаецца слоўнік як даведнік па дыялектнай лексіцы ўсходнепалескіх гаворак беларускай мовы для даследчыкаў-лінгвістаў, выкладчыкаў-філолагаў, студэнтаў філалагічных факультэтаў, настаўнікаў і ўсіх тых, хто цікавіцца скарбамі жывой народнай мовы.

## ВЁСКІ

Астражанка, Буда-Лельчыцкая, Вусаў, Буйнавічы, Букча, Глушкавічы, Данілевічы, Дзяржынск, Дуброва, Жмурнае, Забераржніца, Забродзе, Злодзін, Каліңаўка, Канапелька, Ліпляны, Лохніца, Манчыцы, Маркоўскае, Мілашавічы, Новае Палессе, Падварак, Прыбалавічы, Руднішча, Салагубаў, Сярэднія Печы, Тартак, Тонеж, Чырвонабярэжжа, Чэмернае.

## СКАРАЧЭННІ СЛОЎ

*Аг.р.* – агульны род
*выкл.* – выклічнік
*вышэйш. ступ. параўн.* – вышэйшая ступень параўнання
*дзеепрым.* – дзеепрыметнік
*дзеясл.* - дзеяслоў
*ж.* – жаночы род
*займ.* – займеннік
*зак.* – закончанае трыванне*зборн.* – зборны назоўнік
*злучн.* – злучнік
*лесаспл.* – лесасплаўнае
*лічэбн.* – лічэбнік
*м.* – мужчынскі род
*мадальн. сл.* – мадальнае слова
*мн.* – множны лік
*н.* – ніякі род
*нар. песня* – народная песня
*незак.* – незакончанае трыванне
*нейтр.* – нейтральнае слова
*памянш.* – памяншальнае
*перан.* – пераноснае
*прым.* – прыметнік
*прыназ.* – прыназоўнік
*прысл.* – прыслоўе
*субст.* – субстантываное слова
*усеч.* – усечаная форма
*часц.* – часціца
*экспр.* –экспрэсіўнае значэнне.

## А

АЙСЦЁ́Р і ГАЙСЦЁ́Р м. Чорны бусел. Ку́бло ро́біць собе́ гайсцёр на ду́бі. Маркоўскае. Айсцёр вуво́дзіць двох бусленя́т. Канапелька. Ко́лісь булі́ гайсцёры, а за́ра нема́. Ліпляны.

АЙСЯ́! выкл. Вокліч на свіней /побач з «ацю́!»/. Во поба́, поба́: не гуля́ецца сві́ньям. Айся́ куды́! Така́ про́пасць го́нчая! Тонеж.

АКРА́З часц. Якраз. Акра́з зостало́ся два ты́жні до за́пусок. Буда – Лельчыцкая. Молоко́ з коро́ўкі /грыб/ цечэ́, акра́з як з коро́вы. Маркоўскае.

АЛЁ́С м. Забалочаны альховы лес. У алёсі росце́ оле́ха. Лельчыцы.

АНІГА́ДКІ прым. Добры. Аніга́дкіе заво́дскіе аве́чкі. Ліпляны.

АСЦЕ́МЦЫ мн. Адросткі пер'яў у птушак пасля лінькі. Асце́мцы ўжэ росту́ць: ліня́юць гу́сі. Вусаў.

## *Б*

БА́БКА /1/ ж. 1. Частка ў возе,якая накладваецца на падушкі. Шво́рнем пройма́ецца поду́шэчка й ба́бка. Маркоўскае. 2. Спецыяльны брус, падушка на падсанках, карах для перавозкі доўгіх бярвенняў. Ба́бкі ро́бляць шырэ́й за поло́зья ў пудса́нках. Тонеж. 3. Прылада для вырабу дуг /вупраж/, палазоў. Ко́лісь поло́зья гну́лі на той ба́бкі. Маркоўскае.

БА́БКА /2/ ж. Матыль, страказа. Е бе́ленькіе ба́бкі. По весне́ іх бога́то на по́плові. Тонеж. Ба́бкі нагле́нные такі́е, коло́ рэкі́ воны́ ле́таюць. Маркоўскае.

БА́БКА /3/ ж. Падбярозавік. На мокрэ́йшых место́х ба́бкі росту́ць. Як постарэ́е, вона́ чэрне́е, цемне́е. Маркоўскае. За́рэ ў ле́сі одны́е ба́бкі. Новае Палессе.

БА́БКА /4/ ж. Невялікая касцістая рыба з калючымі плаўнікамі. Налова́ў одны́х ба́бок – і хва́ліцца. Падварак.

БА́БКІ мн. Кісліца. Як нема́ шчаўру́, ба́бок нарво́м да ва́рым боршч. Данілевічы.

БАЛА́БУШКА ж. Спецыяльная палачка /калатушка/, якой іграюць на бубне. У нас Хве́дор ло́ўко вубіва́е бала́бушкай на бараба́ні. Ліпляны.

БАЛАНДА́ ж. 1. Страва з бульбы і проса. Навары́ла баланды́, а дзе́ці е́сці не хо́чуць. Буда-Лельчыцкая. 2. Перан.,экспр. Нікчэмны чалавек. Падварак.

БА́ЛБУШКА, БУ́ЛЬБАШКА і БУ́ЛБАШКА ж. Бурбалка. Як ідзе́ дождзь, схва́тваюцца такі́е ба́лбушкі. Лельчыцы. Бу́лбашкі сха́пваюцца – бу́дзе іщі́ дождзь. Тонеж. Як е́сека бу́льбашкі на водзе́, бу́дзе ве́лькі дождзь. Астражанка.

БАЛБУ́ШЭЧКА ж. Памянш. да слова «ба́лбушка». Капне́ дождзь – і балбу́шэчка ўсха́пваецца. Тонеж.

БАЛЕ́ТКА ж. Сандаля. Не мо́на набра́цца е́тым дзе́цям бале́ток: то загу́бяць, то парву́ць, а гро́шы заплаці́ за іх. Дзяржынск.

БА́ЛКА ж. Падстольнік, кароткае тоўстае бервяно. За́рэ ў ба́лцы пазы́

вудо́ўбваюць. Тонеж. Мой чэлове́к прыв'езе́ ба́лку і вудо́ўбвае пазы́, а ей хто е́то робіцьму. Там жа. Верэцено́ ўста́ўліваецца ў ско́бу на ба́лкі. Маркоўскае.

БАЛО́НЧЫК м. Бітончык. Мо ў бало́нчыку шчэ е брэ́склае молоко́? Жмурнае.

БА́ЛЯ м. Бервяно, абсклюдаванае з чатырох бакоў. Ба́ля чэ́шэцца на чэты́ры бо́кі. У ру́чкі ба́ля не ўле́зе: така́ то́ўста. Шлі́пры робі́ліса по 10 ца́лей, а ба́лі по 12-14 ца́лей, як хво́я позволя́е. Тонеж.

БА́НКА ж. 1. Пасудзіна з бляхі або шкла. Купі́ла ба́нку на карасі́ну да погну́ла. Тонеж. У ба́нку кі́даюць окро́пу, лі́сту поху́чаго, гурэ́чкоў і закру́чваюць е́тые ба́нкі на зі́му. Ліпляны. 2. Перан., экспр. Модная прычоска. Дру́га дзе́ўка о́зьме да на го́лову ба́нку очэ́піць. Тонеж. 3. Медыцынская банка. Ка́жны дзень ба́нкі стано́ўляць, пеку́ць так, што, здае́цца, ко́жа отста́не. Чэмернае. 4. Пухір. Кома́р уку́сіць – ба́нка схо́піцца на це́лі. Тонеж.

БАРА́Н м. Рубанак з дзвюмя ручкамі. Поле́но чы́сцім барано́м. Данілевічы.

БАРА́НЧЫК м. Памянш. да «бара́н». Коб хоч бара́нчык які́ буў пуд рука́мі. Данілевічы.

БАРКА́Н і БУРКА́Н м. Агароджа з бярвенняў ці плашак. Ушу́ла поста́вім, закі́нем поле́на – і стоі́ць той барка́н со́рок годо́ў. Лельчыцы. Як хто ро́біць бурка́н, стано́віць ушу́ло і закі́дае пла́хі, дзе́рэво. Ліпляны.

БАРМАЛЕ́Й м., экспр. Вялікі тоўсты чалавек. Бармале́й ву́рос, а то́лку нема́. Падварак.

БА́РОК м. Ворчык. Посторо́нкі чэпля́ющца за ба́рок, а ба́рок – за стальва́гу. Маркоўскае.

БА́РХАТ м. 1. Бархат. І моро́з ні моро́з – мадзве́дзьво у́хо ўсе зе́лено. Воно́ мя́кенька, як ба́рхат, росце́ ў горо́дзі пуд сне́гом. Ліпляны. 2. Вельвет. Мне браці́ха отдала́ ба́рхотом споні́цу і андара́ка. Ліпляны. Ма́ці купі́ла собе́ ба́рхату на спо́ніцу. Астражанка.

БАСОВА́ЦЬ /1/ незак. Спяваць басам. Хры́сця ко́лісь басова́ла ў гу́рці жано́к. Тонеж.

БАСОВА́ЦЬ /2/ незак., экспр. Дрыгаць. Не басу́й нога́мі, а то не́рвеная бу́дзеш. Лельчыцы.

БАТО́Г м. Пуга. Вунь на сцене́ бато́г вісі́ць. Данілевічы.

БА́ЦЕНЯ м. Сын ці дачка з рысамі бацькі. От ужэ́ ба́ценя: кры́шкі з ба́цько здубіў. Тонеж.

БАШМА́К м. Кашалёк, партаманет. Набі́ў по́ўны башма́к гро́шы, а ў латуно́х хо́дзіць е́ты чэлове́к. Замошша.

БЕДА́ ж. Двухколка. Обеча́йнік на бедзе́ прыезжа́ў ко́лісь. Маркоўскае.

БЕ́ЖКІ прысл. Бягом. Трэ́бо заглузда́ць коня́, шчоб вон не побе́г бе́жкі, не разне́с. Лельчыцы.

БЕ́ЗІК м. Пячкур. Мне сего́ні не везе́: клюю́ць одны́е бе́зікі. Буда-Лельчыцкая.

БЕ́ЗНЕЛЮДЗЬ м. Дзікліві чалавек, нелюдзь. Жыве́ е́ты бе́знелюдзь, і

ніхто от его навек слова не почуе. Падварак.

БЕЗУМЕНКА ж. Дошка таўшчынёю 2 см. Дзерэво на безуменкі прывёз, а распіліць не могу. Данілевічы.

БЕКАЦЬ і БЭКАЦЬ незак. Бляяць. Овечка бекае цэлы дзень – хоч ушы колкамі затыкай. Ліпляны. Якого доха ета овечка бэкае. Падварак.

БЕЛКА ж. 1. Вавёрка. По дзерэву рысь бегае, як белка. Белка на голіну грыба чэпляе і сушыць. Данілевічы. Белка плыгае по дзерэву, хвосцік у ее хорошэнькі. Вона собе з пруцьеў зробіць кубло, моху нарве да й водзіцца там. Ліпляны. 2. Нічога не рабіць. Ну сегоні я убіў белку. Падварак.

БЕЛЬ ж. Забалочанае месца са стаячай вадою. У нас у лесі, коб походзілі, то побачылі б і веліку і малу бель. Бель стоіць у лесі і нікуды сцёку не мае. Тонеж.

БЕЛЬМАЧЫ мн. Яечня з неразбоўтаных яек. А што я постаўлю тым госцям? От нажару бельмачоў, кортоплі вуберу з грады – да і ўся закуска. Калінаўка. Мамко, бельмачы на сковородзе горяць. Мілашавічы.

БЕРОЗКА ж. 1. Травяністая расліна, павой, бярозка. Росце берозка ў кортоплі, у жыці, уецца коло іх сцеблін.Уся кортопля заростае берозкой. Падварак. 2. Пакаёвая кветка, бальзамін. Позводзіла ўсю свою берозку: вона ўжэ мне надоела. Дзяржынск.

БЕРЭЗА ж. Бяроза. Дзеды беруць з берэзы губу да крэшуць ее. З клёну, з берэзы робілі дзерэўяны ложкі. Тонеж. Моя піла дуба рэжэ, а берэзу і клёна аж мое. Ліпляны.

БЕРЭЗІНА ж., зборн. Беразняк. Лес тутака буў хорошы: берэзіна росла. У берэзіні бабкі ростуць. Чэмернае..

БЕРЭЗНІК м., зборн. Беразняк. Ой, слугі мое верненькіе! Берэць шабелькі гострэнькіе, рубайце дубнік, берэзнік Да шукайце ўдовіну дочку. З нар. песні. Тонеж.

БЕРЭЗОВІК м. Баравік, які расце ў беразняку. Коб хоч берэзовіка дзе натрапіць. Падварак.

БЕРЭЗОВЫ прым. Бярозавы. З берэзовай коры віколка робіць кубло на дзерэві. Данілевічы. После жару ў печ кладуць берэзовуе дрова на чэрэн. Тонеж.

БЕРЭМОК м. 1. Абярэмак, ахапак. Озьме берэмок сена рукамі і несе ў ворох. Тонеж. 2. Перабірач, пласт сена. Назгрэбае, назгрэбае берэмок сена, сцісне его грабелькамі да й несе. Тонеж.

БЕРЭСТ м. Бярозавая кара. Колісь берэст дралі да гналі дзёгоць. Сярэднія Печы. З берэсту небольшые коробкі робілі. Падварак.

БЕРЭСЦІНА ж. Палоска, кавалак бярозавай кары. З берэсціны робляць кузеньку. Данілевічы.

БЕРЭСЦЯНКА ж. Невялікая лясная птушка з чырванаватымі бакамі. Берэсцянка пудходзіць пуд сініцу. Сярэднія Печы.

БЕСЕДА ж. 1. Гулянка, банкет. Тые разы збіраліс у запускі на беседы. Ліпляны. 2. Удзельнікі гулянкі, госці. Поба, беседа ўжэ песню завела. Падварак.

БЕСКУРКА ж. Паляўнічая стрэльба без куркоў. Колісь бескурок не було. Бескурка наўзгатові була, осталос только перэдзвінуць собачку, а глухар полецеў. Маркоўскае.

БЕШЛАК м. Башлык. Бешлак накрывае голову. Маркоўскае.

БІЗДУШКА ж., экспр. Самаробная прылада для асвятлення хаты, газоўка. Колісь слепіліс з біздушкамі. Ліпляны.

БІЗДЗЮЖНІК м. Травяністая расліна. На біздзюжніку ягодкі такіе чорненькіе. Тонеж.

БІЛО н. 1. Спінка ложка. Хоч ты ложка вукідай: соўсім рассохліса біла. Замошша. 2. Планка ў драбіне. Бердзечко ў біла ўстаноўляецца. Падварак. 3. Спінка ў вызной павозцы на рысорах. Лёсткі ўдоўбваюцца ў біло. Данілевічы.

БІТКА ж. 1. Яйка, разбітае ў час гульні. Хто побіў яйцэ, той і бітку зобірае. Ліпляны. 2. Абмалочаны ўручную сноп. Кулёў навубіраў з тых біток. Замошша.

БІТКІ мн. Гульня з пафарбаванымі яйкамі на велікодныя дні. Даем дзецям яйцэ, да і граюць воны ў біткі. Ліпляны. Другі чэловек вубірае крэпака да ідзе на село ў біткі гуляць. Чэмернае.

БЛІЗНА ж. Памылка ў палатне: ніткі асновы ідуць зверху без прытыкання. Тонеж.

БЛІЗНЮК м. Дзіця-двайнятка. Колі ў городзі е двойны гурэчэк,то кажуць, шо родзіш блюзнікі. Тонеж.

БЛІСКАВІЦА ж. 1. Бліскавіца. Маркоўскае. 2. Арэх, спалены маланкай. Данілевічы.

БЛОШЧЫЦА ж. Клоп. У войну от блошчыц не було ратунку. Падварак.

БОБОЎНІК м. Травяністая расліна, капытнік. Пошла Мар'я ў болото і прыперла цэлу ношку свіньям бобоўніку. Падварак. Бобоўнік росце по нізох, корчох. Ліпляны.

БОГАТО прысл. 1. Багата. Зарэ ўжэ богато жывом: лісапеты, мацыклеты е ў людзей. Тонеж. 2. Многа. Еты год богато хлопцаў беруць у армею. Маркоўскае. У глухой сцене зробіў окно. Мо ў цебе грошай богато? Тонеж.

БОГАТЫР м. Багаты чалавек. У богатырэй булі моргі. Бувало, назбірае хто етых золотовок і ходзіць ужэ, як богатыр які. Тонеж. У богатырэй було цягло яко хоч: коні, волы. Падварак.

БОГАТЫРКА ж. Багатая жанчына. У якой жонкі було тры дзеругі,то казалі, шо вона ўжэ богатырка. Тонеж.

БОГАЧЧЫ прым. Багацейшы. У мого бацько не було земле, і вон служыў у богаччых людзей. Тонеж.

БОГАЧЧЭ прысл., вышэйш. ступ. параўн. да «богато» ў 1-ым значэнні. Багацей. Бенные дзеўкі наметкі полотняны завівалі, а як хто богаччэ, то з перкаля. Тонеж.

БОГНІЦА ж. Травяністая расліна, багун. Другі пойдзе по богніцы – голова боліць, а я от богніцы не ўчадзею. Ліпляны.

БОГОН м. Травяністая расліна, багун. У дзікіх богонах е некі глухі і просты богон. Колісь дзеўка шукае еты глухі богон. Тонеж. Цвіце богон – лес белее. Ліпляны.

БОДНЯ і БОННЯ ж. Кубел для адзення (раней), сала, гародніны. Во така высока була бодня. Накладзе друга дзеўка ў бодню дзеругі з вала, з прадзьва – і хваліцца. Тонеж. Колісь у бонню клалі шмацье, а цеперэка – у скрыню. Мілашавічы. Етым летам засолілі бодню гуркоў. Астражанка.

БОЗ м. Бузіна. На дзерэвіні боз росце. Ліпляны.

БОЗОК м. Памянш. да «боз». Пудкідаем бозка ў еты цыбульнічэк, коб яічко добрэ красілоса. Ліпляны.

БОЙНЯ ж. Бойка. Як хто на пробку наступіў, скуль тая й бойня озьмецца. Падварак.

БОЙСТРУК м., экспр. 1. Дзіця незамужняй маці. Падварак. 2. Куранятко, выведзенае курыцай таемна.Сколовалас кура і вувела бойструкоў.Лельчыцы.

БОКОВУХА і БОКОВІНА ж. Бакавое сала ў свіной тушы. Боковуха тоўста не бувае.Данілевічы. Одзыч ей ето сало,так вона цебе боковіны прынесе. Тонеж.

БОКОЎНЯ ж. Вяроўка, якой увязваецца воз з бакоў. Ты ж шчэ не отвёў бокоўні. Тонеж.

БОЛМОЦЬКА м., экспр. Балбатун. Болмоцька лішне болмоча, да шчэ й без толку. Тонеж.

БОЛОНЬЕ н. Узвышанае месца сярод балота. На болоны трова росце. Тонеж. Корову пасціла на болоны. Астражанка.

БОЛОСУРЫЦЬ незак. Гаварыць доўга пра нешта неістотнае, балакаць. Зімнімі днямі напарвалі печ добрэ да й болосурылі цэлу ноч. Ліпляны. Тутака седжу, болосуру, а коровы шкоды наробілі. Маркоўскае.

БОЛОТО н. 1. Балота. Ето ж болото з подушкою – не можно вулезці з его. Прыйдзе Петроўка – посушыць рэкі, а Спасоўка й болота. Тонеж. 2. Неядомае сена. Моя корова болото не есь – на пудсцёл покінуў. Тонеж.

БОЛОЦВІНА ж. Забалочаная мясціна, невялікае балота. Дзе болоцвіны якіе, там буяхі ростуць. Данілевічы

БОЛЬШУХА ж., экспр. Дзяўчына – падлетак. Чого ты плачэш, большуха? Мало шчэ ў цебе плаццёў. От маці шчэ трохі отробіцца да й пошые. Астражанка.

БОН м., лесаспл. Збудаванне для затрымання ў рэчцы сплаўнога лесу. Колі гоняюць лес мулём, дубовік пуказвае, дзе трэбо пуставіць бон. Плавакі пустаўляць бон – і лес забонуецца. Лельчыцы.

БОНДОРОВАЦЬ незак. Займацца вырабам бочак. Сват мой навек бондороваў. Тонеж.

БОРВІНОК м. Травяністая расліна, барвенак. На свечкі борвінка рвуць, як ідзе дзеўка замуж. Ліпляны. Несе Галя воду, коромысел гнецца, а за ею Ваня, як борвінок в'ецца. З нар. песні. Тонеж.

БО́РОДА ж. 1. Нязжаты касмык жыта на полі. Падварак. 2. Жытні абрадавы сноп на дажынках. Ты́е разы́ бо́роду з я́блукамі свеці́лі на Спа́са. Це́сненко звя́жуць е́ту бо́роду кра́сною шмо́ткою і све́цяць. Тонеж.

БО́РОЗНА ж. 1. Баразна. Як кі́далі кортó́плю? Чэ́рэз бо́розну? – У ка́жну бо́розну. Ліпляны. 2. Зямля, выпаханая і адвернутая плугам набок за адзін абход. Бо́розна на бо́розну лега́е – е́то ве́льмі хо́рошо. Ліпляны.

БОРЦЬ ж. 1. Выгніўшы сяродак дрэва. У хво́і вудо́убваюць борць і ро́бляць бо́чкі. Маркоўскае. 2. Калодачны вулей. У мого́ ходзя́іна було́ тры борце́. Маркоўскае.

БОРШЧ м. 1. Боршч. З оробе́йкового шчаўру́ ва́рым боршч. Буракі́ скрэбо́м, ро́бім квас да боршч ва́рым. Тонеж. 2. Сырая капуста з верхніх зялёных лістоў. У шчань склада́юць боршч. Падварак. Коб боршч не зам'ёрз, у сцёпку его ста́уляць. Ліпляны.

БОРЫ́ЛКО і БОРЫ́ЛЦЭ н. Памянш. да «борыло». Боры́лцэ горэ́лкі е, а піць нема́ кому́. Чэмернае. Коб е́то боры́лко яке́ горэ́лкі ву́гнаў. Там жа.

БОРЫ́ЛО н. Драўляная пасудзіна на хмельныя напіткі. Цэ́ло боры́ло нагна́ла горэ́лкі, ажно́ сто лі́троў, і ўсё ву́пілі на везе́лы. Ліпляны.

БОТО́ЎКА ж., лесаспл. Пук бярвенняў (30-35), звязаных для сплаву. По п'яць поле́н в'я́жем, вугоня́ем на рэ́ку і там склада́ем іх у бото́ўку. Ліпляны.

БО́ЎКНУЦЬ зак. Баднуць. За́рэ ж ее́ коро́ва бо́ўкне. Тонеж.

БО́ЎТАЛО н. Прылада, якой боўтаюць у вадзе і палохаюць рыбу. Зве́рху бо́ўтала бала́бушка е. Бо́ўтало создае́ згук. Мілашавічы.

БО́ХАН м. БО́ХАНКА ж. Булка хлеба. У во́ду моча́е жо́нка ру́кі, берэ́ це́сто, саджа́е бо́хан на ліст – і ў печ. З одного́ це́ста пеку́ць пудпа́льнака і бо́ханкі. Ру́лі, ру́лі, а бо́ханку хле́ба зду́лі. Тонеж.

БРА́ЖКА ж. Дзежка, вадзянка. З бра́жкі озьмі́ во́ды попі́ць. Падварак.

БРА́ЖНІК м. Кацёл для брагі ў самагонным апараце. От даста́ну бра́жніка, тогды́ й горэ́лка бу́дзе. Падварак. Коб хоч чоп не ву́рвало з бра́жніка. Ліпляны.

БРАЗКО́ТКА ж. Латунёвая талерачка ў барабане. У бараба́н уста́ўляюць бра́зкоткі, коб згук буў. Данілевічы.

БРА́КАР м. Майстар на лесараспрацоўках. Бра́кар по сту́ку вузнача́ў, ці е́сця сітові́ны ў дзе́рэве. Данілевічы.

БРАТКІ́ мн. Травяністая расліна, братаўка, анюціны вочкі. Браткі́ по по́лю росту́ць, по жы́ту. Ліпляны. Аб паходжанні назвы гэтых кветак у народнай песні так сказана: «Ты бу́дзеш, братко́, сі́ні цвет, а я бу́ду бе́лы цвет. І бу́дуць лю́дзі цветы́ рваць, сестру́ й бра́та ўспаміна́ць.» З нар. песні. Ліпляны.

БРАТКО́ н. 1. Стрыечны брат. Его́ ма́ці пошла́ за та́това братка́. Тонеж. 2. Родны брат. Ой, чого́ ж лес шумі́ць? Сестра́ з бра́том говоры́ць: покі́нь, братко́, жо́нку біць. Трэ́бо з е́ю свой век жыць. З нар. песні. Тонеж. Дзе ты, братко́ (родны брат), буў? Падварак.

БРАЦЕ́НІК м. Стрыечны брат. Сын та́това бра́та дово́дзіцца мне

браце́нікам. Падварак. Поза́ўтра ў на́шаго браце́ніка го́сці. Буда-Лельчыцкая.

БРАЦІ́ХА ж. Братава жонка. Положы́ла моя́ браці́ха ў кошэля́ набі́рыча, граб'ё́нку і пушла́ по я́годы. Лельчыцы. От ужэ́ пов'езло́ мо́ей браці́хі: такі́ дола́дны, самові́ты ў ее́ чэлове́к. Падварак.

БРА́ЦЦА незак. Жаніцца. За́рэ ўжэ дзеўкі́ і хлопчакі́ до́ўга не ўха́жаюць: познако́мляцца друг з дру́гом і беру́цца. Тонеж.

БРОДЗІ́ЦЬ незак. Хадзіць. Естые го́ды дзень бро́дзіш по ле́су і гры́ба не тра́піш. Тонеж. З осця́мі ло́ўляць ры́бу ве́чэром з огне́м, е́здзяць ло́дкаю або зака́чваюць коло́шы по коле́но і бро́дзяць. Мілашавічы.

БРОДЗЯ́ЖЫЦЬ незак. Весці сябе распусна. З во́йны не прышо́ў чэлове́к, і вона́ ста́ла бродзя́жыць. Лельчыцы.

БРОШЭ́НЬ м. Стрыечны брат. Мой брошэ́нь жыве́ ў Мозырэ́. Падварак.

БРУД м. 1. Бруд, смецце, высеўкі. У но́чвах куцью́ на́до пала́ць, шчоб бруд ву́лецеў. Тонеж. 2. Вошы, гніды. Бува́ло, бруд е ў голаве́, а цепе́р нема́. Тонеж. 3. Гной у ране. Оле́шына ця́гне бруд з боля́чкі. Тонеж.

БРУКО́ЎНІК м. Лісце бручкі. Корова́м бруко́ўнік рво́м. Падварак.

БРУКО́ЎНІШЧЭ н. Поле пасля бручкі. На бруко́ўнішчы корто́пля була́ така́ ра́сненька. Ліпляны.

БРУСЛЕВІ́НА ж. Травяністая расліна, брызгліна. У нас таке́ було́ не́калі: рва́лі бруслеві́ну да сушы́лі, тоўклі́, з са́лом разме́швалі і ма́заліса ад во́шай. Тонеж.

БРУЧ м. Абруч. У коша́ры е бручы́, коб вона́ не шчо́ўвалас, не сплюска́лас. Мілашавічы.

БРУ́ШКА ж. Бручка. Бру́шка росце́ шыро́ко й ку́ценько. Тонеж. Як соло́дка бру́шка, то облу́пім да емо́. Ліпляны. Бога́то ў мене́ дуплена́той бру́шкі ў е́том году́. Падварак.

БРУШНІ́ЦА ж. Брусніца. Кучэ́чкамі брушні́цы росту́ць. Сок ца́дзяць з брушні́ц. Ліпляны.

БРЫЖ м. Аблямоўка з тонкай тканіны са зборкамі. З брыжа́мі бува́е ґорсе́т, нагру́днік, а лі́фік – без брыж. Ліпляны.

БРЫКУ́Н м. Травяністая расліна, баркун. Брыку́н цвіце́ бе́ленькімі цвето́чкамі, на ём ко́рэнь то́ўсты-то́ўсты, а лі́сце дро́бное. Ліпляны.

БРЫЛЁ́К м. Выступ (у коміне). Озьмі́ се́рнікі на брыльку́. Падварак.

БРЭ́ДНІ ВО́ЛОК і БРЭ́ДЗЕНЬ м. Рыбалоўная прылада, браднік. Бува́юць два неодзіна́ковые во́локі: плавуны́ і брэ́дні во́лок. Маркоўскае.

БРЭ́ДНІК м. Рыбалоўная прылада, невялікі браднік. Пусці́ душу́ ў брэдзь, то вона́ й брэ́днік пое́сць. Тонеж.

БРЭ́ЗКЛЫ і БРЭ́ЗГЛЫ прым. Кіславаты (звычайна пра малако). Мо брэ́зклае молоко́ бу́дзеш піць? Буда-Лельчыцкая. Колі́ брэ́зглае молоко́, прынесі́ – я ву́п'ю. Забережніца. Мо ў бо́лончыку шчэ е брэ́зклае молоко́? Жмурнае.

БУ́ДКА ж. 1. Будка. Не́што соба́ка дзень і ноч з бу́дкі не вула́зіць. Чэмернае. 2. перан., экспр. Твар. Ну й нагодова́ў бу́дку: ні об'е́хаць, ні обойсці́.

Ліпляны.

БУДОЛІ́НА і БУДЫЛІ́НА ж. Бадыліна, сцябліна травяністай расліны. Бру́шка, будолі́наю росце́. Будылі́на пуска́е па́молодзень. Ліпляны.

БУДЫЛЬЕ́ н., зборн. Сцяблы травяністай расліны, быллё. Вукіда́емо будылье́, а семена́ беро́м. Ліпляны.

БУ́КІ мн. Гатунак фасолі. Бу́кі – е́то квасо́ля, вона́ така́ плеска́та, кра́сненькім цве́том цвіце́. Тонеж.

БУКНОВЕ́ННЫ прым. Звычайны. Е́то ж букнове́нная плюха́, вона́ от така́ вуро́стае. Чэмернае. Остро́ва – букнове́нное дзе́рэво з одру́бленымі голі́намі. Ста́уляць велі́ку остро́ву да пчо́лок гледзя́ць. Лельчыцы.

БУ́-КОЛІ прысл. Калі ні калі. Бу́-колі схо́ім по грыбі́. Прыбалавічы.

БУ́-КУДЫ прысл. Куды-небудзь, абы-куды. Ку́ды по́йдом? – Бу́-куды. Прыбалавічы.

БУЛЁ́Н і БУЛЬЁН м. Бульбяны суп. Корто́плі нема́, а дзе́ці булё́ну хо́чуць. Чэмернае. Ма́мко, навары́ нам булё́ну. Заберажніца. Прыста́ў на обе́д сухопа́р, а то надое́ў булё́н. Прыбалавічы.

БУЛЬБА́ШНІК м. Бульбоўнік. Бульба́шнік корова́м су́шым. Мілашавічы.

БУ́ЛЬНІК м. Сцяблы. Бу́льнік з табаку́ рэ́жэм ножэ́м, тоўчэ́м ў сту́пкі. Маркоўскае.

БУНТ м. Звязка грыбоў. Му по два-тры бунты́ грыбо́ў у ла́ўку здае́м. Сярэднія Печы. У нас ужэ́ е тры бунты́ грыбо́ў. Астражанка.

БУРАКО́ВЫ прым. Бурачны. У нас бурако́вы квас ро́бляць. Падварак.

БУРА́ЧНІШЧЭ н. Поле пасля буракоў. На бура́чнішчы збіра́ем корова́м будылье́. Падварак.

БУ́РГАЦЬ незак. Раскідаць, бурыць. Стою́, а вон бу́ргае мой плот. Падварак.

БУРГЕ́ЛЬ выкл. Шпургель. У во́йну по хато́х ходзі́ла, і лю́дзі, як той соба́чцы, бурге́ль мне кусо́к хле́ба. Ліпляны.

БУ́РКА ж. Бурнос. Бу́ркой чэлове́к накрыва́уса соўсі́м, то́лькі від ві́дны. Бу́ркі булі́ суко́нные, свое́ робо́ты. Маркоўскае.

БУ́РКАЛКА ж. Сцябло чарота. Дзе́ці нарву́ць бу́ркалок і п'юць во́ду і́мі. Буда-Лельчыцкая.

БУРКІ́Н м. Травяністая расліна, баркун. Ве́льмо хо́рошо пахне́ буркі́н. От жэлу́дка его́ п'юць. Ліпляны.

БУРКУ́Н м. Травяністая расліна, баркун. От дзе́цкой боле́зні бурку́н помога́е. Зе́лье з буркуна́ і то́і от любві́ дзеўка́м ба́бу даю́ць. Коб не бурку́н і не то́я, то була́ б дзе́ўка мо́я. Тонеж.

БУРТУ́Н м. Апалонік /лічынка земнаводных/. Му е́тых буртуно́ў за хвост да пудкіда́емо. Дзяржынск.

БУ́СЛІКІ мн. Расліна, бусельнік. Бу́слікі сце́люцца по зе́мле. Трэ́бо, шчоб бу́слікі ву́сохлі без со́нца, а пото́мака іх па́раць і по́юць дзіця́тко. Лельчыцы.

БУСЬКО́ н. Бусел. На буську́ о́кідзь попа́ла. Данілевічы. Буську́ сі́тку

прыне́с пуд крыло́м. Тонеж.

БУ́-ТО займ. Абы-што. Не кей, бра́це, бу́-то. Прыбалавічы.

БУХО́НЫ прым. Добра выпечаны /хлеб/. Бухо́ны хлеб з но́здрачкамі. Буда-Лельчыцкая.

БУ́ХТА /1/ Глыбокае месца на павароце ракі, вір. У рэчно́й бу́хці глы́бко. Мілашавічы.

БУ́ХТА /2/ ж. Складка ў плацці. От ужэ́ дзе́ўкам достае́цца, як бу́хты прасу́юць. Ліпляны.

БУ́ЦЕЛ і БУ́ТЭЛ м. Бутля. Насто́йку ро́бім у бу́тлох. Тонеж. У бу́тэл оле́і зліва́лі. Калінаўка. Бу́цел за́ткалом затыка́юць. Маркоўскае. Ко́лісь оле́і бі́лі і лі́лі ў бу́тлы. Тонеж. То я ж по́ўны бу́цел бра́жкі наробі́ла. Чырвонабярэжжа.

БУЯХІ́ мн. Дурніцы, буякі. По ўсему́ ле́су росту́ць буяхі́. Падварак. Дру́гі раз жонкі́ по́ўные кошэ́лі буяхо́ў набіру́ць. Руднішча. Дзе боло́цвіны які́е, там буяхі́ росту́ць. Данілевічы.

БУЯ́ШНІК м. Буяковыя сцяблы, зарасці. От буя́шніку ўча́дзець мо́жно. Тонеж.

БЫ́ДЛО н. Буйны рагаты скот. Усю́ жы́тку Сохве́ін чэлове́к бы́дло па́сціў. Чэмернае.

БЫ́ЦІК-БЫ́ЦІК выкл. Зваротны вокліч да бычкоў. Тонеж.

## В

ВА́ГА ж. Перакладзіна, бервяно-рычаг у жураўлі. Ва́га перава́гвае крука́ – і легчэ́й во́ду цега́ць. Ліпляны.

ВА́ЖКІ прым. Цяжкі. А ва́жкі ў цебе́ хлеб. Мо не ву́пекла? Ліпляны. Коло́ду ва́жкую прыв'ёз. Сярэднія Печы. Не́кі ва́жкі кошэ́ль, аж ірво́ці беру́ць. Тонеж. Ва́жка жы́тка була́ ко́лісь: цэ́лу зі́му сму́каюць жонкі́ кудзе́лю,сле́пяцца. Падварак.

ВА́ЖКО прысл. Цяжка. До́брэ моло́лі на жо́рвонох, то́лько ва́жко ве́льмо. У чобо́цех ва́жко ходзі́ць. Мо ву негожы́е, шо ва́жко седа́еце? Мілашавічы. Пе́це, лю́дзі горэ́лочку, А ву гу́сі во́ду, Ця́жко-ва́жко жы́ці на чужы́не, не ма́ючы ро́ду. З нар. песні. Ліпляны.

ВАЗО́Н м. 1. Пакаёвая кветка. Коноле́лька – е́то вазо́н. З мо́лодосці ўсе вазо́ны люб'ю́. Ліпляны. 2. Пасудзіна для пакаёвых кветак.Мо зав'я́ла б гру́шка, коб ее́ перэсадзі́лі ў дру́гі вазо́н. Падварак.

ВАЗО́ННІК м. Пасудзіна для пакаёвых кветак. Нія́к не ўпрошу́ ходзя́іна зробіць вазо́нніка на гру́шку. Ліпляны.

ВАЛ м. 1. Доўгі земляны насып. Тонеж. 2. Ніткі з рэштак ільну пасля часання, прадзення. Ву́прадзе жо́нка му́чку на то́нкіе ні́ткі, а клочэ перава́львае на вал. Ліпляны. Во така́ вусо́ка була́ ў ее́ бо́ння дзеру́т з пра́дзьва, з ва́ла. Тонеж. 3. Шмат чаго-небудзь. У ле́сі е́то врэ́м'е було́ вал грыбо́ў. Лохніца.

ВА́ЛОВЫ прым. Зроблены з грубых, тоўстых нітак. Ссука́ла б шнурэ́

ва́ловые да забо́рсала б чэрэвікі. Ліпляны. Ой, весна́-весня́ночка! Да не ву́спалася Мар'я́ночка, Да сука́ла шнурэ́ ва́ловые, Да посто́лікі луто́вые. З нар. песні.Там жа.

ВАЛЮ́ША ж. Валяльня. Пра́дзьво, як ру́кою обня́ць, кі́даем у валю́шу да тоўко́м. Тонеж

ВАНЧЭ́С м. Абшклюдаванае бервяно. Ванчэ́сы чэса́лі на чэты́ры бо́кі. Ванчэ́сы бу́лі з ґа́нтамі. Данілевічы.

ВАРО́НАЕ н., субст. прым. Вараная страва. Без варо́нага – е́ды нема́. Падварак.

ВАРО́НКІ мн. Вараная бульба. От, коб варо́нок з капу́стою ходзя́йка подала́. Падварак.

ВАРША́ЎКА ж. Гатунак бульбы. Як зва́рыцца варша́ўка – уся́ ў ка́шы. Тонеж. Дай ты мне марга́нкі, то я тобе́ дам варша́ўкі. Мілашавічы.

ВА́РЫВО н. Вараная страва. На вечэ́ру ва́рыва сего́ні нема́. Тонеж.

ВАРЫЎНА́Я прым. Прызначаная для гародніны /пра бочку/. Капу́сту шатку́юць у варыўны́х бо́чкох. Тонеж.

ВАРЭ́ЙКА ж. Гаршчок. У варэ́йкох ка́шу ва́рымо. Вусаў.

ВАРЭ́НІК м. Піражок з начынкаю. Варэ́нікі з варэ́ньем пеко́м. Тонеж. Ко́лісь варэ́нікі вары́лі з конопля́мі. Ліпляны.

ВАЎДЗЮ́ШКА ж. Рыбка. Не лова́ецца ры́ба: па́ру ваўдзю́шак споймаў і ву́кінуў. Мілашавічы.

ВАЎНУШКА ж. Грыб, ваўнянка. Поўз по́ле росту́ць на жы́тнішчэ ваўну́шкі. Маркоўскае.

ВЕ́ЕНКА ж. Лапаточка для ачышчэння абмалочанага зерня.Ве́енкою ве́елі жы́то, грэ́чку. Ліпляны.

ВЕЗА́НОЧКА ж. Снопік ільну. Поберо́м з пенька́ лён, пов'я́жэм веза́ночкі і ста́ўліем іх по штук дзе́сяць. Тонеж.

ВЕ́ЗЕЛЬ м. Расліна, вязель. На лугу́ ве́зель росце́, ро́ўны з траво́ю. Ліпляны. Ве́зель пахне́, а з его́ мед не беру́ць пчо́лы. Тонеж.

ВЕК м. 1. Свядомае чалавечае жыццё. Век свой проробі́ла на хве́рме. Ліпляны. На мой век е́той кісе́ты хва́ціць. Маркоўскае. 2. Ніколі /пры дзеясловах з адмоўем «не»/. Век нічо́га не ска́жэ, шчо ў дворэ́ ці ха́ці ро́біцца. Тонеж.

ВЕ́КОЦЬ м. Вехаць. Ко́лькі не зро́біш е́тых векцёў – і ўсё нема́. Падварак.

ВЕ́ЛЬКІ прым. Вялікі. Ло́жку так ве́льку шука́е, а робі́ць не хо́чэ. Дуброва. Ну й ве́лькі ў цебе́ восковік. Мо глады́шэк п'яць мо́жно откі́нуць? Падварак.

ВЕ́ЛЬМО прысл. Вельмі. От не́йке ве́льмо ўжэ залу́шчэнэ дзіця́тко. Падварак. Пары́льнік ве́льмо заржаве́ў – трэ́бо об пудло́гу поце́рці. Дзяржынск.

ВЕНЕ́Ц м. Вянок у зрубе. Раньшэ дзев'яць венцоў у хаці клалі: тоўсты лес буў. Тонеж.

ВЕНО́К м. 1. Вянок у зрубе. За дзень вено́к счэпі́лі – і до́брэ. Тонеж. 2. Пляцёнка цыбулі. Плето́м у венкі́ цыбу́лю або часны́к. Ліпляны. Поможы́, до́нько, пле́сці цыбу́лю ў венкі́. Заберажніца.

ВЕ́РБНА НЕДЗЕ́ЛЯ ж. Вербніца. На ве́рбну недзе́лю ве́рбу на по́куці ста́ўляць, а на дру́гі дзень, ву́тром, ма́ці б'е ве́рбою дзе́ці. Ліпляны.

ВЕРОСО́ВІК м. Баравік, які расце ў верасе. Сего́ні кошэ́ль верасо́вікоў набра́ла. Тонеж.

ВЕРСТА́Т м. Варштат /сталярны/, ткацкі станок. Верста́т у Рыго́ра е. Ліпляны. На верста́тох кро́сна ткуць. Сярэднія Печы.

ВЕРТУ́Н м. Піражок. З ма́ку му ро́бім вертуны́: меша́ем це́сто, заго́ртаем у его́ мак – і ў печ. Ліпляны.

ВЕРХ м. 1. Макаўка, частка бервяна (дошкі) ад макавіны. У зе́ллейка от рэза́чкі вот такі́ кра́сны верх. Забра́ў дзе́рэво, а верха́ оста́віў. Гузу́ кладо́м на перэдо́к, а верха́ – на крыву́лю. Трэбо́ меша́ць гузу́ й верха́, коб ко́са не була́ пудло́га. Тонеж. 2. Смятана. Верха́ пускі́даюць жонкі́, а кісля́к у такі́ мешэ́чэк да сыр перэтопля́юць. Тонеж.

ВЕРХО́ЎЕ н. Верхняе сена ў стагу. Верхо́ўе скі́даюць оддзе́льно: воно́ такее чо́рное ста́ло. Астражанка.

ВЕРХУЛЕ́СЬЕ н. Высокі родны лес. Верхуле́сье таке́, шо й не́бо не ві́дно. Лельчыцы.

ВЕРЧ м. Круглы скрутак лык. Змота́е чэлове́к тры-чэты́ры поло́сы ў ве́рча і плеце́ з его́ постолы́. Тонеж. З одного́ ве́рча па́ру постоло́ў не сплецеш. Данілевічы.

ВЕРЭ́ЛЯ ж. Арэлі. Почэпі́ты ему́ верэ́лю, да неха́й отчэ́піцца. Вусаў.

ВЕРЭЦЕ́Б м. Забалочаная, топкая мясцовасць. У верэце́бі то́лько трава́ да лоза́ росце́. Падварак.

ВЕРЭЦЕНО́ н. Млён. Верэцено́ ўста́ўліваецца ў ско́бу на ба́лкі. Маркоўскае.

ВЕРЭШЧА́КА ж. 1. Рэдкая мучная страва з кавалачкамі сала, каўбасы і свіных рабрынак. На Велікдзе́нь ко́лісь верэшча́ку вары́лі. Маркоўскае. 2. перан. Крыклівы чалавек. А е́та ж дзе́ўка така́ ўжэ вярашча́ка: пуста́ў сем соба́к, так вона́ іх перакрычы́ць. Лохніца.

ВЕРЭШЧА́ЦЬ незак.,экспр. Шумець, гаварыць громка і неразборліва. А ні верашчы́ ты! Падварак.

ВЕСЕЛЕ́Ц м. Журавель. Весельцы́ на весне́ прыле́таюць. Мілашавічы.

ВЕСЕЛУ́ХА ж. Радуга. От веселу́ха до́ўгая – бу́дзе дождзь. Спусці́ласа веселу́ха да й во́ду берэ́ ў бало́ці. Тонеж.

ВЕСЕЛЬНІК м. Удзельнік вяселля. Сват корова́ем узыва́е ўсіх весе́льнікоў. Тонеж.

ВЕСНЯ́НКА ж. Вяснушка. У ее́ ўвесь відо́к у весня́нкох. Падварак. Пры́дзе весна́, і ў ее́ ўвесь відо́к у весня́нкох. Мо ку́бла ла́ставок вубіра́ла? Падварак.

ВЕСНЯ́НЫ прым. Вясенні. На весня́ного Ю́р'я хвосты́ пудрэ́зваюць худо́бі. Ліпляны.

ВЕ́ТКА ж. Травяністая расліна, касач. На ве́ткох такіе́ длі́нные зелёные

лісто́чкі. Тонеж.

ВЕТРОВА́Л м. Буравал. Ветрова́л ідзе́ на дро́ва. Данілевічы.

ВЕ́ТРЫЦЬ незак. Паводзіць сябе непрыстойна. Легко́ жыве́, дак ве́трыць. Падварак.

ВЕЧЭРЫ́НКА ж. Вясельная гулянка ў нявесты. К молодо́й на вечэры́нку го́сці е́дуць. Мілашавічы.

ВЕ́ШНІЦА ж. Вароты ў горад, панскі двор. У Ле́нчыцох стоя́ла ве́шніца, дзе цепе́рака по́шта. Чэмернае.

ВЕШНЯ́НЫ прым. Веснавы. Коўпакі́ вешня́ные грыбы́, воны́ ко́ло сосно́вых пенько́ў росту́ць. Данілевічы.

ВЕ́Я ж. Завіруха. От ве́я замела́, пузаме́твала ўсё. Тонеж. Ты б са́чыка надзе́ла да зама́танку замата́ла, а то вунь яка́ ве́я на дворэ́. Новае Палессе.

ВІД м. Твар. Увесь від ее ў пухіро́х. Буда-Лельчыцкая. Така́ спра́ўна, а від рабы́. Тонеж.

ВІДЗЁЛКА ж. Відэлец. Відзёлкамі едзі́м м'я́со й шква́ркі. Ліпляны. У мі́се чэрэп'е́ му́юць: ло́жкі, відзёлкі. Тонеж.

ВІДО́К м. Памянш. да «від». У Міхо́дзея відо́к почырване́ў. Падварак. Уціра́й рося́нкою відо́к – хоро́ш бу́дзе. Ліпляны.

ВІ́ДОЎЖЫЦЬ і ВУ́ДОЎЖЫЦЬ зак. Выцягнуць. Ліса́ ві́доўжыць шы́ю, поню́хае – і чэлове́ка почу́е. Падварак. Ужэ́ но́гі мо́жно ву́доўжыць, а то соўсі́м позакля́калі. Лельчыцы.

ВІДУ́Н м. Мак-самасейка. Стара́йса віду́н бы́стронько зобра́ць як спе́лы, бо ў ём, е́том відуну́, дзірочкі́е зве́рху. Ліпляны.

ВІ́КАЛКА ж. Птушка, берасцянка. З берэ́зовой коры́ ро́біць вікалка ку́бло пуд цвет дзе́рэва. Данілевічы.

ВІ́ЛКА ж. Прылада для вымярэння таўшчыні дрэва, вязання сеткавага палатна. Дзе́рэво лесні́к ме́рае ві́лкой. Данілевічы. Ві́лкой в'я́жуць жакі́. Мілашавічы.

ВІЛКІ́ мн. 1. Вілы (драўляныя і жалезныя з двума зубамі). Дзерэўя́нымі вілка́мі сто́гі на боло́ці кі́даем. Мач на чэты́ры ро́га, а вілкі́ – на два. Маркоўскае. 2. Вілкі. Пуста́ў у кове́шнік вілкі́. Данілевічы. У вілко́х кове́шнік надлома́ўса – не могу́ чавуны́ з пе́чы доста́ць. Прыбалавічы.

ВІ́ЛОШНІК м. Дзяржанне, палка ў прыладах для выцягвання посуду з печы. Ужэ́ усе́ ві́лошнікі пому́ла, то́лько одна́ чапле́йка зостала́с. Дзяржынск. Такі́ вон ходзя́ін: ві́лошніка ў вілкі́ не зро́біць. Тонеж.

ВІНАВА́ЦІЦЬ незак. Абвінавачваць. А цебе́ не вінава́целі? Тонеж.

ВІЦЬ ж. Скручаныя звычайна лазовыя галінкі для прывязвання, умацавання чаго-небудзь. Ма́ло було́ віці, і горо́д не загородзі́ў. Данілевічы.

ВІШ м. Атава, сухая трава. Ко́лькі ўжэ мо́жно воро́чаць е́ту віш! Буда-Лельчыцкая. Віш ко́сяць у за́морозкі. Падварак. Дзве про́сцілкі ві́шы прыне́сла. Астражанка.

ВІ́ШНІК м., зборн. Вішняк, галінкі вішань. Вубіра́ю два кошэ́лікі гурэ́чкоў,

му́ю чы́сценько і кі́даю ў бо́чку, клоду́ на дно голі́нок ду́ба з лі́сцейком, ві́шніку з го́льем, вокро́п з зелёной шы́шкой. Ліпляны.

ВІШЧА́ЦЬ незак. 1. Вішчаць. Шчэ зе́льля нема́, а порося́та ўжэ вішча́ць, ву́брало ім бо́кі. Астражанка. 2. Смяяцца. Як разгорну́ла вона́ пудра́ны плашч, то ўсе лю́дзі вішча́лі. Буда-Лельчыцкая. 3. экспр. Спрачацца, крычаць. Яко́го перэло́га ты вішчы́ш! Тонеж. Бабу́ вішча́ць на селе́. Там жа.

ВІ́ШЭННІК м. зборн. Вішняк, галінкі вішань. Як ро́бім росо́л, часны́к, ві́шэннік кі́даем у бо́чку, хрэн з гурка́мі, помідо́рамі, а наве́рх кружо́к клодо́м. Тонеж.

ВО́БРАЗ м. Ікона. Е́ты во́браз на поса́дзі даў та́то. Падварак.

ВО́БРУБ м. Верхняя частка зруба ў студні. Разбу́ргалі во́бруб у коло́дцы, а постро́іць его́ нема́ кому́. Ліпляны.

ВО́ДА ж. Вада. На апо́ўзнік руба́юць берэ́зы да клоду́ць его́ на стог, шчоб се́но злегло́са да во́да сце́кала. Тонеж.

ВОДЗЁНОК, ОДЗЁНАК і ОДЭ́НОК м. Падмосткі, насціл для захавання ад сырасці /вады/ ніжняй часткі стога ці капы, адонак. Трэ́бо зробі́ць водзёнка віcо́кого, коб се́но не замо́кло. Сярэднія Печы. На жы́то одзёнка робі́лі на чэтыро́х стоўбо́х. Маркоўскае. На грудку́ одзёнка ро́бляць. Падварак. Там, на том одэ́нку, се́на ма́ло: мо які́ колеснí́к бу́дэ. Новае Палессе. Ужэ́ зробі́ў одэ́нка, а вон ма́лы, трэ́бо его́ повелі́чыць. Жмурнае.

ВОДЗЯ́НО прысл. Вадзяніста, з вадой. Там накосі́ць легко́, коб не було́ водзя́но. Тонеж.

ВОЕ́ н. Каркас у стаўных рыбалоўных прыладах. Коб дзержа́лос, не сту́львалос пру́цье, у кошэ́ е вое́. Мілашавічы.

ВО́ЗІК м. Выязная павозка, вазок. Колома́жкой е́здзілі зімо́й, а по ле́ту – во́зіком. Тонеж.

ВО́ЙНА ж. Вайна. Наве́к у стра́дзі жыву́: чэлове́к з во́йны не прышо́ў, дзе́ці одна́ годова́ла. Маркоўскае.

ВОКРО́П і ОКРО́П м. Травяністая расліна, кроп. Му кладо́м вокро́п, ві́шнік у бо́чку з гурка́мі. Ліпляны. У росо́л сы́плюць окро́п, пе́р'я цыбу́лькі. Тонеж.

ВО́ЛЕ н. Валлё. У кур во́ле мя́кенькое, як нема́ ім чого́ есць. Ліпляны. У одны́х чырво́нцоў кра́сненькое во́ле, а ў дру́гіх – сі́венькое, се́рэнькое. Данілевічы.

ВОЛЕ́Й м., ОЛЕ́І мн. і ОЛІ́ВА ж. Алей. У кого́ бога́то було́ се́м'я, бі́лі ў млíно́х воле́й. Ліпляны. У воле́йніцы набі́ла оле́яў. Тонеж. За́ра купля́емо олі́ву ў ла́ўцы. Маркоўскае.

ВОЛЕ́ЙНІЦА ж. Прыстасаванне для выціскання поснага масла. Ты́е разы́ са́мі бі́лі воле́й у воле́йніцы. Тонеж.

ВОЛЕ́ШНІК м. Алешнік, галінкі алешыны, лісце. У куроня́х з воле́шніку седзе́лі ў во́йну, по ты́жню не е́лі і есць не хоце́лі. Ліпляны. Прыклада́юць к ра́ні подоро́жнік і воле́шнік. Там жа. Ужэ́ сутоне́е, а вон воле́шніку шчэ не нарубаў.

Новае Палессе.

ВОЛКОВА́ТЫ прым. Сыраваты /пра сена/. Згрэ́бла се́но ў волкі́, а воны́ шчэ волкова́тые. Мо к ве́чэру пудсо́хнуць? Тонеж.

ВОЛНУ́ШКА ж. Грыб, ваўнянка. Волну́шкі му не беро́м, а ў дру́гіх место́х іх вупа́рваюць да ква́сяць. Поўз по́ле на жы́тнішчы росту́ць волну́шкі. Маркоўскае.

ВО́ЛОК /1/ м. Насціл з бярвенняў цераз балота. Во́локом бо́льшэ ле́су трэ́бо. Данілевічы.

ВО́ЛОК /2/ м. Рыбалоўная прылада накшталт сеткападобнага мяшка. У во́лок ры́ба ка́жны раз клю́кне. Ліпляны.

ВО́ЛОК /3/ м. Драўляны брусок у граблях. Во́лок з дубі́ны ро́бляць. У во́лок зуб'я ўдо́ўбліваюцца. Падварак.

ВОЛО́КА /1/ ж. 1. Абора, вузкая палоска з рэменя ў лапцях. Плету́ць воло́кі да ў постолы́ забо́рсаюць. Сярэднія Печы. Воло́кі такі́е з ра́меня побо́рсаў і пойшо́ў. Мілашавічы. 2. Звычайная кароткая вяроўка. Сыно́к, прынесі́ воло́ку – по дро́ва пое́дом. Астражанка.

ВОЛО́КА /2/ ж. Забалочанае азярцо. Посеро́д грудо́ў або мхоў бува́е воло́ка. На воло́кі е тро́хі покосі́ць. Мілашаві́чы. Росце́ крыва́ўнік по воло́кох. До того́ ле́су рэка́ Му́цьвіца ідзе́, а там воло́комі ко́лісь лес пла́вілі. Тонеж. На Гніло́й Градзе́ е воло́ка. Маркоўскае.

ВОЛОСЕ́НЬ м. Травяністая расліна. Волосе́нь росце́ по боло́тох, по ку́пінох. З волосня́ шчо́ткі ро́бляць. У постолы́ на но́гі намо́твалі е́ты волосе́нь. Ліпляны.

ВОЛОСНЯ́НЫ прым. Валасяны. До во́йны булі́ волосня́ны во́жкі. Падварак. Ідзі́ ж ты, сы́нку, на я́рмолок пе́шкі да й купі́, сы́нку, волосня́ны во́жкі, да й зав'яжы́ мілцы бе́лы ру́кі, но́жкі. З нар. песні. Ліпляны.

ВОЛО́ЎНІК м. Стойла для валоў. От села́ до воло́ўнікоў була́ кіломе́тра. За́рэ нема́ воло́ў і воло́ўнікоў. Тонеж.

ВОЛОЎЯ́ЧЫ ЯЗЫ́К м. Травяністая расліна з зялёным шырокім і мяккім лісцем. Волоўя́чы язы́к лечэ́бно зе́лье, его́ ў лечэ́бніцу беру́ць. Лельчыцы.

ВОН займ. Ён. Ля́скалька – зе́ллейко таке́, воно́ росце́ дзе мяжэ́. Тонеж.

ВОРГУ́ЛІНА ж. Нарасць на целе. На плечэ́ не́ка воргу́ліна з ка́жным го́дом росце́. Падварак.

ВО́РОБОК м. Рабчык. Во́робкі – така́ се́рэнька пта́шэчка, ве́льмо ўку́снае іх м'я́со. Ко́лісь паны́ гоня́ліс за во́робкамі. Як дзе лесо́чком – ку́ча во́робкоў. Ліпляны.

ВОРО́НКА ж. 1. Дупло. Дзя́цел до́ўбае собе́ воро́нку ў дзе́рэве. У воро́нкі во́дзяцца голубу́, дзя́цел, жаўна́. Данілевічы. 2. Латак у жорнах. У спо́днім ка́мні жо́рван е бруч шыро́кі, коб мука́ шла ў ту́ю воро́нку. Тонеж.

ВОРОНО́ЧКА ж. Памянш. да «воро́нка». У воро́ночкі сіня́к яйцэ́ несе́. Данілевічы.

ВОРОНЯ́КА ж. Варона. Напа́лі вороня́кі на сце́рво. Ты вороня́к не лові́, а

робі́ скорэ́й, пока́ му́хі не зале́талі. Буда-Лельчыцкая. Вороня́кі не ве́льмо плу́ткіе. Сярэднія Печы. Коршак нападае на вороня́кі, але гу́ртом воны́ его́ б'юць. Тонеж.

ВОРО́ЎКА ж. Вяроўка. Мой зяць здурэ́ў: воро́ўку нёс ве́шацца. Ліпляны. Воро́ўкой або ланцуго́м вов'я́зваюць се́но на во́зі. Тонеж. Мой Рома́н краса́вец: усе́ жонкі́ воро́ўкою за ім. Там жа.

ВО́РОХ м. Куча, груда. Продо́ўбвае воро́нку дзя́цел, кладзе́ шы́шку, вубіва́е зе́рнетко – пуд сосно́ю во́рох. Тонеж. Насы́палі во́рох як руко́ю доста́ць. Чэмернае. Не так да́ўно ішо́ў чэлове́к да ўсу́нуўса ў опо́р і за яку́ю міну́ту ву́кінуў цэ́лы во́рох ры́бу. Ліпляны.

ВОРОЦІ́ЛО н. Навой у ткацкім станку. Осно́ву опа́раць да навіва́юць на вороці́ло, у ніт накі́даюць да ў бе́рдо ўво́дзяць і ткуць полотно́. Вороці́ло лежы́ць на со́хох. Тонеж.

ВОСКОВІ́К і ОСКОВІ́К м. Мяшочак для выціскання сыроваткі з тварагу, клінок. Як скі́сліцца молочко́, откі́даем его́ ў восковік. Ліпляны. Ну й ве́лькі ў цебе́ восковік: мо глады́шэк п'яць мо́жно адра́зу откі́нуць. Падварак. Отча́ўліваем кісля́к у осковіку да сы́ра ро́бім. Тонеж.

ВОСКОДА́ВЫ мн. Рэшткіператопленага воску. Воскода́вамі му ву́лье тво́рым. Падварак. От во́ску ву́чавіў, а воскода́вы осталі́са. Маркоўскае.

ВОСКО́ЎЕ н. Збор воску. На проводну́ недзе́лю бува́е воско́ўе. Ліпляны.

ВОСПА́НКА ж. Хвароба, іспанка. Водзя́нкі от воспа́нкі ўсё це́ло покрыва́юць. Падварак.

ВОСЦЕЖО́РОК м. Жардзіна ў цэнтры стога. Восцежо́рка не пуста́віў, і стог ве́тром разбу́ргало. Падварак.

ВОСЬМА́ЧКА ж. Аснова ў восем нітоў. О́то шырына́! Бу́дзе восьма́чка. Тонеж.

ВОСЬМУ́ШКА ж. 1. Восьмая частка фунта. Маркоўскае. 2. Пачка табаку. За́ра озьму́ восьму́шку ў ла́ўцы, і ты́ждзень куру́. Маркоўскае.

ВО́ЎЧАЯ ГОРА́ ж. Урочышча. Мой ходзя́ін не́калі на Во́ўчай Горэ́ го́йню воўко́ў ба́чыў. Тонеж.

ВОЎЯ́ЗВАЦЬ незак. Увязваць. Воз воўя́зваюць воро́ўкой. Буда-Лельчацкая.

ВОЎЯ́ЗВАЦЦА незак. Увязвацца. Се́но воўя́зваецца на во́зі і лого́шох. Тонеж.

ВО́ЧЭПКА ж. Почапка. З коро́ткой во́чэпкою кошэля́ несу́добно носі́ць. Чырвонабярэжжа.

ВОШЫ́ЎКА ж. Груша-дзічка /дрэва/. По полё́х ко́лісь бога́то росло́ вошы́вок. Тонеж.

ВУ́ВОРОТ м. Вываранць. На Во́ўчай Горэ́ навуворача́ло ву́воротоў. Тонеж.

ВУ́ВОРОТОК м. Памянш. да «ву́ворот». О, там навуворача́ло ву́вороткоў! Тонеж.

ВУ́ГЛЕДКА ж. Люстэрка. Ма́ці по́ращца, а ее́ дзе́ўка от ву́гледкі не отхо́дзіць. Падварак.

ВУ́ГОДОВАЦЬ зак. 1. Выгадаваць. З сього́ мозо́ля ву́годовала дзе́ці. Тонеж. 2. Выкарміць. Не ходзя́йка ты, а пусты́ня: свінье́ не ву́годовала. Тонеж. От ужэ́ ву́годовала ро́хлю! Мо пудо́ў петна́ццаць бу́дзе. Буда-Лельчыцкая.

ВУ́ГОРЫШЧЭ н. Месца, дзе выгарылі кусты, лес. На ву́горошчэ корчэ́ збіра́емо. Данілевічы.

ВУ́ДКА ж. Вуда. З орэ́шыны ву́дка погіба́стая. Маркоўскае.

ВУ́ДУБІЦЬ зак. Выцягнуць, вывалачы. Зале́з мой хлопча́к у ко́панку, посіне́ў, а не вула́зіць. Чуць я его́ стуль ву́дубіла. Тонеж.

ВУ́ДУЦЬ зак., экспр. Выпіць. Мой ходзя́ін перэве́рне по́ўную глады́шку све́жэго молока́ і ву́дуе. Заберажніца.

ВУДЫ́Р м. Пухір на абмарожаным целе. От моро́з: за якую міну́ту вуды́р набе́г на но́сі. Тонеж.

ВУЖО́ВІК м. Ядавіты грыб. А вужо́віка мо́жно прыня́ць за до́брого гры́ба. Астражанка.

ВУЖО́ВЫ прым. Вужоўнікавы. У нас е жо́ўты вужо́вы плю́шнік і паху́чы. Тонеж. Вужо́вые грыбы́ ніхто́ не берэ́. Маркоўскае.

ВУЖО́Ў ГРЫБ м. Ядавіты грыб. Вужо́вые грыбы беро́м мух губі́ць. Маркоўскае.

ВУЖО́Ў ПЛЮ́ШНІК м. Травяністая расліна, касач. Вужо́ў плю́шнік не рвуць на лека́рство. Тонеж.

ВУЖО́ЎКА ж. Тонкая вяроўка. Озьмі́ хоч вужо́ўку да прынесі́ коро́ві се́на. Буда-Лельчыцкая.

ВУ́КАЛІЦЦА незак. Запэцкацца. Ну й ву́каліўса ты, як свінья́. Сярэднія Печы.

ВУ́КІНУЦЬ зак., экспр. Выараць. Шчо ты огрэ́ха не ву́кінуў? Падварак. Ву́кіну е́ту откі́дку і пое́ду обе́даць. Вусаў.

ВУ́КЛАСЦІ зак., экспр. Паваліць. Бура́н як про́йдзе, то лес ву́кладзе соўсі́м. Тонеж.

ВУ́КОРМІЦЬ зак. Выгадаваць. Ву́корміла ўсе дзе́ці з хвартука́. Тонеж.

ВУЛУ́ЧВАЦЦА незак. Корчыцца, пацягвацца. Чого́ ты вулу́чваешся, як кот? Лельчыцы. Боле́ло не́што ў дзіця́ці, бо так вулу́чвалосе й крыча́ло. Там жа.

ВУ́ЛЬКІ-ВУ́ЛЬКІ-ВУ́ЛЬКІ ! выкл. Вокліч на гусей. Тонеж.

ВУ́НЕ часц. Вунь. Ву́не стоі́ць Га́нна ко́ло ла́ўкі. Лельчыцы.

ВУ́ПОСТОК м. Аднагадовае целя. Мо го́жыка надзе́ць на му́су коро́ві, коб е́ты ву́посток ее́ не ссаў. Данілевічы. Хоро́шы ву́посток у Хве́дора, гла́дкі, і вон его́ прода́е. Астражанка.

ВУ́САДКА ж., экспр. Незамужняя жанчына. Хворо́бу хай з'есць! Не пуйшла́ за́муж за того́ хло́пца, то хай седзі́ць за ву́садку. Тонеж.

ВУ́СКАРКА, ВУ́СКВАРКА і ВУ́ШКАРКА ж. Скварка. Мо ву́скарок спрагла́ б на вечэ́ру? Ліпляны. Дзе́ці ток помоча́лі, а ву́шкаркі свінье́ ву́кінула.

Прыбалавічы. Колі ўжэ ты вўскваркі спражэш? Калінаўка. Мочайце ток, а вўскаркі после будзеце есці. Падварак.

ВЎСКІДЗЬ м. Пень, выкапаны ці вывернуты з карэннем. На дрова вўскідзь бером. Вўскідзь з хвої на лучыну ідзе. Дзерэво зверху, а што вўкопаў – вўскідзь. Данілевічы.

ВЎСКРОБОК м. Буханачка хлеба з рэштак цеста. Колісь ходзяйка спечэ п'яць боханок і шчэ вўскробка на цэлы тыждзень. Падварак.

ВЎСТРЫКНУЦЦА зак. Вытаркнуцца, высунуцца. З жыціны вўстрыкнецца еты рогак, вон такі чорны. Лельчыцы.

ВЎСТРЫКНУЦЬ зак. Вытаркнуць, высунуць. Ета ж дзеўка вўстрычэ голову з копу і на село ідзе. Тонеж.

ВЎСТРЭМІЦЬ зак. Выставіць, выцягнуць. Вўстрэміў руку наперад, шохвер убачыў – і остановіў антобус. Падварак.

ВУСУШАЦЬ незак. Высушваць. Петроўка вусушае рэкі, а Спасоўка – мора. Тонеж.

ВЎСЦЬЕ н. Уваход для рыбы ў жаку, нераце. З вўсцья рыба попадае ў тулуб і назад не можэ вўйсці. Маркоўскае.

ВЎТРУБІЦЬ зак., экспр. Выпіць. Гладышку молока вўтрубіў і шчэ просіць. Тонеж.

ВЎХВАТКІ мн. Вялікія вілкі. Пустаў вўхваткі ў ковешнік. Тонеж.

ВЎХА н. 1. Вуха. У «козы» очы робілі з моніст коло вушэй. Данілевічы. 2. Курэц, пятля для аборкі ў лапцях. Посохлі вўшы ў постолох да порваліса. Ліпляны. Як плетуць постолы, у вўшы зацягаюць дзве спіцы. Маркоўскае.

ВЎЦЕГСЦІ зак. Выцягнуць. Важко було, а вўцеглі скрыню з рэкі. Тонеж. На етом перэездзе вўмуло кадоўб, ехаў чэловек і ўтопўса ў ём, вўцяглі нежывого. Ліпляны. Дзень і ноч робіла, а цяперака ведра воды не могу вўцегсці. Сярэднія Печы.

ВЎЦЕРЭБ м. Поле пасля раскарчоўкі пнёў, кустоў. На вўцерэбі просо сеем. Падварак.

ВЎЧАВІЦЦА зак. Выдавіцца. Му волеі бером, а ето, шчо вўчавіцца, свінье даем. Ліпляны.

ВУЧАЎЛІВАЦЬ незак. Выдаўліваць, выціскаць. Гнётом вучаўліваюць сыроводку з сыру. Падварак.

ВЎЧУРЫЦЦА зак. Спустошыцца (пра зямлю). Вўчурылоса поле, і соўсім ужэ не родзіць. На навіне ўсё родзіць добрэ, а потом вўчурыцца. Тонеж. Нешто трэбо було робіць, коб земля не вўчурыласа. Ето цеперэка удобрэнья, а тадэй его не було. Маркоўскае.

ВУШАК м. 1. Бакавы брус у асадзе для дзвярэй. Наложыў ужэ на вушакі шапку ў дзверох. Тонеж. 2. Брус у агароджы з бярвенняў ці плах. Хто строіць буркан, то дзелае пазікі ў вушакох, зачэсае полено і до п'яці-шэсці закідае ў буркан. Тонеж.

ВЭДЛУГ прыназ. У параўнанні з. Вэдлуг тае кварціры дак ето – во!

Падварак.

В'ЯЗЫ мн. 1. Жылы на шыі. Так в'язы болять, што повернуць голову не могу. Падварак. Гледзі, в'язы звернем! Буда-Лельчыцкая. 2. Дубцы для сувязі супроцьлеглых капылоў, галовак у санях. На капылы в'язы загінаюцца. Падварак.

В'ЯЛІЦА ж. Сухастоіна. Яка добрэнна в'яліца: воз дроў будзе. Тонеж.

В'ЯЛКА ж. Сухастоіна. Хвоя ўсохне, і в'ялкой звецца. Тонеж.

## Г

ГАЗНІК м. Газоўка. Колісь у нас булі газнікі ў хатох. Падварак.

ГАЗЮШКА ж. Газоўка. Зарэ шчэ стауляць газюшкі ў сцебкох. Падварак.

ГАЙДАЙ м. Паганяты валоў. Гайдай волоў погоняе. Данілевічы.

ГАЙТОВАЦЬ незак., экспр. Хадзіць паспешліва, гойсаць. Тры месяцы ў войну гайтовалі пуд дождзём, грозёю. Тонеж.

ГАЛО /1/ н. Паляна. На галі росце трава, а чэрнікі не бувае. Тонеж. Сено добрэ сохне на галі. Буда-Лельчацкая.

ГАЛО /2/ прысл. Чыста. Можэ чэловек сказаць: «От гало вукашэна трава на лузі». Тонеж.

ГАЛУЗА і ГАЛУЗІНА ж. 1. Галавешка. Вукінь з печы галузу, а то ўчадзеем. Тонеж. 2. Палка. Як озьму галузіну да наб'ю, то будзеш мене помніць. Буда-Лельчыцкая.

ГАМКАЦЬ незак. Есці. Ідзі, Зоя, гамкай, а то будзеш пусценька, і куры цебе склююць. Тонеж. Гамкай, гамкай, мальчык, не соромейса. Падварак.

ГАПЛЮК м. 1. Гаплік. У лаўцы продовалiса плоскенькіе гаплюкі. Ліпляны. 2. Палачка для зашпільвання адзення. Нема ґузіка – трэбо гаплюка зробіць. Ліпляны. Кажуха найболей засцягваюць гаплюком. Тонеж. 3. перан. Маленькі чалавек. Коб жа й дзеўка була, а то – гаплюк! Падварак.

ГАРБУЗІНА ж. Гарбузнік. Гарбузіна сцелецца по ўсему городу. Лельчыцы.

ГАРБУЗЯНКА ж. Каша з гарбуза. Варащь гарбузянку з молоком. Тонеж.

ГАРБУЗЯНЫ прым. Гарбузовы. Сегоні продаў пятдзесят стаканаў зернет гарбузяных. Падварак. Каша гарбузяна сладка й жоўценька. Тонеж. Чавунчык накладаю гарбузяных половінок, опару і свіньям даю. Ліпляны.

ҐАРНЕЦ м. Мера сыпкіх і вадкіх цел. У мліну от дзесяці пудоў колісь бралі два ґарца. У ґарцы – п'яць кварт. Маркоўскае. Тые разы куплялі ґарцамі горэлку. Тонеж.

ГАРНЫ прым. Прыгожы, добры. У Ленчычах гарные булі шыфанеры, а грошай у мене не хопіла. Прыбалавічы. От у его кафельна груба гарна. Маркоўскае.

ГАСІЦЬ незак., экспр. Скідаць бомбы і страляць. Коло села пронізіўса самолёт і довай гасіць. Тонеж.

ГАТ м. Гаць. Рыболо́ві гат зро́бляць і кошэ́ стаўляюць. Ліпляны. У ле́сі губ'я́к – хоч гат гаці́. Лохніца.

ҐА́ЎРУН м. Крумкач. Дзе сце́рво, там ґа́ўруны ле́таюць. Маркоўскае.

ГВО́ЗДЗЕНЬЕ н. Кузнечная прылада ў выглядзе жалезнага бруска з адтулінамі розных памераў. Нагрэ́тое зале́зо кузне́ц пробіва́е на гвоздзе́ны. Данілевічы.

ГВОЗДОДЗЁ́Р м. Абцугі-кусачкі. Гвозды́ вуця́гваем гвоздодзё́ром. Данілевічы.

ГЕ́БЕЛ м. Фуганак. Ге́блом геблу́юць до́шкі, ушакі́, опа́полкі. Данілевічы.

ГЕБЛАВА́ЦЬ незак. Габляваць. Пло́тнік соке́рою одчэ́шэ поле́но, а пото́м ге́блом геблу́е. Тонеж.

ГЕ́ВЕРД м. Вэрхал, шум, беспарадак. Пры́дзем з робо́ты – ге́верд у ха́ці. Лохніца.

ГЕРГЕТА́ЦЬ незак. Гагатаць (пра гусей). Штось гусь гергє́ча. Мо хто ў хле́ві ла́зіць? Ліпляны.

ГІ́ДКІ прым. Непрыгожы, непрыемны. Такі́ гі́дкі хло́пец. Замошша. Гі́дкое ў цебе́ пла́цье. Астражанка.

ГІ́ДКО прысл. Непрыгожа, непрыемна. Скінь хоч е́того латуна́, бо гледзе́ць гі́дко. Астражанка. От ужэ́ дзе́ўка: напіла́с, роспатлыха́лас – аж гі́дко гледзе́ць. Буда-Лельчыцкая.

ГІНЕВІ́ЦКОЕ БОЛО́ТО н. Назва ўрочышча. У Гіневі́цкім Боло́ці росту́ць кіяхі́. Ліпляны.

ГІЧ м. Сцябло травяністых раслін, бацвінне, гічан. Корто́плю ў гіч попе́рло. Падварак. Гіч то до́бры, а корто́плі ма́ло пуд корчэ́м. Астражанка.

ГІЧА́НІК м. Сцябло травяністых раслін, бацвінне, гічан. Ужэ́ гіча́нік трэ́бо скосі́ць. Сярэднія Печы.

ГІЧА́НЬЕ м. Сцябліны травяністых раслін, бацьвінне, гічан. Об'е́ў жук усе́ гіча́нье – не бу́дзе е́ты год корто́плі. Падварак. Коро́ва пое́ла гіча́нье, оста́ліс одны́е цу́ркі. Буда-Лельчыцкая.

ГЛА́ДКІ прым. 1. Гладкі. Маркоўскае. 2. Поўны, тлусты, тоўсты. Хво́ры чэлове́к на беркулё́з бува́е гла́дкі. Ліпляны. Пудчэрэ́ўе гла́дке ў свіні́. Тонеж. Ох ты, дзе́духна мой, а я ба́ба твоя́, Не бі мене́, не лай мене́, коб я гла́дка була́. З нар. песні. Там жа. Недале́ко одна́ жо́нка попі́ла е́то са́ло от беркулё́за і така́ гла́дка здзе́лалас. Тонеж. Ну й гла́дкі ты, як свінья́, а зу́бі ў цебе́, як у коня́. Буда-Лельчыцкая.

ГЛАДЫ́Ш м. Гарлач. Пунаста́віла гладышэ́й, а ву́парыць іх цебе́ ўсё врэ́м'я нема́. Ліпляны.

ГЛАДЫ́ШКА ж. Гарлач. Зяўзю́льніком глады́шкі вупа́рваюць. Тонеж. Вершкі́ з глады́шэк пузбіра́юць да ма́сло б'юць. Падварак. По сё́лох возі́лі горшчэ́нікі свое́ мі́сы, глады́шкі, моко́трыкі. Вусаў.

ГЛАДЫ́ШЭЧКА ж. Памянш. да «гладыш». Скі́даю ў гладышэчку з водо́ю цы́булькі да шчэ прыкі́ну яку́ кра́ску і на Велікдзе́нь кра́шу ў ёй яйцэ́. Ліпляны.

ГЛАЗА́НКІ мн. Печыва. Як глаза́нкі ро́бім, це́сто на ве́лькі корж раска́чваем. Маркоўскае.

ГЛАЎКАНІ́ЦА ж. Бульбяная каша. З гурка́мі дзе́ці глаўканіцу едзя́ць хо́рошо. Падварак.

ГЛЕ́ЕВЫ прым. Ліпкі, цягучы. У вас тут гле́ева зе́мля, за но́гу берэ́цца. Чарназё́м-гле́ева зе́мля. Падварак.

ГЛЕ́ЙЗАРОВЫ, ГЛЕ́ЙКІ і ГЛЁ́ЎКІ прым. Сыры, недапечаны (пра хлеб). Хлеб сего́ні ў нас гле́йзаровы. Лельчыцы. Пеко́м свой хлеб, а вон бува́е гле́йкі, ця́гнецца так. Тонеж. Глё́ўкі хлеб садзіцца на ніжнюю ско́рку. Маркоўскае.

ГЛЕК і ГЛЁК м. Гляк. Набра́ла глек мулі́н. Прымаку́ сыро́водку ў глё́ку дае́, а сама́ смета́ну есць. Тонеж. Квас у глё́ку до́брэ носіць. На жні́во глё́ка бра́лі на во́ду. Ліпляны.

ГЛЕ́ЧЭК м. Памянш. да «глек». Набі́ў ба́цько гле́чэк воле́ю. Ліпляны.

ГЛІ́НА ж. 1. Гліна. Як цынку́ем хаты́, то тырсу́ сы́плем у песо́к і ў глі́ну. Данілевічы. Трэ́бо перэкопа́ць кра́сну зе́млю, і тогды́ бу́дзе глі́на. Сярэднія Печы. 2. Мел. У ла́ўцы купі́ла глі́ну, ха́ту пома́зала і за́рэ вона́ бе́ла, як пе́ркаль. Ліпляны.

ГЛІ́НІШЧЭ н. Урочышча. У Глі́нішчы грыбо́ў мо́жно набра́ць. Лельчыцы.

ГЛІ́НКА ж. Сажалка на глінянай зямле. Зімо́ю дзе́ці ко́ўзаюцца на глі́нкі. Буда-Лельчыцкая.

ГЛІ́ННЫ прым. Гліняны. На глі́нной зе́мле се́юць я́рыцу: ячме́нь, ав'ё́с, грэ́чку. Тонеж. Зро́бляць полі́цу, прыб'ю́ць па́лку да й клоду́ць на ёй глі́нные мі́сы. Там жа. Кушы́н глі́нны, з ру́чкою. Салагубаў.

ГЛІ́СНІК м. Піжма. П'юць глі́снік от рыбако́ў. Ліпляны.

ГЛІ́ЦА ж. Ігліца. Брыгадзі́р зага́двае грабсці́ сего́ні глі́цу на пудсцё́л. Тонеж. Стоўпы́ абв'я́зваюць у мостцу́ глі́цэй, шчоб му́шы не ле́злі. Падварак.

ГЛУМІ́ЦЦА незак. Здзекавацца. Наш чэлове́к узяў жо́нку да ўсю жы́тку глумі́цца з ее́. Буда-Лельчыцкая.

ГЛУХА́Я СЦЯНА́ ж. Сцяна без вокан у жылым будынку (звычайна з паўночнага боку). Глуха́я сцяна́ выхо́дзіць на горо́д. Астражанка. У глухо́й сцяне́ зробі́ў окно́. Мо ў цебе́ гро́шай бога́то? Тонеж. Ці ты крычы́ на ее́ ці не крычы́: стоіць, як глу́хая сцяна́. Буда-Лельчыцкая.

ГЛУХІ́ ГРЫБ м. Падобны да ядомых грыбоў, але ядавіты: падманны грыб. Глухі́ грыб не еду́ць. Вон похо́жы на гры́ба, а як во́змесса за его́, ро́біцца сіні. Тонеж.

ГЛЫ́БКО прысл. Глыбока. На перэе́здзе ў рэке́ аку́рат мі́лко, а з бо́коў – глы́бко. Ліпляны. Дзе здзе́лолоса глы́бко, там і кру́ча. Тонеж.

ГНЁТ м. Груз для прыціскання, выдаўлівання чаго-небудзь. Коб капу́ста не ўсплыва́ла, у бо́чку кладу́ць гнёт. Сярэднія Печы. Гнё́том выча́ўліваюць сыро́водку з сы́ру. Падварак.

ГНІ́ЛАЯ ГРАДА́ ж. Назва ўрочышча. На Гні́лой Градзе́ е воло́ка. Маркоўскае.

ГНІ́ЛІЦА і ГНІ́ЛКА ж. Груша-дзічка (плод). По́ўны ко́шэль гніліц назбіра́ла. Падварак. Му гні́лкі су́шым. Астражанка.

ГНОЯ́НКА ж. Шампіньён. Гноя́нкі ма́ло хто берэ́. Падварак.

ГОЖ м. Вожык. Ра́зам з лі́сцем згроб го́жа ў про́сцілку. Лохніца.

ГО́ЖЫ прым. Прыгожы. Такі́ добрэ́нны е́ты хлопча́к, відо́к у его́ го́жы. Лохніца.

ГО́ЖЫК м. Вожык. Ву́рэжэ хто з го́жыка ўсё, а ко́жу прыв'я́звае на му́су целя́ці, коб коро́ву не сса́ло. Ліпляны. Неўжо́ янот жырне́йшы за того́ го́жыка? Там жа. Мо го́жыка надзе́ць на му́су коро́ві, коб е́ты ву́посток ее́ не ссаў. Данілевічы.

ГО́ЙНЫ прым. Фарсісты, горды. О, цепе́рэка вон го́йны стаў, бо за брыгадзі́ра обра́лі. Падварак.

ГО́ЙНЯ ж. Чарада ваўкоў, сабак. Мой ходзя́ін не́калі на Во́ўчай Горэ́ го́йню воўко́ў ба́чыў. Тонеж.

ГО́ЙСАЦЬ незак., экспр. Прыгаць. Не го́йсай ты! Седзі́ ціхо! Буда-Лельчыцкая.

ГО́ЙТНІК м. Матэрыял для вырабу кашалей. Трэ́бо го́йтніку бо́льшэ, коб кошэ́ль зробі́ць. Лельчыцы.

ГО́ЛКА ж. Іголка. Нарво́м ліста́ дубо́вого да ні́жэм его́ го́лкой. Ліпляны. Натрэ́ш це́ло рыжова́ннем – ты́ждзень го́лкі ко́ляць. Маркоўскае. Коб не раска́тываўса постаў, шчэ́пляць его́ го́лкою да й лежы́ць вон у ша́фі. Тонеж.

ГОЛЛЕВА́СТЫ і ГОЛЫ́СТЫ прым. Галіністы. Голлева́сты ў нас дуб стоі́ць, ему мо пяцьсо́т годо́ў. Данілевічы. Голы́сто дзе́рэво на строі́цельство не ідзе́. Маркоўскае.

ГОЛОБО́СКА прысл. Басанож. Ну й гульця́й ву́росце: одзе́ў чо́боці на голобо́ску й пойшо́ў. Данілевічы.

ГОЛОЕ́ н. Страва з канапель і мукі. На́шы бабу́ беру́ць коно́плі, муку́ – усе́ е́то перэме́шваюць і ва́рацць голое́. Мілашавічы.

ГОЛО́П м. 1. Спосаб ходу, бегу коня. Конь пойшо́ў у голо́п. Маркоўскае. 2. Назва танца. Голо́п скака́лі ў чэты́рэ па́ры. Ліпляны.

ГОЛОПЕ́ЦКІ прым. Пазбаўлены пер'я (пра птушак). Голопе́цкіе ороб'е́ з ку́бла не вула́зяць. Тонеж.

ГОЛОПЕ́ЦКЭ н. Маладая істота (дзіця, птушанятка). Налью́ во́ды ў боле́ю, да й неха́й поло́шчацца е́тые голопе́цкі. От ужэ́ голопе́цкэ побе́гло. Тонеж.

ГОЛОСА́ мн. Клавіятура з левага боку ў гармоніку. Міхо́дзеў сын шчэ то́лькі на голоса́х гра́е. Данілевічы.

ГОЛОЎНЯ́ ж. Хвароба злакавых раслін. Галоўня́ бува́е ў жы́ці, пшэні́цы, про́со. Падварак.

ГОЛОШЧО́К м. Галалёдзіца. Як засці́гне е́ты голошчо́к у доро́зі, то порця́нкамі пуобма́тваем но́гі да й додо́му ідо́м – не так ко́ўзко. Тонеж. На дворэ́ голошчо́к – хоч бо́ком коці́са. Астражанка.

ГОЛУБЯ́Т-ТУ́РОК м. Птушка, вяхір. Голубя́т-ту́рок цу́ркае, несе́ дзве яйцэ́. Лозе́нік плеце́ ку́бло рэ́дзенькое, як голубя́т-ту́рок. Данілевічы.

ГО́ЛЫ прым. 1. Голы, непрыкрыты. Не се́ла на го́лу зе́млю, а на моты́чыну – і заболе́ла. Тонеж. У рыбака́ го́лые бока́, але обе́д па́ньскі, а охо́тнік спіць на поду́шкі, а есць по́сную ю́шку. Ліпляны. 2. Сапраўдны. О́то насолі́ла боршч – го́лая рапа. Сярэднія Печы.

ГОНЕ́Ц м. Памочнік паляўнічага. Хве́дор з гонцо́м хо́дзіць на обла́ву. Падварак.

ГО́НКА ж. Аб'ём барды на адзін кацёл. Задзе́лала горэ́лку то́лько на одну́ го́нку. Буда-Лельчыцкая.

ГО́ННЫ ВОЛО́К м. Прылада для лоўлі рыбы. У го́нные воло́кі ры́бу го́няць. Ста́ўляць го́нные воло́кі зімо́й і ле́том. Маркоўскае.

Ґ́ОНТО́ЎЕ н. Матэрыял для вырабу драні.Дра́нку дзеру́ць з ґонто́ўя. Данілевічы.

ГО́НУШКА ж. Прыстасаванне для сплаву лесу. Го́нушкі ро́бляцца з длі́нных ба́лок. Лельчыцы.

ГО́НЫ мн. Загон, вузкі і длінны ўчастак зямлі. За дзень скопа́ла го́ны корто́плі. Буда-Лельчыцкая.

ГО́НЬКА ж. Памянш. да «го́йня». На піча́тку зімы́ соба́кі го́нькамі хо́дзяць. Маркоўскае. Не йдзі́, до́нька, нікуды́: по селе́ го́нька бе́гае. Чырвонабярэжжа.

ГОНЯ́Ч м., сплаўн. Бервяно ў плыце для вымярэння глыбіні ракі. Гоня́ч пука́звае, дзе мі́лко ў рэке́. Лельчыцы.

ГОРБЫ́ЛЬ м. Аполак. З горбылёў хоцеў ба́ню зробі́ць. Падварак.

ГОРОБЕ́Й і ОРОБЕ́Й м. 1. Верабей. Сыпні́ кура́м про́со, так прылецяць гороб'і́ – і ўсё з'еду́ць. Лохніца. От гороб'е́ про́со п'юць, ле́тають пу-над ім ша́пкою. Тонеж. 2. Агульная назва невялікіх птушачак розных відаў. Весно́й ка́гуць, шо ўжэ гороб'е́ прылеце́лі: шпакі́, чуба́цікі. Мілашавічы. Конопля́нікі, сні́кі, дрозды́, шпакі́, берэсця́нкі, ла́стаўкі – е́то ўсе ороб'е́. Маркоўскае.

ГОРОБЕ́ЙКОЎ ШЧАВЕ́Р і ОРОБЕ́ЙКОЎ ШЧАВЕ́Р м. Палявы шчавель з высокім сцяблом. По лу́зі росце́ горобе́йкоў шчаве́р. Не новіне́ оробе́йкоў шчаве́р широ́кі. З оробе́йкового шчаўру́ боршч ва́рым. Тонеж.

ГОРОДО́К м. Жаваранак. Шко́ды городо́к не ро́біць. Вон такі́ чуба́ценькі, по ле́ту спе́вае хо́рошо, віс́око ўго́ру ле́тае. Ліпляны.

ГОРО́ДЧЫК м. Кветнік. У горо́дчыку се́юць цветы́. Падварак.

ГОРОША́НІШЧЭ н. Гарохавішча. Так нае́ліса коровы́ на горошанішчы, што аж бо́кі ім ўзду́ло. Ліпляны.

Ґ́ОРУ́НА і Ґ́ОРЫ́НЬ ж. Мулінэ. Хоце́ла ўкупі́ць ґору́ны, да не зна́ю – дзе. Новае Палессе. Купі́ла п'яць пучэ́чкоў ґоры́ні. Салагубаў. Росхо́довала ґору́ны ўжэ цэ́лую ку́кулу. Астражанка.

Ґ́ОРУ́НКІ мн. Карункі. Я сама́ плела́ ґору́нкі. Тонеж. Да ўціра́льніка прышыва́лі ґору́нкі. Падварак.

ГОРЧ'Я́К м. Драсён. Горч'я́к не есць худо́ба. Ёто зе́лье таке́: прынесі́ ў ха́ту да кінь его́ – усе бло́хі поўце́каюць, подо́хнуць. Ліпляны.

ГОРШЧА́Й м. Ганчар. У Лі́плянох е горшча́і. Маркоўскае.

ГОРШЧЭ́НІК м. Ганчар. По сё́лох возі́лі горшчэ́нікі свое́ мі́сы, глады́шкі, моко́трыкі. Вусаў.

ГОРЭ́ЛІК м. Бульбіна, спаленая збоку. У чаву́нчыку зоста́ліса то́лько горэ́лікі. З'е́ла горэ́ліка й гурка́ – мо́жно на робо́ту іці́. Тонеж.

ГОРЭ́ЦЬ незак. 1. Гарэць. Чу́ем што-то рове́ – горы́ць ха́та. Е́дкіе чамары́цы, штук тры ўле́зе за па́зуху – і не вы́трымаеш: горы́ць усе́ це́ло. Тонеж. 2. Цвісці /пра гуркі/. На горо́дзі гора́ць ужэ́ гуркі́. Падварак.

ГО́СТРО і ГО́СТРЭ прысл. Востра. Здзе́лае го́стро клі́на да й зобіва́е. Тонеж. Прыболо́туха го́стрэ росце́. Там жа.

ГО́СТРЫ прым. Востры. Го́стрым бо́ком вубіва́юць костру́. Маркоўскае. Клубні́ка /гатунак яблык/ росце́ на́глая і ўро́дзі го́страя зве́рху. Ліпляны. На тобе́, сы́нку, го́струю соке́рку, Да зруба́й ты, сы́нку, у по́лі тополі́нку. З нар. песні. Там жа.

ГОСТРЫ́ЦЬ незак. Вастрыць. Такі́ ўжэ напо́рлівы мой сын, што ты его́ не перопрэ́ш: колка́ ему́ на голове́ гостры́, а вон ка́жэ свое́. Тонеж.

ГО́СТРЭНЬКІ прым. Памянш. да «го́стры». У прыболо́тухі ша́почка стоўбнова́та, го́стрэнька. Маркоўскае.

ГРАБА́РНЯ ж. Будынак, у які́м апрацоўваюць скуры. За́ра ў граба́рню оўчы́ны не во́зяць. Маркоўскае.

ГРАБНІ́К м. Грабняк. Тут такі́ буў дубні́к да грабні́к, а его́ні е́то ўсе разобі́лі. Ліпляны.

ГРА́НКА ж. Радок акучанай бульбы. Пуста́віць трэ́бо дзево́к, шчоб копа́ла ка́жная гра́нку. Лельчыцы. На сває́ о́чы ба́чыла, як з тэй ву́ліцы пра́ма гра́нкою поўз вуж. Тонеж.

ГРА́ПНІК м. Бізун. Гра́пнік – е́то ў тры ста́лькі заплё́таны ра́мень. Ко́лісь мене́ поля́к біў гра́пніком. Тонеж.

ГРАЦЬ незак. 1. Іграць. Гіта́ра гра́е – я веселю́с, дура́к покіда́е – я не журу́с. Данілевічы. 2. Гуляць, забаўляцца, круціцца, вярцецца. Наве́к дзе́ці збіра́юцца і гра́юць у цур. Ліпляны. Як про́йдзе ры́ба з ове́ршка, круго́м гра́е й гра́е, а ў ву́зкае ме́сца не пупадзе́. Там жа. Ваш Мі́ша на ўро́ках то́лько гра́е, а робі́ць нічо́га не хо́чэ. Падварак. У бы́строй рэке́ волна́ гра́е, там Мору́ся потана́е, ее́ мату́хна ўгледа́е. З нар. песні. Тонеж.

ГРОМОБО́Й м. Дрэва, пашкоджанае громам. Громобо́і на дро́ва беро́м. Тонеж.

ГРОШО́ЎКА ж. Шаршатка. Гры́ша, дзе грошо́ўка? Про́сцілку трэ́бо зашы́ць. Тонеж. Му грошо́ўкай грыбу́ ні́жэм. Тонеж.

ГРУД м. Сухое ўзвышанае месца сярод балота. По грудо́х косі́ць мо́жно. Мілашавічы. Рэшо́тнікі по грудо́х, по по́рослях росту́ць. По груду́ ко́ло воды́ жыве́ слука́. Данілевічы. Ко́лі оле́ха прокі́даецца по груду́, урадлі́ва зе́мля.

Ліпляны. У Воўчым скрозь груды велікіе. Астражанка.

ГРУДОВЫ прым. Звязаны з сухім высокім месцам. У Перэрові грудова трава. Болотнэ сено не так гніе, як грудово. Тонеж.

ГРУДОК і ГРУДОЧЭК м. Памянш. да «груд». На грудку одзёнка робляць. Падварак. П'яць копіц накосіў з грудка того. Дуброва. Дзе остроў, там грудок з лесом, а кругом болото. Тонеж. Буває грудочэк вўшэ – грудочэк ніжэ, а покосы одзінаковые. Ліпляны.

ГРЎЗКІ прым. Топкі, багністы. У нас сільно болота грўзкіе. Чэмернае.

ГРЎЗКО прысл. Топка, багніста. А як дзе да й грўзко, то чэрот поросце, як хата наша. Ліпляны. Коб не було грўзко, прывезлі б сено трахтором. Тонеж.

ГРЎШКА ж. Пакаёвая кветка. Грўшка дробненькім цветочком красненькім цвіце. Ліпляны. Мо не зав'яла б грўшка, коб ее перэсадзілі ў другі вазон. Падварак.

ГРЫБ /1/ м. Грыб. Шчэ ніводного грыба нема, а коўпакі ўжэ ростўць. Маркоўскае. 2. Баравік. Грыб росце, дзе порослевые места. Стары грыб зверху чорны, а з-пуд нізу жоўты. Маркоўскае. Набрала сегоні одных губ'як, а грыбоў нема. Тонеж.

ГРЫБ /2/ м. Грып. А я летась належала на грыба. Думала, што соўсім умру. Ліпляны.

ГРЫБОК м. Яечня накшталт перапечкі. На гулянку грыбкі пеклі. Вусаў.

ГРЫВА ж. Абкосак. Добры косар грывы не остаўляе. Данілевічы.

ГРЫВЕНЬ м. Старая манета коштам у 10 кепеек. Колісь грыўні булі. Маркоўскае.

ГРЭБЕЛЬКІ мн. Прылада для збірання падрэзаных сцяблоў пры касьбе. Згрэбае косар грэбелькамі траву, шчоб скосочэк буў. Грэчку косілі з грэбелькамі. Тонеж.

ГРЭБЁНКА ж. Лапатачка для збірання ягад. Два кошэля ягод жонка насмўчэ, нацягае грэбёнкой, як трахтором. Тонеж. У грэбёнцы зуб'я роўненькіе. Лельчыцы.

ГРЭБКІ мн. Прылада для збірання падрэзаных сцяблоў пры касьбе. Булі й грэбкі дзерэўяные: у стоўпіка наведўць дзірочкі, заб'юць у іх зубкі да й косяць. Ліпляны.

ГРЭЦНЫ і ГРЭЧАНЫ прым. Грэцкі. Добра сечка грэцна, просяна, оўсяна, а жытня не така. Тонеж. З грэчаных крупоў кашу варылі. Ліпляны.

ГРЭЧЭЧКА ж. Пакаёвая кветка. У вазоны грэчэчку садзімо. Ліпляны.

ГУБ'ЯКІ і ГУБЯКІ мн. Ядомыя грыбы, апрача баравікоў. Набрала сегоні одных губ'як, а грыбоў нема. Тонеж. Як мокрое лето, усе губ'які е. Маркоўскае. У лесі губяк – хоч гат гаці. Лохніца.

ГУДЎН м. Перакладзіна ў жураўлі. Соўсім згніў гудўн, а новы зробіць врэм'я нема. Падварак.

ГУЖВА ж. Скручаныя бярозавыя ці лазовыя галінкі для звязвання, прымацавання чаго-небудзь. Коб зробіць гужву, скрўчваюць дзве голіны з лозы

ўместо. Лельчыцы.

ГУЖВІНА ж. 1. Скручаныя бярозавыя ці лазовыя галінкі для звязвання, прымацавання чаго-небудзь. Буда-Лельчыцкая. 2. Арэлі. Люблю на гужвіні гутацца. Астражанка.

ГУЗ м. 1. Камель дрэва, травяністых раслін. Гузу клодом на перэдок, а верха – на крывулю. Тонеж. Колісь у гліну мочалі гузы снопоў, коб воны не зліпаліса. Ліпляны. 2. Задняя частка лодкі. Мілашавічы. 3. экспр. Модная прычоска. Стога або гуза зробіць друга дзеўка на голове, аж гідко гледзець. Падварак.

ГУЗЫР м. Камель дрэва, травяністых раслін. Пуроўняй гузырэ ў снопох. Падварак.

ГУЗЬКА ж. Шпунт у жаку. Вурві гузьку да рыбу з сеткі озьмі. Ліпляны.

ГУК м. Кветканоснае сцябло цыбулі. Ой, жонкі, пуйшла моя ўся цыбулька ў гукі. Тонеж.

ГУКАЦЦА незак. Пакрывацца. Моя свіньня гукалас, шчо не дай бог. Тонеж. Мо корова шчэ й не гукалас? Буда-Лельчыцкая.

ҐУЛЯ ж. 1. Жаўлак, шышка. Ну й нагнаў ты ґулю на лобу. Буда-Лельчыцкая. 2. перан., экспр. Модная прычоска. Зробіла ґулю на голове, споніцу коротку і хваліцца. Падварак.

ГУПАНЬКІ мн., экспр. Танцы. На гупанькі хоіла, а коровам бокі пуўцягла. Букча.

ГУРА ж. 1. Куча, гурба. Усе дрова несеце ў ту гуру. Данілевічы. От гуры снегу намело. Маркоўскае.

ГУРБАН м. Горка, насып. За тым гурбаном короў пасціла. Маркоўскае.

ГУСОЧКА ж. Травяністая расліна. Колісь бородоўку гусочкой церлі і говорылі: «Ідзі бородоўка трэцім разом». Лельчыцы.

ГУСТЫ РОГ м. Урочышча. У Густым Розі граб, дуб е. Маркоўскае.

ГУТАЛКА ж. Арэлі. На гуталкі дзеці гутаюцца. Падварак.

## *Д*

ДА злучн. Ды. Ужэ пожылы вон чэловек буў, да некі несамавіты: ходзіць по суніцах, гукае пеўня, а жонкі за бокі беруцца. Тонеж. От уплюнуўса дождзік несудобны, ідзе да ідзе. Там жа.

ДАК часц. Дык. Которы рыболові дак ездзяць по рэке і лоўляць рыбу. Падварак. Урачы сыну не помогаюць, дак вон стаў мураўнік парацъ да піць. Тонеж.

ДАЛЕКО прысл. Далёка. На лугох цыркуны плыгаюць далеко-далеко. Тонеж

ДАНІЛЕГІ мн. Вёска Данілевічы. У Данілегі зара не доедзеш: дорогу водою размуло. Маркоўскае.

ДАРОВАННЕ н. Падарункі. Ей одного даровання хопіць на цэлы год. Падварак.

ДАРО́НЫ прым. Падарункавы. Даро́ному коню́ ў зу́бі не гледзя́ць. Падварак.

ДА́ЎНІ прым. Пажылы, у гадах /пра чалавека/. Мой сын тро́ху да́ўні, але не жана́ты. Тонеж.

ДАЎНЯ́ШНІ прым. Даўні, стары. Там даўня́шні дуб шчэ стоі́ць. Данілевічы. Одзы́чыла ей даўня́шні хлеб. Буда-Лельчыцкая.

ДВАЦЦА́ТКА ж. Дошка таўшчынёю 20 см. З бо́ку дзе́рэва пі́лім опо́лок, а посерэ́дзіне – дваццатки, сороко́ўкі, трыцца́ткі. Маркоўскае.

ДВОЕНЯ́ТКО н. 1. Блізнюк. Така́ ўжэ Хрэ́сця пусце́нька була́, а двоеня́ток родзі́ла і ву́жыла. Вунь жэ двоеня́тко бе́гае по селу́, а дру́гі мо седзі́ць у ха́ці. Тонеж. 2. Двайны гурок, спарыш. Му ка́жэм на два зро́станые гуро́чкі – двоеня́тко. Ліпляны.

ДВОЙНІ́К м. Двайны гурок, спарыш. Не́што двойнікоў у мене́ бога́то ў гуро́чкох. Ліпляны.

ДВОЯ́Н м. Адзінка вымярэння даўжыні /два сажні/. Тонеж.

ДЗЕВ'ЯСІ́ЛО н. Травяністая расліна, дзівасіл. По садо́х дзев'ясі́ло росце́, жо́ўтым цве́том цвіце́. Ліпляны.

ДЗЕВ'ЯЦЬСІ́Л м. Травяністая расліна, дзівасіл. Дзев'яцьсі́л цвіце́, як со́нечнік. Покі́даюць дзев'яцьсі́л у во́дку і ка́жуць – ве́льмо до́брэ. Тонеж.

ДЗЕГЦЯ́Р м. 1. Смалакур. Маркоўскае. 2. Чалавек, які прадае дзёгаць. Бува́е е́дзіць по селу́ дзегця́р і крычы́ць: «Беры́ дзёгоць!» Маркоўскае.

ДЗЕГЦЯ́РКА ж. Пасудзіна для захавання дзёгцю. Ко́ло одры́ны дзегця́рка стоі́ць. Маркоўскае.

ДЗЕД м. Рыбак, які прыціскае крыгу ў часе лоўлі рыбы. Коб ло́ўкі буў дзед, то му не ўпусці́лі б е́ту шчу́ку. Ліпляны.

ДЗЕ́ДЫ мн. Традыцыйны абрад, дзяды. На дзе́ды ва́рацъ сыту́, однэ́ – перэ́д Пілі́поўкой, дру́гэ – перэ́д посто́м і трэ́це – перэ́д Тро́йцай. Тонеж.

ДЗЕНЬ м. 1. Дзень. На два дне мой хло́пец з Арме́е прыезжа́ў. Тонеж. 2. Аднойчы. Пероша́рыў мой зяць <u>одного́ дня</u> усе́ ты́е чэмода́ны. Ліпляны. 3. Абыдзень. Зое́хаў <u>того́ дня</u> додо́му. Падварак. 4. Рано. Е́ты раз му <u>чуць на дзень</u> ву́гналі това́р ў по́ле. Тонеж.

ДЗЕРЖА́ЛНА ж. Вудзільна. Ні́як дзержа́лну собе́ не пудберу́: нема́ погіба́стой орэ́шэны. Маркоўскае.

ДЗЕРКА́Ч м. Птушка, драч. Дзерка́ч бежы́ць по лозе́ – не дого́ніш. Маркоўскае.

ДЗЕРНО́ н. Дзёран. Дзерно́ рэ́жэм, бува́ло, для закрэпле́нья грэ́блі. Маркоўскае.

ДЗЕРУ́ГА ж. Саматканая матэрыя з тоўстых нітак. Дзеру́гі – пустэ́ полотно́: осно́ва тонка́, а ву́ток з кло́ч'я. Тонеж. Колі́ пу́йдзе за́муж дзе́ўка ды нема́ дзеру́гі, е́то ўжэ не дзе́ўка. Лельчыцы.

ДЗЕРУ́Н м. Бульбяны блін, дранік. На дра́чку дра́лі корто́плю да й дзеруны́ пеклі́. Ліпляны.

ДЗЕРЭВЕ́НКА і ДЗЕРЭЎЯ́НКА ж. Травяністая расліна, святаяннік. Бага́то було́ дзерэве́нкі по полёх, нізо́х. Тонеж.

ДЗЕРЭВІ́НА ж. Дрэва. Вы́верне бу́ра дзерэвіну, і там пудколо́днік ку́бло собе́ ро́біць. Данілевічы. На дзерэвіне бозо́к росце́. Ліпляны. Поганю́ка злёзла на дзерэвіну да шыпіць. Падварак.

ДЗЕРЭВІ́НКА ж. Галінка дрэва. Зрэ́жэ хто дзерэвінку оле́шыны, попа́рыць её й ду́дку скру́ціць. Ліпляны.

ДЗЕ́РЭВО н. 1. Дрэва. Лебе́дкою цягнуць ву́лей на дзе́рэво. Тонеж. Тума́н упа́ў на дзе́рэво, кусты́ – не ві́дно коро́ў, як пасо́м. Там жа. 2. Бервяно. Проміж шу́ламі кі́даюць дзе́рэво. Тонеж. 3. Стрэмка. Застрэмі́ла дзе́рэво ў пу́чку. Тонеж. 4. Лазовыя палкі. Дзе́рэво обгіна́юць ко́ло спо́дняго жо́рвана, коб мука́ не распуля́ласа. Тонеж.

ДЗЕРЭВЯ́НЫ, ДЗЕРЭЎЛЯ́НЫ і ДЗЕРЭЎЯ́НЫ прым. Драўляны. Ты́е разы́ дзерэўя́ны опе́чкі робі́лі, а сего́ні кірпі́чные. Тонеж. У но́чвах дзерэўя́ных ко́лісь му́ліса. Там жа. Дышаль дзерэвя́ны ро́бляць. Падварак. От мадзве́дзей одрэ́ такі́е дзерэўя́ные робі́лі. Данілевічы.

ДЗЕТОВО́ДУХА ж. Курыца, якая беражліва ахоўвае куранятак. Ужэ́ ку́ра заквó́хкала – дзетово́духа на́ша. Ліпляны.

ДЗЕ́ЎКА ж., нейтр. Дзяўчына. Дзе́ўкі пуд го́ловы кла́лі кусо́чкі куцьі́. Тонеж. Я наве́к дзеўка́м своі́м раска́зваю, як това́р гоня́ла ў Воро́нежу. Там жа. Як ідзе́ дзе́ўка за́муж, то заві́вало на го́лову заві́ва́ла. Ліпляны. Коб жа й дзе́ўка була́, а то – гаплю́к. Падварак.

ДЗЕЎЧУ́Р м., экспр. Юнак, які сябруе з дзяўчатамі. Дзеўчу́р вон, а не хлопча́к. Данілевічы.

ДЗЕЎЧУРКА м., экспр. Юнак, які сябруе з дзяўчатамі. От ужэ́ дзеўчу́рка: з дзеўка́мі во́дзіцца. Буда-Лельчыцкая.

ДЗЕЦІ́НА ж. /у песнях/. Дзіця. Уе́хаў мой мі́лы дале́ко, а я зостала́са сама́, Колі́б я сама́, то нічо́га, а то шчэ й дзеці́на мала́. З нар. песні. Ліпляны. Не рэж, не рэж, мой міле́нькі, Ётою годзі́ну, Поку́ль я пудгоду́ю Ма́лую дзеці́ну. З нар. песні. Тонеж.

ДЗЕЦІ́НСТВО н. Хвароба. На его́ напа́ло дзеці́нство, і му́чаецца цэ́лы век. Ліпляны.

ДЗЕ́ШКОЎ РОГ м. Урочышча. У Дзе́шковым Ро́зі грыбу́ набра́ла. Буда-Лельчыцкая.

ДЗІВОВА́ЦЦА незак. Здзіўляцца. Усе́ дзівова́ліса: як вон ву́лез з рэкі́. Тонеж. Зловіў е́ты чэлове́к ву́жа, го́лову отрубі́ў, а серэдзі́нку звары́ў, ву́піў отва́р і ву́лечыўса, - усе́ дзівова́ліса. Там жа.

ДЗІРОВА́ТЫ прым. Дзіравы. У се́нях дзве́ры дзірова́тые, і ве́цер просвішча́е церэ́з ты́е дзіркі́. Тонеж.

ДЗЮБА́ЙКА ж. Кончык носа. Дзюба́йка но́са чэ́шэцца – не́хта ўмрэ́. Тонеж.

ДЗЯ́ДНО і ДЗЯ́ННО ж. Дзядзіна. Моя́ дзя́дно добрэ́нная: як сойдо́мса,

наговорыцца не мо́гом. Чэмернае. Её дзя́дно добра́ча була́. Сярэднія Печы. Жо́нка ма́церына бра́та мае́цца мне дзя́дно. Ліпляны.

ДЗЯ́ЖКА ж. Выразаная вузкая палоска з ліпавай ці лазовай кары. Дзя́жкі кра́елі поло́сочкамі з лозы́ да плелі́ постолы́. Ліпляны.

ДЗЯ́ТЛЕНІЦА ж. Месца, дзе корміцца дзяцел. Дзя́цел укладзе́ ў дзя́тленіцу шы́шку і доўбе́. Данілевічы.

ДЗЯ́ЦЕЛЬНІК м. Травяністая расліна, дзяцеліна. На грудко́х дзя́цельнік росце́. Лельчыцы.

ДНІ́ШЧЭ н. Дошка ў прасніцы для сядзення. Ліпляны.

ДОБІРА́ЦЬ незак. Падбіраць, выбіраць. На ха́ту добіра́юць ро́ўнае дзе́рэво. Тонеж.

ДОБРА́Ч прым. Добры. Ее́ дзя́дно добра́ча була́. Сярэднія Печы. Вон сі́льно добра́ч. Ліпляны.

ДОБРО́СЛІВЫ прым. Добры. Мой ходзя́ін такі́ добро́слівы буў. Тонеж.

ДОБРЭ́ННЫ прым. Добры, вялікі. Добрэ́нны воз прыв'ёз се́на. Падварак. Моя́ дзя́дна добрэ́нная: як со́йдомса, наговоры́цца не мо́гом. Чэмернае. Яка́ добрэ́нна в'я́ліца: воз дроў бу́дзе. Тонеж.

ДОГА́ДКА ж. Здагадка. Дога́дка не ху́жэ ро́зуму. Падварак.

ДОЛ м. 1. Зямля, ніз. Чу́точку ста́не спець коля́ндра, і я ее́ беру́, бо вона́ обсыпа́ецца до до́лу. Ліпляны. Як нема́ на до́лу росы́, бу́дзе него́да. Тонеж. 2. Падлога. Таця́нко, вы́муй дол, а то мне не бу́дзе колі́. Лохніца.

ДОЛА́ДНО прысл. Добра, прыгожа. Хры́сця дола́дно пудпева́ла ў гу́рці жано́к. Тонеж.

ДОЛА́ДНЫ прым. Добры, прыгожы. Жонкі́ прыве́злі ў ла́ўку крам ве́льмо дола́дны. Лельчыцы. Як ме́йсцо дола́дно, то бобо́ўнік росце́. Ліпляны. І сам вон не пога́ны, але дола́дна ж его́ жо́нка. Падварак. Пе́ўнікі цвіту́ць, як сірэ́нь, у горо́дзі, над ву́ліцэю воны́ росту́ць, а лі́сцейко дола́дное ў іх. Ліпляны.

ДОЛЕ́ТНІ прым. Пажылы, стары. Пожаніі́ліс по́зна: вон буў доле́тні хло́пец, а вона́ доле́тня дзе́ўка. Падварак. Дзе́ўка ста́не доле́тня: ніхто́ за́муж не берэ́. Буда-Лельчыцкая.

ДОЛО́ЎКА ж. Падлога. На доло́ўку земля́ну не ся́дзеш: як сеў – заболе́ў. Тонеж. Доло́ўка но́вая, а дзіркі́ гото́вые. Падварак.

ДОМО́К м. Домік. Домо́к пуд чы́сты ву́гол ро́біцца, і ў кры́шы ў ім – зало́м, і коро́бка пудшы́та. Тонеж. Міхо́дзій пуста́віў собе́ домка́ ў Ле́нчыцох. Падварак. На дзве ха́ці ка́нею домо́к перэсе́каецца. Сярэднія Печы.

ДО́НЬКА, ДО́НЬ і ДО́НЯ ж. Дочка, дзяўчына, маладая жанчына. Зверы́, до́нька, ба́цьку булён на вечэ́ру. Падварак. Мо, до́нька, купі́ла б у мене́ кортоплю? Буда-Лельчыцкая. Чого́ ў цебе́, моя донь, росплё́цена коса́? Чого́ ў цебе́, моя донь, запла́каны глаза́? З нар. песні. Ліпляны.

ДОСВЕ́ТНА ЗО́РКА ж. Венера. Е дзве зо́ркі: одна́ вечэ́рня, а дру́га досве́тна. Усе́ зо́ркі пухова́юцца, а воны́ све́цяць. Тонеж.

ДО́СОЧКА ж. Плоскі напільнік. Дай мне до́сочку. Данілевічы.

ДОЎГА́СЦІК м. Прадаўгаватая груша. Доўга́сцікі сма́чные, як пулежа́ць. Тонеж.

ДОЎЖ ж. Адтуліна ў вулеі для выбірання мёду. Ліпляны.

ДОХ м. /у праклёнах, паграЖальных выразах/. Здыхата, чорт. А дох его́ зна́е! Данілевічы. Якóга до́ха пля́ўкаеш! До́ха на его́ нема́, бры́каецца! Тонеж.

ДОХОЛЕ́РЫ прысл. Многа. Мулі́н на кона́ве дохоле́ры. Тонеж.

ДОШЧА́ТКА ж. 1. Дошчачкі для накрыцця будынкаў. Дошча́тку рэ́жуць, вона́ мэ́тру ма́е длiны́. Дошча́ткою кры́юць хаты́. Тонеж. 2. Лучына для тынкоўкі хаты. Нале́пваюць глíну на колкі́ ці на дошча́тку і тынку́юць ха́ту. Тонеж.

ДРА́БА ж. 1. Калёсы з драбінай. Дасі́ рубля́ перэ́д во́йною – прывезе́ хлопча́к тобе́ дра́бу дроў. Тонеж. 2. Драбіна. Дра́бу кладзе́ на воз. Тонеж.

ДРАБІ́НА ж. 1. Прыстаўная лесвіца ў возе. У о́плены ўдо́ўбваюцца ру́чкі дзерэўя́ны, а драбі́ны лега́юць на́ е́тые ру́чкі. Маркоўскае. 2. Лесвіца. Злезь на гоpы́шчэ по драбі́не да гледзі́, коб вона́ не ўпа́ла. Астражанка.

ДРА́НКА /1/ ж. 1. Дошчачкі без пазоў для накрыцця будынкаў. Ґо́нта шпару́ецца, а дра́нку роўня́юць стру́гам. Дошча́тка однэ́ на однэ́ накла́даецца. Тонеж. 2. Лучына для тынкоўкі сцен. Пушло́ дра́нкі на мою́ ха́ту чэтырэ ты́сячы. Тонеж.

ДРА́НКА /2/ ж. Кашэль з шырокіх драўляных палос. Прышо́ў раз к нам усо́кі чэлове́к, ро́ўны з ві́льчыком,з дра́нкою ў рука́х. Бува́е кошэ́ль у тры-чэты́ры дра́нкі. Прыв'ёз мой Гры́ша сего́ні грыбо́ў дра́нку. Тонеж.

ДРАНЬ ж., зборн. Дошчачкі для накрыцця будынкаў. З хвоі ро́бляць дрань. Данілевічы. Ко́лісь соло́мой кры́лі хаты́, а цепе́р дра́нею, ґо́нтою. З дра́нею ві́льчыка не ро́бляць. Тонеж.

ДРАПАЧЫ́ мн. Культыватар. За тра́хтором драпачы́ разрыва́юць зе́млю. Маркоўскае.

ДРАПУ́ЧЫ прым. Схільны драпацца. Мо то́лько воўк драпу́чы звер? Сярэднія Печы.

ДРАЦЯ́НІК м. Электрык. Прые́дуць драця́нікі і свет постро́яць у хато́х. Дзяржынск.

ДРА́ЧКА /1/ ж. 1. Цеслярская прылада-двухрожка. Дра́чка пука́звае, што ву́біраць трэ́бо ў дзе́рэве. Данілевічы. 2. Паз у бервяне. Соке́рою вубі́раюць дра́чку і тогды́ дзе́рэво ло́жаць у шпар. Мілашавічы. 3. Прылада для выраўнівання саломы пры пакрыцці хаты пад шчотку. Куля́ расце́ле і дра́чкою пудбіва́е гузурэ́. Ліпляны.

ДРА́ЧКА /2/ ж. Ваўначоска. З во́йны дра́лі во́ўну на андара́кі ў драчко́х. Ліпляны.

ДРАЧ /1/ м. 1. Прылада для вырабу драніцы. Драч дзерэ́ дра́нку. Тонеж.

ДРАЧ /2/ м. Бульбяны блін, дранік. Пеко́м драчы́ на ско́вородзі. Падварак.

ДРАЧО́НІК м. Памянш. да «драч /2/». Мо б ты, цё́тко, напекла́ драчо́нікоў? Даўно́ му іх не е́лі. Забеpажніца.

ДРО́ВА мн. Дровы. Тро́шкі дро́ва ося́дуць у пе́чы, тогда́ ста́ўляць ско́вороду з кортóпляй і вýскаркамі. Тонеж. Горэ́ць дро́ва, горэ́ць сы́ры, бо зóлью водóю, Лежы́ць мíлы, лежы́ць лю́бы з гóркою бедóю. З нар. песні. Там жа.

ДРОВІ́ЦА ж. Карова першым целем. У дровíцы рэ́дко молочкó. Тонеж.

ДРО́ЎКА ж. Карова першым целем. На зíму дрóўка бýдзе, а корóву продáм. Ліпляны.

ДРУ́ГІ лічэбн. Другі. Одзíн е́йны сын шóхвером у Мозырэ́, а дру́гі – колхóзнікам. Тонеж.

ДРУ́ЖКА ж. Шаферка.У молодóй на весе́лы – дру́жкі,а ў молодóго – маршáлкі. Тонеж.

ДРЫ́ГА ж. Страва, студзіна. З свіня́чых ног дры́гу вáрацць. Падварак.

ДРЫН м., экспр. Кій. Мáло по тобе́ дрын ходзíў. Тонеж. От як озьмý дрын, то ты мене́ послу́хаеш. Лохніца.

ДРЫСТУ́Н м. Чорны дрозд. Дрысту́н рóбіць ку́бло, як мокóтрык, несе́ вон п'яць-чэты́ры яйцэ́. Данілевічы.

ДРЭ́МАЦЬ незак. Драмаць. Бе́гае ноч ее́ хлопчáк пуд вóкнамі, а на ўрóках, кáгуць, седзíць і дрэ́мае. Падварак.

ДРЭ́НЧЭВЫ прым. Дрэнны. У дрэ́нчэвого чэлове́ка нікóлі прáўды не путáй. Тонеж.

ДУБ'Е́ н., зборн. Дубняк. А е́тые грыбу́ по дуб'ю́ росту́ць. Тонеж. Берэ́ць топоры́ гострэ́нькіе, да рубáйце дуб'е́, берэз'е́, да шукáйце ўдóвіну дóчку. З нар. песні. Ліпляны.

ДУБІ́НА ж., зборн. Дубняк. Дзе ты набрáла грыбóў? – По дубíне ходзíла. Лельчыцы.

ДУ́БІЦЬ незак., экспр. Ісці, несці што-небудзь з цяжкасцю. Уме́рла жóнка ў курэне́, кíнулі ее́ ўсе і побе́глі ўце́каць. Я за ее́ – на пле́чы і ду́блю. Тонеж. Гороб'е́ кóлос оторве́ да й ду́біць. Там жа.

ДУБНІ́К м., зборн. Дубняк. Тут такí дубнíк да грабнíк буў, а сегóні е́то ўсе разобíлі. Ліпляны.

ДУБО́ВІК м. Брыгадзір сплаўной брыгады. Колí гóняць лес муле́м, дубóвік загáдвае, дзе трэ́бо пустáвіць бон. Ліпляны.

ДУБО́ЎКІ мн. Лапці. От, чэлове́чэ, як ты мне надое́ў своíмі постолáмі: дубóўкі да лазóўкі, а лутóўкі нікóлі за тобóю не бáчыла. Ліпляны.

ДУБРО́ВА ж. 1. Дуброва. Поéхаў мíлы по дрóва, загорэ́ласа дубрóва, а мíла тушы́ла, рэшотóм вóду носíла. З нар. песні. Тонеж. 2. Трава з дубровы. Дубрóва – такá травíцка долáдна. Прынесу́ ў одры́ну, седжу́ кóло ее́ – такí пах. Дубрóва хоч і дождзе́м пропадзе́, сеоднó хóрошо вонíць. Ліпляны.

ДУБРО́ЎНЫ прым. Звязаны з дубровай. На дубрóўнай зе́мле ўдóбней травíцка росце́. Падварак.

ДУ́БЧЫК м. 1. Пруцік. На ду́бчык занíжэ грыбкá да й кáжэ – рожóнчык. Тонеж. 2. Гаплік. Пры мое́й пáм'яці вурэзáлі ду́бчыкі і зашпільвáлі світкí. Тонеж.

ДУГА́ ж. 1. Дуга. На дузе́ прыв'я́звалі колоко́ны. Ліпляны. 2. Прылада для збірання падрэзаных касою сцяблоў. На ко́су надзяе́цца такі́ круг, обшыва́ецца полотно́м. Е́то ў нас дуга́ зве́цца. Лельчыцы. Дуга́ ў дзі́рку ўстрэмля́ецца, а там коса́ пробіва́ецца па́лца на два. Падварак.

ДУ́ЖЫ прым. Здаровы. Як ду́жы чэлове́к, усяго́ хо́чэцца. Сярэднія Печы. Ду́жые бацькі́ і дзе́цем помога́юць. Ліпляны.

ДУ́ЖЫК м. 1. Аладка з мёрзлай бульбы. З во́йны збіра́лі корто́плю на по́лі і пеклі́ ду́жыкі. Тонеж. 2. Мёрзлая бульба. По Туроўшчы́ні хо́дзімо і збіра́емо е́тые ду́жыкі. Тонеж.

ДУПА́ШКА ж. Невялікае дупло ў дрэве. У дупа́шку або ў поро́жні ву́лей уле́зуць шэршне́ і жыву́ць там. Тонеж. Седзі́ць е́ты крутоголо́вік і кру́ціць голово́ю, во́дзіцца вон у дупа́шкох. Ліпляны.

ДУПЛЕНА́ТЫ прым. Дуплаваты. Бога́то ў мене́ дуплена́той бру́шкі ў е́том году́ було́. Падварак.

ДУ́РНЫ прым. 1. Дурны. Вон жэ не глухэ́, а дурнэ́. Мілашавічы. 2. Непрыгодны для ежы (пра грыб). Не разберэ́ш здаля́, дзе лісі́цка, а дзе – ду́рны грыб. Дзяржынск.

ДУХ м. 1. Цяпло, цеплыня. От нагрэ́ў хату: тро́хі дух е ўгорэ́, а ўні́зе хо́лодно. Ю́шкою закрыва́ем ко́мін, шчоб дух буў. Мілашавічы. Хра́пу з качано́ў ссе́кае і зостаўля́е ў лё́гкі дух. Тонеж. 2. Пах, водар. Цімофе́еўка хоч дождзе́м пропадзе́, сеодно́ хо́рошо пахне́, там уся́кіе духі́ е. Астражанка.

ДУЧА́ЙКА ж. Бляшаны жалабок у жорнах. З-пуд жо́рван сыплецца мука́ дуча́йкою. Ліпляны.

ДУША́ /1/ ж. 1. Душа. Дай душэ́ во́лю – сам пу́йдзеш у нево́лю. Засну́ на кулацэ́ – лі́жбо мі́лы по душэ́. Тонеж. 2. З радасцю, шчыра. Коб у мене́ булі́ зе́рнета, я от душы́ дала́ б вам. Лельчыцы.

ДУША́ /2/ ж. Адтуліна ў жаку, праз якую праходзіць рыба ў сетку. Мілашавічы.

ДУШНІ́К м. Жардзіна ў цэнтры капца. Мо ў цебе́ яко́ дзе́рэво е на душні́к? Корто́плю трэ́бо було́ б прыкры́ць. Данілевічы.

ДЫ́ЛЯ ж. 1. Дошка таўшчынёю 12-14 см. На пілора́ме рэ́жуць ды́лі, коб задзе́лаць ка́ню. Ліпляны. 2. Бакавыя вушакі ў вокнах. Вуша́кі боковы́е – у дзверо́х, а ў о́кнах – ды́лі. Тонеж.

ДЫМА́Р м. Прыстасаванне для падглядвання пчол. Без дымара́ пчо́лкі мед не даду́ць. Ліпляны.

ДЭ́КО н. Ніжняя або верхняя дошчачка ў корпусе скрыпкі. Ве́рхне дэ́ко ро́бляць з сосны́, а ні́жне з клёна, да шчэ з чочо́ткою. Ліпляны.

## *Е*

Е дзеясл. Ёсць. Лю́дзі е: сам раз уку́сіць і дру́гому дасць. Тонеж. А ў нас у горо́дзі то́лько колюкі́ і е. Ліпляны.

ЕДКІ прым. Куслівы. Пчо́лы е́дкіе е. Маркоўскае. Чамары́цы е́дкіе, штук тры ле́зе за пазу́ху – і не вы́трамаеш: горы́ць усе́ це́ло. Тонеж.

ЕЖ м. Вожык. Мушэ́й еж есць. Данілевічы.

ЕЛЕЦ м. Ядловец. Е́лец от беркулёзу помога́е. Маркоўскае. От по́чэк до́брэ е́лец па́рыць да піць. Дзяржынск.

ЕЛОПОВА́ТЫ прым. Лупаты. Не́кі соўсі́м елопова́ты е́ты хлопча́к. Тонеж.

Е́ЛЬЕ н., зборн. Ельнік. У е́льі волосе́нь росце́. Лiпляны.

Е́МЬЕ н. Вымя. Бува́е, што коро́ва себе́ ссэ. З лозы́ рожкі'ей ро́бім, коб е́мье коло́лі. Данілевічы.

Е́РНІК м., зборн. Аер. Дзе́ці е́рнік еду́ць. Астражанка.

ЕРШУКІ́ мн. Кучары. У дру́гого хлопча́ка ершукі́ ўю́цца, як у бара́нчыка. Прыбалавічы.

ЕРШУ́Н м. Ёрш. Налова́ў одны́х то́лько ершуно́ў. Маркоўскае.

Е́СЕКА дзеясл. Ёсць. Калі́ ў вас е́сека мука́, то одзы́чце мне. Астражанка. Як е́сека бульба́шкі на водзе́, бу́дзе ве́лькі дождзь. Там жа.

Е́СІП м. Асіп. У Е́сіпа врэ́м'е е: вон такі́ ўжэ негожы́ і нічо́го не ро́біць. Лiпляны.

Е́СТЫ займ. Гэты. Негожы́ чэлове́к берэ́ з е́стаго мура́ўніку сме́цье і па́рыць, но́гі обкладае. Тонеж. З е́стых качало́к поду́шкі ро́бляць. Тонеж.

Е́СЦЕКА дзеясл. Ёсць. Квас е́сцека? Коўтну́ць хо́чэцца – перэсо́хло ў ро́ці. Лельчыцы. Шы́шкой е́сцека грэ́бень у пе́ўня. Тонеж. Раз сно́пу колоці́лі, то около́ток е́сцека. Падварак.

Е́СЦЯ дзеясл. Ёсць. Козе́л з одны́м ро́гом е́сця, вон усіх козло́ў збіва́е. Данілевічы. Мучэні́шнік сі́нім цве́том цвіце́, і шы́шэчка на ём е́сця. Лiпляны. Два во́локі е́сця: брэ́дні во́лок і пловуны́. Маркоўскае.

Е́ТЫ займ. Гэты. З одны́м яйцэ́м поро́сіцца кныр, трэ́бо і е́то ву́кінуць. Тонеж. От е́тые зо́ркі похова́юцца, а е́тые све́цяць. Там жа. Попоно́сіў е́тые рэзі́ны – і ко́зінец напа́ў. Падварак.

## *Ж*

ЖА́БІНКА ж. Урочышча. У Жа́бінцы е граб, дуб. Маркоўскае.

ЖАБРЭ́ЙКА ж. Травяністая расліна. По горо́дах росце́ жабрэ́йка, ее́ пога́но поло́ць – ко́ліцца. Тонеж.

ЖАБУ́Р м. Жабурынне. У боло́ці бога́то жабу́ру, во́зьмем его́ – і вон по руке́ расце́каецца, як со́плі. Маркоўскае.

ЖАВІ́НА ж. Ажына. З жаві́ны варэ́нье ва́рам. Салагубаў.

ЖА́ГА ж. Пякотка. З'е́ла борщчу́ да жа́га печэ́. От жа́гі п'юць со́ду. Астражанка.

ЖАК м. Стаўная прылада для лоўлі рыбы. У о́зеры ста́ўляць жака́. Буда-Лельчыцкая. Разопне́ш жака́ – і захо́дзіць ры́ба. Лiпляны.

ЖАЛО́ н. 1. Джала (у насякомых). Ла́пкамі пчо́лка берэ́ і чуць-чуць жало́м

прытэркне́цца, усе́ кішэ́чкі вухо́дзяць, сама́ пропада́е. Ліпляны. Пчо́лка жало́м куса́ецца. Тонеж. 2. Лязо, вастрыё. Е́то са́мое жало́ наведзе́ш пра́вільно, то бу́дзеш косарэ́м. Ліпляны. На ба́бкі по жалу́ ко́су клёпаюць. Брусо́к зава́львае жало́ песко́м. Падварак.

ЖАНЕ́Ц м. Жнец. Ідзі́ да пуджані́ жанцо́ў моі́х. Сярэднія Печы. Жанцэ́ пошлі́ жы́то жаць. Падварак. Жанцо́ў нанімаюць – ра́жку жы́та даю́ць. Тонеж.

ЖА́РОВО н. Зарава. На по́ўнач жа́рово пуця́гне, пого́да бу́дзе, а на по́ўдзень – него́да. Тонеж.

ЖЛУ́КТО н. Бочка, у якой жлукцяць бялізну. Позолі́ла пла́цье ў жлу́кці і на рэке́ попра́ла. Лельчыцы. Жо́нка кі́дае шма́цье ў жлу́кто да лье кроп. Тонеж. Мо́чаць пла́цье ў жлу́кці, льюць окро́па туда́ да йдуць праць на рэ́ку. Ліпляны.

ЖМУ́РКА ж. Бурбалка. Поўсхо́пліваліса жму́ркі – бу́дзе дождзь. Ліпляны.

ЖНЕ́ЙКА ж. Жняя. Пудопне́ жне́йка коне́ц цу́ркі пуд перэв'я́сло і шчэ перэкруча́е, коб крэпчэ́й було́. Мілашавічы. На полёх сушы́лі жы́то. Ускі́не жне́йка ша́пку на дзе́в'яць сно́пуў, да й со́хне е́та ку́чка. Ве́цер ее́ ле́гчэ пройма́е. Маркоўскае.

ЖНЕ́ЎНІК м. Іржэўнік. Грэбо́м жне́ўнік на пудсцёл корова́м. Падварак.

ЖНІ́ВО н. 1. Перыяд уборкі збожжа. Вона́ прыезжа́ла ў жні́во піса́ць пе́сні. Тонеж. 2. Жніўныя песні. Ко́ліcь, Сохве́йко, ве́льмі хо́рошо ты жні́во спе́вала. Ліпляны.

ЖНІЎНЯ́НЫ прым. Жніўны. На́шы жонкі́ бога́то жніўня́ных пе́сен зна́юць. Тонеж.

ЖО́НА ж. Жонка. Які́ мужы́к, така́ жо́на: одна́ сатана́. Тонеж.

ЖО́НКА ж. 1. Жонка. Пе́рва жо́нка ў мого́ ходзя́іна поме́рла, дру́гу – прышо́ў мужы́к да одобра́ў, а я ў его́ ўжэ трэ́ця. Сярэднія Печы. Ой, чого́ ж лес шуміць? Се́стра з бра́том говоры́ць: покі́нь, братко́, жо́нку біць – трэ́бо з е́ю свой век жыць. З нар. песні. Тонеж. 2. Жанчына. Не́ке зе́лье от ля́ку жонкі́ даю́ць. Сярэднія Печы. Цепе́рэка пушла́ мо́да: хлопца́м шы́юць спо́ніцы, а жонка́м – шта́ны. Тонеж.

ЖО́РВАН м. Камень ці драўляная калода ў жорнах. Дзе́рэво обгіна́юць ко́ло спо́дняго жо́рвана, коб мука́ не роспуля́лас. Тонеж. Шво́рнік удо́ўбалі ў спо́дні жо́рван. Падварак.

ЖО́РВАНЫ мн. Жорны. У во́йну у ка́жном дворэ́ жо́рваны булі́. Тонеж. Набіва́юць у жо́рванох чыгу́н. Сярэднія Печы.

ЖОЎКЛЯ́К м. Жоўты і насенны гурок. Жоўкля́к хай пулежы́ць – лу́чшэ поспе́е. Тонеж. Нема́ врэ́м'я позбіра́ць гу́ркі, і на горо́дзі одны́е жоўклякі́ лежа́ць. Ліпляны.

ЖОЎТА́ЧКА ж. Хвароба, жаўтуха. Жоўта́чка з ля́ку напада́е. У хво́рого жоўта́чкай глаза́, дажэ но́гці, пужаўце́юць. Ліпляны. Жоўта́чку гу́б'яць вошамі. Тонеж.

ЖОЎТЛЯ́К м. Стары жоўты баравік. Жоўтлякі́ дзешо́вые – тры рубля́ кілогра́м. Тонеж.

ЖУЖЭ́ЛЬ ж. Глі́ністая зямля з камнямі. Та жужэ́ль уро́дзе камені́ста: такі́ камкі́ руды́ ў ей. Падварак.

ЖУКЕ́ТКА ж. Жакет. Трэ́бо було́ б собе́ ўжэ́ но́ву жуке́тку ўкупіць. Новае Палессе.

ЖУПАНІ́НА ж. Жупан. У латуно́х жупані́на, а целевізо́ра ку́піў. Тонеж. Ой, рад б я тобе́ жупані́ну да́ці, бу́дзе свары́ць мене́ ро́дна ма́ці. З нар. песні. Там жа.

ЖУЧО́К м. Драўляны гузік. Жучо́к-дзерэўя́на за́шчэпка ў сорочко́х. Тонеж.

ЖЫВУ́ЛЬКА ж. Маленькая рыжая мурашка. От ужэ́ пеку́ць е́тые жыву́лькі. Маркоўскае.

ЖЫВЫ́ прым. 1. Рухавы. От дзе жывы́ хлопча́к! Падварак. 2. Сапраўдны, лёгкі (ая). Зе́рнета прода́сць – і ў ее <u>жывая копейка</u>. Падварак. 3. Зроблены з канаплянага валакна. Суро́вые ні́ткі ро́бляць з жыво́го пра́дзьва. Ліпляны.

ЖЫДЗЮ́К м. Верабей. Жыдзюкі́ про́со п'юць. Дуброва.

ЖЫЖА́ЛІ мн. Жылы на нагах пад каленамі. Жыжа́лі боля́ць – не могу́ ходзіць. Тонеж.

ЖЫ́ЖКА ж. Крапіва-жыгучка. Жы́жка ў нас ідзе́ ў ход. Я ву́лечыла но́гу карасі́ною і жы́жкою. Тонеж.

ЖЫ́ЛЫ прым. Пажылы, у гадах. Жы́лы вон ужэ чолове́к. Тонеж.

ЖЫ́ТКО н. Жыццё. Жы́тко кро́ўнае, да го́рка. Мілашавічы. Бі́цца да сварь́цца цэ́лы век – е́то не жы́тко. Тонеж. Цепе́р жы́тко до́брае. Астражанка. Яка́ там ее́ жы́тка: зав'я́заў ей чолове́к свет і сам пом'ёр. Падварак. Таке́ ўжэ жы́тко стары́м да негожы́м, шчо хоч об сце́нку голово́й: нема́ того́ дня, коб шчо не боле́ло. Сярэднія Печы.

ЖЫ́ТНІШЧЭ н. Поле пасля жыта. Поўз по́ле росту́ць на жы́тнішчэ ваўну́шкі. Маркоўскае. Ідзі́ нарві́ шчаўру́ на жы́тнішчэ. Тонеж.

ЖЫЎЦЭ́М прысл. Жыўцом. Ду́маю жыўцэ́м прода́ць коро́ву. Падварак.

ЖЫ́ЦЕЛЬКА ж. Жыхарка. Я сама́ ле́льчыцка жы́целька. Му як поселі́ліса тут, то шчэ не було́ е́тых хато́ў. Лельчыцы.

ЖЫЦЬ незак. 1. Жыць. Я наве́к хачу́, коб мой ба́цько ба́чыў, як му жыво́м.Тонеж. 2. Увесь час. Не зво́джу чарну́шку <u>як жыву</u>. Ліпляны.

ЖЫ́ЧКА ж. Каляровая стужачка ў жаночым адзенні. Жы́чкою пла́цье обшыва́юць. Тонеж.

ЖЭЛЕ́ЗКО і ЖЭЛЯ́ЗКО н. Жалезная пласцінка ў рубанку. Ні́жне жэле́зко пудста́ўляецца пуд ве́рхне го́строе. У мене́ коло́дка е, а жэля́зкі нема́, – дай мне свою́. Данілевічы.

ЖЭЛОБО́К м. Выдзеўбаная выемка, паз у бервяне. У жэлобо́к кладзе́цца мох, як ха́ту ста́ўляць. Данілевічы.

ЖЭНЬ ж. Раменнае ці вяровачнае прыстасаванне для падглядвання пчол на дрэвах. Жэнь закі́не на голі́ну ўро́вень з ву́льем і ле́зе пчо́лок гледзе́ць. Тонеж. У дзвена́ццаць ста́лок сплё́ў жэнь. Маркоўскае.

ЖЭЎЖ м. Верабей. По двору́ вон жэўж ле́тае. Тонеж.

ЖЭ́ЎЖЫК м. 1. Памянш. да «жэўж». От е́тых жэ́ўжыкоў рату́нку нема́: ву́пілі ўсе про́со. Тонеж. 2. перан. Маленькі рухавы чалавек. Жэ́ўжык ты е́такі! Буда-Лельчыцкая.

ЖЭХ усеч. дзеясл. Бах. Ні з того́, ні з сего́ – жэх мне ў мо́рду. Маркоўскае.

## З

З прыназ. З (у розных значэннях). З во́йны козло́ў було́, як ове́чэк: по штук пятна́ццаць ходзі́лі ўме́сці. Данілевічы. Одна жо́нка з ціху ўста́ла да бо́са ходзі́ла зімо́ю. І інш. Ліпляны.

ЗАБЕ́ЛЬВАЦЦА незак. Развідніваца. Як забе́льваецца, чуба́рык пошо́ў уго́ру. Маркоўскае.

ЗАБО́Й м. Верхняя частка вулея. Шчэ трэ́бо забо́й зробі́ць. Маркоўскае.

ЗАБОНО́ВАНЫ дзеепрым., лесаспл. Застапораны. Забоно́ваны лес стоі́ць, а пото́м его́ разбону́юць, і вон пошо́ў по рэке́. Лельчыцы.

ЗАБОНОВА́ЦЦА незак., лесаспл. Застапорыцца. Дзе забону́ем лес, а дзе вон і сам забону́еца. Лельчыцы.

ЗАБОНОВА́ЦЬ незак., лесаспл. Застапорыць. Плаваки́ пуста́ўляць бон – і лес забону́юць. Лельчыцы.

ЗАБО́РЫЦЦА зак. Папасціся, затрымацца (пра жывёлу). Загна́ла целя́ на жы́то. Мо забо́рыцца тро́хі? Лельчыцы.

ЗАВА́ЛЬВАЦЬ незак. Загінаць лязо ў касе. Брусо́к зава́львае жало́ песко́м. Падварак.

ЗАВЕДЗЁ́НКА ж. Звычай. Така́ ў нас заведзё́нка: ходзі́ць у го́сці. Тонеж.

ЗАВЕ́РЦЕНЬ м. Заварацень. На саня́х не пуе́дзеш, як заве́ртні пусце́нькіе. Маркоўскае.

ЗАВЕ́СКА ж. Фіранка. Запні́ заве́скі ў о́кнах. Ліпляны.

ЗАВІ́ВАЛО н. Фата. З то́нкого полотна́, бува́ло, ро́бляць заві́вало з перэбо́рамі. Як ідзе́ дзе́ўка за́муж, то заві́вало купля́емо на го́лову. Тонеж.

ЗАВІ́ВАНЕЦ м. Блін з начынкай. З'е́ла заві́ванца – і е́сці не хо́чу. Падварак. Зрэ́залі мі́су заві́ванцоў, то не голо́дные. Мілашавічы.

ЗАВІ́ВАНІК м. Памянш. ад «заві́ванец». Дай мне заві́ваніка. Забродзе.

ЗАВО́ДСКІ прым. Пародзісты. У колхо́зі буў такі́ нагле́нны заво́дскі бук. Анігадкіе заво́дскіе ове́чкі. Ліпляны.

ЗАВО́ЗНІК м. Чалавек, які прывёз зерне ў млын. На паровіку́ заво́знікоў було́ бога́то. Маркоўскае.

ЗАВО́РКІ мн. Адгароджаны праход у двор. Зоста́ў, Мі́ша, заво́ркі, а то порося́та пувула́зяць. Чырвонабярэжжа.

ЗАВУШНІ́ЦА ж. Пакаёвая кветка, мальва. Завушні́ца пудхо́дзіць пуд слё́зку. На ее́ ка́жуць і завушні́ца й слё́зка. Ліпляны.

ЗАГА́ТКА ж. Гаць. Рыбакі́ зага́тку зро́бляць на рэке́ і ры́бу ло́ўляць. Маркоўскае.

ЗАГЛОМОЗДА́ЦЬ незак., экспр. Зрабіць абы-як, паспешліва. От ужэ́ пло́тнік: загломозда́ў угла́ да й жыве́. Тонеж.

ЗАГЛУЗДА́ЦЬ незак. Закілзаць. Трэ́бо заглузда́ць коня́, шчоб вон не побе́г бе́жкі, не разнёс. Лельчыцы.

ЗАГО́СТРАНЫ дзеепрым. Завостраны. Заго́страны коло́к ле́пей у зе́млю пуле́з бу. Падварак.

ЗАГОСТРЫ́ЦЬ незак. Завастрыць. Со́керою загостры́ на концо́х е́тые дзве до́скі. Падварак.

ЗАГРЭ́БЛЕНЫ дзеепрым. Пахаваны. Дзе хто ўпадзе́, там, ка́гуць, музы́ка загрэ́блены. Тонеж.

ЗАГУЗКАВА́ТЫ прым. Камлісты. Ох, і ва́жка ж було́ разруба́ць е́ты загузкава́ты дуб. Данілевічы.

ЗАДАЛЕГО́ДЗЬ прысл. Загадзя, зараней. Задалего́дзь не ска́жэш, шо него́да бу́дзе. Буда-Лельчыцкая.

ЗАДА́РОМ прысл. Задарма. Така́ молода́ коро́ва, а здай ее́ зада́ром. Падварак.

ЗАДВОРНАЕ н. Задворкі. На задво́рном кона́ва пусці́ла. Буда-Лельчыцкая.

ЗАЕ́ДАЦЦА незак. Таіць у сабе зло, зліцца, спрачацца. Мо от е́той жы́ткі зае́даюцца жонкі́? Падварак.

ЗАЕ́ДЗЬ ж. Машкара. Ле́том зае́дзь напада́е на това́р. Маркоўскае.

ЗАЕ́НЕЦ м. Назва танца. Клодо́м па́лкі наўхрэ́ст і ска́чэм зае́нца, перэбі́раем промі́ж е́тымі па́лкамі нога́мі. Тонеж.

ЗАЖА́РКА ж. Затаўка. То́лько на зажа́рку е тро́ху са́ла. Ліпляны.

ЗАЖА́РЫЦЬ незак. Затаўчы. Трэ́бо шчэ булён зажа́рыць. Тонеж. Комакі́ зажа́рваем са́лом. Ліпляны.

ЗАЖЫ́МЫ мн. Ціскі. У зажы́мы зале́зо кузне́ц уста́ўляе. Данілевічы.

ЗАЗІ́МОК м. Першы снег, пачатак зімы. По́куль насту́піць зіма́, бува́е два-тры зазі́мкі. Тонеж.

ЗАЗЫ́ВАЦЬ незак. Зваць, клікаць. А вон мене́ ў ко́мнату зазы́вае, коб весе́льніком пе́сні пе́ла. Мілашавічы.

ЗАЙМА́ЦЬ незак. Пераймаць. Гусе́й займі́ ху́ценько, коб воны́ ў боло́то не пуйшлі́. Мілашавічы.

ЗА́ЙЧЫКОВА ЦЫБУ́ЛЬКА ж. Травяністая расліна, гладун. Як то́лько снег со́йдзе, так за́йчыкова цыбу́лька з-пуд сне́гу ле́зе. За́йчык чы́сціць зу́бкі е́той цыбу́лькой. На Па́ску собіра́ем за́йчыкову цыбу́льку да кра́сім яі́чко. Лельчыцы.

ЗА́ЙЧЫКОЎ ГРЫБ м. Падобны да ядомых грыбоў, але ядавіты: падманны грыб. Му за́йчыковых грыбо́ў не беро́м. Тонеж.

ЗА́ЙЧЫКОЎ ШЧАВЁР м. Травяністая расліна, кісліца. По лесо́х

за́йчыково шчаўру́ бога́то. Му его́ рвом да боршчэ́ ва́рым. Тонеж.

ЗАКА́ТКА ж. Абшлаг, закаўраш. Жупаны́ шы́лі з зака́ткамі. Маркоўскае.

ЗА́КІ злучн. Пакуль. За́кі по́начы прошла́ мі́мо мо́гліц, усё́ похоло́дало. Лельчыцы.

ЗАКІ́ДАЦЬ зак. Звычайна чуць-чуць забяліць. Ужэ́ блі́ноў ходзя́йка не печэ́, а за́цірку ва́рыць: закі́дае ее́ молочко́м. Лельчыцы.

ЗА́КОМОРОК м. Адгароджанае месца ў каморцы. Ходзя́ін за́коморкі такіе́ порубаў. Тонеж.

ЗАКРО́Н м. Засек. У анба́ры е́сцека такіе́ нагле́нные закро́ны, і зерна́ тама́ка бога́то. Лельчыцы.

ЗАКРЭПІ́ЦЬ зак. Зацыраваць. Мо сама́ закрэплю́ пла́цья. Ты ж крэпі́ць шчэ не ўме́еш. Астражанка.

ЗАЛА́ПА ж. Лапік. За́рэ ўжэ спо́ніц у зала́пах жонкі́ не но́сяць. Тонеж.

ЗАЛА́ПІЦЬ зак. Залатаць. Трэ́бо зала́піць копо́ту. Дуброва.

ЗА́ЛЕЖ м. Участак зямлі,які не распрацоўваўся некалькі год узапар; аблога. На за́лежы ўсе до́брэ росцё. Тонеж.

ЗАЛЕ́ЗНЫ прым. Жалезны. К сосе́ прыста́ўляецца полі́ца, і дру́гі прыпо́лок кладзе́цца да сошнікі́ зале́зные. Тонеж.

ЗАЛЕ́ЗО н. Жалеза. Кузнец берэ́ клешча́мі гора́чэе зале́зо. У зажы́мы зале́зо ўста́ўляе. Данілевічы.

ЗАЛЕ́СЬЕ н. Урочышча. Там, ко́ло хлево́ў колхо́зных, буў ко́лісь ве́лькі лес. О́то ж за́рэ, ко́ло доро́гі. Так е́то м'е́сто і сего́ні зов'е́цца Зале́сье. Чэмернае.

ЗАЛІ́Ў м. Невялікае возера. По тэй бок залі́ва нема́, там хаты́ й ха́ты. Тонеж.

ЗАЛО́ЖНЫ і ЗАЛО́ЖЫСТЫ прым. Абложны. На зало́жным уча́стку зе́млі шчаве́р росце́. Як дзе зало́жыстае по́ле, то там молоч'я́к не росце́. Сярэднія Печы.

ЗАЛО́М м. Нахільны зрэз верхняй часткі даху ў доміку. Пуд чы́сты ву́гол домо́к ро́біцца, і ў кры́шы ў ім зало́м і коро́бка пудшы́та. Тонеж.

ЗАЛУ́ЧЫНА ж. Урочышча. Учо́ра ву́біў на Залу́чыні колесні́к се́на, а мо й колеснікоў два бу́дзе. Астражанка.

ЗАЛУ́ШЧАНЫ прым., экспр. Худы, маленькі. Ой, не́йке ве́льмо ўжэ залу́шчэнэ дзіця́. Падварак.

ЗАМА́ЗАЦЬ незак. 1. Пабяліць хату. Трэ́бо купі́ць глі́ны ў ла́ўцы да зама́заць сце́ны ў ха́ці. Падварак. 2. перан. Утаіць праўду. Зама́залі, загла́дзілі – і пеку́ць хлеб, як ране́й пеклі́. Тонеж.

ЗАМА́ТАНКА ж. 1. Вялікая хустка. Ты б надзе́ла са́чыка да зама́тала зама́танку. Новае Палессе. 2. Ануча. Дай мне зама́танку цё́плую ў чо́боты запну́ць. Сярэднія Печы.

ЗА́МОЧ ж. Макрата, вымачка. За́моч поўлі́яла ў е́тым го́дзі на ўро́жай. Сярэднія Печы.

ЗАМУ́КАНЫ дзеепрым. Замкнёны. Ходзі́ла на рэ́ку шма́цье праць, а

сту́лека прышла́ – ха́та заму́кана. Лельчыцы. Нема́ ніко́го – заму́каны дзве́ры. Тонеж.

ЗАМУ́КАЦЬ незак. Замакаць. Дзе́ці заму́каю ў ха́ці да іду́ на робо́ту. Тонеж. Ой, коза́ку свет зав'я́зала, гуля́ць его́ не пуска́ла, да ў комо́ру заму́кала. З нар. песні. Там жа.

ЗА́НАВЕСКА ж. Фіранка. Запні́ за́навеску. Тонеж.

ЗАНЕГО́ДЗІЦЦА незак. Задажджыцца. От ужэ́ занего́дзілоса, бу́дзе до́ўга мліць дождзь. Тонеж. Занего́дзілоса мо на ты́ждзень. Падварак.

ЗАНО́ЗА ж. Прут, які засоўваецца ў ярмо. Зано́зу вуця́гваюць, колі́ распрага́юць волы. Мілашавічы. Дзерэўя́ну зано́зу ро́бляць. Падварак.

ЗАПАДНЯ́ ж. Клямка ў дзвярах. Тонеж.

ЗАПАЛЕ́НЫ прым. Запальчывы, злы. Такі́ ўжэ запале́ны чэлове́к е́ты Хве́дор, у его́ зло́сці – попрэ́ по́ўны ко́сці. Мілашавічы.

ЗАПАРАНА́ЦЬ незак. Ныраць. У нас одзі́н чэлове́к запарана́е раз за разо́м у глыб рэкі́ і до́ўга стуль не вула́зіць. Ліпляны.

ЗАПА́СОК м. Фартух. Запа́скі красі́вымі ўзо́рамі перэтыка́юцца зні́зу. За та́лію прыв'я́зваюцца запа́скі мотузка́мі. Мілашавічы.

ЗАПАТЫ́ЛОК м. Драўляны клінок. Ко́су ўкрэпля́юць запаты́лком. Ды́шаль прыкрэпля́ецца запаты́лком к колачу́, а кола́ч к прызьму́. Мілашавічы.

ЗАПЕСО́ЧНІК м. Бервяно ў апошнім вянку зруба над балькамі. Стропі́ла ста́ўляцца на запесо́чніках. Ліпляны.

ЗА́ПІНКА ж. Фіранка. Постро́й за́пінку на окне́. Прыбалавічы.

ЗАПЛЕВО́ЧКА ж. Памянш. да «запле́ўка». Мое́ дзе́ці ўзя́лі да пузрыва́лі запле́вочкі ў гуро́шніку. Тонеж.

ЗАПЛЕ́ТАНЫ м., дзеепр. Заплецены. Грапні́к – е́то ж у тры ста́лькі запле́таны ра́мень. Тонеж.

ЗАПЛЕ́ТАЦЬ незак. Заплятаць. Дзеўкі́ запле́таюць то́ю ў ко́сы – і ніччо́га не прыста́е. Тонеж.

ЗАПЛЕ́ТКА ж. Стужачка ў касе. Запле́тку пупра́ў на голове́, а то вона́ ўпадзе́. Тонеж.

ЗАПЛЕ́ЎКА ж. Завязь у гурках. Заплево́к було́ бога́то ў гуро́шніку, а гурко́ў нема́. Тонеж.

ЗАПНУ́ЦЬ незак. Завесіць. Трэ́бо запну́ць кута́ ґордзі́ною. Лельчыцы. Запні́ окно́ заве́скою. Падварак.

ЗАПО́ІНЫ мн. Частаванне пасля атрымання згоды маладой на шлюб. Му собіра́ем свой род на запо́іны і гуля́ем. Данілевічы.

ЗАПО́НКА ж. Фіранка. Запні́ окно́ запо́нкою. Лельчыцы.

ЗАПУНІ́ЦЬ незак. Спыніць. Не́мцы запуня́юць два хло́пцы і даю́ць ім скры́нкі ў ру́кі. Тонеж. Лю́дзі запуні́лі ее́. Падварак.

ЗА́ПУСКІ мн. Рэлігійнае свята перад вялікім пастом. Акра́з зостоло́са два ты́жні до За́пусок. Буда-Лельчыцкая. Ты́е разы́ збіра́ліс у За́пускі на бесе́ды. Падварак.

ЗАПЯ́ТОК м. Пятка ў вязаных панчохах. Запя́тка са́ма пусле́дня в'я́жыцца. Ліпляны.

ЗА́РА і ЗА́РЭ прысл. Цяпер, зараз. За́рэ шчэ нема́ нія́кіх грыбо́ў, одны́е ба́бкі. Новае Палессе. Мое́ гу́ркі попуска́лі ру́чкі, за́ра бу́дуць цвісці́, росхо́дзяцца ва ўсе бо́кі: тые́ туды́ ру́чку пу́сцяць, ты́е туды́. Ліпляны. Ма́ло хто за́ра ро́біць дзерэўя́ные опе́чкі. Там жа.

ЗАРА́ ж. Зорка. Вечэ́рня зара́ са́ма ра́ння. Свето́ва зара́ са́ма ясне́йша. Тонеж.

ЗАРА́ЛЬВАЦЬ незак. Закопваць. Звя́зваю шэрхо́ўкі, роблю́ прыча́л і зара́льваю его́ ў зе́млю. Ліпляны.

ЗАРА́НЕЙ, ЗАРА́НЕЕ і ЗАРА́НІ прысл. Рана, раней, на досвітку. Шпакі́ прыле́таюць зара́нее. Тонеж. Вугна́лі това́р зара́ней, коб му́хі не куса́лі, да вон не поздро́чыўса. Там жа. Дру́гі раз зара́ні легаю спаць. Падварак. На зара́ні зоўзю́ля куе́. Ліпляны. Зара́не цвіце́ сон, его́ ж наню́хацца не мо́жно. Ліпляны.

ЗАРО́Г м. 1. Участак зямлі, які ўкліньваецца ў рэчышча ракі. На том заро́зі бога́то траву́. Зробі́ до́брэе дзе́ло – перэвезі́ ў заро́г. Астражанка. 2. Затока. Дава́й е́того заро́га шчэ пого́нім. Мо ры́ба бу́дзе? Мілашавічы.

ЗАРОСТАНЫ дзеепрым. Зарослы. Му зово́м бе́лью ні́зкіе заро́станые долі́ны. Тонеж. Усе́ ўжэ заро́стано на Ма́рковым Перэцеро́бу. Астражанка.

ЗАСІЛКАВА́ЦЬ зак. Прымусіць. Засілкова́лі хлапчука́, шчоб вон е́ту дзе́ўку ўзя́ў. Тонеж.

ЗАСЛО́НЬЕ н. Загнетак. Вона́ ж цэ́лы каза́н кортоплі з'е́ла і поро́жні каза́н на засло́нье пуста́віла! Астражанка.

ЗАСМА́КА ж. Затаўка. Ко́лісь са́ло було́ то́лько на засма́ку, а за́ра дзе́ці его́ і ў рот не беру́ць. Мілашавічы.

ЗАСМА́ЧЫЦЬ зак. Затаўчы. Коб хоч са́ла хопі́ла засма́чыць булён. Маркоўскае.

ЗАСТАЎЛЯ́ЦЬ незак. Ставіць. Хра́пку з качано́ў ссе́каюць, па́раць і застаўля́юць у лёгкі дух. Тонеж. Вошчы́ны такіе́ купу́юць і застаўля́юць у ву́лей. Там жа.

ЗАСТОРО́НОК і ЗОСТРО́НОК м. Памянш. да «застро́н». Перэгоро́дзіць засторо́нка да се́но складзе́. У гумне́ з того́ бо́ку і з того́ засторо́нкі е. Тонеж. Трэ́бо адбі́ць засторо́нка целя́ці ў одры́ні. Буда-Лельчыцкая. Мо які́х маклякоў ву́цягнуў бу з во́ды да застро́нка ў хле́ві адгородзі́ў. Ліпляны.

ЗАСТРО́Н м. Засек, засценак у гумне, хляве. Мой чэлове́к зробі́ў склад да одбі́ў засе́кі, застро́ны. Тонеж.

ЗА́СТУП м. Рыдлёўка. Там, не́дзе ко́ло одры́ны, за́ступ стоі́ць. Новае Палессе. До́нька, озьмі́ за́ступа ў Хве́дара. Чырвонабярэжжа.

ЗА́ТКАЛО н. Корак, шпунт. Бу́цел за́ткалом затыка́юць. Маркоўскае.

ЗАТЫ́КА ж. Шпунт. Коб ры́бу доста́ць з жака́, трэ́бо заты́ку ву́рваць. Маркоўскае.

ЗАТЫ́ЛОК м. Клінок у касе. Згубі́ў заты́лка от ко́сы і не докосі́ў заго́н.

Маркоўскае.

ЗАТЫ́ЛОЧЭК м. Памянш. ад «заты́лок». Коб дзе натра́піць яко́го дзе́рэва да заты́лочка зробі́ць. Маркоўскае.

ЗАЎСІ́М і СОЎСІ́М прысл. Зусім. Ужэ́ соўсі́м як него́ж бу́дзеш, хто ж бу́дзе робі́ць. Ліпляны. А я ле́тась належа́ла на гры́ба. Ду́мала, што заўсі́м умру́. Тонеж. Бура́н як про́йдзе, то лес ву́кладзе соўсі́м. Там жа.

ЗА́ХОЛОД м. Студзіна. От коб за́ра за́холоду з паро́нікамі. Забеража́ніца.

ЗАХОЛО́ДВАЦЬ незак. Застуджваць, застываць. Лой цве́рдзее, як захоло́двае. Га́майце, бо боршчэ́ захало́двае. Тонеж. Ку́ра ву́лезе да скорэ́й наза́д, шчоб не захоло́двала яі́чко. Там жа.

ЗАХРАМІ́ЦЬ незак. Застрэміць. Так па́лцы боля́ць: захраміў собе́ пу́шкі. Падварак.

ЗАЦЕ́ГАЦЬ незак. Зацягваць, зарастаць, запускаць. Корто́плю мокрэцэ́м заце́гае. Ліпляны. Хвошчэвіца от ля́ку помога́е. Напі́са й му́йса е́ю – і хо́рошо, то́лько не заце́гаць. Тонеж.

ЗАЦЕ́КАЦЦА незак. Захадзіцца ад смеху. Раскажу́ яку́ ба́йку, аж заце́каюцца жонкі́. Падварак.

ЗАЦІНА́ЦЦА незак. Задыхацца. Е́ты ж чэлове́к заціна́ецца і говоры́ць не мо́жэ, а ву его́ га́ньбіце. Падварак.

ЗАЧА́ВІЦЬ зак. Заціснуць, забіць. Трэ́бо зача́віць кабана́. Падварак. Усе пля́хі пувукіда́ў, як коро́ву зача́віў. Лельчыцы.

ЗА́ШЧЫТ м. Франтон. Зробіў за́шчыта з ца́цкамі, а на отлі́ва до́шчэк нема́. Сярэднія Печы.

ЗАШЧЭ́ПВАЦЦА незак. Зашчапляцца, зашпільвацца. Кручо́к зашчэ́пваецца, коб у ха́ту ніхто́ не ўлез. Тонеж. Пола́ ў кажуху́ захо́дзіцца одна́ за одну́, і чэлове́к зашчэ́пвае іх. Ліпляны.

ЗАШЧЭ́ПВАЦЬ незак. Зашчэплівацъ, зашпільваць. Хво́ртку зашчэ́пвай. Кажу́х зашчэ́пвай. Тонеж. Не зашчэ́пвай хво́ртку. Тонеж.

ЗА́ШЧЭПКА ж. Кручок. До́нька, зашчэпі́ дзве́ры на за́шчэпку. Астражанка. За́шчэпка хво́ртку закрыва́е. Тонеж.

ЗАШЭРЭНЕ́ЦЬ зак. Зацвярдзець зверху /пра снег/. Зашэрэне́ў ужэ́ снег – ідзе́ш і не правальвае́шса. Данілевічы.

ЗБАГНУ́ЦЬ зак. Успомніць. Коб ба́чыў е́ту травіцку, а так ста́неш плу́таць, да дзе ты его́ збагне́ш усе́. Тонеж.

ЗБОР м. Гулянка ў святочныя дні. Буў у Ліпля́нах, там збор велі́кі. Сярэднія Печы. У недзе́лю збор у Пудва́рку. Буда-Лельчыцкая.

ЗБО́ЧНЫ прым. Пабочны, не тутэйшы. Збо́чному чэлове́ку не поня́тно, шо му ка́жам. Мілашавічы.

ЗБУЯ́ЦЬ зак. Расці ў сцябло. Збуя́лі мое́ помі́доры. Ліпляны.

ЗВУЧА́ЦЬ незак. Адвучваць. Не звуча́й ты соба́ку, хай брэ́ша. Е́то его така́ робо́та. Тонеж.

ЗГА́РАНЫ дзеепрым. Спалены. На зга́раным дворы́шчэ берэ́за ўжэ

вýросла. Уся́ на́ша дзерэ́ўня була́ зга́рана, а водна́ – сад, частако́л – нічо́га не тро́нута. Тонеж.

ЗГОНІ́НЫ мн. Згрэбленая дробная памятая салома пасля малацьбы ўручную. Данілевічы.

ЗГРЭ́БАЦЬ незак. Зграбаць. Граблямі́ згрэ́балі грэ́чку ў во́рохі. Ліпляны. Згрэ́бае гра́белькамі траву́, шчоб скосо́чэк буў. Тонеж.

ЗГУК м. Гук. Бо́ўтала создае́ згук. Мілашавічы. Да ву ж то́лько мой згук почу́еце. Тонеж.

ЗДО́БНО прысл. Спраўна. А Лю́дка здо́бно по ходзя́йству ро́біць. Падварак.

ЗДОЛЕ́ЦЬ зак. Справіцца з чым-небудзь, магчы. А пока́ здоле́ла, хо́рошо було́ й дзіця́тко й поросятко. Лельчыцы. Не хо́чэ вон гледзе́ць пчо́лкі, а я здоле́ла б. Сярэднія Печы. У колхо́зі здоле́ў шчэ това́р па́сціць. Мілашавічы.

ЗДОЛЯ́ШЧЫ прым. Здаровы, здольны справіцца з гаспадарчай працай. Як здоля́шчы, усе́ до́брэ, а як слабы́ ўся́ка о́буў потруі́ць. Ліпляны.

ЗДОРО́ЎШЫ прым., вышэйш. ступ. параўн. ад «здоро́вы». Здаравейшы. Пе́тро здоро́ўшы за Ада́ма. Ліпляны. Здоро́ўшые ко́лісь булі́ лю́дзі. Лельчыцы.

ЗДОХЛЯ́ЧЫ прым., экспр. Здохлы. Кома́р ты здохля́чы! Тонеж.

ЗДРАЧ м. Сухі воск. Е́ты здрач перэта́пліваюць, уча́ўваюць его́ і получа́ецца воск. Чэмернае.

ЗДРОК /1/ м. Травяністая расліна. Това́ру даю́ць здрок, як заболе́е. Тонеж.

ЗДРОК /2/ м. 1. Кусліваe насякомае, слепень. Ве́чэром комарэ́ рэ́жуць това́р, а ў жару́ оводэ́ й здро́кі. Тонеж. Худо́ба пузадзіра́е хво́сты да бежы́ць, як нападу́ць здро́кі. Падварак. 2. Зык. Напа́ў здрок на коро́ў – бегу́ць край све́ту. Тонеж.

ЗДРО́ЧЫЦЦА незак. Зыкаць. Се́ні я так утомі́ласа: това́р цэ́лы дзень здро́чыўса. Падварак.

ЗДУМАЦЬ зак. Успомніць. Му не зду́маем усе́ зе́лья. Ліпляны. Зду́маў, як зве́цца чо́рны буськó. Мілашавічы.

ЗДЫ́БАЦЦА зак., экспр. Сыйсціся, сустрэцца. До́брэ, што зды́баліса – дава́й ву́п'ем. Ліпляны.

ЗЕ́ВА ж. Прамежак у кроснах паміж верхнімі і ніжнімі ніткамі асновы. У зе́ва чо́ўнік пудае́м, як тком полотно́. Тонеж.

ЗЕЛЕЗНЯ́К м. Рыдлёўка. Дай мне зелезняка́. – Зелезня́к у горо́дзі стоі́ць. Астражанка.

ЗЕЛЕ́НАЯ РУ́ТА ж. Травяністая расліна. Зелёная ру́та росце́ по садо́х. У ей скупа́юць дзе́ці – і попраўля́юцца. Ліпляны.

ЗЕЛЕНІ́ЦА ж. Грыб, зялёнка. Зеленіцы пра́мо ў песку́ росту́ць. Тонеж. У боршч до́брэ зеленіцы кі́даць. Замошша. То я то́лько й беру́ соўя́ка й гры́ба, а во́сенью – зеленіцы. Ліпляны.

ЗЕ́ЛЛЕЙКО н. Памянш. да «зе́лье». На парыні́не росце́ косцерэ́ўка і ра́зное зе́ллейко: свіро́па, мокрэ́ц, горча́к, дросе́н, лебеда́, ля́скалька. Тонеж.

Продо́лгі ліст у е́того зе́ллейка. Чэмернае.

ЗЕ́ЛЬЕ н. 1. Пустазелле. Седа́ю й ко́рчыка полю́ па́лцамі і кі́даю ў розо́ру зе́лье. Ліпляны. Зе́лья бога́то ўся́кого на градо́х. Астражанка. 2. Зёлкі. Зе́лье па́рам от жывота́. Маркоўскае. Нарва́ла зе́лья от просту́ды. Тонеж. Зна́харка зе́лья нава́рыць да вуліва́е на росхо́дніе доро́гі. Чэмернае.

ЗЕ́МЛЯ ж. Зямля. Серпокры́л упадзе́ на зе́млю, ло́пае, ло́пае кры́ламі, а ўзня́цца не мо́жэ: но́жкі ў его́ коро́ткіе. Данілевічы.

ЗЕМЛЯ́НКА ж. Птушка, якая нясецца ў зямле; жаваранак. Земля́нкі по полёх ле́таюць і спе́ваюць. Тонеж.

ЗЕМЛЯ́НОЧКА ж. Памянш. да «землянка». Нідзе́ земля́ночка ку́бло не ро́біць, а то́лько на зе́мле. Тонеж.

ЗЕМНЫ́ прым. Земляны. По нізо́х хлопчакі́ земны́х чэрве́й копа́юць. Ліпляны. Зе́мные ко́нікі по зе́мле плыгаюць. Падварак.

ЗЕ́РНЕТА зборн. 1. Зерне. Вуве́рне кожуха́ цёпчa, наберэ́ зе́рнет і пусыпа́е е́того зя́ця. Ліпляны. 2. Сланечнікавае і гарбузовае семя. З гарбузы́ зе́рнета бе́лые, а з соўне́шніка – чо́рные. Коб ёты зе́рнета еў, не було́ б рыбако́ў. Тонеж. Зе́рнета прода́сць – і ў ее жыва́я копе́йка. Падварак.

ЗІ́МНІК м. Дарога, па якой ездзяць зімой. Пра́мо ў боло́ці е зі́мнік. Данілевічы.

ЗІМУ́ХА ж. Гатунак фасолі. У нас е два сорта́ квасо́лі: чарну́шка й зіму́ха. Ліпляны.

ЗЛЕ́ЗЦІ зак. Узлезці. Поганю́ка зле́зла на дзерэві́ну да шыпіць. Чэмернае. Злёзь на горы́шчэ по драбі́не да гледзі́, коб вона́ не ўпа́ла. Астражанка.

ЗЛЕЧА́ЦЬ незак. Вылечваць. Заді́шку нідзе́ не злеча́юць – хо́дзіш, так і ўмрэ́ш. Ліпляны.

ЗЛО́ДЗЕЙ м. Пчала, якая крадзе мёд. Зло́дзей – ето пчо́лка блудлі́ва. Вона́ пах цвето́чка чу́е, а што бы́стро леці́ць, як пу́ля. Ліпляны.

ЗНУ́ШЧАЦЦА незак. Здзекавацца. Ой, го́рэ з тако́й жы́ткой! Кінь ты ее́ /жонку/ і не зну́шчайса. Падварак.

ЗОБЕ́НЬКА ж. Невялікая плеценая пасудзіна для ягад. Я ўчо́ра з дзецьмі́ дзве зобе́нькі чарні́ц набра́ла. Дуброва.

ЗОБІ́ЦЦА зак. 1. Забіцца. Тонеж. 2. Застопарыцца. Зобіўса лес у Міро́наўскай Бу́хці. Лельчыцы.

ЗОБІ́ЦЬ зак. 1. Забіць. Зобі́ў дзя́цел шы́шку ў коло́нку і вудо́ўбвае зе́рнетко пуд ка́жным перо́м. Тонеж. 2. Разбіць. Я но́гу зобі́ла, так бе́гла. Тонеж. Зобі́ў ма́зінца, і вон з цех пор не кіру́е. Падварак.

ЗОБО́РЫ мн. Зборкі ў вопратцы. Козачы́на шы́ецца з зобо́рамі. Данілевічы. У мене́ буў ко́лісь кожу́х з зобо́рамі. Тулу́п без зоборо́ў шы́лі. Ліпляны.

ЗОВІ́ЦА ж. Залвіца. Чэлове́ка жо́нка – ятро́ўка, а его́ се́стра – зові́ца. Мілашавічы.

ЗОЕ́ДЛІВЫ прым. Заўзяты, схільны ў працы да захаплення. А вон такі́

ўжэ зоедлівы чэловек: робіць домка дзень і ноч. Данілевічы. Некі вон куценькі, а до роботы зоедлівы. Тонеж.

ЗОЛІЦЬ незак. Выбельваць бялізну ў растворы з попелу. Плацья цеперэка ў нас не золяць. Тонеж. Колісь сыплем попел ў воду да шмацье золім. Мілашавічы.

ЗОЛОТНІК /1/ м. Жаночая хвароба, выпадзенне маткі. Золотнік з пудорвы тожэ робіцца, але ето не грыжа. Ліпляны. Золотніка нарвала, бегуючы. Тонеж.

ЗОЛОТНІК /2/ м. Адзінка вымярэння вагі. Маркоўскае.

ЗОЛОТОЎКА ж. Старая назва манеты (15 кап.). Бувала, назбірае хто етых золотовок і ходзіць ужэ, як богатыр які. Тонеж.

ЗОЛЯ ж. Золь, непагадзь. Зара сама золя: мліць дождзь кажны дзень. Тонеж.

ЗОПЛАТА ж. (у песнях). Адплата. Тобе ж, Моруся, Двойная зоплата: Чэтырэ дошкі – Тобе вечна хата. З нар. песні. Тонеж.

ЗОРКО прысл. Зорна. Утром було месячно, зорко. Тонеж.

ЗОСТОЙ м. Востры выступ на кручку для лоўлі рыбы. Коб рыба не зорвалаcа, на кручку робліцца зостой. Ліпляны.

ЗРОСТАНЫ дзеепрым. Зросшы. Да ў мене е двоенятко ў городзі – два гурочкі зростаные. Ліпляны.

ЗРЭЗАЦЬ зак., экспр. З'есці. Зрэзалі місу завіванцоў, то не голодные. Мілашавічы.

ЗУБЕЛЬ м. Прылада для падкурвання пчол. Зубель трэбо, шчоб мед зобраць у пчол, як сіла веліка. Маркоўскае. Зробіць другі чэловек такі зубель: палку рошчэпіць, лучынку ў ее ўстрыкне, запаліць і пудкурвае пчолок. Тонеж.

ЗУБЛЁНКА і ЗУБЁНКА ж. Цыгарка. Крэша дзед цюцюн да зублёнкі круціць цэлы дзень. Мілашавічы. Закурыў я зубёнку, аж бачу – бегуць дзве козы. Маркоўскае.

ЗЯЎЗЮЛЬНІК м. Травяністая расліна, зязюлькіны слёзы. Коровам парáць зяўзюльнік. Зяўзюльніком гладышкі вупарваюць. Тонеж.

ЗЯЎЗЮЛЯ і ЗОЎЗЮЛЯ ж. Зязюля. Зяўзюля раба, сівенька. Тонеж. Зяўзюля рано вельмо куе. Ліпляны. Зоўзюля яйцэ на земле несе. Данілевічы.

## *І*

ІВОЛ м. і ІВОЛА ж. Івалга. У дупашкох івола жыве. Канапелька. Івол крычыць і крычыць. Данілевічы.

ІГРЫШЧЭ н. 1. Вечарынка, танцы. Мо, дзеўкі, ігрышчэ сегоні будзе? Ліпляны. 2. перан. Неўрадлівае поле. Ето ж не поле, а однэ ігрышчэ, на ём нічого не росце. Ліпляны.

ІЗТУЛЕКА прысл. Адтуль. Одна жонка вілезла, як маці родзіла, ізтулека, з одрыны. Тонеж.

ІКАВІЦА ж. Ікаўка. Вупі воды – ікавіца супыніцца. Тонеж.

ІНА́ЧЭ і ІНА́ЧЭЙ прысл. Інакш. Цэрко́ўные коля́днікі іна́чэ пеюць пе́сні. Тонеж. У ко́лішняе врэ́м'е іна́чэй говоры́лі. Сярэднія Печы.

ІНДЗЮ́К м. Бурдзюк. Во́ду носі́лі ў індзюко́х. Маркоўскае.

ІРВО́ЦІ мн. Ваніты. Не́кі ва́жкі кашэ́ль, аж ірво́ці беру́ць. Тонеж.

ІРШ м. Ёрш. Му іршо́ў не беро́м, воны́ ве́льмо колю́чые. Ліпляны.

## *К*

КА́ВЕРТ м. Вір. У ка́верці глы́бко. Ко́ло ка́верта гры́бу бра́ла. Тонеж.

КАГА́Л м., экспр. Род. Вон жэ з тако́го кага́лу, шчо брат з бра́том век б'ю́цца. Тонеж.

КАГА́Н м. Чыгун. Навары́ла дзе́цям кага́н крупні́ку́ і хай се́рбаюць. Глушкавічы.

КАГА́Т м. Капец, бурт. Сего́ні раскры́лі жонкі́ кагаты́ і ста́лі перэбіра́ць корто́плю. Калінаўка.

КА́ДОЎБ м. 1. Бочка, выдзеўбаная з калоды. У кадо́ўб сы́палі пашню́. Ліпляны. 2. Вір. У ка́доўбі кру́ціць. Лельчыцы. За е́тым ка́доўбам е о́зеро Кру́глае. Маркоўскае. На перэе́здзе ву́мало ка́доўб, е́хаў чэлове́к і ўтопі́ўса ў ём, ву́цяглі нежыво́го. Ліпляны.

КА́ДОЎБЕЦ м. 1. Салянaчка, маленькая драўляная бочачка. З дзе́рэва вудо́ўбваем ка́доўбца. Тонеж. У ка́доўбец соль сы́плем. Ліпляны. 2. Прыстасаванне для выхаду куродыму з хаты, у якой быў «по́свет». Мілашавічы.

КАДО́ЎБЧЫК м. Памянш. да «ка́доўб» у 1-ым значэнні. Соль дзержымо́ ў ка́доўбчыку. Вон з дзе́рэва вудо́ўблены, глы́бкі. Тонеж.

КАДРЭ́ЛЯ ж. 1. Кадрыля. На п'яць пу́нктоў кадрэ́лю гра́юць. Лельчыцы. Кадрэ́лю наўхрэ́ст танцу́юць. Ліпляны. 2. перан. Шмат чаго-небудзь. Ко́лькі ў цебе́ дзеце́й? – Да цэ́ла кадрэ́ля. Падварак.

КАЗА́Н м. Чыгун. За шчоко́ю стоі́ць каза́н з кру́пніком. Озьмі́, як е́сці захо́чэш. Тонеж. Вона́ ж ўсю корто́плю з'е́ла і пусты́ каза́н на засло́нье пуста́віла. Астражанка.

КАЗЁ́НШЧЫНА ж. Дзяржаўны лес. На Казё́ншчыні па́сціла това́р. Казё́ншчына ако́пвалася рвом. Данілевічы.

КАЗЮ́КА ж. Казюлька, каларадскі жук. Нападу́ць на корто́плю казю́кі, про́пасць е́та, але лю́дзі даду́ць ім ра́ды. Маркоўскае.

КАЛДУНЫ́ мн. Бульбянае пюрэ. Сама́ навары́ла калдуно́ў, сама́ й поела, а дзе́ці голо́дные седзя́ць. Заберажніца.

КАЛДУ́ШКА ж. Рыбка. Калду́шкі лю́б'яць чы́сту во́ду. Ліпляны.

КАЛІНО́ЎНІК м. Страва з каліны і мукі. Каліно́ўніком чуць не аб'е́ласа: сма́шны каліно́ўнік густы́. Астражанка.

КАЛІ́НАЎ ВО́СТРАЎ м. Урочышча. Е у́жын плю́шнік у Калі́новым Во́страві. Тонеж.

КАЛІТА́ ж. 1. Сумка для захавання грошай. У каліце́ пу́говіцкі булі́

ме́дные. Тонеж. От, дзе́ўчына, у мене́ калі́та-шчэбета́, по́ўна зо́лотом набі́та. З нар. песні. Мілашавічы. 2. Мяшочак для крэсіва і люлькі, кісет. Вума́е дзед з калі́ты́ крэ́мень, гу́бку і крэ́ша, добіва́еццa огня́ для ку́рова. Мілашавічы.

КАЛІ́ЦЬ незак. Напальваць цэглу. На заво́дзі калі́лі кірпі́ч. Ліпляны.

КАМЕНІ́ЦА ж. 1. Касцяніца. У нас е ожы́на, суні́ца, камені́ца. Данілевічы. Поросли́ камені́цы – ско́ро бу́дуць но́выя полені́цы. Там жа.

2. Цвёрдая груша (плод). Як пулежа́ць, камені́цы сма́чныя. Тонеж.

КА́МЕНЬ м. Урочышча. Ко́лісь у Ка́мене́ було́ по́ле, а за́ра – лес. Тонеж.

КАМЕ́НЬЧЫК м. Костачка ў вішні. Гороб'е́ отшчыкне́ ві́шню, а каме́ньчыка па́дае до до́лу. Тонеж.

КАНТЭ́ТНЫ прым. Фарсісты, вясёлы. А Хве́дор такі́ кантэ́тны сё́ні. Ко́сы его́ дзе́ўка накруці́ла і така́ кантэ́тна ста́ла – куды́ там! Падварак.

КА́НЬ ж. Сярэдняя сцяна ў пяцісценцы. На ка́ні лежа́к ста́ўляць. Мох ло́жуць у ка́ні. Тонеж. На дзве ха́ці ка́нею домо́к перэсе́каецца. Сярэднія Печы. На пілора́ме рэ́жуць ды́лі, коб задзе́лаць ка́ню. Ліпляны.

КА́ПАР /1/ м. Збудаванне для выцягвання вады са студні, журавель. Шчэ й цепе́рэка на посё́лку ка́пары е. Без гру́за ка́паром ва́жко во́ду вуця́гваць. Ліпляны.

КА́ПАР /2/ м. Капар. Блочо́к зве́рху вісі́ць на ка́пары. Мэ́троў о́сем сва́ю ка́паром зобіва́юць, і вона́ з во́ды то́лько чуць понікае́. Ліпляны.

КАПЕЛЮ́Ш м., экспр. Пухір, бурбалка. На колю́гох, поба́, капелю́шы схо́пваюцца. Падварак.

КАПЕЛЮ́ШНІК м. Гарлачык жоўты. Капелю́шнік по рэке́ росце́, по озё́рох. Маркоўскае. У во́зеры будолі́на капелю́шніка ідзе́ до двух-трох мэ́троў. Ліпляны.

КАПЛОУ́ХІ прым., экспр. Віславухі. От не́ке каплоу́хе дзіця́. Падварак.

КА́ПТУР м. Плоскае жалезнае кольцо на канцах утулкі ў калёсах. По боко́х уту́лкі набіва́еццa каптурэ́, а да́лей к спі́цам – орэ́хоўкі. Маркоўскае.

КАПУ́СЦІНА ж. Ліст з капуснага качана. У капу́сціну м'я́со заго́рнуць і ту́шаць. Тонеж.

КАПУСЦЯ́НЫ прым. Капусны. На вечэ́ру зоста́ўса то́лько капусця́ны боршч. Маркоўскае.

КАПШУ́К м. 1. Мачавы пузыр. Маркоўскае. 2. Плавальны пузыр у рыб. Му вукі́дваемо капшу́к з ры́бі. Маркоўскае. 3. Кісет. Дзеды́ шюцю́н носі́лі ў капшуку́. Маркоўскае.

КАРАСІ́НА ж. Газа. Ву́лечыла но́гу карасі́ною і жы́жкою. Тонеж.

КА́РКАЦЬ незак. Гагатаць (пра гусей). Гусь ка́ркае. Тонеж.

КАРНЕ́Т м. Кларнет. Марці́навы хло́пцы на карне́ці, на цымба́лох гра́лі. Плех на ка́рнеці на 25 кла́поў граў. Данілевічы.

КАРЦІ́ЦЬ незак. Хочацца. Як раз сходзіш у кіно́, то і карці́ць. Мілашавічы.

КА́ФЕЛЬНЫ прым. Кафляны. От у его́ ка́фельна гру́ба га́рна.

Маркоўскае.

КАЦЮШКА ж. 1. Шпуля. Купі мне ў лаўцы кацюшку ніток, трэбо Сохвеі отдаць, коб спонíцу пушыла. Падварак. Смак у мене добры на ўсю кацюшку. Там жа. 2. Шпулька ў самапрадцы. На кацюшку жонка смучэ прадзьво з грэбня. Ліпляны. 3. Магазінныя ніткі. Вуткала полотно на кацюшкох. Астражанка. По кацюшкох путкала – і полотно добрэ. Падварак.

КАЦЮШНЫ прым. Шпулькавы. Колісь не було кацюшных ніток. Тонеж.

КАЧАЛКА ж. Рагоз, катах. З естых качалок подушкі робляць. Тонеж. На болоці качалкі ростуць. Ліпляны.

КАЧАНЯТКО н. Куранятка, вуцёнак. Качаняток у мене було семеро, і тхор іх з'еў. Вон только головы одгрызае ў качаняток. Коб не ета пропасць гончая, було б у мене богато кур. Маркоўскае. Пусцілі му куру, а качаняткі не йдуць пуд ее. Тонеж.

КАЧУР м. Качар. Мого кочура собака поколечыў. Тонеж.

КАШЭРНЕНЬКІ прым. Цвёрдзенькі, чысты. Які грыбок хорошы! Такі вон кашэрненькі. Тонеж.

КВАРТА ж. 1. Конаўка. Квартамі воду п'емо. Ліпляны. 2. Адзінка вымярэння вадкасці (750 г.). На сегоні кварты не бувають. Колісь зойдзеш у тракціф да й говорыш: «Дай мне кварту». Ліпляны.

КВАРТАЛ м. Плошча (два гектары). Пану плацілі дзвенаццаць рублей за квартал. Чэмернае.

КВАС м. 1. Квас. Мо есцека квас? Коўтнуць хочэцца – перэсохло ў горлі. Лельчыцы. 2. Кампот. Буў квас добры з яблукамі, грушамі, слівамі. Тонеж. 3. Бярозавік. У бочцы квас з берэзы, клёна ўкісае, стане такі рэзкі. Тонеж. 4. Закваска. Воды трохі пудліваюць у дзежку, коб квас не ўсохаў. Маркоўскае.

КВАСОВІК м. Страва з круп і ягад. Дзеці квасовік люб'яць. Ліпляны.

КВАСОВЫ прым. Квасны. Юшка така красна ў квасовым борщчэ. Тонеж.

КВАША ж. Страва з запаранага квашанага цеста, разведзенага вадою. Наварыць, бувало, жонка чавун квашы, да дзеці замурзають чэрэво. Тонеж.

КВАШНЯ ж. 1. Страва з запаранага квашанага цеста. Як учахае ў печы, квашню варать: наберэ жонка цёпленькае воды ў даёнку карцоў два й прыгоршч жытне або грэцке мукі, шчоб не густэ й не рэдке було, розбівае так, як на оладкі, пуставіць на печ: пеніць воно, пеніць – і ўкуснэ. Тонеж. Запарвають грэцкую муку, потом вона ўкісае – і квашня гатова. Забеpажніца. 2. Дзежка, у якой рашчыняць цеста. Новае Палессе.

КВЕЛІЦЦА незак. Дражніцца. Яка ты сама, а квелішса з усімі. Буда-Лельчыцкая.

КВЕЛІЦЬ незак. Дражніць. Сколько ты мого Віцю будзеш квеліць! Буда-Лельчыцкая. Не квель дзіцятко, хай лепей само забаўляецца. Дуброва.

КВІТУХА ж. Курыца, якая водзіць куранят. Була ў мене така добрэнна квітуха і пропала. Канапелька.

КВОКЛЯ ж. Квактуха. Не хочэ несціся ўжэ квокля. Чэмернае. Квокля

соко́чэ. Тонеж.

КВОКТА́ЦЬ незак. 1. Квактаць. У мене́ тры несу́шкі, а дру́гіе ку́ры кво́кчуць. Лельчыцы. 2. Квакаць. Лягу́шка кво́кчэ. Данілевічы.

КВО́ЛІЦЦА незак. Скардзіцца на хваробу. Шчэ до во́йны мой браткó кво́ліўса, што мо́зка ў ноге́ болі́ць. Тонеж.

КЕБ злучн. Каб. Кеб не клін да не мох, пло́тнік з го́лоду бу здох. Падварак.

КЕЛЮ́ШЭК м. Чарачка з ножкай. Келю́шкамі горэ́лку п'юць. Маркоўскае.

КЕ́РМАШ м. Гулянка ў адно з рэлігійных свят. Схо́дзімо сего́ні ў Пудва́рак на ке́рмаш. Буда-Лельчыцкая.

КІ́ДАЦЬ незак. 1. Кідаць. Кі́даю шма́цье ў жлу́кто да лью кроп. Тонеж. 2. Складаць. Ко́пу кі́даем у сто́гі. Мілашавічы. 3. Сеяць. У п'я́тніцу му кіда́цьму корто́плю. Падварак.

КІ́ДКІ прым. Старанны. Вон кі́дкі до робо́ты. Буда-Лельчыцкая.

КІ́ЖЛЫ мн., экспр. Ногі. Ле́дзьве кі́жлы з ле́су прыця́гла, так утамі́ласа. Лохніца.

КІЕ́Н м. Вялікі кузнечны молат. Кіе́на беры́. Данілевічы.

КІЛІ́К м. Кулік. Як снег пупа́дае, кілікі́ бе́гаюць по боло́ці. Ліпляны.

КІЛОМЕ́ТРА ж. Кіламетр. За дзве кіломе́тры от села́ сто́яў млін. Тонеж. Ха́та ад ха́ты на цэ́лу кіломе́тру ста́лі. Сярэднія Печы.

КІ́ПЕЦЕНЬ м. Кіпень. Коро́ві насеко́м се́чкі да опа́ром кі́петнем, штоб мя́кка була́. Ліпляны.

КІСЕ́ТА ж. Кісет. На мой век е́той кісе́ты хва́ціць. Маркоўскае.

КІСЛУ́ХА ж. Кісліца. Нарво́м у ле́сі кіслу́хі да боршчэ́ ва́рымо. Тонеж.

КІСЛЯ́К м. Сыракваша. Ве́рха пускі́даюць, а кісляка́ – у такі́ мешэ́чак да на сыр перэтопля́юць. Мой стары́ нару́ліцца корто́плі з кісляко́м да й спіць цэ́лы дзень. Тонеж. Верха́ скі́нула, а рэ́дкі кісля́к дзе́цям дае́. Ліпляны.

КІТА́ЙКА ж. Пояс. У ста́рым ча́се шэрся́ну тка́лі кіта́йку на тры па́лцы. Ліпляны.

КІ́ЦЦЫ мн. Махры. У мене́ ж е́та ху́ста з кі́цамі. Падварак. Я сама́ ў насто́льніцы зробі́ла кі́цы. Тонеж.

КІЦУНЫ́ мн. Махры. Я не бу́ду носі́ць е́ту ху́стку з кіцуна́мі. Астражанка.

КІШ-КІШ! Выкл. Вокліч на курэй. Кіш у ку́чку! Злодзін.

КІШКІ́ мн. 1. Кішкі. От е́той робо́ты кішкі́ не ву́лезуць. Тонеж. 2. Мякаць гарбуза. Вума́й зе́рнета з кішо́к, а горбузу́ бу́дом па́раць сві́ньям. Падварак.

КІЯХІ́ мн. 1. Рагоз. А е́то кіяхі́, што ў боло́ці росту́ць: поду́шкі ро́бляць з іх. Ліпляны. 2. Кукуруза. Кіяхі́ се́юць у горо́дзі. Ко́лісь кукуру́зы і не зна́лі. Падварак. 3. Кукурузны пачатак. Кіяхі́ пудла́мліваюць, а кія́шнік сто́іць. Падварак.

КІЯХО́ВЫ прым. Кукурузны. Се́чку кіяхо́ву корова́м даём. Падварак. Кіяхо́ва мука́ то́жэ хороша́ мука́ – е́лі лю́дзі. Лельчыцы.

КІЯ́ШНІК м. Сцябло кукурузы. Кія́шнік вуро́стае ў рост чэлове́ка. Падварак.

КЛАВУ́ШНІК м. Клавішы. У карне́ці е клаву́шнік. На клаву́шнік кладзе́ па́льцы аж у двох мейсто́х і вуі́гравае: ту-ту. Ліпляны.

КЛА́П м. Клапан. Плех на карне́ці на 25 кла́поў граў. Данілевічы.

КЛЕВА́К м. Заткала, шпунт. Рыбало́ві затыка́юць у кашэ́ клевако́м дзі́рку, шчоб ры́ба не вубега́ла. Падварак.

КЛЕ́ПАЦЬ незак. Кляпаць. На ба́бкі по жалу́ ко́су кле́паюць. Падварак.

КЛЕПЧА́Р м. Чалавек, які вырабляе клёпкі. Клепча́р, ходзі́ пуцэва́ць. Клепчарэ́ стру́жаць кле́пчыну стру́гом, а пото́мака бо́кі – спу́стом. Данілевічы.

КЛЕ́ПЧЫНА ж. Клёпка. Клепчарэ́ стру́жаць кле́пчыну стру́гом, а пото́мака бо́кі – спу́стом. Данілевічы.

КЛЕ́ШЧЫ мн. 1. Кузнечныя клешчы. Кузне́ц берэ́ клешча́мі гара́чае зале́зо. Данілевічы. 2. Прылада для прасавання воску. Кле́шчы ўча́ўваюць воск. Маркоўскае. 3. Драўляная частка ў хамуце. На кле́шчы пудшыва́ецца кі́чка. Данілевічы. 4. Пласкагубцы. Данілевічы.

КЛЁК м. Сіла. Шчэ е клёк у е́того дзе́да. Падварак.

КЛІ́ПЕНЬ м. Палка, якой нацягваецца вяроўка на бярвеннях. Дзе́рэво пройма́ецца гужво́й, по-пуд коло́дой беро́цца жо́росць і накру́чваецца клі́пнем. Лельчыцы.

КЛО́МЛЯ ж. Прылада для лоўлі рыбы, крыга. Дзе мі́лко, кло́мляй мо́жно ловіць ры́бу. Буда-Лельчыцкая.

КЛО́Ч'Я мн. Рэшткі спрадзенай кудзелі. Кудзе́ля спрадзе́цца, а кло́ч'я откіда́емо. Тонеж. Дзеру́гі пустэ́ полотно́: осно́ва тонка́, а ву́ток з кло́ч'я. Там жа. Ву́прадзе жо́нка му́чку на то́нкіе ні́ткі, а кло́ч'я перава́львае на вал. Ліпляны.

КЛУБНІ́КА ж. Гатунак яблык. Клубні́ка росце́ на́глая і ўро́дзі го́страя зве́рху. Ліпляны.

КЛЮ́КНУЦЬ зак., экспр. Папасці, заплысці. У во́лок ры́ба ка́жны раз клю́кне. Ліпляны.

КНІ́ГА ж. Птушка, кнігаўка. Кні́га ле́тае і пішчы́ць. Ліпляны.

КНІ́ГІ мн. Секцыя ў страўніку. Пля́хі обраба́тываюць і ку́шаюць, а кні́гі вукіда́юць. Колі кні́гі зоб'ю́цца песко́м, худо́ба пропада́е. Чэмернае.

КНЯ́ЗЕЎ БРОД м. Урочышча. У Кня́зевым Бро́дзі по срэдзі́не долі́на, а так то́лько корчэ́, ніз. Ліпляны.

КНЯЗЁК м. Шафер. У хло́пца на весе́лы дзе́ўка свецё́лкою бува́е, вона́ дзе́ржыць све́чкі, а князёк седзі́ць. Ліпляны. Кнезька́ звуць, коб молоды́х зво́дзіў зо стол. Падварак.

КНЯЗЬ м. Малады на вяселлі. Молоды́ – князь, а молода́я – кня́гіня. Тонеж.

КОБ злучн. Каб. Можно́ було́ б запіса́ць пе́сню, коб ву ўзя́лі мотофо́на. Тонеж.

КОБА́Т м. Безрукаўка з каляровымі стужкамі. Молоды́е ліфі́кі но́сяць, а

старые – кобаты. З краму шыюць кобаты. Тонеж.

КОБАЧКА ж. Пячурка з боку загнетка. Узімку жар угрэбаем у кобачку, коб цепло було. Тонеж.

КОБУШЭЧКА ж. Памянш. да «кобачка». Пігolікі стаўляць у кобушэчкох. Озьмі набірок у кобушэчцы. Ліпляны.

КОВАЛЁВА НІВА ж. Урочышча. Ковалёву Ніву обрабатываем. Данілевічы.

КОВЕНІШЧЭ н. Дзяржанне ў качарзе. Неко несудобно ковенішчэ вусек мой стары. Падварак.

КОВЕНЬКА ж. Качарэжка. Негожы чэловек з ковенькою ходзіць. Тонеж. Подайце, дзеткі, мне ковеньку, у кутку вона стоіць. Чырвонабярэжжа.

КОВЕНЯ ж. Качарга. Жар вугрэбаю з печы ковенею. Тонеж. Помуй ковеню, бо ўжэ вона вельмі грязна. Чырвонабярэжжа. Нема дзе ковені купіць, пойду ў кузню – мо зробяць. Дзяржынск.

КОВЕШНІК м. 1. Качарэжнік. Ганно, вубер смецье з ковешніка. Падварак. Пустаў у ковешнік вілкі. Данілевічы. 2. Дзяржанне ў вілках, качарзе, чапяле. У вілкох ковешнік надломаўся – не могу чавуны з печы достаць. Тонеж.

КОГОЦЬ м. Кіпцюр. У коршака когці е. Данілевічы.

КОЖАН, КАЖАН і КАЖНЫ займ. Кожны. Косцерэва само худшэ зелье, ей вельмо заростае поле кожан год. Маркоўскае. Зара сама золя: мліць дождзь кажны дзень. Тонеж. От ужэ цепло стало, і кожан садзіць росаду. Ліпляны. Зара жонкі мотыкуюць кожан дзень. Тонеж.

КОЗА /1/ ж. 1. Касуля, каза. Закурыў я зубёнку, аж бачу – бегуць дзве козы. Маркоўскае. Коза без рог. Данілевічы. 2. Грыб, пеўнік стракаты. Зверху козы порэпаны, а пудо дном кошлаты. Маркоўскае. Коза чорная зверху, рэпатая, а пудо дном, як мох, шо козья шэрсць. Семерога така, як коза, ее не беруць, не едуць. Тонеж.

КОЗА /2/ ж. Назва танца. Положаць наўхрэст кіе, як заграюць козу, і танцуюць. Тонеж.

КОЗА /3/ ж. Балотная травяністая расліна. От веліка коза, косяць ее на пудсцёл. Ліпляны.

КОЗАЧЫНА ж. Мужчынскае паліто са зборкамі ў таліі. Козачыны шылі з зобoрамі. Сярэднія Печы.

КОЗІНЕЦ /1/ м. Радыкуліт, рэўматызм. Козінец нападае на чэловека, корчыць ногі. Попоносіў етые рэзіны – і козінец напаў. Падварак.

КОЗІНЕЦ /2/ м. Грыб, стракаты пеўнік. Козінцы кошлатые, з-пуд нізу з мошком, а зверху поколотые й чорные. Воны ростуць і наглые й малые. Ліпляны.

КОЗКА ж. Травяністая расліна. Козка поросла по мэтру. На козцы е шыпакі. Ліпляны. Козка по нізкіх местох росце. Падварак.

КОЗЛЫ /1/ мн. 1. Сталюга. Пустаўлім козлы да рэжэм полено ўдвох. Тонеж. 2. Расці з раздваеннем стаяка на вялікія сукі. Ета сосна пуйшла на

ко́злы. Тонеж. 3. Раздвоены стаяк. На ко́злах помешча́ецца лежа́к бо́ком. Маркоўскае.

КО́ЗЛЫ /2/ мн. Прадаўгаваты скрутак лык, перавязаны пасярэдзіне. Звя́зваем шчэ лу́цья ў ко́злы. Тонеж.

КОЗЛЯ́К м. 1. Масляк. Козля́к ва́жкі, цю́пкі, а мохові́к легчэ́йшы. Ліпляны. 2. Агульная назва для ядомага грыба, апрача баравіка. У ле́сі цепе́рэка грыбо́ў нема́, а одны́е то́лько козлякі́: лісіцкі, краснюкі́, ба́бкі. Сярэднія Печы. Стара́я, ходзе́м по козлякі́ да намары́нуем на зі́му. Лохніца.

КОЗЛЯ́ЧНІК м. Страва з грыбамі. Зімо́ю козля́чнік ва́рым. Ліпляны.

КОЗНІК /1/ м. Травяністая расліна. У войну шыпакі на козніку збірала, тоўкла да корміла дзеток. Маркоўскае. Пушла ў лужу да накосіла етого козніку. Тонеж.

КОЗНІ́К /2/ м. Газоўка. Шчэ й за́рэ козні́ке ў сцёбкох. Тонеж.

КОЗНІЧО́К м. Памянш. да «козні́к /2/». Бува́ло, козні́чкі такіе́ стано́ўляць да све́цяць у хато́х. Тонеж.

КОЗОВА́ЦЬ незак. Хадзіць з «казою» на каляды. Козова́ць му ходзі́лі ў хаты́, а коледова́ць пуд о́кна. Данілевічы.

КО́КОТ м. Кіпцюр. У совы́ е ко́кты. Мене́ раз сова́ бі́ла – бога́то було́ ко́ктоў у голове́. Ліпляны.

КОЛАТУ́ША ж. Зацірка. Ма́ці, навары́ колату́шы. Буда-Лельчыцкая. Мукі́ перэтро́м, перэтро́м, сы́плем у чаву́нчык з окро́пом – і кола́туша гото́ва. Тонеж.

КОЛАЧО́ЎКА ж. Невялікая вяроўка. Міха́сь, нав'я́жы се́на ў колачо́ўку. Буда-Лельчыцкая.

КО́ЛБА ж. Ручка ў валіку, на які накручваецца вяроўка, калі выцягваюць ваду са студні. Кру́цім ко́лбу, і на ва́лік намо́тваецца цэп. Маркоўскае.

КОЛЕІ́Н м. Каляіна. Мой воз пога́но е́дзе: у колеі́н не пупада́е за́дняе колёсо. Данілевічы.

КОЛЕСНІ́К м. Воз сена, саломы (25-30 пудоў). Пукладзе́ чэлове́к на колёса колесніка́ се́на да рубле́м прыцісне, а ўжэ на са́ні – воз. Тонеж. Там, на том одэ́нку се́на ма́ло: мо колесні́к бу́дэ. Новае Палессе.

КОЛІ́НЧЭ прысл. Калі-небудзь. Колі́нчэ то трэ́бо перэдра́ць е́то пе́р'е. Дзяржынск.

КО́ЛІСЬ і КО́ЛІСЯ прысл. Калісьці, раней. На вечо́ркі ко́лісь бога́то збіра́лоса людзе́й, а цепе́р зо́йдзеш – п'яць дзево́к і одзі́н хлопча́к. Сярэднія Печы. Ко́лісь лю́дзі бе́дно жылі́. Астражанка. Ко́ліся млін буў на Ру́дні. Тонеж.

КО́ЛІШНІ прым. Ранейшы, былы. У ко́лішняе врэ́м'е іна́чэй говоры́лі. Сярэднія Печы. Ето ж ко́лішняя пе́сня. Тонеж. Ко́лішніе дзе́ўкі боя́ліс погово́ру. Там жа.

КОЛКІ́ мн. Урочышча. Пуйду́ ў Колкі́ се́но косі́ць. Лельчыцы.

КО́ЛО прыназ. Каля. Коб ходзі́ў ча́пко ко́ло коня́, вон не буў бу такі́ пу́сценькі. Тонеж. Навэ́рно, хат ко́ло восе́мдзесяці е на селе́. Сярэднія Печы.

КОЛОВЕ́Р м. Журавель. Прыв'ё́з ду́ба на колове́р. Данілевічы.

КОЛОВОРОТ м. Свердзел. Коловорот на болту. Данілевічы.

КОЛОДКА ж. 1. Калодка. На колодкі обухом білі губу. Данілевічы. 2. Драўляны корпус рубанка. У мене колодка е, а жэлязкі нема, – дай мне свою. Данілевічы. 3. Круглая частка кола ў калёсах, якая аблягае вось. Спіцы ўдоўбваюцца ў колодку і ў обод. Тонеж. У колодку ўтулка залезная ўстаўляецца. Орэхоўку ўзбіваюць, шчоб колодка не расколвалас. Маркоўскае.

КОЛОДНЫ прым. Калодкавы. Колодные вулье по хвоях стаўляць. Тонеж.

КОЛОДОЧ м. Нож з драўлянай ручкай. Пудай мне колодоча. Забродзе.

КОЛОКОН м. Званок. На дузе прыв'язвалі колоконы. Ліпляны.

КОЛОМАЖКА ж. Выязныя санкі, вазок. Коломажкой ездзілі зімой, а по лету – возіком. На выезного коня робілі коломажку. Тонеж.

КОЛОЦІЦЬ незак. 1. Малаціць. Раз ов'ёс колоцілі, так і околоток будзе. Падварак. 2. Збіць смятану на масла. Оттапляем сметану, а потомака колоцім у бойцы. Ліпляны.

КОЛЮГА ж. Лужына. Ее ж чэловек вуп'е пляшку горэлкі, зоп'е водою з колюгі – і пошоў. Тонеж. На колюгох, поба, капелюшы схопваюцца. Падварак. Упаў малы ў колюгу і обколяўса ўвесь. Лельчыцы.

КОЛЮЖА ж. Лужына. Така ўжэ ета дорога: колюжа на колюжы. Глушкавічы.

КОЛЮКІ мн. 1. Калючкі. Можно богато соплякоў наловаць, а есць у его нема чого: одные колюкі. Буда-Лельчыцкая. 2. Чартапалох, урочнік. За колюкі не возмесса, трэбо брэзентовые руковіцы, а так не вурвеш; сільно плохое зелье. З колюкамі сена не потопчэш на босу ногу. Ліпляны.

КОЛЯДНІК м. Чалавек, які калядуе. Цэркоўные колядніке собіралі пірогі, сала. Шо на цэркву отдаюць, шо пропіваюць. Етые коляднікі водну песню пелі ў кажнэй хаце. Тонеж.

КОЛЯЦЦА незак. Забруджвацца, купацца ў бруднай вадзе, пэцкацца. Дзве купалі ў нас такіе е, што дзікіе свіны коляюцца. Сярэднія Печы.

КОЛЯЦЬ незак. 1. Брудзіць, пэцкаць. Коляеш ты Людку – мамка госцінца не прыв'езе. 2. Ганіць. Маркоўскае.

КОМАКІ і КОЎМАКІ мн. Тоўчаная бульба. Комакі зажарваем салом. Ліпляны. Еш, донька, комакі, а то простынуць. Чырвонабярэжжа. Кортопля рэдкая, трэбо ее помесіць на коўмакі. Астражанка.

КОМЛЯ ж. Сплеценая з лазы стаўная прылада для лоўлі рыбы. У комлю заганяюць рыбу. Ліпляны.

КОНІК /1/ м. Страказа. По летку коніке летаюць пу-над водою. Ліпляны. Тут навек конікоў богато. Астражанка.

КОНІК /2/ м. Конік. По землі плыгаюць коніке. Ліпляны. У конікоў ногі длінные. Маркоўскае.

КОНІК /3/ м. Піражок з дранай бульбы, начынены крупамі. Мілашавічы.

КОНОПЕЛЬКА /1/ ж. Хатняя кветка. Конопелька цвіце красным цветочком.

КОНОПЕ́ЛЬКА /2/ ж. Трава – пустазелле. Жабрэ́йка й конопе́лька однэ́. По горо́дох конопе́лька росце́, ее́ пога́но поло́ць – ко́ліцца. Тонеж.

КОНОПЛЮ́К м. Верабей. Ша́пкою ле́таюць коноплюкі́ пу-над со́нечніком. Маркоўскае.

КОНОПЛЯ́НІК м. Верабей. Конопля́нік скік-скі́к по зе́млі. Тонеж. Про́со конопля́нікі лю́бляць. Падварак.

КОНОПЛЯ́НКА ж. Вялікая шарсцяная хустка. Як ста́не холо́дно, конопля́нкі зав'я́зваюць. Буда-Лельчыцкая.

КОПАНІ́ЦА ж. Матыка. Обко́пваем копані́цэю корто́плю. Маркоўскае. Копані́ца ў вас така́я ва́жкая. Астражанка.

КО́ПАНКА ж. Выкапаны вадаём, сажалка. Ка́чкі ў ко́панцы пла́ваюць. Данілевічы. Зале́з мой хлопча́к у ко́панку, посіне́ў, а не вула́зіць. Чуць я его́ стуль ву́дубіла. Тонеж.

КОПА́ННІЦА ж. Капальніца. Коб копа́нніц п'яць прышло́, ву́капала б сво́ю корто́плю. Падварак.

КОПА́Ч м. Экскаватаршчык. У мене́ харчава́ўса одзі́н копа́ч: дзень ро́біць, а ноч з дзеўка́мі хо́дзіць. Падварак.

КОПІ́ЦЬ незак. Складваць у копы. Брыгадзі́р загада́ў, коб му шлі се́но копі́ць. Тонеж.

КО́ПКА ж. Пячурка. Пуставі́м глады́шку ў ту́ю ко́пку – і до́брэ. Тонеж. Лучы́ну кладо́м у ко́пку. Дзяржынск.

КОПО́ТА ж. Кофта. Пошы́й мне, ма́мко, копо́ту. Дзяржынск. Копо́та з рукава́мі шы́ецца. Тонеж.

КОПТА́Н м. Кофта. Хі́ма пошы́ла собе́ ново́го копта́на. Астражанка. Копта́н жонкі́ но́сяць. Замошша.

КОПЫ́ТНІК м. Травяністая расліна. По луго́х копы́тнік росце́. Тонеж. Ко́лісь му копа́лі копы́тнік і му́лі ім го́лову, штоб волоса́ до́ўгіе рослі́. Ліпляны.

КОРАК м. Абцас. Збіў корка – не могу іці. Буда-Лельчыцкая.

КОРАМЗА́ТЫ прым. Разгалісты, каржакаваты. Ко́ло доро́гі стоі́ць корамза́ты дуб. Бува́е чэлове́к корамза́ты. Падварак.

КОРА́ЎКА ж. Ануча. Но́гі кора́ўкамі ўкру́чаюць у постоле́х і чобоце́х. Данілевічы.

КОРЖА́Н м. Стрыж. Коржа́н по по́рослях во́дзіцца. Тонеж.

КОРКОВІ́НА ж. Свіное сала каля шыі. От і одзы́чыла ж ты мне коркові́ны – е́сці не мо́жно. Маркоўскае.

КОРО́БКА ж. 1. Кораб. Дару́ю коро́бку суні́ц, шчоб не ходзі́ў муж до чужы́х молодзі́ц. Тонеж. Коро́бкі ро́бляць з лі́пі, дра́нкі. Падварак. 2. Сяўня. Коро́бку жы́та рассе́е, дру́гу насыпа́е. Ліпляны. 3. Абшаляванае падстрэшша. Домо́к пуд чы́сты ву́гол ро́біцца, і ў кры́шы ў ім зало́м і коро́бка пудшы́та. Тонеж.

КОРО́ДЗІЦЦА незак. Крыўляцца. Даку́ль е́то ты бу́дзеш коро́дзіцца? Падварак.

КОРОЎКА ж. Грыб. Короўкі чэрэном ростуць. Молоко з короўкі цечэ, акраз як з коровы. Маркоўскае.

КОРОЎЯЧЫ прым. Каровін. З молодзіва короўячу кашу вараць. Тонеж.

КОРОХОЎЕ н. зборн. Тытунёвыя сцяблінкі. Дзень добры, кумок. Мо шо закурыць е? – Е таке-секе корохоўе, добрэ здороўе. Сярэднія Печы.

КОРОЧЧЫ прым. Карацейшы. Трэбо було прыбіць короччу дранку. Падварак.

КОРОШКІ мн. Махорка. У цебе е корошкі? – Продай. Мілашавічы.

КОРПОШЫЦЬ незак. Свярбець, казытаць. Нешто корпошыць у вусі. Падварак.

КОРТОПЕЛЬ м. Бульба. Ето людскі кортопель. У мене кортопель рэдкі, а ў Хрысці – жоўценькі. Тонеж.

КОРТОПЛІК м. Памянш. да «кортопель». З салом кортоплік з'ела і седзіць. Тонеж. На коўмакі помесім кортоплікі і салом зажарым. Лельчыцы. Роблім таку чакуху кортоплікі м'яць. Буйнавічы.

КОРТОПЛІШЧЭ н. Бульбанішча. На кортоплішчэ сею жыто, а потом – грэцкоўе. Ліпляны.

КОРТОПЛЯ ж. Бульба. Што ву хочэце, на кортоплю еты год не годзіла: то мочыць, то сушыць. Астражанка. У ее цэлае пудполье кортоплі насыпано, а плачэ. Тонеж.

КОРТОПЛЯНІК /1/ м. Бульбоўнік. Ніхто не знаў коліс кортоплянік жаць. Сярэднія Печы. Ховаліса ўсе от немчурак, я сама ў кортопляніку ноч седзела.

Тонеж.

КОРТОПЛЯНІК /2/ м. Бульбяны блін ці аладка. Му век пеком кортоплянікі. Тонеж.

КОРТОПЛЯНЫ прым. Бульбяны. Коліс варылі з чарніцамі кортопляные голушкі з молоком. Бабку кортопляну пеком. Тонеж.

КОРТОПЛЯШНІК м. зборн. Бульбоўнік. Кортопляшнік – ето гічанье з кортоплі. Лельчыцы.

КОРТОШЧЫНА ж. Бульбіна. Годзіла еты год на кортоплю, і ў мене на городзі пуд одным корчэм коло пятнаццаці кортошчын вукопаеш. Тонеж.

КОРЧ м. 1. Сухі пень з карэннямі. Зорослі корчы, і не відно нічого. У корч косою ўдарыў і жало погнуў. Тонеж. 2. Куст бульбы. Таццяно, яка ў цебе кортопля? – Така пустэ, не расна. – Ну, што ў мене така расна: штук сорок пуд одным корчэм. Ліпляны.

КОРЧЫ мн. Кусты, хмызняк, зарасці. У корчох жыла, як була война. Тут корч'е було тые разы скрозь. Тонеж. Козні̇к росце корчамі. Маркоўскае. Одзін чэловек нагострыў сокеру, пойшоў у корчэ і отсёк голову воўку. Тонеж.

КОРЧЫК м. Памянш. да «корэц». Коло сцены робляць поліцу і стаўляць на ее корчыка, місы. Тонеж.

КОРШАК м. Каршун. Коршак нападае на вороняки, але гуртом воны его б'юць. Тонеж. Коршак проняў куру скрозь бокі пуд крыльямі. Данілевічы. Тхор

курэ́й з'е́дае, неха́й его́ корша́к з'есць. Маркоўскае. Хапа́е корша́к усё́ падра́д: кур, гороб'е́. Мілашавічы.

КОСА́ /1/ ж. Птушка, рабіннік. Коса́ дзе́лае ў пеньку́ ку́бло. Данілевічы.

КОСА́ /2/ ж. Заплеценыя валасы. Дзеўкі́ ко́сы запле́таюць. Ліпляны. Ці не пры́дзе ро́дна ма́ці косу́ з рос заплета́ці? З нар. песні. Тонеж.

КОСА́Р м. Касец. До́бры коса́р гры́вы не оста́ўляе. Данілевічы. У боло́ці от дождзю́ косарэ́ курэня́ ста́ўляць. Тонеж. Косарэ́ ко́сяць, а ве́цер повіва́е, Зелё́на трава́ на ко́су налега́е. З нар. песні. Там жа.

КОСІ́ЛЬНО на Кассё. Лучко́м укругову́ю обгіна́ем косі́льно. Лельчыцы.

КОСІ́НА ж. Валасіна. Так век прожы́ла, што косі́на з го́ловы не спа́ла. Лельчыцы.

КОСНІ́К м. Стужачка. Дзеўкі́ запле́таюць коснікі́ ў ко́сах. Сярэднія Печы. А дру́га жо́нка прышы́е е́тые коснікі́ до спонні́цы. Буда-Лельчыцкая.

КОСТРУБА́ТЫ прым. Ускудлачаны. Чому́ ты така́ коструба́та хо́дзіш? Лельчыцы. Ой, Зо́йка, яка́ ты коструба́та! Падварак.

КОСЦЕРЭВА́ ж. Травяністая расліна. Косцерэва́ – са́мо ху́дшэ зе́лье, ей ве́льмо заро́стае по́ле кожа́н год. Маркоўскае. Косцерэва́ ва́жко вурыва́ецца. Тонеж.

КОСЦЕРЭ́ЎКА ж. Памянш. да «косцерэва́». На парыніне́ росце́ косцерэ́ўка і ра́зное зе́ллейко: свіро́па, мокрэ́ц, горча́к, дросё́н, лебеда́, ля́скалька. Тонеж.

КОСЦЁ́РЧЫК м. Клетка дроў. Порэ́жу поле́но дроў да складу́ ў косцё́рчык. Тонеж. У косцё́рчыку ру́банцы со́хнуць до́брэ. Ліпляны.

КО́СЫ мн. Валасы. У Хве́дора ко́сы на голове́ пувіла́зілі. Коб рослі́ ко́сы, трэ́бо ма́заць здо́ром. Падварак. У мене́ аж ко́сы на голове́ пуднялі́с. На дурно́й голове́ мо́гуць разу́мные ко́сы посіве́ць. Тонеж.

КОСЬЯ́НКА ж. Шаферка. Косья́нкі молоды́м посце́ль у комо́ры сце́люць. Падварак.

КОТО́К м. Гульня з яйкамі на велікодныя дні. Ты́е разы́ кото́к такі́ зро́бляць і яі́чко пуска́юць. Бува́е, сто́лько яі́чэк нако́цішча, што дру́гі чэлове́к набе́рэ іх до чо́ртовой ма́церы. Ліпляны.

КО́ЎБІК м. Страўнік. Нато́пчаць у ко́ўбік м'я́са да ве́шаюць. Падварак. На горы́шчы пове́сіла ко́ўбік. Буда-Лельчыцкая. Трэ́бо до́брэ прыпра́віць м'я́со, коб ко́ўбік буў сма́шны. Салагубаў.

КО́ЎДРА ж. Шарсцяная саматканая посцілка. Одны́м шэрсця́ным ко́ўдру тка́ла. Ліпляны. У мене́ ко́ўдра шэсцьдзеся́т год як ву́ткала. Маркоўскае.

КОЎЗЕ́ЛЬ м. Галалёдзіца. Коўзе́ль такі́, што не мо́жно з ха́ты ву́йці. Ждо́м, коб напа́даў снег. Тонеж.

КОЎМА́ ж. Бульбяная каша. З гурка́мі, капу́стою коўму́ емо́. Сярэднія Печы.

КОЎМАКІ́ і КОЎМЯКІ́ мн. Бульбяная каша. На коўмакі́ поме́сім корто́плікі і са́лом зажа́рым. Лельчыцы. А ў нас на вечэ́ру сего́ні то́лько коўмякі́

з гуркамі й молоко. Вусаў. Кортопля рэдкая, трэбо ее помясіць на коўмакі. Астражанка.

КОЎПАК м. 1. Башлык. Коўпак отварачвалі і одзевалі на голову. Данілевічы. 2. Грыб, смаржок, страчок. Шчэ ніводного грыба нема, а коўпакі ўжэ е. Маркоўскае. Коло сосновых пенькоў коўпакі ростуць. Данілевічы. От сырого коўпака чэловек не можэ померці. Тонеж. 3. Перан. Очэпіла коўпака на голову і ходзіць така кантэтна. Падварак.

КОЎТНУЦЬ зак. Глытнуць. Есцека квас? Коўтнуць хочэцца – перэсохло ў році. Лельчыцы. Мо квасу коўтнулі б троху? Ну чого ты так шчоўкаеш? Коўтні воды. Падварак.

КОЎТУН м. 1. Каўтун. З коўтуноў дзве дзеўкі ў нас скрывело. Косы сплеліба лямцэм. Тонеж. 2. перан. Модная прычоска. А то сегоні бувае, што дзеўка етого коўтуна носіць. Сярэднія Печы.

КОЎТУННІК м., зборн. Калючыя галоўкі, суквецце дзядоўніку. Му ў кучарэ кідалі еты коўтуннік. Як запусцім его кому ў косы, не вурве. Лельчыцы.

КОЎШ м. Выдзеўбаная з дрэва пасудзіна. Коўш з дзерэва вудоўбвалі на соль. Коўшэм муку брали і зерно чэрпалі. Ліпляны. З ручкой дзерэўяной бувае коўш. Данілевічы.

КОХЛІК м. Коклюш. Стане жонка даваць параное молоко да сціхне еты кохлік. Маркоўскае.

КОЦІНА ЛАПКА ж. Травяністая расліна. Коціна лапка от печэня, сушаць ее ў цемноце і параць з медам. Лельчыцы.

КОШ м. Венцер. На водосцёках рыболові гат зробляць і стаўляюць кошэ. Ліпляны. Кош в'яжэцца з лозового пруцья, дубцоў. Маркоўскае. Некалі возеро було, кошэ клалі, а сегоні воно заплыло, і только панькі зосталіса. Чэмернае.

КОШАРА /1/ ж. Адгароджанае месца для кароў. Я сама дзесят лет гоняла товар на кошары. Мілашавічы. Хведар прыходзіў на кошару к мужчынам. Тонеж. Корова ета ўжэ крутнуласа. Мо на кошару пубегла? Ліпляны.

КОШАРА /2/ ж. Прылада для лоўлі рыбы, сак. З пруцья, тонкіх дубчыкоў кошара в'яжыцца хмелем або лазою. Коб кошара не шчаўвалас, не сплюскалас, бручэ ў ей робляць. Мілашавічы.

КОШЫК м. Памянш. да «кош». На два бокі гацім водосцёк і остаўляем пространство для кошыка, шчоб сярэдзінная часць затопала. Мілашавічы.

КОШЫЦА ж. Прылада для лоўлі рыбы, невялікі сак. Уюны лоўляць кошыцэю, а рыбу кошэм. З лозового дубцэ кошыцу й кошэ плетом. Данілевічы.

КОШЭЛІК м. 1. Памянш. да «кошэль». Вубіраю два кошэлікі гуркоў і кідаю ў бочку. Ліпляны. 2. Першы вянок у зрубе. Ліпляны.

КРАВОК м. Палоска з лазовай ці ліпавай кары. Як собака наскочыць на краўка ў постолох, полеціш потырч. Колі нема што обуць, ходзяін кравок накроіць і постолы поплеце. Тонеж.

КРАЙ прыназ. 1. Узбоч, узбок, каля. А перэгорода була край дзерэўні. Ліпляны. 2. Далёка. Лось бежыць край свету. Мілашавічы.

КРАЙКА ж. Пояс. Крайкамі жонкі пудперазваліса, а мужчыны – паясамі. Тонеж.

КРАМ м. 1. (у песнях). Магазін. Служылі з братом у одном полку, любілі з братом паненку одну, купляліі ўбранье ў одном краму. З нар. песні. Тонеж. 2. Крамная матэрыя. От соўнейка, крам облезае. Кобат з краму шыюць і абшываюць лентамі. Тонеж. У лаўку, жонкі, навезлі ўсякого краму. Астражанка.

КРАМАР м. (у песнях). Гандляр. А Марусечку ж замуж отдалі ды за крамара, ды за купчыка. З нар. песні. Тонеж.

КРАМАРЫК, КРАМАРЫЧОК м. Памянш. да «крамар». Ой, крамарычок огонь кладзе, да Марусечка ж да дрова несе. З нар. песні. Тонеж.

КРАМЕНЬ м. Крэмень. Покі не заіскрыцца крамень, дзед его крэсіць. Прыкладзе губку к крамене, схапваюцца іскры – і губка загараецца. Ліпляны.

КРАМКАЧ м. Крумкач. Дзе хто торбу з салом повесіць, то крамкач вуцегне. Крамкач не летае ў поўрэ. Ліпляны. Дзе остроў, там грудок з лесом, а кругом болото. Крамкач одзін мо тыжні два жыў на етом острові. Тонеж.

КРАМНІЦА ж. Магазін. Колісь у крамніцох горэлку продавалі гарцамі, квартамі. Ліпляны.

КРАМНЫ прым. Магазінны. Помула настольніцу і хочу почэпляць крамные мохрэ. Ліпляны. Кума з собою берэ м'ятлік з крамного полотна. Тонеж.

КРАСНАЯ СУБОТА ж. Апошні дзень перад Вялікднём. У красну суботу беляць хаты, пекуць яйцэ. Тонеж.

КРАСНЮК м. Падасінавік. Молодзенькі грыб звуць краснюк, а як постоіць – соўяк. По нізох, по мучкох ростуць краснюкі, воны такіе цонкіе. Маркоўскае. Грыб самы старшы, а ў козляках е разлічье: краснюкі, лісіцкі, бабкі. Сярэднія Печы.

КРОП м. Кіпецень. Як будзеш порацца, пустаў у печ чавун з водою, коб кроп закіпеў. Буда-Лельчыцкая. Кідае ў жлукто шмацье да лье кроп. Тонеж.

КРОПІЎКА ж. Травяністая расліна. Дзев'яць тыжняў пупіла кропіўку да пуздоровела. Тонеж.

КРОПІЎНІК м. 1. Дзіця незамужняй маці. У нас кагуць, шчо хлопчак без бацько – ето кропіўнік, у кропіве найшоўса. Мілашавічы. 2. Кураня, выведзенае курыцай таемна. Сколовалас моя кура і вувела п'яць кропіўнікоў. Мілашавічы.

КРОСНА мн. 1. Самаробны ткацкі станок. Маці ўжэ пуставіла кросна, будзе ткаць дзеругі. Тонеж. 2. Ніткі, з якіх ткуць палатно. Кросна parацъ да ўжэ навіваюць на тые вороціла. Тонеж. Ганно, поможы мне навіваць кросна. Астражанка.

КРОСНІК м. Хроснік. Ето ж Яшы сын – ее кроснік. Лельчыцы.

КРУГ м. Нізкае балоцістае месца. Проміж грудоў бувае круг. У крузі ворацъ нельзя. Ліпляны. У елы волосень росце, у крузі. Тонеж.

КРУГЛЕЦ м. Неабчэсанае круглае бервяно. Навозіў круглецоў мой сусед, хату будзе робіць. Тонеж.

КРУГЛЕЦОМ прысл. З неабчэсаных круглых бярвенняў. Колісь хаты

круглецом робілі, як одрыну. Тонеж.

КРУГЛІСТЫ прым. Круглаваты. Рэдзька веліка, кругліста росце. Тонеж.

КРУГЛОЕ н. Назва возера. За етым кадоўбом е озеро Круглое. Маркоўскае.

КРУГЛЯК м. 1. Адрэзаная частка дрэва. Еты кругляк пуцэм рубаць трэбо. Ліпляны. Як хто кадоўба робіць, то зрэжа кругляка і ўсё шчэ й вугублуе. Тонеж. 2. Травяністая расліна, сіт. По нізох кругляк росце. Е сено осока, поплаў і кругляк. Тонеж.

КРУЗ прыназ. Цераз. Коб круз окно не віскочыла, мо соўсім забіў бу вон ее. Падварак. Ой, загіну, дзеўчынёнка, загіну. Подай мне круз окно жупаніну. З нар. песні. Тонеж.

КРУК м. 1. Крук. Падварак. 2. Вілы з двума загнуть'мі рагамі. Крук на два рогі е, ім легко й добрэ сцегаць навоз. Падварак.

КРУПЯНКА ж. Каўбаса з крыві і мукі ці круп. От ужэ крупянка ўдаласа: дзеці едуць і хваляць. Падварак.

КРУТОГОЛОВІК м. Памянш. да «крутоголоў». Седзіць еты крутоголовік і круціць головою, водзіцца вон у дупашкох. Ліпляны.

КРУТОГОЛОЎ м. Птушка. Як не возмеш крутоголова, голова пуворачваецца, і шыпіць вон, як гадзюка. Вуводок у его большой. Данілевічы.

КРУТУХА ж. Вір. У крутусі воду круціць. Маркоўскае.

КРУХА ж. Крушына. З клюкву мед беруць пчолкі, з крухі. Тонеж.

КРУЦІЦЬ незак. 1. Круціць. Седзіць еты крутоголовік і круціць головою, водзіцца вон у дупашкох. Ліпляны. 2. Віць. Тые часы з ліпіны круцілі пута. Ліпляны. 3. Малоць на жорнах. У жорванох хлеб круцілі. Тонеж. 4. Начыняць кішкі мясом. Бером тэй мекіш да коўбасы круцім. Маркоўскае.

КРУЧА ж. Глыбокае месца ў рацэ, вір. Одзін шохвер улез у ету кручу і ўцягло его туды. Коб вон на ціхой водзе купаўса, а не на кручэ, то не ўтапіўса б. Ліпляны. Дзе здзелалоса глыбко, там і круча. Тонеж.

КРУЧАНЫ дзеепрым. 1. Увязаны. На етой дзелянцы будзе які хоч кручаны воз. Тонеж. 2. перан. Шалёны. Некі кручаны твой хлопчак. Падварак.

КРУЧОК м. 1.Памянш. да «крук». Дарую колыску й кручка, шчоб було дзев'яць сыноў, а дзесята дочка. Тонеж. 2. Лука, паварот ракі. За етым кручком будом рыбу ловаць. Ліпляны.

КРУЧ'Е н. Прылада для лоўлі рыбы, перамёт. На ноч стаўляць круч'е. Мілашавічы.

КРЫВАВАЦЬ незак. Зайздросціць, зліцца. Хто око завідное мае, той і крывуе. Падварак.

КРЫВАЎНІК м. Касач. Росце крываўнік по нізох, по волокох. Тонеж.

КРЫВОВАЦЬ незак. Зайздросціць. Навек вона только й крывуе, а сама робіць по ходзяйству не хочэ. Тонеж.

КРЫВОСЛІВЫ прым. Зайздросны. Крывослівы чэловек побачыць, што ў цебе е, і вельмо крывуе. Тонеж.

КРЫВО́ТА ж. Зайздрасць. Не да́е крыво́та лю́дзям жыцья́. Падварак.

КРЫВУ́ЛЯ ж. 1. Прылада для лоўлі рыбы, крыга. Та́мака глы́бко – з крыву́лей не про́йдзеш. Падварак. 2. Спецыяльныя калёсы для перавозкі бярвенняў, задняя іх частка. На крыву́лю зложы́ў до́ўге дзе́рэво да пов'е́з. Тонеж. Гузу́ клодо́м на перэдо́к, а верха́ – на крыву́лю. Там жа. 3. Паварот вуліцы, дарогі, ракі. Та́м, на крыву́лі, ла́ўка е. Тонеж.

КРЫВ'Я́НКА ж. Каўбаса з крыві і грэцкіх круп. Мне сего́ні συсе́дка прыне́сла крыв'я́нок. Заберажніца.

КРЫ́ЖНЯ КА́ЧКА ж. Крыжанка. Як зоб'е́ш кры́жню ка́чку, е шо ўзя́ць: вона́ на́глая. Данілевічы. Ма́лые ка́чкі – чы́ркі, а велі́кіе – кры́жнія. Маркоўскае.

КРЫЖО́ЎНІК м. Агрэст. Мо пучко́ў тры прыв'е́з крыжо́ўніку з Мозырэ́. Ліпляны.

КРЫЛО́ н. 1. Крыло. Буськo сі́тку прыне́с пуд крыло́м. Тонеж. 2. Бакавая частка жака, брадніка. Коши́ е без кры́льеў. Мілашавічы. На однэ́ крыло́ ў жаку́ – па́лка, на дру́гэ – па́лка, і ззáдзі – па́лка. Ліпляны.

КРЫША́Н м. Скрылік бульбіны. Крышаны́ рэж тро́хі танчэ́йшыя, а то до́ўга бу́дуць вары́цца. Астражанка.

КРЭЖ м. Унутраная амярцвелая частка дрэва. З крэ́жэм дзе́рэво на дро́ва ідзе́. Данілевічы.

КРЭЖЭВА́ТЫ прым. Амярцвелы, засохлы знутры. Крэжэва́тое дзе́рэво для строі́цельства не пудхо́дзіць. От со́нца бо́льшые слое́ у его́, а от се́вера – ма́ленькіе. Данілевічы.

КРЭ́КАЦЬ незак. Гагатаць. Гусь крэ́кае. Данілевічы.

КРЭПА́К м. Яйка з моцнай шкарлупінаю. На селе́ мужчы́ны, бува́ло, кошту́юць яйцэ́ й говора́ць: « От у мене́ крэпа́к: побі́ў носка́ – перэверні́ пухо́й». Тонеж. Дзе вон тако́го крэпака́ ўзяў? Б'ем і ні́як не поб'е́м его́. Ліпляны.

КРЭПІ́ЦЬ незак. Цыраваць. Мо сама́ закрэплю́ пла́цья? Ты ж крэпі́ць шчэ не ўме́еш. Астражанка.

КРЭ́СІВО і КРЭ́СЬВО н. Красала. Ко́лісь дзеды́ добыва́лі ого́нь крэ́сівом. Ліпляны. У каліцэ́ носі́лі ста́рые лю́дзі крэ́мень і крэ́сьво. Мілашавічы.

КРЭ́СЛО н. Матня ў штанах. Здзе́лаў цéсна крэ́сло – ходзі́ць не могу́. Ліпляны.

КУ́БАШКА ж. Ямка ў печы з боку загнетка. Куды́ ты по́пел ву́трабла? – У ку́башку. Там, дзе шэ́йка, ку́башку ро́бляць. Тонеж.

КУ́БАШЭЧКА ж. 1. Памянш. да «ку́башка». Тонеж. 2. Ніша ў сцяне печы, пячурка. Я ў ку́башэчку положы́ла руков'і́цы. Тонеж.

КУБЕ́ЛЬЦЭ н. Памянш. да «ку́бло». Сего́ні ороб'я́чэ кубе́льцэ тра́піла ў ле́сі. Тонеж.

КУ́БЛО і КУБЛО́ н. 1. Гняздо. Я була́ раба́: ку́бла ла́стовок вубіра́ла. Тонеж. Цэлае кубло́ ку́ра нане́сла яі́чэк. Чэмернае. 2. Кучна. Опе́нькі на пеньку́ ростуць ку́блом. Маркоўскае.

КУБОЕ́ н. Ямка для расады. На весне́ заса́жваем помідо́ры ў кубое́.

Тонеж. Кубоé рóбім на капýсту. Ліпляны.

КУВÁЛДА ж. 1. Кавадла. Данілевічы. 2. Кавальскі молат. На тóўстэ залéзо кувáдло берóм. Падварак.

КУВÁЦЬ незак. Кукуваць. На зарáні зяўзю́ля куé. Вонá куе тóлько до П'етрá. Ліпляны.

КУЗÉНЬКА ж. Пасудзіна для ягад, зробленая са свежай асінавай ці бярозавай кары. З берэсці́ны рóбляць кузéньку. Данілевічы.

КУ́КЛА ж. Маток нітак. Расхóдовала зелёное ґорýны ўжэ цэ́лую кýклу. Астражанка.

КУЛÁГА ж. Страва з мукі і соладу. От колí б булá мукá, то навары́ла б кулáгі і так бу наéлас у охвóту. Забеляжніца.

КУЛÉШ м. Каша, суп з прасяных круп. Кулéш вáрымо з пшэнá. Тонеж. Му змýем пшэнó ў горшкý да кулéш з егó вáрым. Ліпляны. У госцях кáша, а дóма кулéш – дóма лепш. Маркоўскае.

КУЛЁБА ж., экспр. Зацірка. Звары́ла кулёбу, а дзéці éсці не хóчуць. Сярэднія Печы.

КУЛÍДКА ж. Булка хлеба. По п'яць-шэсць кулíдок пеклí на цэ́лы ты́ждзень. Падварак.

КУ́ЛІК м. 1. Памянш. да «куль» у першым значэнні. Кулікáмі кры́юць кры́шу. Падварак. Éты год дóбрэ прóсо ўродзíло ў менé: кулікóў двáццаць було́. Астражанка.

КУЛЬ м. 1. Куль, сноп жытняй саломы, ільну, проса. На вушкóх у менé шчэ зáрэ е кулé. Тонеж. 2. Корпус у стаўных прыладах для лоўлі рыбы. З овéршка ры́ба пупадáе ў куль. Ліпляны.

КУ́ЛЬБОЧКА ж. Падсядзёлак. Набéдрыкоў мóжэ не буць, а без кýльбочкі не пуéдзеш. Як хто бéдны буў, то кýльбочку ўскíне на спíну да éдзе без набéдрыкоў. Тонеж.

КУ́ЛЬКА ж. Ручка на кассі. Косáр кóсу дзéржыць за кýльку да й кóсіць. Падварак.

КУМПÁНІЯ ж. Натоўп. Вунь жонкí ў кумпáніі стоя́ць да болосýраць. Тонеж.

КУНÁЦЬ незак. Ныраць. Вон кунé ў вóду, цягáе ры́бу і подáе лю́дзем, котóры на сухóм стоя́ць. Ліпляны.

КУ́ПА ж. Кучка, сузор'е. Е такá кýпа зор на нéбі. По éтых зóрох мóжна знаць, куды́ іцí. Тонеж.

КУПÁЙЛО н. Купалле. На Купáйло сóўнейко купáецца. Тонеж. Хлóпцы на Купáйло назбірáюць постолóў, вýвесяць на жэ́рдку і збівáюць, а дзеўкí пéсні спéваюць. Ліпляны.

КУПÁЛЯ ж. Лужына, у якой купаецца жывёла. Дзве купáлі ў нас такíе е, што дзíкіе свíньі коля́юцца. Сярэднія Печы.

КУПÉЛЬКА ж. Памянш. да «купáля». Мілашавічы.

КУ́ПКА ж. Ніша ў печы з боку загнетка. У кýпку жар згрэ́бваем.

Данілевічы.

КУПО́ВАНЫ дзеепрым. Куплены. З купо́ванага кра́му ліфікі шыемо. Ліпляны. Купо́ваные дро́жджы, муку́ сыплем у корто́плю да горэ́лку го́нім. Тонеж.

КУ́РА ж. Курыца. Хо́дзіць ку́ра і дзёўб-дзёўб себе́ – бу́дзе дождзь. Пусці́лі му ку́ру, а качаня́ткі не йдуць пуд ее́. Тонеж. От, дзе́ці, зне́сла ку́ра велі́кое яйцэ́ – два жоў́ткі́. Ліпляны.

КУ́РАК /1/ м. Гемафрадыт. Усе качаня́ткі як качаня́ткі, а е́ты дык ку́рак не́кі. Канапелька.

КУ́РАК /2/ м. Вушка ў лапцях. Ідзе́ чэлове́к у постоло́х, зачэ́піцца ку́рак за ку́рак – да бразь у гразь. Лельчыцы.

КУРА́ЧЫ ДОЖДЗЬ м. Дробны дождж. От ужэ́ занего́дзіласа: кура́чы дождзь ідзе́ й ідзе́ цэ́лы ты́ждзень. Так і мліць е́ты кура́чы дождзь з дня ў дзень. Тонеж.

КУРДУПЕ́ЛЬ м., экспр. Маленькі чалавек, дзіця. Курдупе́ль – мале́нько дзіця́тко, не росце́ воно́. Тонеж.

КУ́РОВО н. 1. Курава. Падварак. 2. Пыл. Шоб ку́рова з пло́скуней не було́, вубіва́ем іх. Тонеж. От ву́мела ха́ту, то́лько ку́рова нароб́іла. Чырвонабярэжжа.

КУРОПА́ТА ж. Курапатка. По суху́ по́лю куропа́та бува́е. Ліпляны. Ко́лісь у нас бога́то було́ куропа́ты. Маркоўскае.

КУ́РЫ мн. Сузор'е, Мядзведзіца. Е така́ ку́па зор на не́бі. Му іх зово́м Ку́ры. По е́тох зо́рох мо́жно знаць, куды́ іці́. Тонеж.

КУРЭ́НЬ м. Будка з галінак, зямлянка, навес. У ле́сі курэне́ робі́лі, як не́мец буў. Маркоўскае. У ту оробі́нну ноч пузоліва́ло курэне́, да́жэ пуд бок во́да пудошла́. Тонеж. По́сле во́йны земля́нку, курэне́, зробі́ла да й жыла́. Мілашавічы.

КУТО́К м. 1. Куток. У кутку́, напро́ціў о́ка, у мене́ зуб болі́ць, і ву́рваць его́ не мо́жно. Данілевічы. 2. Качарэжнік. Пуста́ў вілкі́ ў куто́к. Ліпляны. У кутку́ ха́пчык стоі́ць. Тонеж.

КУ́ХВА ж. Вялікая бочка. У ку́хву насы́палі два́ццаць ме́рок жы́та і ста́вілі ее́ ў одры́ні. Данілевічы.

КУХВА́ЙКА ж. Фуфайка. Не смешы́ людзе́й: скінь кухва́йку да напні́ палі́то́. Прыбалавічы.

КУ́ХЛІК м. 1. Кубачак. Во́ду ку́хліком п'ём. Новае Палессе. 2. Ізалятар на тэлефонным слупе. Дзе́ці пуразбіва́лі на стоўба́х усе́ ку́хлікі. Данілевічы.

КУХМА́Р м. Крухмал. З кухма́ру млінцэ́ пеко́м. Падварак. З кухма́ру ло́кшу ро́бляць да ва́раць з молоко́м. Тонеж.

КУ́ЦЕНЬКІ прым. Куртаты. Не́кі вон ку́ценькі, а до робо́ты зое́длівы. Тонеж.

КУ́ЦЕНЬКО прысл. Куртата. Бру́шка росце́ шыро́ко і ку́ценько. Тонеж.

КУ́ЦІКІ-КУ́ЦІКІ! выкл. Воклiч на свiней. Тонеж.

КУ́ЦУ-КУ́ЦУ! выкл. Вокліч на свіней. Тонеж.

КУЦЬ-КУЦЬ! выкл. Вокліч на свіней. Тонеж.

КУЦЬЯ́ ж. Куцця. Перэ́д Рождво́м бува́е куцья́. На е́ту куцью́ говора́ць: «Моро́з, моро́з! Ходзі́ куцье́ е́сці, а по ле́тку не йдзі́, тумано́м зыйдзі́, бо ратае́ во́чы пу́тамі пувубіва́юць. Ліпляны. Кра́лі дзеу́кі́ куцью́ і гада́лі. Тонеж.

КУЧАРЭ́ мн. Кучары. На́шы дзеу́кі́ кучарэ́ як пунаво́дзяць на голове́ – гі́дко гледзе́ць. Му са́мі не́калі ча́сцеко е́то робі́лі: кі́далі коу́ту́ннік у кучарэ́. Лельчыцы.

КУ́ЧКА /1/ ж. Бабка. Ве́цер ле́гчэ ку́чкі пройма́е. Падварак. У ку́чкі станові́лі по 10-15 сно́пуу́. Маркоўскае. Жнуць жы́то, у ку́чкі сно́пу ста́уляць, штоб воны́ посо́хлі, а посо́хнуць, зберу́ць у ко́пу – і на воз да у́ ток. Ліпляны. Як ухопі́ла хві́ля ку́чкі да як попе́рла іх по по́лю! Тонеж.

КУ́ЧКА /2/ ж. Падпечак. Ку́ры загоня́лі у́ ку́чку, як хо́лодно було́. Данілевічы. Дзень седзі́ць кот у ку́чцы. Мо здох? Тонеж. Ко́лісь у ку́чцы булі́ ку́ры, а за́ра у́ хлеве́, на се́далі. Ліпляны.

КУ́ШНЕР м. Чалавек, які апрацоўвае скуры. Ты́е разы́ у́ ка́жной дзерэ́уні буу́ ку́шнер, а за́ра оу́чы́ны во́зім у Ле́нчычы. Буда-Лельчыцкая.

КУШЫ́Н м. Збан. Кушы́н глі́нны, з ру́чкою. Салагубаў.

КУШЫ́НЧЫК м. Памянш. да «кушы́н». Молоко́ льем у кушы́нчык, са́хор сы́плем. Ліпляны.

КУШЫ́НКА ж. Збан. Нарву́ пустоцве́ту кушы́нку – і росо́л у мене́ на цэ́лы ты́ждзень. Ліпляны.

КЯГІ́НЯ і КЛЯГІ́НЯ ж. 1. Маладая на вяселлі. Молоды́ – князь, а молода́я – княгі́ня. Тонеж. Свою́ до́чку нарадзі́ла, як клягі́ню, а сама́ латуна́ но́сіць. Ліпляны. 2. Прыгожая статная дзяўчына. От ужэ́ ву́росла у́ цебе́ дзе́ука – настоя́шча кягі́ня. Тонеж.

## *Л*

ЛАДУ́НКА ж. Складка. Прэсова́ць ладу́нкі – одно́ го́рэ. Тонеж.

ЛАМА́Й м., экспр. Сыры, няўдалы хлеб. Одзы́ч сма́шны хлеб, а во́змеш ламая́. Забераржніца.

ЛА́ПОЦЕНЬ м. Свердзел. Лапо́тнем прове́рчвае дзі́рку у́ коло́дцы. Тонеж.

ЛА́СІЦА ж. Ласка. Ла́сіца худо́бу як перэбежы́ць, то вона́ не у́ста́не. Данілевічы. Пуд бе́лку ла́сіца пудхо́дзіць. Ліпляны.

ЛА́ТА ж. Прылада для лоўлі рыбы, крыга. Му з Васілё́м налова́лі ла́той по́уны кошэ́ль ры́бу. Калінаўка.

ЛАТУ́Н м. 1. Лапік у вопраццы, адзенні. У латуна́х жупані́на, а целеві́зора купі́у́. Тонеж. 2. экспр. Старое залатанае адзенне. Скінь хоч е́того латуна: гледзе́ць гі́дко. Дзе ты то́лько е́того латуна́ найшо́у́? Астражанка. Свою́ до́чку нарадзі́ла, як клягі́ню, а сама́ латуна́ но́сіць. Ліпляны.

ЛА́У́КА ж. Магазін. Жонкі́, прыве́злі у́ ла́у́ку крам, ве́льмо дола́дны. Лельчыцы. У зале́зной ла́у́цы булі́ ко́рчыкі. Тонеж.

ЛА́ЦЬЕ-ШМА́ЦЬЕ н. Барахло. Неха́й зобіра́е твой чэлове́к свое́ ла́цье-шма́цье і к чо́ртовой ма́церы ідзе́ от нас. Ліпляны.

ЛЕГА́ЦЬ незак. Лажыцца. Трэ́бо ўжэ лега́ць спаць. Дзе́ці, лега́йце спаць, а то лю́дзі ноч разберу́ць. Тонеж. Ходзя́йцы нема́ колі́ спаць: лега́е це́мна, а пудніма́ецца до́света. Лельчыцы. У о́плены ўдо́ўбваюцца ру́чкі дзерэўя́ны, а драбі́ны лега́юць на е́тые ру́чкі. Маркоўскае.

ЛЕГЕРЭ́ н. Палкі, па якіх ускачваюцца бярвенні. Во́за навора́чвае бо́ком, кладзе́ легерэ́, берэ́ дручкі́ да нака́чвае дзе́рэво на воз. Тонеж.

ЛЕДОКО́Л м. Пешня. Ледоко́лом вуру́бваюць дзіркі́ ў лёдзі. Маркоўскае.

ЛЕЖА́ВЫ прым. Ялавінны. Лежа́вое по́ле чэрэ́з тры го́да се́юць. Ліпляны.

ЛЕЖА́К м. 1. Дымаход на гары. Ліпляны. 2. Вулей. На ко́злах помешча́ецца лежа́к бо́ком. Маркоўскае.

ЛЕ́ЖАНЬ м. Гультай. До́брэ, шо ты шчы́ры, а я хай собе́ й ле́жань. Астражанка. Не отда́м нізашчо́ свою́ до́чку за е́того ле́жня. Сярэднія Печы.

ЛЕЖНЁЎКА ж. Бервяно, якое кладзецца ўздоўж насцілу на балоце. Коб лежнёўкі пудвезлі́, мо́жно було́ б доро́гу чэрэ́з боло́то зробі́ць. Данілевічы.

ЛЕЗА́НІЦА ж. Урочышча. Косі́ла ў Леза́ніцы, коло́ рэкі́. Ліпляны.

ЛЕ́ЗВІЕ н. Верхняя жалязка ў рубанку. Спаха́лос моё лёзвіе, трэ́бо було́ б его́ пудтачы́ць. Данілевічы.

ЛЕ́ЗКА і ЛЕ́ЗЬКА ж. Лесвіца. На го́ру трэ́бо ле́зкой ле́зці. Лельчыцы. Ма́ці, станові́ ле́зьку: сын везе́ неве́стку. Мілашавічы.

ЛЕ́ЗЬВО н. Прыстасаванне, з дапамогай якога бортнікі паднімаюцца на дрэва падглядваць пчол. З воро́вок ро́бліцца лёзьво на дзе́рэво ла́зіць. Ліпляны.

ЛЕ́ЙКА ж. Страказа. Пу-над во́дамі, тра́вамі ле́тае лёйка. Ліпляны.

ЛЕМЕ́ШКА ж. Падліўка. Муку́ пудсу́шваюць, а пото́мака раскола́чваюць на леме́шку. Заберажніца. Як жэ бу́дзеш бога́ты, колі́ з одного́ мешка́ і хлеб, і леме́шка. Тонеж.

ЛЕ́НДРЫК м. Вузкі высокі бітончык з ручкай. Озьмі́ ле́ндрыка да по молоко́ к Сохвёі сходзі́. Ліпляны.

ЛЕ́НЧЫЦЫ і ЛЕ́НЧЫЧЫ мн. Гарадскі пасёлак Лельчыцы. Ты́е разы́ ў ка́жной дзерэ́ўні буў ку́шнер, а за́ра оўчы́ны во́зім у Ле́нчычы. Буда-Лельчыцкая. У Ле́нчыцах стоя́ла ве́шніца, дзе цепе́рэка по́шта. Такі́ лес буў сотсе́ле і до Ле́нчыц. Чэмернае.

ЛЕПЕТО́ХА ж. Дрэннае надвор'е, слота, хлюпота. Ну й лепето́ха: ні прое́хаць, ні пройці́. Астражанка. Зноў дождзь – лепето́ха бу́дзе. Там жа.

ЛЕПЕХА́ ж. Балотная трава, плывунец. Лепеха́ – така́ шыро́ка трава́, по нізо́х росце́. Товар лепеху есць. Тонеж.

ЛЕ́СКАЎКА ж. Маладзенькі лешч. З ле́скаўкі вуро́стае лешч. Маркоўскае.

ЛЕСО́ВЫ прым. Лясны. Лесо́ву я́блоню прышчэ́пваюць. Тонеж. Перэме́рзлі лесо́вые я́блока да сма́шные ста́лі. Данілевічы. Я зрэ́зваю лесо́вую дзі́чку соўсі́м, прыса́жваю садо́вую голі́нку, обма́зваю её во́ском ілі́ тако́ю ма́сцею. Ліпляны.

ЛЕТНІК м. Андарак. Колісь пралі да ткалі летнікі. Ніно, поба, які летнікі булі. Падварак.

ЛЕТОК м. Дзіркі для выхаду пчол з вулляў. На летку пчолкі махаюць крыламі, набіраюць воздух. Тонеж.

ЛЕЧАЙ м. Травяністая расліна. Лечай росце заранее, у маі его косіць можно. Тонеж.

ЛЕЧЭБНІЦА ж. Бальніца, аптэка. Волов'ячы язык лечэбно зелье, его ў лечэбніцу беруць. Лельчыцы. Дзеўка худнее, а ў лечэбніцу не йдзе. Падварак.

ЛЕЯ ж. Праліўны дождж. Пузалівала лея ўсё на свеці. Тонеж. Цэлы тыждзень лея ідзе. Напні плашча, а то лея така на дварэ. Лельчыцы. За ноч у хвосі воды прыбыло после леі. Падварак.

ЛЁЗО н. Лязо. Зрэзаў лёзо на одну сторону. Данілевічы.

ЛЁСТКА ж. Вузкая прадаўгаватая дошчачка, планка. Лёсткі ў біла ўдоўбваюцца. Маркоўскае.

ЛЁСТОЧКА ж. Памянш. да «лёстка». Проміж лёсточэк убіваецца ў церніцы колок. Лігіляны.

ЛЖА ж. Дробны дождж. Коб хто ету лжу супыніў. Тонеж.

ЛІЖБО злучн. Або, ці. На молоцэ ліжбо на водзе належнікі пеком, шчоб не булі воны кіслые. Тонеж.

ЛІНА ж. Вяроўка для падняцця вулея на дрэва. Озьмі ліну, пойдом стаяна пуднімаць на хвою. Маркоўскае.

ЛІПІНА ж. 1. Ліпа. Ета кленіна акраз як ліпіна. Ліпляны. 2. Ліпавая кара. Пута круцілі з ліпіны. Ліпляны.

ЛІПОВОЧКА ж. Бочачка, выдзеўбаная з ліпавага целеша. У ліповочцы мед добра сохраняецца. Падварак.

ЛІПОЎЕ н. Ліпавая кара. От постолы поплелі з ліпоўя. Ліпляны.

ЛІСІЦА ж. Грыб, лісічка. Лісіцы самые ранніе з губ'як, іх не соляць. Маркоўскае. Лісіцы жоўценькіе, цепер іх пообрабатваюць – да ў сцеклянкі. Ліпляны. Нагодую дэтэй, Агапка, да пойдом по лісіцы. Жмурнае.

ЛІТРА ж. Літр. Як котора корова одну літру дае. Тонеж.

ЛІФІК м. Карсет. Колісь дзеўкі і жонкі ліфікі носілі з лентамі. Тонеж. З купованага краму ліфікі шыемо. Ліпляны.

ЛОВАЦЬ незак. Лавіць. Кажан год я езжу по весне рыбу ловаць. Ліпляны.

ЛОЗБЕНЬ м. Вулей з ліпавай кары. Лозбеня з полосья ліпу сошые пчоляр і крышкой закрые. Дзіркі ў лозбені продзелаюць, шчоб матка не вулезла, а пчолы ўлезалі. Тонеж.

ЛОЗЕНІК м. Назва птушкі. Лозенік плеце кубло рэдзенькое, як голубят-турок. Вон пудводзіць песню пуд солоўя. Данілевічы.

ЛОЗОЎКІ мн. Лазовыя лапці. От, чэловечэ, як ты мне надоеў своімі постоламі: дубоўкі да лазоўкі, а лутоўкі за тобою ніколі не бачыла. Ліпляны.

ЛОКША ж. Локшына. З кухмару локшу робляць да вараць з молоком. Тонеж. Наварыла б, маці, на вечэру локшы. Падварак.

ЛОМ м. Ламачча. У ло́мі воўк ло́гвішчэ зро́біць і вуво́дзіць там дзе́ці. Данілевічы. Воўк зро́біць лом, як ку́бло, да й седзі́ць там. Тонеж.

ЛО́МІК м. Прылада для выцягвання цвікоў. Ло́мік спе́рэду разру́баны немно́жко. Данілевічы.

ЛОПАНІ́НА ж.,экспр. Вайна. Мо не́ка лопані́на ву́дзерыцца. Тонеж.

ЛО́ПАЛКА ж. Скрыўленая мясціна ляза ў касе (пры няўмелым кляпанні). Хва́ліцца шчо коса́р до́бры, а ло́палок у косе́ наробі́ў. Данілевічы.

ЛОПА́ТЫ прым. Плоскі. Бобе́р зага́ціць во́ду – так рука́мі не зро́біш: хвост у его́ сіва́кі, лопа́ты. Тонеж.

ЛОХА́НЯ ж. Вялікая міска. Налілá лоха́ню ю́шкі і пуста́віла перэ́д дзе́цьмі. Чэмернае.

ЛОША́К м. Лось. Шчо красі́вые лошакі́ поўз колхо́зом бе́глі. Сярэднія Печы.

ЛОШАНЬКО́ н. Памянш. да «лошаня́». Трэ лошанька́ ма́ленького кострыроваць. Ліпляны.

ЛОШАНЯ́ ж. Жарабя. Е́то ж доду́маліса дзе́ці седа́ць на спі́ну лошаня́ці. Падварак.

ЛОШЫ́ЦА ж. Кабыла. За лошы́цу му ко́лісь п'яць пудо́ў корто́плі отда́лі. Падварак. Не пудско́квай, як лошы́ца. Лельчыцы. Дру́га лошы́ца така́ наровіста: бі не бі, на смерць убі́, пока́ не настоі́цца, не пу́йдзе. Тонеж.

ЛОШУ́К м. Малады лось. До го́ду ў лошука́ рог нема́. Данілевічы.

ЛУБ'Я́НІШЧЭ н. Поле пасля лубіну. На луб'я́нішчы ўсе ро́дзіць до́брэ. Ліпляны.

ЛУ́ГВО н. Логавішча. Воўк ро́біць собе́ лу́гво ў лому́, у боло́ці да ку́піне. Ліпляны.

ЛУЖНІ́ЦА ж. Лыжня. Ужэ́ по гото́вых лужні́цах ле́гчэ е́хаць. Мілашавічы.

ЛУ́ПА ж. Лупіна. Зніму́ лу́пу з гарбуза́ і ка́шу па́ру. Ліпляны.

ЛУПА́ЙКА ж. Лупіна з бульбы. Паро́нкі з лупа́йкамі ко́лісь вары́лі. Ліпляны. Зложы́ лупа́йкі хорошэ́нько ў каза́н. Астражанка.

ЛУ́ПКА ж. Памянш. да «лу́па». Ужэ́ я полуза́ла квасо́лю і лу́пку ву́кінула на двор. Ліпляны.

ЛУПОВА́ТЫ прым. Някемлівы. Зі́на така́ разу́мна – вука́зваласа да збі́ласа, а я така́ лупова́та. Тонеж.

ЛУСКА́ ж. Высеўкі. Пудсе́йваю муку́, луска́ остае́цца ў рэ́шэці, а мука́ ў но́чву сы́плецца. Беру́ е́ту муку́ да пудбіва́ю млінцэ́, а луску́ – гусе́ ці свінье́. Ліпляны.

ЛУТ м. 1. Ліпавая кара. Зрэж обдзі́рка з лу́та. Данілевічы. 2. Маладзенькая ліпка. Лут то́ненькі росце́. Данілевічы.

ЛУТО́ВЫ прым. Ліпавы. Плето́м, бува́ло, луто́вые постолы́. Ліпляны. Ой, ве́сна-весня́ночка! Да не ву́спаласа Мар'я́ночка, да сука́ла шнурэ́ ва́ловые да посто́лікі луто́вые. З нар. песні. Ліпляны.

ЛУТО́ЎКА ж. Лапаць з ліпавай кары. От, чэлове́чэ, як ты мне надо́еў

своімі постоламі: дубоўкі да лозоўкі, а лутоўкі за тобою ніколі не бачыла. Ліпляны.

ЛУЧКОЎКА ж. Лучковая піла. Лучкоўка з такім дзерэўяным станком бувае. Данілевічы.

ЛУЧОК м. Дзяржанне на кассі. Лучком укруговую обгінаем косільно. Лельчыцы.

ЛУЧЫНА ж. 1. Лучына. Зара ў кажной хаці электрычэство, а колісь му пралі кудэлю пры лучыні. Жмурнае. 2. Смалісты кавалак дрэва. Прыв'ёз лучыну, а порубаю етые кускі пня смолного і будуць скепкі на пудпал. Мілашавічы.

ЛУШУПАЙКА ж. Лупіна з бульбы. Поставіла маці параць лушупайкі целяці, а мой чэловек прышоў п'яны з музык і з'еў: думаў, шчо юшка. Падварак. Лушупайкі целяці отдаю. Чырвонабярэжжа.

ЛЫГАЦЬ незак., экспр. Есці. Наварыш, бувало, журу да й лыгаеш цэлы дзень. Забеpажніца.

ЛЮБЛІНЫ мн. Запоіны. Молодые поговораць, а потомака люблiны робляць. Мілашавічы.

ЛЮДСКІ прым. 1. Належачы людзям, асабісты, прыватны. Ето людскі кортопель; по нізох, бачыце, вумок у етом году. Тонеж. Людскіе остопкі ў войну збірала. Там жа. 2. Добры, патрэбны. Холера з етым оўдодом, шо людске зробіш. Канапелька.

ЛЯДО н. Урочышча. На Лядо пожану товар. Маркоўскае.

ЛЯК м. Страх. От ляку е зелье – хвошчэвіца. Тонеж. Жоўтачка з ляку нападае. Ліпляны. От ляку і болю обморока бувае. Мілашавічы.

ЛЯПАЦЬ незак., экспр. Гаварыць. Не ляпай ты хоч! Мілашавічы.

ЛЯПУШКА ж. Яешня з разбоўтаных яек. Колісь мой стары любіў ляпушку. Забеpажніца.

ЛЯСКАЛКА і ЛЯСКАЛЬКА ж. Травяністая расліна. На любом полі, ляскалка росце, а найболей у кортоплі. Лельчыцы. На парыніне росце косцерэўка і разное зеллейко: свіропа, мокрэц, хвойка, ляскалька. Тонеж.

## *М*

МАДЗВЕДЗЬ м. Мядзведзь. Нашы людзі не так даўно трапілі мадзведзя на кублі. Маркоўскае. Мадзведзі лазілі на хвою, скідалі вулье і поедалі мед. Даніловічы. Одзёр дзелалі, коб мадзведзі ў вулей не лазілі. Тонеж.

МАДЗВЕДЗЬВО УХО н. Травяністая расліна. І мороз ні мороз – мадзведзьво ухо усе зелено. Воно мякенька, як бархат, росце у городзі пуд снегом. Ліпляны.

МАЗАЦЦА незак. 1. Мазацца. У нас таке було некалі: рвалі бруслевіну да сушылі ее, тоўклі, з салом размешвалі і мазаліса ад вошай. Тонеж. 2. Бяліцца. Шчэ не мазаліса ў хатох, а два дне зостоецца до Велікдня. Тонеж.

МА́ЗАЦЬ незак. 1. Мазаць. Коб ко́сы рослі́, трэ́бо іх ма́заць здо́ром. Падварак. 2. Бяліць. Побе́л, глі́ну таку́, купля́ем і ма́жэм сце́ны ў ха́ці. Ма́заць ха́ту робі́лі шчо́тку з волосня́. Ліпляны.

МА́ЗІНЕЦ м. Мезенец. Зобі́ў ма́зінца, і вон з цех пор не кіру́е. Падварак.

МАЗЮ́ХА ж. Чарнічнае варэнне. Мазю́ху з са́хором ва́рым і зліва́ем у сцекля́нкі. Ліпляны.

МА́ЗЯ ж. Чарнічнае варэнне. Навары́ла два ведрэ́ ма́зі, бу́дом год ее́ есці́. Тонеж.

МАКЛЯ́К м. Затануўшае бервяно, дрэва. Мо які́х маклякоў ву́цягнуў бу з во́ды да застро́нка ў хлеві одгородзі́ў? Ліпляны.

МАЛА́НКА ж. Арэх, спалены маланкай. Не́што бога́то було́ ў е́тым го́дзі мала́нок на орэ́шніку. Падварак.

МАЛЕ́СЕНЬКІ прым. Малюсенькі. На выезно́го коня́ зро́біць ходзя́ін мале́сеньку колома́жку і е́здзіць. Тонеж.

МАЛЯ́С м. Павідла. Хой у ла́ўку по маля́с. Прыбалавічы.

МАНА́ ж. Закваска. Без маны́ хлеб не пудо́йдзе. Падварак.

МА́РАЦ м. Сакавік. У ма́рцы ме́сяцы обрэза́ецца сухэ́ го́лье на я́блунях. Ліпляны.

МАРАЧЫ́ЦЦА незак. Імжэцца. До́ждзік марачы́цца цэ́лы дзень. Сярэднія Печы.

МАРГА́НКА ж. Гатунак бульбы, скараспелка. Буле́н з марга́нкі як кула́га. Дай ты мне марга́нкі, то я тобе́ дам варша́ўкі. Мілашавічы.

МАРГА́НОЧКА ж. Памянш. да «марга́нка». По весне́ одзы́чыла я собе́ два ведрэ́ марга́ночкі і посе́ела на горо́дзі, а жук ее́ так об'е́ў, шо одны́е цуру́болкі стырча́ць. Астражанка.

МАРЗЮ́ХА ж. Страва з канаплянага семя. Ну й ходзя́йка: то́лько й зна́е вары́ць марзю́ху. Заберажніца.

МА́РКАЎ ПЕРЭЦЕРО́Б м. Урочышча. Усе́ ўжэ заро́стано на Ма́рковым Перэцеро́бу. Ко́лісь на е́тым ме́йсцы Ма́рко з ба́цьком вурyба́лі поля́нку пуд сенажа́ць. Не так доўно́ Ма́рко пом'е́р. Астражанка.

МА́РНЫ прым. Дрэнны, дажлівы, сыры. Дру́гі раз, як ма́рна пого́да, нездоро́віцца. Падварак.

МАРЦВЕ́Ц м. Мярцвяк. На мо́гліцах вон ву́копаў све́жэго марцвеца́. Тонеж.

МАРША́ЛОК м. Шафер. Ста́ршы марша́лок берэ́ тарэ́лку, стано́віць стака́нчык і скупля́е дру́жку. Тонеж. У молодо́й на весе́лі дру́жкі, а ў молодо́го марша́лкі. Лельчыцы.

МАРЫМО́НЬСКА прым. Мука лепшага гатунку. Купі́лі мешо́к марымо́ньской мукі́ і пеко́м коржэ́. Астражанка.

МАСЛЮ́К м. Масляк. Рэшо́цькі, моховікі́, маслюкі́ – е́то ўсе соўя́кі. Маслю́к такі́ цю́пкі. Тонеж. Посу́шымо маслюкі́ да ва́рымо. Маркоўскае.

МАТО́ШНІК м. 1. Чарачка, у якой выводзіцца пчаліная матка.

Маркоўскае. 2. Унутраная частка вулея. У матошніку залóжвае чэр пчаліна матка. Данілевічы.

МАТУЗ м. Тасёмка. Матузáмі жонкі б'юць дзéці. Шчоб не загінула ментáшка, мотузкá прыв'язваюць. Тонеж.

МАЦЕР м. Маці. Шчэ рáньшэ, бóжэ сохрáні, коб мáцер увідзіла, шчо я стою з хлóпцамі. У нáшай мáцеры булі плáцья, шчо і ног не відно. Тонеж. Кóлісь нáшы мацеркі мáсло ў кóнаўкі збірáлі. Ліпляны. Рáньшэ дзéці жылі пры бацькóх, пры мацерэх. Там жа.

МАЦЕРЫН прым. Матчын. Поселілас на мáцерыным горóдзі. Тонеж. Жóнка мáцерына брáта маецца мне дзядно. Ліпляны.

МАЦЕРЫНКА ж. Травяністая расліна. Мацерынка пахýча такá, чай з éю п'юць. Тонеж. Мацерынка сіненькім цвéтом цвіцé. Ліпляны.

МАЦТАН м. Гатунак тытуну. Прóсты табáк му звом цюцюн, а мацтáн пахнé хóрошо. У мацтáна ліссьце дóўге. Ліпляны.

МАЧ м. Жалезныя вілы з трыма-чатырма зубамі. Ідзі бері мачá, бýдом гной накідаць на воз. Новае Палессе. Мáчэм кóпу дóбрэ класць. Ліпляны.

МАЧАЯ ж. Страва са смажаных скварак, мяса і кавалачкаў каўбасы. Мачая смáшна. Заберажніца.

МАЧОНІК м. Мочаны яблык. Éты раз мачóнікі ўдалíса. Заберажніца.

МЕДЗІЧКА ж. Доктарка. Медзічка не знáла, што з барсукá м'ясо лечэбное. Данілевічы.

МЕЖОВУ ШЧАВЕР м. Від шчаўя. Межóвы шчавéр по пóплову росцé, по лугý. По грáдках сéем межóвы шчавéр. Данілевічы.

МЕКІШ, МЯКІШ м. Мякаць. На скóрку ўжэ зубóў немá, а мéкіш емó. Ліпляны. Зéрнета ў мекішóх гарбузá выбірáем. Тонеж. Берóм тэй мéкіш да коўбáсы крýцім. Маркоўскае.

МЕНЁК м. Мянтуз. Пуд колóдой найбóльш менёк седзіць. Лельчыцы. Менёк тóжэ головáты, але тóньшэ за сóма. Ліпляны. Менёк без усóў. Маркоўскае.

МЕНТАШКА ж. Шырокая дубовая лапатачка без наждачнай масы для вастрэння касы. Шчоб не загінула ментáшка, матузкá прыв'язваюць. Тонеж. Гóстраць кóсу бруском, а потóмака ментáшкою. Падварак.

МЕНТАШАЦЬ незак. Мянціць. Кóсу трэбо ўжэ ментáшыць. Падварак.

МЕНТЭЛЕМ прысл. Хутка. Дзеўкі, ходзіце мéнтэлем пудберóм кортóпель і пóйдом додóму. Лохніца.

МЕРКА ж. Бочачка з ручкай для вымярэння вагі сыпучых цел. У мліні брáлі помéр мéркой. Мілашавічы. Мéрка рóбліцца з клéпочэк, а коўш вудóўбваецца. Нам'яла прóса óсем мéрок. З рáшкі корміли свінéй, а мéрка лежáла чысценькая – зéрне мéраць. Лельчыцы.

МЕСЕЧКА ж. Радыска. Рэжэм кружэчкамі мéсечку да емó з цыбýлькою ці ўвольéм сметáны. Тонеж.

МЕСЕЧНІК м. Каляндар. Ужэ скóро Нóвы год, а мéсечніка шчэ немá ў

мене́. Манчыцы.

МЕ́ТКА ж. Дубец, на які што-небудзь нанізаваюць. Як нема́ коро́бкі, дру́га жо́нка ні́жэ грыбка́ на ме́тку і несе домо́й. Падварак.

МЕТЛІ́ЦА ж. Мятлюг. У ме́тліцы шы́шачка е, як у цімофе́еўкі. Маркоўскае.

МЕХ м. Футра. Только́ мех куніцы беро́цца, а м'я́со лю́дзі не еду́ць. Данілевічы.

МЕЦЕ́ЛІК м. Матылёк. Пу-над тра́віцкой ле́таюць меце́лікі. Не лові́ меце́ліка. Падварак.

МЕ́ШКАЦЦА незак. Вазіцца. Ужэ́ негожы́е му со стары́м, ме́шкаемса тро́ху, дзень нам нія́к не сця́гнецца. Тонеж.

МЕ́ШКАЦЬ незак. Марудзіць, вазіцца. Со своі́м старэ́нькім так і жыво́м, ме́шкаем по-ма́леньку. Маркоўскае.

МЕШО́К м. 1. Мяшок. Ёто ж не робо́та жонка́м мешкі́ носі́ць. Чэмернае. 2. Расцяжныя мяхі ў гармоніку. Данілевічы.

МІЖУ́ЛІШЧЭ н. Урочышча. Пошо́ў я ў Міжу́лішчэ, міну́ў кона́ву, чу́ю – глушэ́ц спе́вае. Маркоўскае.

МІКО́ЛЬНІК м. 1. Майскі баравік. Слу́хай, я ўжэ набра́ў міко́льнікоў. Маркоўскае. 2. Від дуба. На міко́льніках жо́ўты ліст бува́е ўсю зі́му. Данілевічы.

МІ́ЛКО прысл. Мелка. На перэе́здзе ў рэке́ акура́т мі́лко, а з двух бо́коў глы́бко. Ліпляны. Дзе мі́лко, кло́мляй мо́жно лові́ць ры́бу. Буда-Лельчыцкая.

МІНА́Л м. Аманал. Як міна́л кі́неш у рэ́ку, велі́ка і ма́ла ры́ба ўбіва́ецца. Маркоўскае.

МІ́СА ж. 1. Міска. Зро́бляць полі́цу да й ста́ўляць на ее́ мі́сы гліня́ны. Тонеж. Як ме́ду бога́то, на ўсіх столо́х по мі́се ста́ўляць. Падварак. 2. Таз без ручак. У мі́се чэрэп'е́ му́юць: ло́жкі, відзе́лкі. Тонеж.

МІ́СКА ж. 1. Міска. Усе́ мі́скі пузано́сіла Ва́сі, і нема́ чым е́сці. Тонеж. 2. Таз без ручак. У мі́сцы му́юць дзе́ці, вона́ кру́глая. Ліпляны.

МІСО́ЧКА ж. Памянш. да «міса» ў 2-ім значэнні. Озьмі́ му́ло да пому́йса над мі́сочкой. Падварак.

МЛІН /1/ м. Млын. Ко́ліся млін буў на Ру́дні. Тонеж. У млі́ну́ от дзесяці́ пудо́ў бра́лі два га́рца. Маркоўскае.

МЛІН /2/ м. Блін. От ужэ́ млін спекла́: на двох чэлове́к хо́піць пое́сці. Падварак.

МЛІНЕ́Ц м. Звычайна тонкі блін, блінчык. З кухма́ру млінцэ́ пеко́м. Падварак. Ма́мо, хай бу вона́ млінцо́ў напекла́. Астражанка.

МЛІ́НЧЫК м. Памянш. да «млін /2/». З'е́ла млі́нчыка і ўжэ буле́на се́рбаць не хо́чу. Падварак.

МЛІЦЬ незак. Імжэць. От ужэ́ занего́дзілоса – бу́дзе до́ўга мліць дождзь. Тонеж.

МО́ГЛІЦА ж. Магілка. На мо́гліцы лежа́ла зра́нку до ве́чэра, як сын пом'ёр. Я то́жэ боя́лас поўз тые мо́гліцы ходзі́ць. Тонеж. За́кі по́начы пройшла́

міо́мо мо́гліц, усё похоло́дало. Лельчыцы.

МОГЦІ́ незак. Магчы. Му мого́м у срэ́ду коло́ць свіньє́, бо, говора́ць, молодзіко́м м'я́со не до́брэ бува́е. Ліпляны. Трэ́бо могці́ усё робі́ць: ва́жко ж жыць не ўме́ючы. Лельчыцы.

МО́ДЛО н. Інструмент для спускання клёпак. Данілевічы.

МО́ЗКА ж. 1. Мозг. Шчэ до во́йны мой братко́ кво́ліўса, шчо мо́зка ў ногє́ болі́ць. Тонеж. 2. Розум. У цебє́ е мо́зка чы нема́? Падварак.

МОКРО́ТА ж. Сырасць, вільготнасць. От мокро́ты згніе́ корто́пля. Тонеж.

МОКРЭ́Ц м. Пустазелле, зоркаўка. Корто́плю мокрэцэ́м заце́гае. Ліпляны. На парыні́не росце́ косцерэ́ўка і ра́зное зе́ллейко: свіро́па, мокрэ́ц, молоч'я́к, дросе́н, лебеда́, хво́йка. Тонеж.

МОЛО́ЙЧЫ прым. Малодшы. У Арме́е слу́жыць мой моло́йчы хло́пец. Тонеж.

МОЛОКО́ЎКА ж. Грыб. Як розло́міш молоко́ўку, з ее́ молоко́ цечэ́. Маркоўскае.

МОЛОТНІ́К м. Малацьбіт. Цэ́пом молотні́к моло́ціць. Маркоўскае.

МОЛОЧ'Я́К м. Малачай. Не росце́ молоч'я́к зало́жыстымі поля́мі. З его́ цечэ́ молоко́. Ето то́жэ пога́но зе́ллейко. Сярэднія Печы.

МОНІ́СТО н. Каралі. Усе́ ў нас зна́юць моні́ста. Ліпляны. Дару́ю сто́лку моні́ст, шчоб буў до го́ду сын гармоні́ст. Тонеж. У «козы́» о́чы дзе́лалі з моні́ст пуд вушы́ма. Данілевічы.

МОНЯ́К м. Маяк. Коло́ моняка́ това́р сего́ні па́сціў. Данілевічы. А вона́ ж седзі́ць, як моня́к, і сло́ва не ска́жэ. Ліпляны. Чэлове́к утопа́е, а воны́ стоя́ць, як моня́кі якіе́. Тонеж.

МОРГ м. Адзінка вымярэння плошчы (75 сотак). У богатырэ́й булі́ моргі́. Тонеж.

МОРКОВІ́НА ж. Морквіна. Гіч моркові́ны зове́цца моркові́ннік. Тонеж.

МОРКОВІ́ННІК /1/ м. Маркоўнік. Емо́ моркові́ну, а моркові́ннік кі́даем. Тонеж.

МОРКОВІ́ННІК /2/ м. Травяністая расліна. По ні́зкіх ме́сцах, по долі́нах росце́ моркові́ннік. Скот его́ ку́шае. Тонеж.

МОРКО́ВІШЧЭ н. Участак зямлі пасля морквы. Так траво́ю заросло́ морко́вішчэ на горо́дзі. Падварак.

МОРКО́ЎНІК м. Травяністая расліна. Морко́ўнік росце́, як цімофе́еўка, і шы́шачка ў его́ е, як у метлі́цы. Ліпляны.

МОСТ м. 1. Мост. За мосто́м ужэ́ загаці́лі кона́ву. Маркоўскае. 2. Спосаб вырабу лапцей. Мосто́м плето́м постолы́ ў два рады́. Мост бо́льшэ дзе́ржыць. Маркоўскае.

МОСЦЕ́Ц м. Адонак. На мосце́ц кладу́ць сно́пу. Стоўпы́ абв'я́зваюць у мосцу́ глі́цэй, шчоб му́шы не ле́злі. Падварак.

МО́ТКА ж. Матальшчыца. Клубка́ мо́тка мота́е. Тонеж.

МОТКІ́ мн. 1. Маткі. Напрадзе́ ні́ткі да мота́е ў моткі́, перэ́ іх, пра́ніком

б'е. На мотка́х цесьма́ е. Тонеж. 2. Канопл-насенніі. Пло́скуні зара́нее вуспева́юць, а моткі́ беруць, як поспе́юць семена́. По зе́мле сце́лем пло́скуні, а моткі́ ў во́ду кі́даем. Ліпляны.

МОТЫКОВА́ЦЬ незак. Матычыць. За́ра жонкі́ мотыку́юць пурэ́й ка́жан дзень. Тонеж.

МОТЫ́ЧЫНА ж. Матыка. Е з трыма́ ро́жкамі моты́чыны. Не се́ла на го́лу зе́млю, а на моты́чыну – і заболе́ла. Тонеж.

МОХРЫ́СТЫ прым. 1. Махрысты. Ко́ліс мохры́стые поя́сы мужчы́ны носі́лі. Тонеж. 2. Шурпаты. Мохры́сту до́ску сушчэ́пком чы́сцяць. Данілевічы. Шэршэ́бком збіва́е мохры́сту до́ску, а пото́мака ідзе́ руба́нком. Маркоўскае.

МУЗЫ́КА ж. Музыкант. Як уда́рышса дзе ного́й да пудско́чыш, гово́рым, што музы́ка тут зако́пан. Тонеж. Ліхі́ танцо́р так вубіва́е обча́самі, што дру́гі музы́ка на бу́бні е́того не мо́жэ зробі́ць. Данілевічы.

МУЗЫ́КІ мн. Танцы. Мо, дзеўкі́, сходзімо́ на музы́кі? Ліпляны. Я дзе́ўкой неве́льмо бе́гала на музы́кі. Тонеж. Сохве́я наве́к моя та́йка: му з е́ю на поседзёлкі, на музы́кі ходзі́лі. Буда-Лельчыцкая. Поста́віла ма́ці лушупа́йкі па́рыць целя́ці, а мой чэлове́к прышо́ў з музы́к п'я́ны і з'еў: ду́маў, шчо ю́шка. Падварак.

МУ́КАЦЬ незак. Часаць лён на грэбені і скручваюць у мычкі. На грэ́бень продо́м, а грэбё́нкою му́чэм. Тонеж. З е́того лё́ну мо́жно му́каць му́чкі. Астражанка.

МУЛ м. Глей. Озеры́на шыро́ка, а му́лу ў ей по са́мэ коле́но. Падварак.

МУЛЕ́РА ж., экспр. Маўчун. Е́то ж така́ муле́ра хо́дзіць: сло́ва од его́ век не чуў. Тонеж.

МУЛЬ м. Маляўка. Шчу́ка муля́ есць. Падварак.

МУ́ЛЬКА ж. Маляўка. Ка́чкі му́льку ло́ўляць. Маркоўскае. На перэмі́ле му́лька хо́дзіць, як чо́рная хма́ра. Ліпляны.

МУЛЯ́К м. Мазоль. Узяла́ соке́рку – і муляка́ наму́ліла. Ліпляны. Надзе́ла пе́ршы раз чо́боты да мулякі́ пунаму́львала. Лельчыцы. Схопі́уса на ноге́ муля́к. Падварак.

МУРА́ЎНІК м. Мурашнік. Урачы́ сы́ну не помога́юць,дак вон стаў мура́ўнік па́раць да піць. У мура́ўніку зіму́юць мура́шкі, весно́ю вухо́дзяць наве́рх. Тонеж.

МУ́РЗА ж. Страва з чарніц. А ее́ дзе́ці так му́рзу лю́бляць. Забераждніца.

МУРО́Г м. Трава на сухадоле. Вугоня́й свінье́ на муро́г, а каро́ў на па́шу! Ліпляны. Муро́г сце́лецца по цве́рдой зе́мле. Лельчыцы.

МУРОГО́ВЫ прым. Мурожны. Се́но мурого́во ве́льмо до́брэ. Ґару́на бува́е сола́това, зелё́на, кра́сна, мурого́ва, кірпі́чна. Ліпляны.

МУРО́ЎЕ /1/ н.Мурашнік. Е́то муро́ўе лесні́кі пуобгородзі́лі поўз доро́гамі скрозь. Як у кого́ болі́ць спіна́, берэ́ муро́ўе, па́рыць, ло́жыць у мешо́к і лега́е спіно́ю на его́. Большы́е чо́рные мура́шкі муро́ўе не ро́бляць, воны́ ў коло́дзе плодзя́цца. Тонеж.

МУРОЎЕ /2/ н. Урочышча. На Муроўе крыніца е на горэ. Тонеж.

МУСА ж. 1. Морда. Вурэжэ хто з гожыка ўсе, а кожу прыв'язвае на мусу целяці, коб корову не ссало. Ліпляны. Сыпні вужу на мусу смальцу так вон здохне. Мілашавічы. 2. экспр. Твар. Во мусу разгодоваў. Падварак.

МУСКА ж. 1. Памянш. да «муса» ў 1-ым значэнні. Одзін раз споймаў я воўчонка малэ; на чэловека гледзець не хочэ, водзіць мускою. Данілевічы . 2. Маска. По-пуд вокнамі цегала дзеўкою муску на коледы. Ліпляны.

МУЦЬВІЦА ж. Назва рачулкі. Ето ж рэка Муцьвіца, вона ў плані е. Тонеж.

МУЧКА /1/ ж. Абчасная на грэбені жменька льновалакна. Кацюшка з грэбня смуча ету мучку. Вупрадзе жонка мучку на тонкіе ніткі, а ключ'е перавальвае на вал. Ліпляны.

МУЧКА /2/ ж. Кусцістая нярэзкая трава. Мучку косіць надо хорошэ плечэ і коса. Ліпляны. По нізох, по мучкох ростуць краснюкі, воны такте цюпкіе. Маркоўскае.

МУЧЭНІЧНІК і МУЧЭНІШНІК м. Травяністая расліна. Волокамі мучэнічнік росце. Тонеж. Мучэнішнік сінім цветом цвіце, і шышэчка сіня на ем есця. Вон от жывота. Ліпляны.

МУШКОВАЦЬ незак. Шукаць. Нема чого тобе й мушковаць: нехто зобраў твою косу. Падварак.

МЫГЛА ж. Імгла. Вон мыгла така ідзе. Мыгла – ето колі дробненькі дождзік марачыцца. Сярэднія Печы.

МЫЦЬ незак. 1. Мыць Трэбо ужэ мыць шмацье. Тонеж. 2. экспр. Піліць. Моя піла дуба рэжэ, а берэзу і клена аж мое. Ліпляны.

МЭТРА ж. Метр. Ето дзерэво вуростае у мэтру за одзін год. Тонеж. Мэтра дваццаць п'яць вершкоў. Маркоўскае.

МЭТРЫ мн. Складзеныя дровы у лесе для продажу. Грыбу брала, дзе мэтры стояць. Данілевічы.

М'ЯЛО н. 1. Мяла. Зробіць хто м'яло да і мне кортоплю. Тонеж. 2. перан. Непаваротлівы чалавек. Ой, м'яло ты прыдурковатэ! Астражанка.

М'ЯТЛІК м. 1. Матылёк. По летку м'ятлікоў у нас колькі хоч. Тонеж. 2. Палатно, якім кума накрывае дзіця ў часе хрышчэння. Кума з собою берэ м'ятлік з крамного полотна. Тонеж.

## *Н*

НА прыназ. На ( у розных значэннях). Далі тры годы, да поехаў вон на Сібір. Тонеж. Со стоўбура з чэсніка сею етыя зубкі на весне ў родочкі. Ліпляны. Шалеваныя дзверы робляць на ёлочкі. Тонеж. А я летась належала на грыба. Ліпляны. Вон чэловеку ўсё на ўрэд робіць. Тонеж. А почэму ву на ліцэ такіе. Тонеж.

НАБЕДРЫКІ мн. Шляя. Як хто бедны буў, то кульбочку ускіне лошыцы на спіну да едзе без набедрыкоў. Тонеж. Ей ідзе ета споніца, як свінье набедрыкі. Там жа.

НАБЕГЦІ зак. 1. Набегчы. Ліпляны.2. Успомніцца. Так мне ета песня ніяк нешто на вум не набежыць. Тонеж.

НАБІЛКІ мн. Набіліцы. Набілкі дзержаць бердо. Берэ жонка набілкі да кладзе ў тэе бердо, шчоб не вупадала тросць. Тонеж.

НАБІРОК м. Кошэлік для ягад. У набірок ягоды собіраюць. Данілевічы. Озьмі гладышку й набірка на ягоды. Астражанка. Колькі набіркоў набрала? Мо ужэ будомо обедаць? Дзяржынск.

НАБІРОЧЭК м. Памянш. да «набірок». У кабушэчкі сохне набірочэк. Тонеж.

НАБІРЫЧ м. Кашэлік для ягад. Положыла моя браціха у кошэля набірыча, граб'енку і пушла по ягоды. Лельчыцы.

НАБОЙ м. Падносак. На увесь нарад купіў вусцілкі, заднікі, подэшву, набой. Ліпляны.

НАВЕК прысл. Заўседы. Штоб вон так на рукі, на ногі плакаў, як я навек плачу. Сярэднія Печы. Мой сын буў мокры навек да простыў і от Рожства логом лежыць соўсім. Тонеж. Раба поганюка навек кусаецца. Чэмернае.

НАВЕСЕЛЬНІК м. Удзельнік вяселля. От ужэ богатэ веселье справіў: чэловек пятдзесят одных только навесельнікоў було. Напродом да накачаем поставоў поўну бонню. А ето самэ полотно навесельніком раздаем. Мілашавічы.

НАВОЙКА ж. Навой. Готовое полотно накручаецца на навойку. Падварак.

НАВОЛОКО н. Бяльмо. Мне наволоко воко зацягло ў войну. Маркоўскае.

НАВАРОТ м. Укос. Другім наваротом мо й накосім сена. Тонеж.

НАВОРЫСТЫ прым. Схілены, няўстойлівы (пра дрэва). Ето ж наворысты клён, бура его схіліла. Даніловічы.

НАВОСНІК м. Падушка ў возе. На навоснік легае оплень. Маркоўскае. Навоснікі е ў возі на залезным ходу. Навоснік і оплень шворнем проймаюцца. Тонеж.

НАВУВОРОЧАЦЬ незак. Навываросчваць. О, там навуворочало вувороткоў! Тонеж.

НАВУКНУЦЬ зак. Прывыкнуць. Як хто навукне робіць, то без роботы седзець не будзе. Падварак.

НАВУЦЯГАЦЬ незак. Навыцягваць. З рэкі вон і жыве: навуцягае рыбу і варыць юшку. Ліпляны.

НАВУЧВАЦЦА незак. Вучыцца. Му одзін от другого навучваемса кошэле плесці. Мілашавічы.

НАВ'ЯЗАЦЦА незак. 1. Навязацца. Буда-Лельчыцкая. 2. Густа нарасці. Як уродзіць белы наліў, то, усе роўна, як лісту, яблок нав'яжыцца. Ліпляны.

НАГЛЕННЫ прым. Велічэзны. Буракі бываюць нагленные. Ліпляны. Ну і

нагле́нны ты ву́рос. Сярэднія Печы.

НА́ГЛЫ прым. Вялікі. На дурноп'я́ну шы́шка на́глая. Ліпляны. Ба́чыла я ў яго́дзях, жано́чкі,таку́ поганю́ку на́глую. Там жа. На той я́блоні цепе́р не бога́то я́блок, а ўсе такі́е на́глые. Новае Палессе.

НАГОДОВА́ЦЬ зак. 1. Нагадаваць. На е́той свіі́ньe трэ́бо шчэ са́ло нагодова́ць. Тонеж. 2. Накарміць. Нагоду́ю дэтэ́й, Ага́пка, да пойдо́м по лісі́цы. Жмурнае.

НАГРУ́ДНІК м. Кабат. З брыжа́мі шы́ем нагру́днік, а без брыж – лі́фік. Ліпляны.

НАДЗЫГОВА́ЦЬ зак., экспр. Нагаварыць, падбухторыць. Е́то ж ты надзыгова́ла на мене́ Сохве́ю, а вона́ цепе́р не говóрыць со мно́ю. Астражанка.

НАЗУ́БІЦЦА зак. 1. Назубіцца. Як серпа́ к ковалю́ не отнесе́ш, ці вон сам назу́біцца. Лельчыцы. 2. Перан. Чуць-чуць прарэзацца на пачатку росту. Як бо́льшые росто́чкі, отла́мваю, а як дзе то́лько назу́біцца, так і кі́даю. Ліпляны.

НАЙГРА́НЫ дзеепрым. Нагулены (пра курыцу з пеўнем).Не ву́велося цыпля́тко- не було́ яйцэ́ найгра́но. Тонеж.

НАЙГРА́ЦЬ зак. Нагуляць. (пра курыцу з пеўнем). Ку́ра з петухо́м не найгра́ла, колі́ боўтуно́ў бага́то.Тонеж.

НАЙДЗЁНОК м. Дзіця незамужняй маці. Падварак.

НАЙСЦІ́ зак. Наступіць. Вот і Крэшчэ́нье найшло́. Чэмернае.

НАКЛА́СЦІ зак. Адзець, апрануць. Пара́ска, накла́ла б ты сего́дні сукню́. Ле́пей накладзі́ сукню́, а то спадзе́. Дзяржынск.

НАКОВА́ЛЬНІК м. 1. Кувадла. На накова́льніку кова́ль зале́зо куе́. Падварак. 2. Жалезнае верхняе кольца ў ручцы долата. Па накова́льніку б'ем молотко́м, як дра́чку з дзе́рэва вубіра́ем. Данілевічы.

НАКО́Т м. 1. Накат для пераезду праз балоцістае места. Дзе́лалі нако́т, коб ко́ньмі мо́жно було́ боло́та перэезджа́ць. Ліпляны. 2. Урочышча. У нас ме́сцо е, дзе ко́лісь буў той Нако́т. Ужэ́ его́ нема́, а про́звішчэ е. Му звом тэ ме́сцо Нако́том. Ліпляны.

НАКРАПА́ЦЬ незак. Накрапваць. До́ждзік стаў накрапа́ць, а се́но шчэ ў по́лі. Тонеж. Це́мна хма́рка вуступа́е, Дро́бен до́ждзік накрапа́е, Ма́ці сы́на навуча́е: «Слу́хай, сы́нку, мого́ сло́ва: Не е́дзь на ноч, ночу́й до́ма». З нар. песні. Там жа.

НАЛЕЖА́ЦЬ зак. Папалежаць. А я ле́тась належа́ла на гры́ба. Ду́мала, што соўсі́м умру́. Ліпляны.

НАЛЕ́ПВАЦЬ незак.Налепліваць. Як тынку́юць хаты́, то нале́пваюць глі́ну на колкі́ ці дошча́тку. Тонеж.

НАЛІВА́ЦЬ незак. 1. Наліваць. Во́ду налíва́й у шкля́нку да хо́дзі се́но грэ́бсці. Тонеж. 2. Начыняць. Кры́ўяну коўбасу́ мо́жно наліва́ць це́рэз сцекло́ со шкля́нкі. Тонеж.

НАЛІ́СНІК м. Блінец. На молоцэ́ ліжбо на водзе́ налі́снікі пеку́ць, шчоб не булі́ воны́ кі́слые. Тонеж.

НАЛОВАЦЬ зак. Налавіць. Унека як багато дзядзько рыбу наловаў. Астражанка.

НАЛУПІЦЬ зак. 1. Налупіць. Тые разы налупіць ходзяін коры з лозы да постолы плеце. Тонеж. 2. Наскрэбці старой бульбы. Пудкінь коровам сена, а мне шчэ трэбо кортоплі налупіць.Тонеж.

НАМЕТКА ж. 1. Тонкае палатно. Первое дзіця як родзіцца, породзіха дае попу мэтроў тры наметкі да ўмотае шчэ й піровжка. Тонеж. 2. Галаўны жаночы убор. Тые разы после веселья жонкі завівалі наметкі. Тонеж. Чэпец трэбо пуд наметку і обруч з полосіны. Там жа.

НАМІТУЗ м. Спосаб укладвання бярвенняў на возе: у адзін канец кладзецца макавіна, а ў другой – камель. Клалі дзерэво намітузом на воз, коб волам було легчэй. Тонеж.

НАМОРОЖЭНЬ м. Намаразень. На копулы накладаюцца наморожні. Падварак.

НАПАРВАЦЬ незак. 1. Напарваць. Падварак. 2. Напальваць. Зімнімі днямі напарвалі печ добрэ да й болосурылі цэлу ноч. Ліпляны.

НАПАСЦІЦЬ незак. Напасвіць. Але ж і добрэ ты сегоні напасціў худобу. Сярэднія Печы.

НАПЕРСТОК м. 1. Напарстак. Наперсток надзеваецца на палца. Ліпляны. 2. Жалезнае кольца, якім прымацоўваецца шыйка касы да касся. У наперсток клінок устаўляецца. Лельчыцы.

НАПІЦЬ зак. Выпіць Там вон столько тае водкі напіў, а на ногах не дзержыцца. Падварак.

НАПЛЕЧНІК м. Верхняя частка з крамнага матэрыялу ў жаночай кашулі. У рубашках з пустаніком наплечнік робілі з перкалю. Тонеж.

НАПНУЦЬ зак. Апрануць, накінуць. Напні плашча, а то лея така на дворэ. Мо хустку напнула б на плечы? Лельчыцы. На поўшубок напні тулупа. Данілевічы.

НАПОРЛІВО прысл. Напорыста. Што ўжэ напорліво робіць хату Сохвеін ходзяін, так напорліво: днюе і ночуе коло ее. Такі ўжэ напорлівы еты чалавек, такі напорлівы, што ты его не перэпрэш: кола ему на голове гостры, а вон кажэ свое. Тонеж.

НАПРЭГЦІ зак. Насмажыць. От напрэгла яешні на дзве семье. Чэмернае.

НАПУГАЦЦА зак, экспр. Наесціся. Коліcь другі так напугаецца шчаўру, што чэрэво распінае. Тонеж.

НАРАД мю Сукупнасць дэталяў нізу ў ботах, чаравіках. На ўвесь нарад купіў вусцілкі, заднікі, подэшву, набой. Ліпляны.

НАРАДЗІЦЦА зак. Прыбрацца. Ой, і нарадзілася ж ты: любо глянуць! Астражанка.

НАРАДЗІЦЬ зак. Прыбраць. Своюо дочку нарадзіла, як клягіню, а сама латуна носіць. Ліпляны.

НАРВА́ЦЦА зак. Надарвацца. Трэ́бо ж було́ ему́ так нарва́цца, пожы́ў тро́ху і пом'ёр. Тонеж.

НАРВА́ЦЬ зак. Надарваць. Золотніка́ нарва́ла, бе́гуючы. Тонеж.

НАРОБІ́ЦЦА зак. Напрацавацца. Наробі́лася за дзень, аж ру́кі боля́ць. Ліпляны.

НА́РОВЕНЬ прысл. Усё адно што. Се́но – на́ровень марцве́ц. Тонеж.

НАРОВІ́СТЫ прым. Натурысты. Дру́га лошы́ца така́ нарові́ста: бі не бі, на смерць убі́, пока́ не настоі́цца, не пу́йдзе. Тонеж.

НАРО́СТАЦЬ незак. Нарастаць, вырастаць. У бобку́ стру́чкі такіе́ наро́стають. Тонеж.

НАРОСЦІ́ зак. Нарасці, вырасці. За́рэ ужэ́ свое́ поміดо́ры мо́гуць нарасці́. Тонеж. Удо́ўко молода́я, Ты не журы́са намі, Нарасту́ць крылу́шкі Полеці́мо са́мі. З нар. песні. Там жа. У мене́ бога́то про́со нарослэ́. Ліпляны.

НАРУБА́ЦЬ зак. Насячы. Наруба́й поме́тніку. Астражанка.

НАРУЖА́ВІЦЦА зак. Нарумяніцца. Дзеўка́м на́шым за́ра мо́жно й на морозі наружа́віцца. Ліпляны.

НАРУЖА́ВІЦЬ зак. Нарумяніць. Мо на дворэ́ хо́лодно? Бач шчо́кі наружа́віла, татэ́к я́годы. Падварак.

НАРУ́ЛІЦЦА зак., экспр. Наесціся. Мой стары́ нару́ліцца корто́плі з кісляко́м да й спіць дзень. Наро́біць, бувала, е́тых ру́ляў жо́нка, нару́ліцца да й ко́се. Тонеж.

НАРЭ́ЗАЦЦА зак., экспр. Наесціся. Сам еж, а дзе́ці ужэ́ нарэ́заліса. Падварак.

НАРЭ́Ч'Е н. Уменне выказваць свае думкі, красамоўства. Е́го дзе́ўка нарэ́ч'е ма́е і мо́жэ ўсе расказа́ць. Чэмернае.

НАСМУ́КАЦЬ зак. 1. Напрасці. От ужэ́ рабо́тніца: насму́кала за ты́ждзень кацю́шку ні́ток. Тонеж. 2. Нарваць, нацягаць. Я насму́кала смучаю́ п'яць пучко́ў. Тонеж. Ідзі́ насму́кай се́на з сто́га і дай его́ коро́ві. Падварак.

НАСПА́ ж. Урочышча. Пе́тро жыў на Наспе́. Астражанка.

НАСПУСКА́ЦЬ зак. Набіць яек на скавараду. Пастуха́м паро́нок навары́ла, яе́ц наспуска́ла на ско́вороду. Лельчыцы.

НА́СТАЎКА ж. Прылада для лоўлі рыбы у выглядзе вядра. На́стаўкам ры́бу ло́ўляць, як велі́ка во́да. Ліпляны.

НАСТА́ЎЛІЦЬ зак. Наставіць. Там бога́то коп наста́ўлілі. Тонеж.

НАСТО́ЛЬНІК м. Абрус. У мене́ ко́лісь було́ бога́то насто́льнікоў, уціра́льнікоў свое́ робо́ты. Ліпляны.

НАСТО́ЛЬНІЦА ж. Абрус. Пому́ла насто́льніцу і хо́чу почэпля́ць кра́мные або полотня́ные мохрэ́. Ліпляны. Просцелі́ насто́льніцу на стол і пуста́ўляй мі́сы і глады́ш. Падварак. Насто́льніца шэ́ршы за уціра́льніка. Тонеж.

НАТКНУ́ЦЬ зак. 1. Наткнуць. Коб наткну́ць чэ́рвя на кручо́к, трэ́бо ве́даць, як е́то ро́біцца. Ліпляны. 2. Абуць. Твой сыно́к наткну́ў ва́ленкі на бо́су но́гу і пубе́г. Падварак. Наткні́ суко́нкі, а то сёні хо́лодно ў чо́ботох. Данілевічы.

НАТОПТА́ЦЬ незак. Напхаць. Мешо́к се́на натопта́ў це́сно-це́сно. У сельні́к трэ́бо натопта́ць се́на да положы́ць на его́ поду́шкі. Тонеж.

НАТОРОВА́ЦЬ незак. Насыпаць. На́до ж було́ наторова́ць семено́ў у мешкі́. Лельчыцы.

НАТОЎКЦІ́ зак. Натаўчы. Захо́чу я натоўкці́ ма́ку – беру́ сту́пу, са́хору насы́плю і роблю́ з его́ , што хоч. Ліпляны.

НАЎХРЭ́СТ прысл. Накрыж. Кадрэ́лю наўхрэ́ст танцу́юць. Ліпляны. Як танцу́ем кадрэ́лю, клодо́м па́лкі наўхрэ́ст і промі́ж па́лкамі перабіра́ем нога́мі. Тонеж.

НАЦЯГА́ЦЬ зак. Нацягваць. Шнурэ́ ове́ршка нацяга́е. Ліпляны. Соба́ку уб'ю́ць, шку́рку здзеру́ць і нацяга́юць на бараба́н. Там жа.

НАЦЯГА́Ч м. Прылада для нацягвання шын на кола. Без нацягача́ шы́ну не узо́пнеш на колё́со. Падварак.

НАЧА́ВІЦЬ зак. Выціснуць. З ногі́ нача́ўляць поўта́зіка гно́ю – і ле́гчэ. Тонеж.

НАШЛА́ПІЦЬ зак. Пакласці на што-небудзь зверху. На во́кна нашла́піў поле́но, а за́рэ суцэ́льные поле́на до ве́рха. Тонеж.

НАШЫ́ННІК м. Атоса. Колі́ нема́ нашы́ннікоу, воз ідзе́ куды́ хоч. Падварак.

НЕ́БО н. 1. Неба. З усіх боко́ў не́бо захма́рылос... Маркоўскае. 2. Скляпенне у печы. Колі́ высо́ко не́бо, не грэ́е печ. Данілеві́чы. Не́бо трэ́бо пудпра́віць. Тонеж. 3. Паднябенне, верхняя частка поласці рота. К не́бу плосці́нка з зу́бу прыро́стае. Падварак.

НЕБО́Г м. Пляменнік. Мой небо́г у Мозырэ́ жыве́, про́сіць, коб захо́дзіў, як бува́ю на ры́нку. Падварак.

НЕБО́ГА ж. Пляменніца. У Мозырэ́ ў мене́ е небо́га за до́хторку.Тонеж. От і небо́га ідзе́. Ліпляны.

НЕБО́Ж м. Пляменнік. Мого́ бра́та сын небо́ж. Сярэднія Печы. Ко мне то́лько й прыхо́дзіць за́ра небо́ж. Чэмернае. Мой небо́ж такі́ стара́тлівы: обла́дзіўся на зі́му – лю́бо гля́нуць. Падварак.

НЕВЕ́ХНА ж. Нявестка. Моя́ неве́хна стара́тлівая, до́брая. Тонеж.Ідзі́ неве́хна по водзі́цу у далё́ку крыні́цу. З нар. песні. Там жа.

НЕГО́ДА ж. Непагадзь. На него́ду повороча́е: ла́стаўкі по́ўз зе́млю ле́таюць, ку́ры церэ́бяцца. Тонеж. Як на него́ду, то ме́сца нема́ – боля́ць но́гі. Чэмернае. Ка́гуць, шчо ў тако́й ква́дры пого́да, а та́мака него́да. Падварак.

НЕГОДЗЯ́ЧЫ прым. Непрыгодны. Ужэ́ я негодзя́чы буў у мікала́еўску во́йну. Маркоўскае.

НЕГОЖЫ́ І НЕГО́Ж прым. Слабы, хворы. Мой старэ́нькі него́ж: опера́цыю робі́лі. Маркоўскае. Шо ву так негожы́е: ва́жко седае́це. Мілашавічы. А цепе́р такіе́ негожы́е лю́дзі: дай смета́ну – не есць.Тонеж. Таке́ ужэ́ жы́тко стары́м да негожы́м, шо хоч об сце́нку голово́й: нема́ того́ дня каб шо не боле́ло.Сярэднія Печы.

НЕДЗЕ́ЛЯ ж. 1. Нядзеля. У недзе́лю збор у Пудва́рку. Буда-Лельчыцкая. К недзе́лі назбіра́ю гурко́ў: цвето́чкі ўжэ пуодпа́далі. Ліпляны. 2. Тыдзень. Дзе́в'яць недзе́ль лежа́ў: була́ боля́чка ў голове́. Ліпляны. На проводну́ недзе́лю трэ́бо сходзі́ць у воско́ўе. Там жа.

НЕЗДОЛЯ́ШЧЫ прым. Слабы здароўем. Я ж нездоля́шчы, заме́рз бу зімо́й, коб не сын. Лельчыцы. Як здоро́ва, усе́ до́брэ, а як нездоля́шча, уся́ка о́буў потруі́ць. Ліпляны.

НЕ́КІ займ. Нейкі. Се́ла ў не́ку земля́нку і жду, колі́ е́тые немчура́кі пу́йдуць. Тонеж. Каза́лі, што не́ка жо́нка продае́ бе́рда на селе́ .Астражанка. От не́ке каплоу́хе дзіця́. Падварак.

НЕЛІ́Н м. Від дуба. По́сле Тро́іцы развіва́ецца нелі́н. Як разоўе́цца е́ты дуб, беркулё́знікі жыць не мо́гуць. Данілевічы.

НЕ́ЛЮДЗЬ м. Нелюдзень. Седзі́ць не́людзь у ха́ці і ні з кім не разговора́е. Падварак.

НЕМЧУРА́К м., экспр. Немец. Прыезжалі́ немчура́кі хаты́ палі́ць. Хо́валіса ўсе от немчура́к, я са́ма ў картопля́ніку ноч седзе́ла. Тонеж.

НЕПОГО́ЖЫ прым. Непагодлівы. Се́но непого́жэ не так пахне́, а коровы́ едзя́ць, як хо́лодно бува́е. Тонеж. Волы́ мое́ половы́е! А чого́ ж ву помарне́лі? Мо непого́жэ се́но е́лі, непого́жу во́ду пі́лі? З нар. песні. Ліпляны.

НЕПОДЗЕЛЯ́ШЧЫ прым. Непадзеллівы. У неподзеля́шчэго чэлаве́ка нічо́го ніко́лі не о́зьмеш. Тонеж.

НЕ́РВЕНІК м. Нервовы чалавек. Такі́ ўжэ не́рвенік мой зяць, прогна́ла его́ з ха́ты, і жыве́ не́дзе ў Мозырэ́. Ліпляны.

НЕРЭШКІ́ мн. Прылада для лоўлі рыбы. Як лешчы́ нерэсця́цца, ста́ўляюць нерэшкі́. Маркоўскае.

НЕСАМАВІ́ТЫ прым. Звар'яцелы, несур'ёзны. Ужо́ пожы́лы вон чэлове́к буў, да не́кі несамові́ты: хо́дзіць по суні́цох, гука́е пе́ўня, а жонкі́ за бо́кі беру́цца.Тонеж.

НЕСУДО́БНА прысл. Нязручна. З коро́ткою во́чэпкою кошэля́ несудо́бно носі́ць. Чырвонабярэжжа.

НЕСУДО́БНЫ прым. Нязручны. От уплю́нуўса до́ждзік несудо́бны, ідзе́ да ідзе́. Тоне́ж. Робо́ты бага́то, а тут жара́ несудо́бна. Там жа. Не́ке несудо́бно ковені́шчэ ву́сек мой стары́. Падварак.

НЕСУ́ШКА ж. Курыца, якая нясецца. У мене́ тры несу́шкі, а дру́гіе ку́ры кво́кчуць. Лельчыцы.

НЕХЛЯМЯ́ЖЫ прым. Няўклюдны. От дзе́рэва я́блуко дале́ко не па́дае: нехлямя́жы буў ба́цька, і сын такі́. Падварак.

НІГА́ДКІ прым. Нядрэнны. У Га́пкі ніга́дкі хло́пец росце́. Падварак.

НІГА́ДКО прысл. Нядрэнна. Усе́ўса ніга́дко тут, у пасажы́рцы. Злодзін.

НІЗ м. 1. Ніз. Пудгні́ў ніз ха́ты. Падварак. 2. Нізкае месца. По нізо́х, по му́чкох росту́ць краснюкі́. Маркоўскае. Крыва́ўнік росце́ по нізо́х, по боло́тах. Тонеж.

НІЗА́ЛКА ж. Нізка. Пошо́ў у лес і ніза́лку грыбо́ў прыне́с. Маркоўскае. На ніза́лку ні́жэм ры́бу. Там жа.

НІЗАШЧО́ прысл. Нізашто. Не отда́м нізашчо́ сваю́ до́чку за е́того ле́жня. Сярэднія Печы.

НІЗІ́НА ж. Балоцістае месца. У е́той нізі́ні качалкі́ поро́слі́. Тонеж.

НІ́ЗКІ прым. 1. Нізкі. Такі́ ўжэ рэ́дкі і ні́зкі ов'е́с пуро́с на по́лі. Тонеж. 2. Блізарукі. Вона́ ні́зка на о́чы була́. Як пу́йдзе жаць, то сно́пу пугу́біць. Тонеж.

НІК усеч. дзеясл. Зірк. А вона́ туды́ нік- седзі́ць ее́ челове́к і во́дку п'е. Тонеж.

НІ́КАЦЬ незак. Зіркаць, заглядваць. Е такіе́ хлопча́кі, шо ні́кають у о́кна. Тонеж.

НІ́ШКІ прысл. Моўчкі. Седзі́ ні́шкі. Астражанка. Лежы́ ні́шкі. Буда – Лельчыцкая.

НІШЧО́ прысл. Нішто . А вон нішчо́ собе́ чэлове́к. Падварак.

НІЯ́КІ прым. Напаўмёртвы. Старэ́нькі мой ужэ́ ния́кі: мо ўмрэ́. Падварак.

НОВІНА́ ж. Першы раз узаранае поле. Як то́лько ву́дзерыш новіну́, пан пе́рвы год не браў нічо́го. Маркоўскае. Лес ву́дралі і перэробі́лі на новіну́. Падварак. Оробе́йкоў шчаве́р на новіне́ шыро́кі. Тонеж.

НО́ЖНІЦЫ мн. Назва танца. На музы́ках но́жніцы танцу́ем. Ліпляны.

НОРЭ́Ц м. Птушка, крохаль. У норца́ таке́ слі́зке пе́р'е, похо́ж на ка́чку. Данілевічы.

НОС м. 1.Нос. Дзюба́йка но́са чэ́шэцца – не́хта умрэ́. Тонеж. 2. Вузкая частка яйка. Поб'е́ но́са шчэ б'юць біткі́. Тонеж. 3. Пярэдняя частка лодкі. Едо́м, ідзі́і ў носу́ чо́ўна сядзь. Ліпляны.

НОСІ́ЛКІ мн. Прылада для пераносу сена ( дзве доўгія палкі).Пуд ко́пу носі́лкі пудкладае́мо да й несо́м ее́ ў стог. Тонеж

НОСО́К м. 1. Памянш. да «нос» у 2-ім значэнні. От у мене́ крэпа́к: побіў носка́ – перэверні́ пухо́й. Ліпляны. 2. Пярэдняя частка тапара. Ву́біў носка́ ў соке́ры. Данілевічы.

НО́ЧКА ж. Кажан. Но́чка – е́то така́ чо́рна пту́шка, вона́ ле́тае ве́чэром. Ліпляны.

НОЧНІ́ЦА ж. Кажан. Було́ мне робо́ты: улеце́ла ночніца ў ха́ту. На бе́лое сі́льно садзі́цца ночніца. Маркоўскае.

НОЧЭВА́КА ж. Чалавек, які не спіць ноччу. Эй, ночэва́ка! Даку́ль ты бу́дзеш ходзі́ць? Тонеж.

НО́ША ж. Ношка, узятак у пчол. З бе́дной но́шай прыле́талі пчо́лкі ў е́тым го́дзі. Маркоўскае.

НОША́Й м. Спецыяльнае прыстасаванне для пераносу сена, саломы, снапоў. На одны́м концы́ ноша́й кола́ч бувае, кру́гленькі, загну́ты. Як удво́х, то тэй за того́, а тэй за того́ конца́ да й сці́снуць ноша́й з се́ном. От колача́ ідзе́ воро́вочка ў дзве сто́лкі. Ліпляны. Коб сці́сці ноша́й, трэ́бо два чэлове́кі. Падварак.

НО́ШЫ мн. Насілкі. Два чэлаве́кі беру́цца за ру́чкі да й несу́ць на но́шах глі́ну, кірпі́ч. Ліпляны.

НУЖА́ ж. Агульная назва куслівых мушак. Ле́том нужа́ жыць не дае́. Падварак.

НУТРА́ ж. Унутранасць. Усе́ ну́тра з е́той жо́нкі ву́ссаў воўк. Ліпляны.

НЯЎЖЭ́ прысл. Няўжо. Няўжэ́ е́то пра́ўда, што там мэ́троў п'яць зе́млі ву́капалі? Сярэднія Печы. Так і кі́даць карто́плю? - Няўжэ́ ж. Лельчыцы.

## О

ОБАЛО́НЬЯ ж. Заліўны луг, абалона. На обало́ны густа́ травіцка росце́. Ліпляны.

ОБА́ПОЛОК м. 1.Аполак. З оба́полкоў плот зробіў – і до́брэ. Данілевічы. 2. Пастронак у хамуце для ворава, баравання. Данілевічы.

ОБА́РОК м. Ворчык. У плуг чэпля́юцца оба́ркі. Чэмернае.

ОББІЎКА ж. 1. Абіўка. Ліпляны. 2. Надземная частка зруба ў калодзежы. Тонеж. 3. Абшыўка. Падварак.

ОБГО́НКА ж. Акучнік. Корто́плю обгоня́юць обго́нкой. Маркоўскае.

ОБГЛЯНУЦЬ зак. Прыгледзець. Ты моі́х дзето́к обгля́нь. А я ў Мозырэ́ пуе́ду. Ліпляны.

ОБДЗІ́РОК м. Верхні слой лыка. Зрэж обдзі́рка з лу́та. Данілевічы.

ОБДУЦЬ зак., экспр. Перахітрыць. Такі́ вон мужы́к, шо ба́ба его́ обду́ла. Тонеж.

ОБЕЧА́ЙКА ж. Абечак. З в'я́за на бу́бен ро́бляць обеча́йку, упа́рваюць ее́, а пото́м угіна́юць. Ліпляны.

ОБЕЧА́ЙНІК м. Бондар. Обе́чайнік на бедзе́ прыезджа́ў ко́ліс. Маркоўскае.

ОБЖО́ГА ж. Крапіва. Свіньям обжо́гу ба́бу рвуць. Манчыцы.

ОБІ́-ШЧО займ. Абы-што. Наговоры́ў обі́-шчо і пойшо́ў. Буда-Лельчыцкая.

ОБКОЛОСОВА́ЦЬ зак. Абмалаціць з большага (уручную). Обколосова́ла сно́пу. Данілевічы.

ОБКОЛЯ́ЦЦА зак. Забрудзіцца, запэкацца. Упаў малы́ ў колю́гу і обколя́ўса ўвесь. Лельчыцы.

ОБКОЛЯ́ЦЬ зак. Забрудзіць, запэцкаць. Трэ́бо ж було́ так обколя́ць дзіця́тко. Тонеж.

ОБЛА́ВА ж. Паляванне. Соба́ку не ко́рмяць, як на обла́ву іці́. Ліпляны. Соба́ку на шво́рку – і пойшо́ў на обла́ву. Маркоўскае.

ОБЛЕ́ЗАЦЬ незак. Аблязаць. От со́ўнейка крам обле́зае. Тонеж.

ОБЛЕ́ТОК м. Пералетаваныя дровы. Год лежы́ць обле́ток на дворэ́. До́бра обле́ткі гора́ць. Астражанка.

О́БЛІВЕНЬ м. Абліваха. Зімо́ю о́блівень бува́е. Маркоўскае. У о́блівень у

доро́гу не вубіра́йса. Падварак.

ОБЛО́Г і ОБЛУ́Г м. Аблога. Ко́лісь облóгу давáлі два – тры гóда лежáць і потóм зноў се́ялі. Не́што трэ́бо булó робíць, коб зе́мля не вýчурыласа. Е́то цепе́р удобрэ́нья, а тадэ́й его́ не було́. Маркоўскае. Обло́г гуля́е. Сярэднія Пэчы. Пово́ронае по́ле- е́то ралья́, а нево́ранае – о́блуг. Падварак.

ОБЛОГОВА́ЦЬ незак. Знаходзіцца пад аблогай. Облогу́е зе́мля, кото́ра не пово́рана. Мілашавічы.

ОБМЕРЭ́ЖВАЦЬ незак. Рабіць мярэжку. Плото́чка опле́таюць, обмерэ́жваюць. Ліпляны.

ОБМЕРЭ́ЖКА ж. Мярэжка. Дзеўкі́ плото́чка з обмерэ́жкою ро́бляць. Ліпляны.

О́БМОРОКА ж. Непрытомнасць. От ля́ку і бо́лю о́бморока бува́е. Мілашавічы.

ОБО́ДНІК м. Чалавек, які робіць абады. Обо́дзье робі́лі обо́днікі. Данілевічы.

ОБОДО́К м. Аколышак. Прышы́ў бу ободка́, а то ша́пка на у́хо ле́зе. Маркоўскае.

ОБОЗО́К м. Галлістая сасонка. Пуд е́тым обозко́м гры́ба узяў. Маркоўскае.

ОБО́ІНЫ мн. Вотруб'е. З корто́плею меша́ем обоі́ны свíньям.Падварак.

ОБОЛО́ВА ж. Слаі драўніны паміж карой і стрыжнем. З бо́ку дзе́рава оболо́ва, а посерэ́дзіне – стры́жань. Маркоўскае.

ОБОПНУ́ЦЦА зак. Захінуцца. Мо обопну́ласа б опі́ненкою, бо ве́цер холо́дны. Астражанка.

ОБОПНУ́ЦЬ зак. Захінуць. Хоч бу дзіця́тко обопну́ла: хо́лодно ж на дворэ́. Падварак.

ОБО́РА ж. Хлеў.Това́р у обо́ры стоі́ць. Каліноўка.

ОБОРОЧА́ЦЦА незак. Перакульвацца. У ха́ці одзі́н слон да і той обороча́еццa. Мілашавічы.

ОБОРОЧА́ЦЬ незак. Перакульваць. От у кого́ се́но бу́дзе: цэ́лы дзень во́зіць да оборочáе возы́ коло́ ха́ты. Тонеж.

ОБСЕ́ВОК м. Плех. Як у кого́ обсе́укоў бога́то на по́лі, то говóраць, не ўсе бу́дзе ла́дзіцца по ходзя́йству. Падварак.

ОБЦУРА́ЦЬ зак. Абкідаць. Петле́йку обцура́ць трэ́бо. Тонеж.

ОБЧА́С м. Каблук. Ліхі́ танцо́р так вубіва́е обча́самі по́льку, што дру́гі музы́ка на бу́бні е́того не мо́жа зробі́ць. Данілевічы.

ОБШЛА́ПІЦЬ зак. Абхапіць. Дзе́рэво тако́е то́ўстае, што му насі́лу трох его́ обшла́пілі. Астражанка.

ОВЕ́РШЭК м. Сеткавы конус у венцеры. Ры́ба ідзе́ поўз крыло́ і пупада́е ў ове́ршэк. Як про́йдзе ове́ршка, круго́м гра́е й гра́е ры́ба, а ў ву́зкае ме́сца не пупадзе́. Ліпляны. У тулу́б ове́ршэк уста́ўляецца,коб захо́дзіла ры́ба ў жак. Мілашавічы.

ОВО́Д м. Авадзень. По весне́ комарэ́ нападáе на товáр, а потóмака шчэ ўся́ка мошкарá: оводэ́, слепакі́ і мýхі. Як стáнуць велíкіе дні, камарэ́ і оводэ́ рэ́жуць товáр. Тонеж.

ОВОДОК м. Памянш. да «овод». Оводкá надзяе́м на кручóк. Тонеж.

ОГЛЯ́НУЦЬ зак. Убачыць, заўважыць. Огля́нула мед і прычэпíласа: дай – і коне́ц. Падварак.

О́ГНІВО н. Крэсіва. Дзед берэ́ óгніво, кладзе́ з берэ́вы губý да крэ́ша. Тонеж.

ОГОРО́ДНІК м. Шчыгол. На грýшах огорóднік рóбіць кýбло. Данілевічы.

ОГО́ЎТАЦЦА зак. Супакоіцца. Хоч бу якý мінýту твое́ дзе́ці огóўталіса. Тонеж.

ОГО́ЎТАЦЬ зак. Супакоіць. Не могý нія́к дзе́ці огóўтаць, вішчáць цэ́лы дзень, хоч вýшы колкáмі забівáй. Тонж.

ОГРО́Б м. Труна. Лежы́ць ее чэлове́к у огрóбі, як жывы́. Падварак.

ОГРЭ́БАЦЬ незак. Акучваць. Кортóплю ў нас огрэ́баюць. Тонеж. Дзеўкі́ огрэ́баюць кортóплю. Буда-Лельчыцкая.

ОДГО́Н м. Слабая самагонка. Моя́ ходзя́йка насы́пле чарнíкі ў одгóн да рóбіць вінó, Первáк ідзе́, а потóм тóжэ дóбра горэ́лка і – одгóн. Ліпляны.

ОДЗЁР м. Насціл з дошак вакол дрэва для захавання вулляў ад мядзведзя. Одзе́р дзе́лалі, коб мадзве́дзі ў вýлей не лáзілі. Тонеж. Дзе́лалі одрэ́ кругóм дзерэвíны. Падварак. От мадзве́дзей одрэ́ такіе́ дзерэўя́ные дзе́лалі. Данілевічы.

ОДЗІНІ́ЦА ж. Адзіная дочка. Е́то ж вонá булá моя́ одзініца, а ее́ зобрáлі ў Мозырэ́, і мне зáра кáжан дзень не ся́гнецца. Тонеж. Пудхóдзіць рóдна мáці Сціха пуд оке́нцэ: Лежы́ць моя́ одзініца, Як я́снае сóнцэ. З нар. песні. Там жа.

ОДЗЫ́РЫЦЬ зак.,экспр. Адлупваваць. Ох,зоробля́еш – одзы́ру! Одзы́рыла – як шаўкóвы стаў. Астражанка.

ОДЗЫ́ЧЫЦЬ зак. Пазычыць. Одзы́чыла ў кумý кортóплю, а по вóсені оддáм. Вýмокла на горóдзі ўся моя́ кортóпля. Тонеж. Одзы́чыла ей даўня́шні хлеб. Буда – Лельчыцкая. От і одзы́чыла ж ты мне корковíны – е́сці не мóжно. Маркоўскае. Одзы́ч смáшны хлеб, а вóзьмеш ламая́. Заберажніца.

ОДЗЯНУ́ЦЬ зак. Прыкрыць. Раскры́ўся хлóпец і не спіць, одзянýў его́ – і вон заснýў. Падварак.

ОДЛЕ́ГА ж. Адліга. Дрýгі год одле́гі ўсю зíму немá. Маркоўскае.

ОДМУ́РОК м. Апад. Зберóм пуд я́блоняй одмýркі і свíньям дае́м. Данілевічы.

ОДНА́КІ прым. Аднолькавы. Моцíў у нáшых пе́снях аднáкі. Тонеж. А так прытаíцца хóндзя, і, здае́цца, ее́ немá. Вонá не однáка. Чэмернае. Усе́ кручкі́ однáкіе, іх п'яць штук. Ліпляны.

ОДНА́КО і ОДНА́КОВО прысл. Аднолькава. Му ўдвóх робíлі однáко, а емý бóлей заплацíлі. Тонеж. Мне однáково. Там жа.

ОДНЕ́НЬКІ прым. Адзінюсенькі. Не топí ўсіх коця́ток, одне́нького остáў. Падварак.

ОДНЭКО і ОДНЭ лічэбн. Адно. У цебе дзеці е?- Однэко. Тонеж. Однэ яйцэ з'еў і есці не хочу. Падварак. З однэй воўны шылі світы і андаракі. Ліпляны.

ОДОРА ж. Кароткая папярочная баразна. Вукіну одору да пуеду на обед. Падварак. Шчэ одору отогнаць трэбо. Вусаў.

ОДРЫНА ж. Хлеў. Мой ходзяін вупіў водкі да здурэў: пойшоў у одрыну да лёг пуд бугая. Тонеж. Колісь хаты круглецом робілі,як одрыну. Там жа.

ОДРЫНКА ж. Памянш. да «одрына». На чужом смеццейку куры грабуць, а у свою одрынку яечкі несуць. Тонеж.

ОДЭРОК м. Назва танца. Колісь гралі на музыкох вальц, кроковяку, одэрок, коробочку, яблучко. Лельчыцы.

ОЖАРКІ мн. Урочышча. У старое врэмье обгорэў лес, а тому Ожаркі звуцца. Маркоўскае.

ОЗАДКІ мн. Пазаддзе. Куры озадкі склюють. Падварак.

ОЗАДКОВЫ прым. Задні. Озадково само легчэйшэ зерно. Падварак.

ОЗАДОК м. Зад. У одного чэловека рожа була на озадку – усе штаны мокрые. Да баба два раза спаліла – нема нічога, чысты стаў. Чэмернае.

ОЗЕРО н. 1. Возера. За етым кадоўбом е озеро Круглае. Маркоўскае. 2. Завадзь. Маркоўскае.

ОЗЕРЫНА ж. Невялікае возера, азярцо. Озерына шырока, а мулу ў ёй по самэ колено. Падварак.

ОЗЕРЫНКА ж. 1. Памянш. да «озерына». Шчоб було прадзьво, мочаць коноплю ў озерынках коло рэчкі. Лельчыцы. 2. Падводная ямка. Уваскочыла ў рэчку і не бачыла, што там озерынка. Падварак.

ОЗІЯТ м., экспр. Жорсткі, бессардэчны чалавек. Поставілі етого озіята за брыгадзіра. Озіят вон, а не чэловек! Астражанка.

ОЗОЛКІ мн. Рэшткі попельнага раствору для мыцця бялізны. Шчэ озолкі трэбо вуліць. Тонеж.

ОКАЗЕЯ мн. Непрыемнае здарэнне, непаразуменне. І што за оказея вуйшла! Лельчыцы.

ОКІДЗЬ ж. Першыя веснавыя ападкі ў выглядзе дажджу. Жураўле прылецелі з поўрэ, а окідзі шчэ не було. Данілевічы. На буськó окідзь попала. Там жа.

ОКІЧА – ОКІЧА выкл. Вокліч на гусей. Окіча – окіча! Доха вас озьмі! Тонеж.

ОКО н. 1. Вока. Хто око завідное мае, той і крывуе. Падварак. Ані свету – хоч око колі. Тонеж. 2. Ляток. У вулы для пчолок око робляць. Маркоўскае. 3. Клетачка ў сеткавым палатне. Маркоўскае.

ОКОЛОТОК м. Акалот. Раз снопу колоцілі, то околоток есцека. Падварак. На пудсцел околоток ідзе. Данілевічы.

ОКРАВОК м. Вузкая палоска, выразаная з лазовай ці ліпавай кары. Кроять лозу на окраўкі. Ліпляны. У два окраўкі самы мацнейшы постол.

Порэзаў мой ходзяін холяву на окраўкі, сплёў постолы і носіў цэлу зіму. Данілевічы.

ОКРОМ прын. Акрамя. Мне ніхто не трэбо, окром цебе. Астражанка.

ОКРОП /1/ м. Кіпень. Окропом опару, як прыдзеш другі раз. Падварак. Мочаць плаццье ў жлукці, льюць окропу туда да ідуць праць на рэчку. Ліпляны. Мукі перэтром да сыплем у чавунчык з окропом. Тонеж.

ОКРОП /2/ М. Кроп. У банку кідае ходзяйка окропу, лісту пахучэго і закрывае на зіму. Ліпляны. По садку росце окроп. Падварак. Окроп добаўляецца ў капусту. Мілашавічы.

ОЛЕЙНІЦА ж. Алейня. Колісь олейніцы булі. У олейніцы б'юць олеі. Ліпляны.

ОЛЕКСІН МОСТ м. Урочышча. Колісь му ходзілі з его бацьком за Олексін мост белкі біць. Маркоўскае.

ОЛЕХ м. Альховы зараснік. У олеху травіцка росце. Ліпляны.

ОЛЕХА ж. Вольха. На дрова олеху рубаем. Жмурнае. Колі олеха прокідаецца по груду, урадліва земля. Ліпляны.

ОМУЖАЦЦА зак. Падбадзерыцца. Хлопчакі омужаліса да й пушлі поночы на могліцы. Лельчыцы.

ОНЁ часц. 1. Вунь. Онё ж ларок, поба. Лельчыцы. 2. Няўжо. Онё ты ужэ зробіў столка. Астражанка.

ОПАПОЛОК м. Аполак. З боку дзерэва пілім опаполкі, а посерэдзіне дошкі: сорокоўкі, дваццаткі, трыццаткі. Маркоўскае. Склодом коло одрыны опаполкі. Лельчыцы. Геблом геблуюць дошкі, ушакі, опаполкі. Данілевічы.

ОПЕРЭЗКІ мн. Прыстасаванне ў вулеі для захоўвання пчол ад жаўны. Оперэзкі робляць, коб жаўна пчолы не побіла. Маркоўскае.

ОПЕЧЭК м. Падпечак. Мало хто зарэ робіць дзерэўяны опечэк. Ліпляны. А у опечку е кучка. Сярэднія Печы. На опечэк два брускі ложацца. Данілевічы. Тые разы дзерэўяны опечкі робілі, а цепер кірпічные. Тонеж.

ОПІНЕНКА ж. Вялікая хустка. Моя небога прынесла мне опіненку. Падварак. Обопніса опіненкою: вецер холодны. Астражанка.

ОПЛЕНЬ і ОПЛЕН м. Брус у калёсах, які накладваецца на падушку. Шворном проймаецца оплень і вось дзерэўяна. На навоснік легае оплень. У оплены ўдоўбваюцца ручкі дзерэўяны, а драбіны легають на етыя ручкі. Маркоўскае.

ОПЛІСКА ж. Шыйка стрэльбы. За опліску рукою берэшся, як стрэляеш з рушніцы. Мілашавічы.

ОПЛІСКАЦЬ зак. Папырскаць. Сегоні опліскаў пітоўнік. Тонеж.

ОПОНА ж. 1. Пакрывала. На подушкі опону кладом. Прыбалавічы. 2. Вялікая хустка. Гале, зав'ежы опону, а то замерзнеш. Лохніца.

ОПОР м. Прыдуха, незамерзлае месца ў рацэ. Однажды ішоў чэлавек да усунуўса ў опор і за якую мінуту вукінуў цэлы ворох рыбу. Ліпляны.

ОПОРОК м. Падпорка. Голье ломаецца от яблук, а опоркоў нема.

Данілевічы.

ОПО́РЫШЧЭ н. Апора, дапамога бацькам. Усего́ опо́рышча, шчо вона́ памога́е мне карто́плю ву́капаць. Сярэднія Печы.

ОПО́СЛЕ прысл. Пасля. Нас обкладалі цвёрдым зада́ньем ужэ́ опо́сле. Чэмернае. Пуд трэпа́шку лён ідзе́ опо́сле церніцы. Маркоўскае.

ОПО́ЎЗНІК м. Апоўзіны. На опо́ўзнік руба́юць берэ́зы да клоду́ць его́ на стог, шчоб се́но злегло́са да во́да сце́кала. Опо́ўзнік кладо́м, шчоб ве́цер не ўзрыва́ў се́но. Тонеж.

ОПРЫ́Ш прысл. Асобна. Чого́ е́то ты опры́ш есі́? Падварак.

ОПУ́ГАЦЦА зак., экспр. Сутуліцца. Ва́ся опу́галаса, як свінья́ ў дождзь. Тонеж.

ОПУ́КОЮ прысл. Хутка, імгненна. Ні́на кі́нуласа опу́кою до мене́. Падварак. З пе́чы стары́ зваліўса опу́кою. Астражанка.

О́ПУХ м. Пухліна. Погово́рыць – і о́пух пожане́. Чэмернае.

ОРАТА́Й м. Араты. От ужэ́ ората́й: хо́рошо орэ́. Данілевічы.

ОРОБІ́НА ж. Рабіна. За́ра оробі́ну ў Го́млі сажа́юць, а ў нас ее́ ко́лькі хоч. Маркоўскае.

ОРОБІ́ННА НОЧ ж. Рабінавая ноч. У нас така́ оробі́нна ноч була́, шчо пузаліва́ла курэне́, да́жэ пуд бок пудойшла́ во́да. Тонеж.

ОРО́БКА ж. Рабчык. Са́мо цэ́нно м'я́со ў оро́бкі.Данілевічы.

ОРОБ'Я́ЧЫ прым. Вераб'іны. Сего́ні ороб'я́чэ кубе́льцэ трапі́ла ў ле́сі. Тонеж.

ОРЭ́ХОЎКА ж. Железная набіўка ў калёснай утулцы каля спіц. Орэ́хоўкі ўзбіва́юць, шчоб коло́дка не раско́лвалас. По бока́х уту́лкі набіва́ецца каптурэ́, а да́лей к спі́цам – орэ́хоўкі.Маркоўскае.

ОСА́ДЖВАЦЦА незак. Апускацца, карабаціцца. Пудкле́йку пудшыва́юць, коб холя́ва не оса́джваласа. Ліпляны.

ОСА́ДКА ж. Рамка для карцін, фотаздымкаў. Ві́шала цве́та да оса́дзіла ў оса́дку. Ліпляны. Пупра́ў оса́дку, бо ко́со вісі́ць. Астражанка.

ОСЕЛЕ́НЕЦ м. Селядзец. Такі' на́глы оселе́нец купі́ў, на ўсіх хо́піць як хоч. Жонкі́, оселе́нцы прыв'е́злі ў ла́ўку. Тонеж.

ОСЕЛЁДКА ж. Селядзец. Пупада́е оселёдка некото́ра хоро́шая. Тонеж. Марыну́юць оселёдок з коля́ндрою. Ліпляны.

ОСЕ́ЛІЦА ж. Сядзіба. У ее́ до́бра осе́ліца. Буда-Лельчыцкая. Огородзі́ў собе́ осе́ліцу. Тонеж.

ОСЕ́ЛОК м. Летняя апенька. Му су́шымо осе́лкі. Падварак.

О́СЕМ лічэбн. Восем. За о́сем міну́т ва́жко оску́бсці о́сем кур, а я е́то зробі́ла. Тонеж. О́то шырына́: бу́дзе о́сем па́сам. Там жа.

ОСЕ́СЦІ зак. 1. Апусціцца ўніз пасля частковага згарання ( пра дровы). Як тро́шачку дро́ва осе́лі, ста́ўляць ско́вороду з карто́пляй і ву́скаркамі. Тонеж. 2. Надціхнуць, супакоіцца (пра дождж). Дождзь тро́хі осе́ў. Мо пого́да бу́дзе? Тонеж.

ОСІ́НОВІК м. Падасінавік. Набра́ў одны́х осі́новікоў. Вусаў.

ОСКЕ́РВАЦЦА незак. Натапырвацца, ашчаціньвацца. Соба́ка аске́рыўса – беры́ колка́. Падварак.

ОСЛО́Н м. Услон, лава. Ся́дзь на осло́н, ку́мо, раскажы́, шо ты купі́ла ў ла́ўцы. Жмурнае. Поло́ж трэпа́шку на осло́н. Вусаў.

ОСМЕРКА́ЦЦА незак. Змяркацца. Ужэ́ осмерка́лоса, як я прые́хаў з ле́су. Маркоўскае.

ОСМЕ́РКНУЦЬ зак. Змеркнуць, сцямнець. Пока́ капу́сту похоро́шыла, то осме́ркло. Лельчыцы.

ОСМІ́НА ж. Трохпудовая бочка. Намолоці́ў тры́ццаць осмі́н і шэсць ра́жок пшэ́ніцы. Данілевічы.

ОСМО́Л м. 1. Смолісты кавалак сасны. На лучы́ну ске́паем осмо́ла. Данілевічы. На сосне́ со́хне ме́сто, і та́мака осмо́л бува́е крэ́пко смо́лны. Ліпляны. 2.Урочышча. Осмо́л-е́то ме́сто таке́ ў нас е. Тонеж.

ОСОБЛІ́ВО прысл. Асобна. У нас боршч і капу́ста ро́бляцца особлі́во. Ліпляны.

ОСО́КА ж.1. Асака. А на лугу́ росце́ ве́зель, осо́ка, тата́рнік. Ліпляны. 2. Сена горшага гатунку. Е се́но осо́ка, по́плоў і кругля́к. Тонеж.

ОСТО́ПОК м. Зношаны абутак. Дай хоць осто́пка, коб дзень походзі́ць. Данілевічы. Лю́дскіе осто́пкі ў во́йну збірала. Тонеж.

ОСТРО́ВА ж. Прылада для падглядвання пчол на дрэве. Остро́ва – букнове́нное дзе́рэво з одру́бленымі голі́намі. Ста́ўляць велі́ку остро́ву да пчо́лок гледзя́ць. Лельчыцы.

О́СТРОЎ м. Узвышанае месца сярод балота. Дзе о́строў, там грудо́к з ле́сом, а круго́м боло́то. Крамка́ч одзі́н мо ты́жні два жыў на е́том о́строві. Тонеж.

ОСТРОВО́К м. Памянш. да «о́строў». Увелі́кім боло́ці това́р пас на остроўку́. Маскоўскае.

О́СТУП м. Найбольш густы ўчастак лесу. Ву́біў у о́ступі ко́пу се́на. Буда – Лельчыцкая.

О́СЦІ мн. Восці. На перэмі́лох ко́люць осця́мі язё́ў. Маркоўскае. З осця́мі ло́ўляць ры́бу ве́чэром з огне́м, е́здзяць ло́дкою або зака́чваюць коло́шы по коле́но і бро́дзяць. Мілашавічы.

ОТБО́РНІК м. Рубанак для выемкі фальца прамавугольнага сячэння. Данілевічы.

ОТКІ́ДКА ж. Частка поля, прыаранага да загона. Ву́кіну е́ту откі́дку і пое́ду обе́даць. Вусаў.

ОТЛІ́Ў м. Карніз. Отлі́ва ро́бляць з коро́ценькіх до́шчэк. Ліпляны. Зробі́ў за́шчыта, а отлі́ва шчэ на́до зробі́ць. Сярэднія Печы. З отлі́ва ідзе́ во́да до до́лу. Падварак.

ОТМА́НЬВАЦЦА незак. Ухіляцца ад працы. Не отма́ньвайса от роботы – не до́брэ. Астражанка.

ОТОЧЫНЫ мн. Свіное нутраное сала з кішок. З кішок сало звом оточыны. Маркоўскае.

ОТРЭПКІ мн. Кастрыца. Лён трэпаюць – отрэпкі лецяць. Данілевічы.

ОТХОЛОДАЦЬ незак. Астуджваць. Сыродой постоіць і отхолодае. Данілевічы.

ОТЧАЎЛІВАЦЬ зак. Выціскаць. Кісляк отчаўліваем у осковіку да сыра робім. Тонеж.

ОТШЧЫКНУЦЬ зак. Адшчыпнуць. Гороб'е отшчыкнуць вішню, а каменьчыка падае до долу. Тонеж.

ОТЭКА часц. Вунь, от. Отэка лаўка. Астражанка. Отэка й госці прышлі. Там жа.

ОЎДОД м. 1. Удод. Оўдода трапіла ў лесі. Канаполька. 2. Перан. Някемлівы чалавек. Холера з етым оўдодом, што людске зробіш. Канапелька. От рассмердзеўса, як оўдод. Там жа.

ОЎЁХ м. Травяністая расліна. Як скоціна схваціць оўёха, сразу й перэкінецца. Колі вусохне, оўёх урэда не прыносіць. По цех корчох оўёх е. Тонеж.

ОХНАЛЬ м. Плоскі цвік для прымацавання падковы. У лаўцы колісь прадавалі охналі. Маркоўскае.

ОЦІРА ж. Амецце. От сухого сена оціры богато. Салагубаў.

ОЦІРАЦЦА незак. Бадзяцца. Чого ты тут оціраешса кажан дзень? Астражанка.

ОЧКУР м. Рэмень. Шчэ пусвішчы – очкура дам. Прыбалавічы.

ОЧОМАЦЦА зак. Прыйсці ў сябе пасля сну. Сохвейко, пудождзі: ніяк шчэ не могу очомацца.

ОШЧЭП м. Бярвяно, на якое кладзецца брус. На ошчэп трэбо пудобраць полено. Падварак.

ОШЫВАНОЧКА ж. Травяністая расліна. Ошываночкой б'юць дзеці, як воны не слухаюцца. Лельчыцы.

ОШЫЦЬ зак. 1. Пабіць. Лельчыцы. 2. Ахапіць. Пудышла к могліцам, як ошые мене спуд. Падварак.

## *П*

ПАВА ж. Паўлін. Я паву корміла ў пана ў наймічкох. Хвост у ее, як колесо. Мілашавічы. Нема красівейшэго нічого за паў. Ліпляны.

ПАДЗЬ ж. Мядовая раса на лісцях дрэў, траў. Дзе е падзь, там пчолкі летаюць. Маркоўскае.

ПАДЛО н. 1. Падла. У лесі падло воніць. Падварак. 2. перан. Лянівы, нікчэмны чалавек. Говораць падло на любого гадкого чэловека. Сярэднія Печы.

ПАДЫСПАН м. Назва танца. Дзеўкою я лоўко танцэвала падыспана. Ліпляны.

ПАЗ /1/ м. Прарэзаны раўчук у бервяне ці дошцы. Прыв'ёз дзе́рэво на ўшу́ло. А як паз вы́браць? Падварак. У стоўбца́х ро́бляць пазы́. Данілевічы.

ПАЗ /2/ м. Скачок зайца ўбок, каб заблытаць сляды. За́яц паз ро́біць. Як плы́гне вон от того́ сле́ду ў бук. Ліпляны.

ПА́ЗІК м. Памянш. да «паз /1/». Як хто стро́іць бурка́н, то дзе́лае па́зікі ў вушако́х. Тонеж.

ПАЗУ́Р м. Падногаць. Стрэ́мку ў пазу́р зобіў. Буда-Лельчыцкая. Се́ння такі́ моро́з, што рукі зайшлі́ ў пазурэ́. Лельчыцы.

ПА́ЙКА ж. Частка сабранага ўраджаю. Як хто на па́ньской зе́мле робіў, то дзве па́йкі па́ну отдава́ў, а одну́ собе́ браў. Маркоўскае.

ПА́ЛАЦ м. 1. Палец. Два па́лцы ўклаў у рот да сві́снуў. Тонеж. У ста́рым ча́се кіта́йку ткалі на тры па́лцы. Ліпляны. 2. Драўляны калок для замацавання бярвенняў, дошак. У стоўбца́х вубіра́юць па́лцы. Данілевічы.

ПА́ЛЕЧНІК м. Дзірка ў дудачцы для выхаду паветра. На п'яць – шэсць па́лечнікоў ду́дку робі́лі. Ліпляны.

ПАМЕТКА́ЦЬ незак. Запамінаць. Вона́ ж слу́хае і ўсе паметка́е. Тонеж.

ПА́МОЛОДЗЕНЬ м. Парастак. На ка́жным па́молодні помідо́р. Як уро́дзяць, іх бува́е мо́рэ, а як не ўродзяць, п'яць-шэсць. Е́то ж як на ік год. Будылі́на пуска́е па́молодзень. Ліпляны.

ПАНЧО́РКА ж. Падчарка. Ужэ́ й панчо́рку за́муж отда́ў. Падварак. Раз не твой сын, то па́сынак , а дочка – панчо́рка. Тонеж.

ПА́НЬКА ж. Лужа, ямка ў балоце. Не е́дзь тудэ́й: там па́нька. Не́калі во́зеро було́, кошэ́ кла́лі, а сего́ні воно́ заплыло́, і то́лько па́ңькі зоста́ліса. Чэмернае.

ПАПУ́ША ж. Звязаны пучок тытуну. Стары́е лю́дзі сло́жвалі цюцю́н у папу́шы. Ідзі́ папу́шу цюцюну́ озьмі́. Тонеж. На ні́точку наніжэ цюцю́н, звя́звае его́ ў папу́шу. Мілшаавічы.

ПАР м. Зябліва. Пуд па́ром зе́мля ўвамле́е і лу́чшы ўрожа́й дае́. Падварак. Пар ужэ́ буў пудво́раны. Маркоўскае.

ПАРАНІ́НА ж. Зябліва. На параніне – това́р ве́льмо до́брэ есць траві́цу. Тонеж.

ПАРНІ́ЦА ж. Маленькая чорненькая мурашка. Парні́цы на со́сну з ву́льем лёзуць і прогоня́юць пчол, броса́юць воны́ ву́лей і мёд. Коб парні́цы на со́сну не ле́злі, пудво́дзілі велі́кіе мура́шкі альбо́ дзе́гцем обма́звалі со́сну. Тонеж.

ПАРНО́Е МОЛОКО́ н. Сырадой. Глады́шку ву́піў парно́го молока́ і ро́біць цэ́лы дзень. Падварак.

ПАРВІ́К м. 1. Паравоз. Ні́як не прыста́в'яць е́ты парові́к на ста́нцыі. Ліпляны. 2. Паравы млын. На парові́ку заво́знікоў було́ бага́то. Маркоўскае.

ПАРО́НІК м. Бульбіна, спараная ў лушпайцы. От коб за́ра за́холоду з паро́нікамі. Заберажніца.

ПАРО́НКА ж. Бульбіна, спарная ў лушпайцы. Хі́ба ж воны́ паро́нкі бу́дуць е́сці сего́ні, ім усе́ з ла́ўкі подава́й. Чырвонабярэжжа. Присга́ў паро́нак

чаву́нчык. Падварак. Мо ты ўжэ паро́нкі зварыла? Сярэднія Печы. Пастуха́м паро́нок наварыла, яёц наспуска́ла на ско́вороду. Лельчыцы.

ПАРО́ЎКА ж. Паляўнічая стрэльба з двума стваламі. Озьмі́ паро́ўку, а мне дай вола́. Ліпляны.

ПАРЫ́ЛЬНІК м. Прас. Пары́льнік ве́льмо заржаве́ў – трэ́бо об пудло́гу поце́рці. Дзяржынск.

ПАС /1/ м. 1. Церассядзёлак. Пас берэ́ за огло́блі. Маркоўскае. 2. Папруга. Чэмернае.

ПАС /2/ м. лесапл. Некалькі звязаных плытоў з бярвенняў для сплаву. Два́ццаць-тры́ццаць пле́ніц звом па́сом. Погна́лі, ка́гуць, лес па́сом. Лельчыцы.

ПАСАЖЫ́Р м. Аўтобус. Пуйшо́ў ужэ́ сего́ні пасажы́р. Падварак. Дай, дзе́ткі, мне біле́та, бо ўжэ пасажы́р прышо́ў. Чырвонабярэжжа.

ПАСАЖЫ́РКА ж. Аўтобус. Прышла пасажы́рка, а я шчэ біле́та не ўзяла́. Вусаў.

ПАСАЦІ́ЖЫ мн. Пласкагубцы. Гвозд пасаці́жамі вура́ўніваць до́брэ. Пасаці́жы з плеска́тымі зубка́мі. Буда – Лельчыцкая.

ПА́СЕКА ж. 1. Пасека. На па́сецы глады́шку мулін набра́ла. Тонеж. 2. Пчальнік. Маркоўскае.

ПА́СЕЧНІК м. Пчаляр. За́ра ўжэ па́сечнікоў не бога́то на селе́. Тонеж.

ПА́СКА ж. Велікдзень. Сем ты́жнаў по́сту, а там Па́ска, і мо́жно е́сці ўсе скоро́мное. Тонеж.

ПА́СМА ж. Мера шырыні саматканага палатна. О́то шырына́: бу́дзе о́сем па́сам. По тры ні́ткі дзе́сяць раз гу́ртом зове́цца па́сма. Тонеж.

ПА́СОК м. Церассядзёлак. На ку́льбочку па́сок наклада́ецца. Тонеж.

ПА́СЦІЦЬ зак. Пасвіць. Дзе́дко, я бу́ду помога́ць цебе́ волы́ па́сціць. Маркоўскае. Я робі́ла, як чо́рны вол, і ове́чкі па́сціла і курэ́й гледзе́ла ў кура́тніку. А за́ра попро́сіш хлопчака́ пасці́ць това́р, а вон гово́рыць: «Ай, не хочу!». Тонеж.

ПА́СЫНОК м. 1. Парастак. Зруба́юць дзе́рэво, а знізу іду́ць па́сынкі. Знізу кру́глы леча́й, як коча́лка, а разро́стаецца вон у тры - чэты́рэ па́сынкі. Тонеж. У поміда́рніку па́сынкі іду́ць сотсю́ль і сотсю́ль. Ліпляны. 2.Нярodны сын. Раз не твой сын, то па́сынок, а до́чка – панчо́рка. Тонеж. Свое́ до́чкі шкодне́й а па́сынка ка́жан дзень гоня́е това́р па́сціць. Падварак.

ПА́СЫНОЧЭК м. Памянш. да «пасынок». Ско́лько па́сыночкоў у рого́х ко́зла, сто́лько ему́ лет. Данілевічы. Е́то ж ее́ па́сыночэк, такі́ дола́дны хлопча́к. Падварак.

ПА́ХОНЬ ж. Ралля. На па́хонь отводзі́лі п'яць дзесяці́н. Тонеж.

ПА́ХОР м. Земляроб, араты. Па́хор ворэ́ по́ле. Ліпляны. По городо́х поўезжа́лі па́хоры. Падварак.

ПА́ХОТ м. Пах. До́чка нава́рыць кортóплі з лі́сцейком петру́шкі – па́хот, нема́ от'едзе́ння. Ліпляны.

ПА́ХОЦЬ ж. Ралля. На па́хоці ўжэ траві́цка ву́росла. Тонеж.

ПАХЦІ́ незак. Пахнуць. Як не бу́дзе воні́ць, так не бу́дзе пахці́. Чарну́шка пахне́ ў хле́бі хо́рошо. Тонеж.

ПА́ЦІК м. Парася. Як свінье́ малэ́, зово́м іх па́цікі. Тонеж.

ПА́ЦІК – ПА́ЦІК – ПА́ЦІК! выкл. Вокліч на маленькіх парасят. Ох, до́ха на вас нема́! Куды́ – назад! Па́цікі – па́цікі! Тонеж.

ПАШНЯ́ ж. 1. Засеянае поле. Ороб'е́ нападаюць на пашню́. Тонеж. 2. Зерне. У ка́доўб сы́палі пашню́. Ліпляны.

ПЕ́КЦІ незак. 1. Пячы. Пеко́м свой хлеб, а вон бува́е глейкі, цягнецца так. Тонеж. Коржэ́, пампу́шкі на бля́сі пеко́м. Там жа. У хо́рмі пе́кці хлеб так до́брэ. Астражанка. 2. Жарыць. Яку́ ты коўбасу́ пекла́? – Крыўя́ну. Тонеж. 3. экспр. Скакаць. Мой ходзя́ін як до́брэ нап'е́цца, так печэ́ по́льку. Тонеж. 4. экспр. Біць. Як ста́не пе́кці лошы́ца нога́мі, зу́бу пувубіва́е. Тонеж.

ПЕЛЕНА́ ж. Падол, прыпол. Нарву́ шчаверцу́ хоч у пелену́ да боршч звару́. Тонеж.

ПЕЛЕНІ́ЦА ж. Спечаная дамашняя булка хлеба. Доро́га дале́ка – озьмі́ пелені́цу. Падварак.

ПЕЛЕСКА́ЦЦА незак. Паласкацца. Не пелеска́йса ў сыровотцы. Лельчыцы.

ПЕЛЬ ж. 1. Нізкае балоцістае месца сярод поля. Там, у пе́лі, накосі́ў се́на. Маркоўскае. Круго́м по́ле, а пель у серэ́дзіне. Мілашавічы. 2. Палонка. Зімо́й з пе́лі бра́лі во́ду да това́р поі́лі. Тонеж.

ПЕ́ЛЬКА ж. Памянш. да «пель» у другім значэнні. Рыболо́ві просе́каюць у лёдзі пе́льку і ры́бу ло́ўляць. Маркоўскае.

ПЕЛЮ́СТКА ж. Капусны ліст. Нарві́ пелю́сток да дай коро́ві. Пелю́сткі до́брэ й целя́ есь. Астражанка.

ПЕНЕ́ЧЭК м. 1. Пянчук. Пуса́дзіць дзі́чку, по́тым ву́рэжэ з я́блоні голі́нку, пене́чка роско́ле, затыкне́ пене́чка і обма́жэ во́ском. Тонеж. 2. Іржышчына. З ржы на по́жні стоя́ць пене́чкі. Тонеж. Нарва́лі пене́чкоў коро́ві на пудсцёл. Ліпляны.

ПЕРВА́К м. 1. Першая самагонка з катла. Перваќом наці́раюцца. Перва́к ідзе́, а пото́м то́жэ до́бра горэ́лка і адго́н. Ліпляны. 2. Першы рой пчол. Маркоўскае.

ПЕРВОЦЁЛКА ж. Карова першым целем. По пе́рвой па́шы целя́тко зово́м первоцёлка. Тонеж. У соўхо́зі е цэ́лэ ста́до первоцё́лок. Астражанка.

ПЕ́РВЫ РОГ м. Урочышча. Первы Рог буў казённым ле́сом. Маркоўскае.

ПЕРГА́ ж. Пылок, перамешаны з мёдам; соты. Молоды́е пчо́лы пергою ко́рмяцца. У пергі́ пчо́лка отла́жвае яі́чко. Вона́ на его́ се́дае і вугрэва́е. Ліпляны.

ПЕ́РКАЛЬ м. Паркаль. Пума́зала ха́ту, і вона́, як пе́ркаль, ста́ла. Ліпляны. Дзеўкі́ на́меткі з пе́ркаля ро́бляць. Тенеж.

ПЕРО́ н. 1.Лускавінка ў шышцы. Зобі́ў дзяцел шы́шку ў коло́нку і вудо́ўбвае зе́рнетко пуд ка́жным перо́м. Тонеж.2. Сцябло цыбулі. У во́ду ходзя́йка кі́дае кроп, пе́р'е цыбу́лькі, сы́пле соль – і росо́л гото́ў. Тонеж.

ПЕРСА́ ж. зборн. Пілавінне, апілкі. Стаха́ноўка (пілка) вукі́двае персу́. Данілеві́чы.

ПЕ́РСЦІ мн. Грудзі ў каня, персі. Е́то ж так наму́ліў пе́рсці лошы́цы за яку́ міну́ту. Данілевічы. К пе́рсцям пудхо́дзіць по́тнік. Падварак.

ПЕ́РЫЦЬ незак., экспр. Танцаваць. От ужэ́ пе́рыць по́льку, аж і́скры сы́плюцца. Астражанка.

ПЕРЭБІРА́НКА ж. Суконная посцілка. Ко́лісь дзеўкі́ ноча́мі не спляць, а ўсе́ е́тые перэбіра́нкі ткуць. Тонеж.

ПЕРЭБО́Р м. Зборка ў адзенні. З то́нкого полотна́, бува́ло, ро́бляць заві́вало з перэбо́рамі. Тонеж.

ПЕРЭБРО́СКА ж. Блузка. О, уге́ ж хороша́ ў цебе́ перэбро́ска. Прыбалавічы.

ПЕРЭБУ́ТЛЕВА́ЦЬ зак. Згнісці. Перэбутлева́лі шну́ркі. Падварак.

ПЕРЭВЕ́СЦІ зак. Сапсаваць. Ты мне перэвёў соке́ру. Падварак.

ПЕРЭВО́ЙНІК м. Скручаныя галінкі для прывязвання, замацавання чаго – небудзь. Як плот ро́бім, вуруба́ем ло́зу і перэвіва́ем перэво́йнікам, поло́жымо его́ на жэ́рдкі і зноў перэвіва́ем. Ліпляны.

ПЕРЭГНУ́ЦЦА зак. Сагнуцца. Перэгну́цца не мо́жно, як наесі́сь. Падварак.

ПЕРЭГНУ́ЦЬ зак. Сагнуць. Коб перэгну́ць дубе́ц, трэ́бо его́ до́ўго па́рыць. Падварак.

ПЕРЭГО́НЕНЫ дзеепрым. Перагнаны (пра каня). Колі́ пе́на ву́ступіла, то ўжэ лошы́ца перэго́нена. Падварак.

ПЕРЭГО́НКА ж. Абгон. Мой братко́ купі́ў мацыкле́т, ты́жні два хо́рошо е́здзіў, а пото́м перэго́нку робі́ў і розбі́ўса насме́рць. Мілашавічы.

ПЕРЭ́ГОРОДА ж. Перагародка. А перэ́города була́ край дзерэ́ўні. Ліпляны.

ПЕРЭ́Д /1/ м. Саюзка. Ву́сцілкі перэ́д дзе́ржаць у чо́ботох. Маркоўскае. 2. Пярэдняя частка воза. Разво́ра дзе́ржыць перэ́да й за́да во́за. Маркоўскае.

ПЕРЭД /2/ прысл. Спачатку. Перэ́д ста́ўлялі то́ка, а тогды́ ха́ту. Сярэднія Печы.

ПЕРЭДВОРО́ТНЯ ж. Месца каля варот. Ко́лісь булі́ ба́бу, шо ма́ком перэдворо́тню перэсыпа́лі, коб ве́дзьма ў одры́ну не тра́піла. Пока́ вона́ перэсчыта́е е́ты мак, разві́днее. Тонеж.

ПЕРЭДО́ЙКА ж. Ялаўка. Год коро́ва перэдо́йкою хо́дзіць. Мілашавічы.

ПЕРЭКІ́ДАЦЬ зак. Падвярнуць сена. Пуйшла́ б да перэкі́дала ру́чкі, хай со́хне се́но, пока́ пого́да стоі́ць. Мілашавічы.

ПЕРЭ́КЛАДА ж. Перакладзіна. На по́да ста́ўляцца чэты́ры но́жкі, а на іх перэ́клады. Мілашавічы.

ПЕРЭКО́ПІШЧЭ н. Поле на якім другі раз выкапана бульба. Шчэ на перэко́пішчы накопа́ла свет корто́плі. Тонеж.

ПЕРЭКРЭ́СТОК м. Скрыжаванне дарог. Мо б ты, Ко́ля, стаў на

перэкрэ́стку ў Дубніцке? Данілевічы.

ПЕРЭЛО́Г м. Чорт (у праклёнах і пагражальных выразах). Яко́га перэло́га ровеш! Ідзі́к перэло́гу, а я з дзе́цьмі бу́ду. Тонеж.

ПЕРЭЛЯ́К м. Страх. От перэля́ку беркулёз бува́е. Данілевічы.

ПЕРЭМІ́Л м. Мелкае месца на рацэ ці возеры. На перэмі́лі мулькі хо́дзяць, як чо́рная хма́ра. Ліпляны. На перэмілох ко́люць осця́мі язёў. Маркоўскае.

ПЕРЭМО́ТА ж. Перамотка. Наро́біць дру́га жо́нка перэмо́т, як сну́е кро́сна, да пото́м раскі́дае іх. Тонеж.

ПЕРЭПЕ́ЎКА ж. Запявала. За перэпе́ўку мене́ пуста́вілі ў гу́рці жано́к. Тонеж.

ПЕРЭПОТРОВА́ЦЬ зак. Перасыпаць з мэтай рамонту. Я стары́ ву́кінуў плот да перэпотрова́ў его́, і вон як но́вы зробі́ўса. Падварак.

ПЕРЭРО́ЎЬ м. Урочышча. У Перэро́ві грудо́ва трава́. Тонеж.

ПЕРЭСЕДЗЕ́ЛЬНІК м. Церассядзёлак. Не пудвя́звай перэседзе́льніка так вусо́ко. Чамернае.

ПЕРЭСЕ́КАЦЦА незак. Перасякацца. На дзве ха́ці ка́нею домо́к перэсе́каецца. Сярэднія Печы.

ПЕРЭСМО́Л м. Асмол. З перэсмо́ла лучы́на жо́ўтая. Тонеж.

ПЕРЭТО́П м. Ператопленае сала з мясам. Пуджа́р корто́плю на перэто́пі. Астражанка.

ПЕРЭЦЯ́ЖКІ мн. Новыя саюзкі, прышытыя да старых халяў. Данілевічы.

ПЕРЭШЧУ́К м. Дождж з перапынкамі. Колі́ ўжэ су́пыніцца е́ты перэшчу́к? Падварак.

ПЕРЭШЧЫ́КАНЫ дзеепрым. Перашчыпаны, сціснуты. У то́чкі гало́ўка соўсі́м перэшчы́каная. Маркоўскае.

ПЕСКО́ВЫ прым. Пясчаны. Е́то ж песко́вы грудо́к. Падварак. Ры́жа песко́ва зе́мля пусце́нька. Тонеж.

ПЕТА́ ж. Задняя частка тапара. Як даў об сук – пета́ ў соке́ры полеце́ла. Данілевічы.

ПЕТЛЕ́ЙКА /1/ ж. Пятліца. Трэ́бо обцура́ць петле́йку. Ліпляны.

ПЕТЛЕ́ЙКА /2/ ж. Пятля. Пайшо́ў е́ты чэлове́к у хлеў, нацапі́ў воро́ўку і ўлез акра́з у петле́йку. Ліпляны.

ПЕТНА́ЦЦАТКА ж. Дзяўчынка. На музы́кі прышло́ шэсць петна́ццаток і адзі́н хлопча́к. Буда-Лельчыцкая. Погодова́ла дзе́ці, а бе́гае, як петна́ццатка. Тонеж.

ПЕТРО́ВІЦА ж. Пятроўка. На Петро́віцу са́ма хоро́ша пого́да бува́е. Петро́віца высуша́е рэ́кі, а Спа́саўка – мора́. Тонеж.

ПЕ́ТРЫК м. Божая кароўка. У пе́трыка не відно́ но́жэк. Падварак. Пе́трык не ўрэ́дны, вон по́рчы не ро́біць. Маркоўскае. Гледзі́ – пе́трык поўзе́. Сярэднія Печы.

ПЕ́ЎНІКІ мн. Травяністая расліна. Пе́ўнікі цвіту́ць, як сі́рэнь, у горо́дзі над ву́ліцэю воны́ росту́ць, а лі́сцейко дола́дное ў іх. З лёду пе́ўнікі цвіту́ць, цвето́к у

іх голубы́ і ў серэ́дзіне жо́ўценькі. Па́раць пе́ўнікі да даю́ць, як руба́шка веліка́ ў жо́нкі. Ліпляны.

ПЕХО́ТКА ж. Гатунак фасолі. Пехо́тка кусто́м росце́. Данілевічы. Е пехо́тка чо́рна, бе́ла і раба́. Тонеж. Тычко́ва пехо́тка ўе́шца на па́лкі. Ліпляны.

ПЕХОТО́М прысл. Пешкі. Пехото́м я не прыду́, бо на протэ́зі хожу́. Тонеж.

ПЕЧАЯ́ ж. Пякотка. Як печая́ быва́е, то печэ́ пуд грудзьмі́, а пото́м ро́біцца одры́жка. Ліпляны.

ПЕЧКА́Р м. Пячнік. Коб печка́р дола́дны буў, мо зробі́ў бу до́бра пе́чку. Тонеж.

ПЕЧКУ́Р /1/ м. Назва рыбы. Печку́р на жыўцэ́ до́брэ берэ́цца. Данілевічы.

ПЕЧКУ́Р /2/ м. Назва птушкі. Печку́р ку́бло дзе́лае, як пе́чку. Данілевічы.

ПЕЧО́НІК м. Спечаная бульбіна. Ну й нае́ласа ў ахво́ту. Забераўжніца. Му сего́ні печо́нікі пеклі́. Ліпляны.

ПЕЧО́НКА ж. Спечаная бульбіна. Як корто́плю копа́ем, печо́нкі пеко́м. Ліпляны.

ПЕЧО́РА ж. Ямка ў рацэ, вымытая вадою. У печо́ры нашчу́паеш ра́каў да на бе́рэг ву́кінеш. Маркоўскае.

ПЕЧО́РКА ж. Памянш. да «печо́ра». Воно́, коне́чно, ву́муло ты́е печо́ркі. Ліпляны.

ПЕШАКО́М прысл. Пешкі. Берэ́ чэлаве́к па́ры дзве постоло́ў і пешако́м ідзе́ до Ту́рова. Тонеж.

ПЕ́ШНЯ ж. 1. Пешня. Лёд пробіва́юць пе́шняй, як вон то́ўсты. Ліпляны. 2. Прылада, якой выдзёўбваюцца пазы, калоды. Пазы́ вубіра́юцца ра́ньшэ соке́рой, а пото́м пе́шняй. Пе́шня вука́лвае ўсе. Данілевічы. Ву́лья ро́бляць пе́шняй. Ліпляны. Пе́шня го́страя. Маркоўскае.

ПІГА́РКА ж. Падгарэлая тонкая плевачка на малаце. Ліпляны.

ПІГО́ЛІК м. Маленькі гаршчок. Звары́ ў піго́ліку суп. Буда-Лельчыцкая. Піго́лікі ста́ўляць у кобу́шэчках. Ліпляны.

ПІ́НІНКА ж. Вялікая шарсцяная хустка. Як хо́лодна ста́не, жонкі́ пінінкі но́сяць. Сярэднія Печы.

ПІРСА́ ж. Пілавінне. Пірсу́ сы́плюць на хаты́. Як цынку́ем хаты́, то пірсу́ сы́плем у песо́к і ў глі́ну. Данілевічы. На пудсцёл пірсу́ беру́ць. Лельчыцы.

ПІСТОНО́ЎКА ж. Паляўнічая стрэльба, якая зараджваецца пістонамі. У пістоно́ўцы патро́нов нема́. Маркоўскае.

ПІСЯГ м. Сіняк. Жано́чкі, глянтэ, як вон мэнэ́ зобі́ў – уся́ спіна́ ў пісяга́х. Жмурнае.

ПІТО́ЎНІК м. Гадавальнік. Опліскаў сего́ні піто́ўніка. Тонеж. Ко́ло Слободы́ е піто́ўнік. Там жа.

ПІТУ́ЛЬКА ж. Газоўка. У сцёпцы піту́льку ста́ўляць. Тонеж.

ПЛАВА́К м. Плытнік, плытагон. Бува́ло, кобано́ў накупля́юць, прыво́зяць іх на Ру́дню і ва́раць для плавако́ў, Тонеж. Плавакі́ пуста́ўляць бон – і лес

забонýецца. Лельчыцы.

ПЛА́ВІЦЬ незак. Сплаўляць. До тогó лесý Муцьвíца ідзé, а там волóкамі кóлісь лес плáвілі по ей. Тонеж.Топлякі'вуцягáюць, сýшаць і потóмака плáвяць. Лельчыцы.

ПЛАМЕ́ТНО прысл. Запальчыва. От ужэ́ пламетнó говорыў éты чэловéк. Падварак.

ПЛАМЕ́ТНЫ прым. Запальчывы. Ой, пламéтнэ якэ́! Вонó ж дурнэ́, пламéтнэ. Падварак.

ПЛАН м. Геаграфічная карта. Éто ж рэкá Мульвíца, вонá на плáні е. Тонеж.

ПЛАСЦІ́НЧАТЫ прым. Пласцінaчны. Я пласцíнчатым свéрдлом на пілорáме поўзуны́ роблю́. Данілевічы.

ПЛАЎ м. Дрыгва. Пупадзéш, бувáла, у плаў, то й не вýлезеш, як хто не помóжэ. Ліпляны. Стáнеш у плаў – по бокáх усхóпваюцца ўздýхі. Данілевічы.

ПЛА́ЎНІК м. Травяністая расліна. Плáўнік – мя́кка травá. Чэмернае.

ПЛА́ХА ж. Плашка. Промíж ушýлами плáхі закíдаюцца. Ліпляны.

ПЛАЦЬЕ н. 1. Сукенка. Не вýцвіло плáцье, а пулéзло. У нáшай мáцеры булі' плáцья, шо й ног не віднó. Тонеж. 2. Бялізна. Мóчаць плáцье ў жлýкці, льюць окрóпа тудá да ідýць праць на рэ́чку. Ліпляны. Плáцья богáто грáзного назбíралос. Астражанка.

ПЛЕ́НІЦА ж. лесаспл. Некалькі бярвенняў, звязанных для сплаву. Плыт і плéніца однэ́. Двáццать-тры́ццать плéніц звом пáсом. Погнáлі, кáгуць, лес пáсом. Лельчыцы.

ПЛЕСКА́ТЫ прым. Плоскі. Пасацíжы з плескáтымі зубкáмі. Буда-Лельчыцкая. Ета квасóля такá плескáта, вонá крáсненькім цвéтом цвіцé. Тонеж.

ПЛЕ́СНЯ ж. Цвіль. Як недосóл, ця́гнецца расóл з плéснею ў гуркáх. Ліпляны. От плéсня зацéгла капýсту. Падварак.

ПЛЕ́СО н. Плёс. На плéсі рыбý наловáў. Чэмернае.

ПЛЕ́СЦІ незак. 1. Плесці. Трэ́бо ўжэ ворóўкі плéсці. Тонеж. 2. Вязаць. Руковíцы плетóм кручкóм. Ліпляны. Кручкóм зýбу, рóсшэўкі, руковíцы плетóм. Тонеж.

ПЛЕ́ЦЕНА ж. Аплеценая бутля. Чогó ж ты плéцена не прынéс? Чырвонабярэжжа.

ПЛЕ́ЦЕНКА ж. 1. Кашель. Сегóні двáццать плéценок кортóплі накопáла. Чырвонабярэжжа. 2. Заплеценыя дзявочыя косы. Не рэж, А́нько, кóсы. Заплецéм плéценку – во бýдзе красíво. Чырвонабярэжжа. 3. Булка. У лаўцы е дóбрые плéценкі, свéжые, з мáком. Хай бу ты, унýчко, купíла. Чырвонабярэжжа.

ПЛЕШ м. Агрэх. Як éто ты сéеў, шо плешóў богáто на пóлі? Падварак.

ПЛОВУНЫ́ мн. Прылада для лоў лі рыбы. Два вóлокі éсця: брэ́дні вóлок і пловуны́. Маркоўскае.

ПЛО́СКУНІ мн. Маніцы. Плóскуні ў нас найбóлей спáлі, а моткі'мочы́лі. Маркоўскае. Зарáнее плóскуні вуспевáюць. Ліпляны У плóскунях немá семенóў.

Лельчыцы.

ПЛОТ м. Агароджа з жэрдак. До́ўгі плот на тры колкі́ ро́б'ім. Тонеж. Ха́та згорэ́ла, а плот шчэ стоіць. Там жа. У пло́ці жэ́рдкі вов'я́зваюцца лозо́й. Ліпляны.

ПЛО́ТНІК м. Цесляр. За́ра ўжэ нема́ до́брых пло́тнікау на селе́. Данілевічы. Пло́тнік ру́біць соке́рой. Маркоўскае.

ПЛО́ТНІЦА ж. Цяслярская сякера. У нас булі́ шклю́ды і пло́тніцы. Тонеж.

ПЛО́ТНІЦКІ прым. Цяслярскі. Е пло́тніцкі пуц. Ліпляны.

ПЛО́ТНО прысл. Прыгожа, добра. Мой сын муля́ваў пло́тно. Тонеж.

ПЛОЦЬ ж. Платва. Сыпну́ў у во́ду галу́шэчэк – і плоць уся́ кве́рху пушла́. Як плоць пла́вае зве́рху, пудха́пваем ее́ са́чыком. Ліпляны. Нема́ цепе́ра плоці, ву́веласа. Маркоўскае.

ПЛУ́ТАЦЬ незак. Блытаць. Коб бачыў е́ту травіцку, а так ста́неш плу́тацць, да дзе ты его́ збагне́ш усе́. Тонеж.

ПЛЫВУ́Н м. 1. Багністае, грузкае месца. Ле́том плыву́н не перэ́дзеш. Лельчыцы. 2. Глей. Коло́дзезь зано́сіцца плывуно́м. Лельчыцы.

ПЛЫ́ГАЦЬ незак. Прыгаць. По зе́млі плы́гаюць ко́нікі.Ліпляны. На луго́х цыркуны́ плы́гаюць дале́ко-дале́ко.Тонеж.

ПЛЫ́ГІ-ПЛЫ́ГІ дзеясл. Прыг-прыг. Открыў па́зухі, а бло́хі плы́гі-плы́гі соттуля. Тонеж.

ПЛЫ́ГНУЦЬ зак. Прыгнуць. Вон як плы́гне церэ́з плот. Падварак. За́яц паз ро́біць. Як плы́гне вон от того́ сле́ду ў бук. Ліпляны.

ПЛЫ́ТО н. Плыт. Плавакі́ плы́то гоня́лі по рэ́чцы. Лельчыцы.

ПЛЮС м. Грыб. Плюс пудхо́дзіць пуд зеленіцу, вон зве́рху цёмны, а пу́до дном бе́лы. Плюсо́ў було́ ў на́шым ле́сі – ко́су зоста́ўляй. Ліпляны. Плюсы́ росту́ць по грудо́х, пу́до дном воны́ бе́лые. Маркоўскае.

ПЛЮХА́ ж. Рагоз. Плюха́ росце́, як рого́жына, і кія́х уро́стае на ве́рхі. Е́то ж букнове́нная плюха́, вона́ от така́ вуро́стае. Чэмернае.

ПЛЮ́ШНІК /1/ м. Аер. На Тро́йцу плю́шнік кі́даюць по ха́ці. Тонеж. У корчо́х плю́шнік росце́. Ліпляны.

ПЛЮ́ШНІК /2/ м. Касач. Жо́ўты вужо́вы плю́шнік і паху́чы плю́шнік е. Тонеж.

ПЛЯ́ЎКАЦЬ незак. Мяўкаць. Коцік пля́ўкае. Яко́го до́ха пля́ўкаеш! Тонеж.

ПЛЯ́ХІ мн. Вантробы жывёлы, трыбух. Усе́ пля́хі пувукі́даў, як коро́ву зача́віў. Лельчыцы. Пля́хі обраба́тываюць і ку́шаюць, а кні́гі вукі́даюць. Чэмернае.

ПЛЯ́ШКА ж. Бутэлька. Ее́ ж чэлове́к ву́п'е пля́шку горэ́лкі, зоп'е́ водо́ю з колю́гі – і пуйшо́ў. Тонеж. Узяў бу на поко́с моло́ка ў пля́шку. Новае Палессе.

ПНЕВА́ХА ж. Урочышча. На Пнева́хі па́сціла това́р. Лельчыцы.

ПО прыназ. Па (у розных значэннях). По свобо́дзі ста́лі жыць до́брэ. Ліпляны. Ко́зка росце́ по мэ́тры. Там жа. Тут по ле́ту, як су́хо, і машы́ны

проходзяць. Тонеж.

ПОБЕДНЫЕ ГОРЫ мн. Урочышча. На Победные Горы ездзіў сено косіць. Ліпляны.

ПОБЕЛ м. Мел. Побел, гліну таку, купляем і мажам сцены ў хаці. Ліпляны.

ПОБОЛОСУРЫЦЬ зак. Пагаварыць пра нешта неістотнае, пабалакаць. Коб мне попутнік буў, поболосурылі б дорогой. Падварак.

ПОВЕСЬ ж. Павець. У повесі дрова рубаюць. Маркоўскае.

ПОВОДЗЕЦ м. Павадок. Ярмо й поводзец – уся вупраж вола.Маркоўскае. Дай, жонка, поводца я пуйду вола пацэплю. Данілевічы.

ПОВОЗКА ж. Выязныя калёсы, рысора, Повозку робілі з яшчыком і на рэсорах. До войны на повозках ездзілі. Маркоўскае.

ПОВОРАНЫ дзеепрым. Узараны. Поворанае поле – ето ралья, а неворанае – облуг. Падварак.

ПОВОРОЧАЦЬ незак. Паварочваць. Волы знаюць, у яку сторону поворачаць. Тонеж.

ПОВУК м. Прыстасаванне для хадзьбы маленькіх дзяцей. Мое дзеці без повука навучыліса ходзіць. Падварак.

ПОГАНО прысл. Дрэнна. По городох жабрэйка росце, ее погано полоць – коліцца. Тонеж. Ці тобе погано ў подушках спаць? Ліпляны. Мой воз погано едзе: у колеін не пупадае колёсо. Данілевічы.

ПОГАНЫ прым. Дрэнны. Погана дорога. Мо не ехала б? Ліпляны. Капуста ў мене поганая: одны шуплякі. Астражанка. І сам вон не поганы, але доладна ж его жонка. Падварак.

ПОГАНЮКА ж. Гадзюка. У поганюкі зубі такіе як у шчукі. Вона ж як разявіць пошчэку, обнімае палку. Бачыла я, жаночкі, у ягодзях поганюку наглую. Ліпляны. Укусіла поганюка одну жонку , і вона, пока до дому довезлі, померла. Чэмернае.

ПОГАНЮЧЫ прым. Дрэнны. Вона така поганюча, шчо з ею не договорышса. Падварак.

ПОГАРЦАВАЦЬ незак. Падурэць, пасваволіць. Шчэ погарцуй, то дзеркача зоробіш по спіне. Падварак.

ПОГІНАСТЫ і ПОГІБАСТЫ прым. Гібкі. Коб погінасты дубчык, нанізаў бу грыбкоў. Падварак. З орэшыны вудка погібастая. Маркоўскае.

ПОГНОЙ м. Угноеная зямля. На погної ўсе добрэ родзіць. Падварак.

ПОГОВОР м. Абгавор, пагалоска. Колішнія дзеўкі баяліс поговору. Тонеж. Ой, пошла б я додому, да боюса поговору. Будуць людзі говорыці: Леновалась дзело робіці. З нар. песні. Там жа.

ПОГОВОРКА ж. Пагалоска. Дзеўкам погано: стоіць цэлу ноч з хлопцам, і поговорка ідзе по селу. Падварак.

ПОГОДА ж. Надвор'е. Дождзь трохі осеў. Мо погода будзе? Тонеж. Постолы робляць з полосьеў ліпу: лоза вельмо трэскае ў погоду. Там жа.

ПОГОДОВА́ЦЬ зак. Выхаваць, вырасціць, выкарміць. Як ба́цько умрэ́, то ха́ты ма́ці не збуду́е, а дзе́ці погоду́е. Тонеж.

ПОГО́Н м. Месца, дзе праганяюць статак на пашу. Ці дале́ко това́р? – На пого́ні шчэ бу́ў. Падварак.

ПОГО́НЫ мн. Урочышча. Осо́ка росце́ на Пого́нах. Маркоўскае.

ПОД м. Прыстасаванне для сушкі і захоўвання жытных снапоў на полі. Зложаць, бува́ло, сно́пу ў ку́чкі, а тогды́ зво́зяць іх на по́да. Мілашавічы. На подо́х сушы́лі жы́то. Дзеўкі́ по ве́сне зале́заюць на ты́е по́ды і чыры́каюць пе́сні. Тонеж.

ПО́ДАЦЬ ж. Падатак. Ко́лісь по́даць у ка́зну збіра́лі. Падварак.

ПОДЗЕ́ЛЬЧЫВЫ прым. Падзеллівы. З подзе́льчывым сусе́дом до́брэ жыць. Падварак.

ПОДЗЕЛЯ́ШЧЫ прым. Падзеллівы. З лю́дзьмі подзеля́шчы вон чэлове́к. Хры́сця подзеля́шча: нічо́го не пожэле́е. Тонеж.

ПОДЗЫГО́ЎВАЦЬ незак. Нагаварваць, падбухторваць. Не подзыго́ўвай – бесполе́зно. Астражанка.

ПО́ДКА ж. Ніжняя частка вулея. Ліпляны.

ПОДОРО́ЖНІК м. Трыпутнік. Прыклада́юць к ра́ні подоро́жнік і воле́шнік. Ліпляны.

ПОДО́ШВА ж. 1. Падэшва. Данілевічы. 2. Ступня. Такі́ нары́ў акра́з на подо́шві; ходзі́ць не могу́. Данілевічы.

ПО́ДРУБ м. Першы вянок у зрубе. По́друб на штанда́ры кладзе́цца. Тонеж.

ПОДУ́ЖАЦЬ зак. Паздаравець. Хай бу моя́ нога́ поду́жала. Тонеж. Мо й поду́жае ма́ці? Ей лу́чшэ ста́ло. Астражанка.

ПОДУ́ШКА ж. 1. Падушка. У рыбака́ го́лые бока́, але́ обе́д па́ньскі, а охо́тнік спіць на поду́шкі, а е́сць по́сную ю́шку. Маркоўскае. З е́стых качало́к поду́шкі ро́бляць. Тонеж. 2. Багна. Уле́зеш у поду́шку да го́йдаешса, разорва́лас б вона́ – і пойшо́ў бу на край све́ту. Тонеж.

ПОЕДЗІ́НКА ж. Аднаствольная паляўнічая стрэльба. З поедзі́нкі одзі́н раз ву́стрэліш, а дру́гі зараджа́ць трэ́бо. Чэмернае.

ПО́ЖНЯ ж. 1. Пожня. Ліпляны. 2. Іржышча. По́жню ко́сяць на пудсцёл. По по́жні ідзе́ш, і вона́ ко́ліцца. Тонеж.

ПОЖЫ́ЛЫ прым. Пажылы (пра жывелу). Коро́ва ўжэ пожы́лая, п'яць годо́ў. Сярэднія Печы.

ПОЗАКЛЯ́КАЦЬ зак. экспр. Пааняменць. Ўжэ́ но́гі мо́жно ві́доўжыць, а то соўсі́м позакля́калі. Лельчыцы.

ПОЗАМУ́КАЦЬ зак. Пазамыкаць. Чы позаму́каў ты дзве́ры? Ліпляны.

ПОЗАПІНА́ЦЬ зак. Пазанавешваць. Дзень і ноч ро́блю. Во́кны позапіна́ю да но́ч'ю проду́. Тонеж.

ПОЗАРО́СТАЦЬ зак. Пазарасці. Позаро́стала Муцьвіца скрозь. Вона́ ж ця́гне з Туроўшчы́ны. Тонеж.

ПОЗАЎТРА прысл. Паслязаўтра. К вам позаўтра прыеду. Падварак. Позаўтра ў нашаго брацёніка госці. Буда – Лельчыцкая.

ПОЗДРОЧЫЦЦА зак. Разбегчыся ад укусаў мошак (пра кароў). Корові як поздрочыліс – цэлы дзень шукаў. Не можно ўглёдзець товар: поздрочыўса товар і шчэ здрочыцца. Падварак.

ПОЗМОГЦІСА зак. Схуднець, змарнець, стаміцца. Так позмогліса, шчо не можно було познаць тые корову. Тонеж.

ПОЗОЛІЦЦА зак. Пракіпяцііца ў растворы з попелу. Позоліцца плаццье ў жлукці, да ідуць жонкі праць его на рэку. Ліпляны.

ПОЗОЛІЦЬ зак. Абварыць ці пракіпяціць бялізну ў растворы з попелу. Позоліла плаццье ў жлукці і на рэке попрала. Тонеж.

ПОЗОЛКІ мн. Раствор з попелу, луг. Коліс не було мула, то позолкі робілі да й муліса. Тонеж.

ПОЗРУБВАЦЬ зак. Пассякаць. Позрубвалі явор, позводзіласа ета дзерэвіна. Тонеж.

ПОКАМІСЬ злучн. Пакуль. Покаміс ідзе дождзік, будом дома. Падварак.

ПОКВЕЛІЦЦА зак. Падражніцца. Я цебе поквелюса! Тонеж.

ПОКВЕЛІЦЬ зак. Падражніць. Такі ўжэ погані еты хлопчак: поквеліць мою дзеўку, а вона крычыць на ўсё село. Тонеж.

ПОКЛОВАЦЕНЬКА ж. Воспіна. На ліцэ повукручвае поклоаценькі пры болезні воспой. Ліпляны.

ПОКЛОДО н. Поклад. Положыць трэбо поклодо – хай кура несецца. Ліпляны.

ПОКОЛЯЦЦА зак. Запэцкацца. Поколяўса ў гразе, як свінья. Падварак.

ПОКОЛЯЦЬ зак. Запэцкаць. Поколяў дзеці ў гразе, а вумаць – не вумаў. Падварак.

ПОКОРПАЦЬ зак. Узараць поле неглыбока. Коліс землю чуць – чуць покорпаюць. Тонеж.

ПОКОС м. 1. Пракос. Покос скосіў чысто. Ліпляны. 2. Зрэзаныя ў раду трава, грэчка, авес. Не зв'езала стара пані Ні одного покоса, Потоптала чэрэвічкі, Прышла домой боса. З нар. песні. Тонеж. 3. Сенакосныя ўгоддзі. На покосі весело було. Ліпляны. 4. Скошаны луг. Ужэ там скосілі ўсе, жані на покос товар. Маркоўскае.

ПОКОЦЁЛОК м. Драўляны кружок у ткацкім станку. Наступае жонка на понажэ, і покоцёлкі тые перэважваюцца – легчэй ткаць. Тонеж.

ПОЛ м. 1. Пол. Зробляць такого пола доўгого, засцілаюць его дзеругом. Тонеж. 2. Ложак (рэдка). У полі ножкі пуламаліса. Сярэднія Печы. 3. Падлога. На пол татарнік кідаем. Ліпляны. Я ўжэ дошчэк нарэзаў собе на пол. Тонеж.

ПОЛЕЖАКА ж. экспр. Лежань, гультай. Нічого робіць полежака не хочэ, а еў бу, коб шчо й добрэ. Тонеж.

ПОЛЕНДРЫЦА ж. Палянддвіца. З полендрыцы коўбасы круцім. Манчыцы.

ПОЛЕНО н. 1. Палена. На богату куцью дзеўкі беруць дрова, прынесуць у

ха́ту і шчыта́юць, ці бу́дзе па́ра: колі́ па́ра – за́муж по́йдзе, однэ́ поле́но - не по́йдзе. Ліпляны. 2. Бервяно. На во́кна нашла́піў поле́но, а за́рэ суцэ́лные поле́на до ве́рха. Тонеж. По п’яць по́лен вугоня́ем на рэ́ку і там склада́ем іх у бото́ўку. Ліпляны.

ПОЛЕСО́ЎШЧЫК м. Ляснік. Полесо́ўшчык охраня́е лес от пожа́ру, гледзі́ць, коб скот не ходзі́ў. Тонеж. Коб лес не руба́лі, полесо́ўшчыка ста́ўляць. Падварак.

ПОЛОВІ́НЧЫК м. Посцілка з ільняных і шарсцяных ні́так. Полові́нчыка сную́ць портны́мі ні́ткамі, а ткуць шарсця́нымі. Ліпляны. Просцелі́ полові́нчыка і лега́й спаць. Буда – Лельчыцкая. Не хвата́ла шэ́рсці, дык полові́нчыкоў ву́ткала. Маркоўскае.

ПО́ЛОЗ м. 1. Полаз. У полозы́ ўдо́ўбваюцца капулы́. Ліпляны. 2. Крыло ў жаку, крызе. По концо́х полозо́ў колкі́ ста́ўляцца. Ліпляны.

ПОЛОЗЫ́ мн. Прылада для лоўлі рыбы, крыга. Трох чэлове́к полоза́мі ло́ўляць ры́бу. Ліпляны.

ПОЛО́ЙКА ж. Палавінка квашанага качана. З корто́пляю поло́йкі емо́. Падварак.

ПОЛОСІ́НА ж. Адрэзаная паласа лыка. Чэпе́ц носі́ць трэбо пуд на́метку і обру́ч з полосі́ны. Тонеж.

ПО́ЛОТО н. Адзінка вымярэння шырыні саматканага палатна. Дзеру́га – п’яць по́лот, а про́сцілкі – чэты́рэ по́лоці. Мілашавічы.

ПОЛУСНО́ПІК м. Жменька. Полусно́пікі жо́нка покладзе́ на дол, а пото́мака збіра́е ў адзі́н сноп. Падварак.

ПОЛУСО́ННІК м. Сланечнік. На горо́дзі полусо́ннік се́ем. Данілевічы.

ПОЛЬЗІ́ЦЕЛЬНО прысл. Карысна. Колі́ спечэ́ш што ці спа́рыш, пользі́цельно обма́звацца ло́ем. Ліпляны.

ПОЛЬЗІ́ЦЕЛЬНЫ прым. Карысны. Цэд кі́слы, а пользі́цельны. Падварак.

ПОЛЮ́ШКА ж. Клёцка. Ну й навары́ла ж ты полю́шэк. Заберажніца.

ПОЛЫНО́К м. Пакаёвая кветка, хрызантэма. Мой полыно́к ўсе цвіў, не перэстава́ў. Дзяржынск.

ПОЛЯНІ́ЦА ж. Булка хлеба. Порослі́ камені́цы – скоро будуць новые поляні́цы. Данілевічы. Поляні́ца ўка́чваецца ў муцэ́. Маркоўскае. Як пеко́м поляні́цы, моча́ем у муку́ ру́кі да беро́м це́сто. Тонеж.

ПОМА́ЗАЦЬ зак. Пабяліць. Пома́зала ха́ту, і вона́ ста́ла бе́ла, як пе́ркаль. Ліпляны. Ты шо там робі́ла? – Пома́зала ха́ту. Сярэднія Печы. У ла́ўцы купі́ла глі́ны. Вона́ пом’я́та була́, а ха́ту пома́зала до́брэ. Ліпляны.

ПОМА́ЗКА ж. Падмазка. Нама́жэм пома́зкой ско́вороду і пеко́м млінцэ́. Тонеж.

ПОМА́ЛЕЧКУ прысл. Памаленьку. Хай бу ты ў склад сходзі́ла, пома́лечку трэ́бо перэсы́паць зе́рне. Ліпляны.

ПОМА́НЬВАЦЬ незак. Клікаць, прываблівацъ, зваць. Ты мене́ не пома́ньвай, як соба́ку. Падварак. Соба́ка так за со́йкою гоня́ецца,а вона́ его́

поманьвае. Маркоўскае.

ПОМЕ́ЛЬНІК м. Густы хвойнік. По поме́льнікох во́дзіцца воўк, холе́ра е́та. Данілевічы. У поме́льніку гры́бу бра́ла. Тонеж.

ПОМЕ́ЛЬНІЧЭК м. Памянш. да «поме́льнік». Зеле́ніцы ў поме́льнічку росту́ць. Тонеж.

ПОМЕ́Р м. Памольны збор у млыне. Поме́р дава́лі га́рцамі. Лельчыцы. П'яць пудо́ў прыв'ёз у млін – п'яць ху́нтоў поме́ру отда́й. Чэмернае.

ПОМЕ́ТНІК м. зборн. Лазовыя ці бярозавыя сцябліны, якія звязваюцца і ўскладваюцца на стог. Коб ве́цер не ўзрыва́ў стог, кладо́м поме́тнік. Падварак. От там росце́ до́бра лоза́ на поме́тнік. Астражанка.

ПОМІГУ́ЛІЦЦА зак. Хітра ўхмыльнуцца. Помігу́ліўсе – і на е́тым коне́ц. Падварак.

ПОМІДО́РНІК м. Сцябло памідор. У помідо́рніку па́сынкі шчэ не пуобрыва́ла. Падварак. Па́сынкі ў помідо́рніку іду́ць сотсю́ль і сотсю́ль. Тонеж.

ПОМІ́МО прыназ. Апрача. Помі́мо гры́бо́ў, у ле́сі росту́ць козлякі́. Тонеж.

ПОМОСНІ́НА ж. Маснічына. Укороціў памосні́ну.Буда - Лельчыцкая.

ПОМОСНІ́НКА ж. Памянш. да «помосніна». Пора́дзь ма́ці, дзе ж мі́лку схова́ці. Зні́мі, сы́нку, у се́нях помосні́нку, схова́й, сы́нку, да чужу́ дзеці́нку. З нар. песні. Ліпляны.

ПОМО́СТ м. Падлога. Сама́ й помо́ст не пому́е, наве́к про́сіць дзево́к. Сярэднія Печы. Як ро́бляць помо́ст, до́шкі сцесня́юцца ўплатну́ю. Ліпляны.

ПОМЯСІ́ЦЬ зак. Патаўчы бульбу. Корто́плікі помясі́ла, а цепе́р зажа́рыць іх трэ́бо. Ліпляны.

ПОМЯ́ЦЬ зак. Патаўчы бульбу. Мо було́ б лу́ччэ, коб е́тые корто́плікі пом'я́ў. Сярэднія Печы.

ПОНАЖЫ́ мн. Понаж. Наступа́е жо́нка на понажы́, і покоце́лкі ты́е перэва́жваюцца – легчэ́й ткаць. Тонеж.

ПОНАРО́СТАЦЬ зак. Панарастаць. Свіну́хі то́ўстые понаро́сталі, а нема́ колі́ іх браць. Маркоўскае. По одно́й голо́ўкі садзі́ла часныку́ і по одно́й понаро́стала. Тонеж.Ка́гуць, шо ўжэ гры́бу понаро́сталі ў ле́сі. Мілашавічы.

ПОНЕ́БІЧ м. Палка ўверсе ткацкага станка, да якой прымацоўваюцца «чапёлкі». Поне́біч дзе́ржыць ніт і покоце́лкі. Тонеж.

ПОНІКА́ЦЬ незак. Выглядваць, паказвацца. Чого́ ты поніка́еш у во́кна? Падварак. Мэ́троў о́сем сва́ю ка́пором зобіва́юць, і вона́ з во́ды то́лько чуць поніка́е. Ліпляны.

ПО́НОЧЫ прысл. Ноччу. За́кі по́ночы пройшла́ мі́мо мо́гліц, усе́ похало́дало. Хлопчакі́ омужа́ліса да й пуйшлі́ по́ночы на мо́гліцы. Лельчыцы. Пуд пе́ч'ю ў хато́х цыркуны́ по́ночы цы́ркалі. Тонеж.

ПОНУ́РА ж. Маўклівы і злы чалавек. Пону́ра хо́дзіць,хо́дзіць да не ве́льмо з кім разговора́е. От, ка́гуць, не́йка пону́ра ідзе́. Тонеж.

ПОПА́Р м. Трава на папары. Хлеб я́драны вудае́цца на да́ўней ралье́, да́жэ попа́р по ей по́йдзе. Тонеж.

ПОПАРЫЦЬ зак. Пакінуць зямлю пад парам. Пуд грэчку надо землю попарыць. Ліпляны.

ПОПАСЦІЦЬ зак. Папасвіць. За свой век попасціў я товар. Маркоўскае.

ПОПЕР м. Папера. Дзеды простой попер круцілі і дзелалі поперосы. Мілашавічы. Вубегла мурашэчка з новое колодонькі да вунесла завівала, тонкіе, беленькіе, тонкіе, беленькіе, з попером роўненькіе. З нар. песні. Тонеж.

ПОПЕРЭБУТЛІВАЦЬ зак. Паперагнісці. У чаравіках шнуркі поперэбутлівілі. Падварак.

ПОПЕРЭД, ПОПЕРОД і ПОПЕРЭДО прысл. Спачатку. Поперэд лён сушаць у сушне, а потомака ў трэпалку его подаюць. Ліпляны. Поперэдо посціраю шмацье. Тонеж. Поперод смучам на ручайку. Ліпляны.

ПОПЕРАДЗЕНЬ м. Сувязь загнутых частак палазоў. Маркоўскае.

ПОПЕРЭЧКА ж. Папярочная піла. Дай поперэчку. Данілевічы.

ПОПЕРЭЧНІЦА ж. Сталвага. З одного боку поперэчніцы – цягі, а з другого – баркі. Тонеж.

ПОПЕТРЭЦЬ зак. Парыхлець. Як вода обліжэ лёд, вон попетрэе. Данілевічы.

ПОПІРКА ж. Палка, на якую абапіраюцца пры хадзьбе, качарэжка. Занедужыла баба соўсім: з рук попірку не выпускае. Падварак.

ПОПІРХАЦЬ зак. Покрапіць чуць-чуць. Мед попірхаў по однэй ячэйкі. Ліпляны.

ПОПЛАЎ м. 1. Поплаў. На поплові ростуць звоночкі, тонюсенькіе воны, тонюсенькіе. Ліпляны. 2. Сена з поплава. Прыв'ез колеснік поплову. Лельчыцы. Е сено поплоў, е сено осока й кругляк. Тонеж.

ПОПОРАЦЦА зак. Справіцца з гаспадарчымі справамі. Мо ты там шчэ не попоралаcа, а му будом цебе ждаць. Ліпляны.

ПОПРАЖКА ж. Спражка. Без попражкі раменя (пояса) не бувае. Тонеж.

ПОПРУГА ж. Раменны пояс. Колі будзе ісці навука туга, поцягае бацькава попруга. Падварак. Прышоў мой хлопчак з Армее, і му купілі ему пудзеўку, косцюма, чоботы, сорочкі й попругу. Там жа.

ПОПРУЖКА ж. 1. Вузкі раменны пояс. Чэмернае. 2. Рэмень з цыраты для жанчын. Падварак.

ПО-ПУД прыназ. Па-над. Вона ўжэ попобегала по-пуд хмызнячком. Ліпляны. Дзеці спеваюць по-пуд вокнамі. Там жа.

ПОПУТНІК м. Спадарожнік. Коб мне попутнік буў, поболосурылі б дорогой. Падварак.

ПОПУТНЫ прым. Спадарожны. Попутного тобе ветру ў дорозі. Падварак.

ПОРАДЗІЦЬ зак. Параіць. Бацько только й порадзіць, як што зробіць. Ліпляны.

ПОРАДНІК м. Дарадчык. Колькі хоч пораднікоў е, хоч ты гаць імі гаці. Тонеж.

ПОРАДНІЦА ж. Дарадчыца. Померла моя порадніца, а зара мне без её і

час не сцягнецца. Тонеж. Ох, ты маці, ты порадніца ў хаці! Порадзь, маці, чым мілку караці. З нар. песні. Ліпляны.

ПОРАДНІЧЭК м. Памянш. да порадік. «Ой, усім жэ ты буў зашчытнічэк! Ой, усім жэ ты буў порадніічэк». З нар. песні. Тонеж.

ПОРАНЕНЬКО прысл. Зранку, рана (у нар.песнях). Шчэ ў недзелю-пораненьку пеўні не пелі, пошоў Якоў до дзеўчыны пуд новые сені. З нар.песні. Падварак.

ПОРАНКА ж. Порканне. Аніяк не можно праз поранку сходзіць у лаўку. Падварак. А рано тое поранкі богато. Астражанка.

ПОРАЦЦА незак. Поркацца ў гаспадарцы. Як будзеш порацца, постаў у печ чавун, коб кроп закіпеў. Лельчыцы. Трохі лежала поралас. Мілашавічы. Маці порацца, а ее дзеўка от вугледкі не отходзіць. Падварак.

ПОРОДЗІХА ж. Жанчына, якаая нарадзіла дзіця. Породзіха дае попу наметку да шчэ ўмотае й піроржка. Тонеж.

ПОРОДЗІЦЬ зак. Нарадзіць. Маці мене только породзіла, а бабка вугодовала. Тонеж. Не прывукла, братко, мушу прывукаці, породзіла мене, нешчасную, маці. З нар.песні. Там жа.

ПОРОДНЯ ж. Род, радня. Така наша породня: лысеюць рано. Лельчыцы.

ПОРОСЛЕВЫ прым. Парасніікавы. Дзе порослевые места, грыб росце. Маркоўскае.

ПОРОСЛЯ ж. Параснік, зарасць. По вусокіх местох, по порослях ростуць коўпакі. Маркоўскае. Рэшотнікі по грудох, по порослях ростуць. Тонеж.

ПОРОХНО н. Згніўшая частка дрэва, парахня. Дрозд робіць кубло з порохна. Данілевічы. У хауці е только яке порохно. Маркоўскае.

ПОРТНОЎСКІ прым. Кравецкі. Унь на столе лежаць портноўскіе ножны. Данілевічы.

ПОРХАЎКА ж. Назва грыба. Наступі на порхаўку – і вона «пфі». Порхаўкі гояць раны. Маркоўскае.

ПОРЧА ж. Шкода. Петрык порчы не робіць, вон не ўврэдны. Маркоўскае.

ПОРЭПАНЫ прым. Патрэсканы. Зверху козы порэпаны, а пудо дном кошлаты. Маркоўскае.

ПОРЭПАЦЦА зак. Патрэскацца. Озьмі рукавіцы, а то рукі порэпаліса на морозі. Ліпляны.

ПОСВЕТ м. 1. Прыстасаванне для асвятлення хаты (раней). Посвет робілі з мешковіны. Лельчыцы. На посвет ложылі осмола і полілі его. Данілевічы. 2. Прылада для асвятлення ракі ў часе лоўлі рыбы. Еты посвет робляць з залезной проволокі, перэплетаюць его несколько раз, шчоб лучына не падала ў воду. З посветом ідзеш убрэдзь біць рыбу. Мілашавічы.

ПОСЕДЗЁЛКІ мн. Вячоркі. Сохвея навек моя тайка. Му з ею на поседзёлкі, на музыкі ходзілі. Буда-Лельчыцкая.

ПОСЕДЗЁНКІ мн. Вячоркі. Я навек ходзіла на поседзёнкі. Тонеж. Вечэрамі прадкі збіраліса на поседзёнкі. Ліпляны.

ПОСЕЎНІК м. Сейбіт. Почэпіць посеўнік кошэля і сеець зерне. Падварак.

ПОСКРЭБІШ м. Буханачка хлеба з рэштак цеста ў дзяжы. Осталоса ў мене цесто только на поскрэбіша. Тонеж.

ПОСКРЭБНІК м. Буханачка хлеба з рэштак цеста ў дзяжы. Так добрэ поскрэбнік вупекса. Забяражніца.

ПОСКРЭБОК м. Буханачка хлеба з рэштак цеста ў дзяжы. П'яць боханоў посадзіла ў печ, а ўжэ шостая – поскрэбка. Тонеж.

ПОСКРЭБОЧЭК і ПОСКРЭБІЧЭК м. Памянш. да «поскрэбок». Дзеці поскрэбочка просяць. Тонеж. У мене чэтырэ бохана, а п'ята поскрэбічка була. Тонеж.

ПОСМІХНУЦЦА зак. Усміхнкцца. Погледзеў на мене Роман і посміхнуўса. Лельчыцы.

ПОСТАЎ м. Скрутак саматканага палатна. Накачае жонка постава, а потом его отрэзвае да шые сорочкі. Ліпляны. Коб не раскачваўса постаў шчэпляць его голкаю да й лежыць вон у шафі. Постаў можэ буць п'яць губок. Тонеж.

ПОСТАЎНЫ прым. Статны. Ну й постаўна, ладна его жонка. Постаўна ў іх клягіня. Падварак.

ПОСТАЦЬ ж. Полоска жыта, якую займае адна жняя. На етой постаці богато снопуў нажала. Ліпляны.

ПОСТОЛ м. Лапаць. А ў постолох добрэ: намокло і вусохло. Лельчыцы. На сено ходзілі ў пастолох, пасціць чэргу ў іх добрэ. Ліпляны. Постолы плетуць лозовые, в'язовые. Я колісь погнаў оўцы ў лес і поплеў там постолы з корэнья. Данілевічы. Хай чэловек постол, а цегні его за стол. Падварак.

ПОСТОРОНОК м. Пастронак. Посторонкі чэпляюць за баркі і вушы ў хамуце. У паракоnнай вупражы шлеі чэпляюцца за посторонкі. Маскоўскае.

ПОСТРОІЦЬ зак. 1. Пабудаваць. У Мозырэ мой братко построіў домка. Падварак. 2. Паправіць, зацягнуць. Построй запінкі на вокнох. Прыбалавічы. 3 Скласці. Трэбо сказаць, і той чэловек построіць стога. Сярэднія Печы.

ПОСУДОК м. Посуда. Тые разы мулі посудок у ночвах. Тонеж. Усе ўместо горшкі, місы – посудок. Ліпляны.

ПОСЦЕРОГА ж. Перасцярога. Сны неку посцерогу даюць. Буда – Лельчыцкая.

ПОТАПЦЫ мн. Страва з вады, хлеба і солі. На потапцы богато врэм'я не трэбо: налі сырое воды, крышы хлеб і соль сып. Тонеж.

ПОТНІК м. Лямец у хамуце. К персцям пудходзіць потнік. Падварак.

ПОТОЛОХІ мн. экспр. Унутранасці жывёлы. Вукінула ўсе потолохі. Падварак.

ПОТОМАКА прысл. Потым. Не було доўго з войны мого чэловека, а потомака вон прышоў без ногі. Ліпляны. Поперэдо лён сушаць у сушне, а потомака ў трэпалку его подаюць. Там жа. Сходзіў мой Іван на рыбу, а потомака як узяла его хондзя трасці. Падварак.

ПОТОПТА́ЦЬ зак. 1. Патаптаць. З калю́камі се́но не пото́пчэш на бо́су но́гу. Ліпляны. 2. Патаўчы. Трэ́бо кортóплю потоптáць. Сярэднія Печы.

ПОТРА́ЎКА ж. Вадкая страва. Аж на душэ́ стáло ле́гчэ, як потрáўкі под'еў. Зaбepaжніца.

ПОТРОНО́ЎКА ж. Паляўнічая стрэльба, якая зараджаецца патронамі. Ко́лісь пістоно́ўкі й потроно́ўкі булі.́ Маркоўскае.

ПОТРУІ́ЦЬ зак. Намуліць. Як здоро́ва, усе́ до́брэ, а як нездоля́шча, уся́ка о́буў потруі́ць. Ліпляны.

ПОТРЭ́ПЧЫК м. Зношанае, патрапанае звычайна адзенне. Год потрэ́пчыка не скі́дае, а му́шы добро́ ў скры́ні грызу́ць. Ліпляны.

ПОЎЗУ́Н м. Драўляная дэталь у пілараме. Я поўзуны́ на піло́рáмі роблю́ пласці́нчатым све́рдлом. Поўзуны́ ро́бляцца з гра́ба. Як обма́сляцца поўзуны́, робо́таць не мо́жно. Данілеві́чы.

ПОЎРЭ́ н. і ПОЎРЭ́Й м. Вырай. Сі́точка ле́тае ў поўрэ́. Жураўле́ прылеце́лі з поўрэ́, а о́кідзі шчэ не було́. Данілевічы. Шчэ, ма́буць, не леце́лі ка́чкі ў поўрэ́й. Дзяржынск. Ве́льмо хо́лоду сіводра́ка боіцца, вона́ са́мо ра́нне ў поўрэ́ ўле́тае. Канапелька.

ПОЎЦЕ́КАЦЬ зак. Паўцякаць. Е́то зе́лье таке́: прынесі́ ў ха́ту да кінь его́ – усе́ бло́хі поўце́каюць, подо́хнуць. Дзяржынск.

ПОХА́ТУХА ж. Жанчына, якая ходзіць з хаты ў хату і разносіць плёткі. Не люблю́ я Кла́ву: вона́ така́я поха́туха. Ся́дзь, поха́туха, ко́лькі ты бу́дзеш бе́гаць. Астражанка.

ПОХВА́ТНЫ прым. Зручны, лёгкі. Мо б ты мне дала́ свой похва́тны чо́ўнік? Тонеж.

ПО́ХМУРОК м. Воблачка. Ста́лі ходзі́ць по́хмуркі – бу́дзе дождзь. Лельчыцы. По́хмуркі хо́дзяць, а се́но шчэ́ не ско́піла. Тонеж.

ПО́ХОДКІ мн. Пчаліная разведка. Пчо́лкі ў по́ходкі ле́таюць. Маркоўскае.

ПОХОЛО́ДАЦЬ зак. 1. Пахаладаць. За які дзень так похоло́дало. Ліпляны. 2. Астыць. Ну, наш ўжэ за́ўтрак похоло́даў. Ліпляны. 3. Анямець ад страху. За́кі по́начы пройшла́ мі́ма мо́гліц, усё похоло́дало. Лельчыцы.

ПОЦЕНЕ́ЧЫЦЬ зак. Чуць – чуць пасыпаць. У сце́бку несу́ я́блукі, сыплю ў бо́чку і муко́й поцене́чу. Ліпляны.

ПОЧА́ВІЦЬ зак. Падавіць. У нас ку́ры не веду́цца: поча́вілі іх машы́ны. Мілашавічы.

ПО́ШЧАКА ж. Чэлюсць. У поганю́кі зу́бі такі́е, як у шчу́кі. Вона́ ж як разя́віць по́шчэку, обніма́е па́лку. Ліпляны.

ПОШЫНА́ ж. Пушніна. Ско́лько я пошыны́ здаў на зі́му. Мілашавічы. Куні́ца полова́я – са́ма цэнне́йша пошына́. Ліпляны.

ПРАВІ́ЛКА ж. Адвес. Поло́жаць праві́лку к сце́нке, а пото́мака, дзе трэ́бо, вона́ вупрамля́ецца. Ліпляны.

ПРА́ВІЦЬ незак. Выпрамляць пры дапамозе адвеса. Праві́лкой сце́ны пра́вяць.Ліпляны.

ПРАГЦІ́ незак. Жарыць. На ско́вородах са́ло прагу́ць. Ліпляны.

ПРА́ДЗЬВО н. 1. Валакно. У пло́скунях зве́рху пра́дзьво, а ў сярэ́дзіне костра́. Ліпляны. Пра́дзьво продо́м. Тонеж. 2. Маніцы, канопля. Коло́дзье накла́дывалі на пра́дзьво, шчоб воно́ не ўсплыва́ло. Ліпляны. 3. Ніткі з ільну, канапель. Напрадо́м за ты́ждзень от такой клубок, навіва́ем его́ і тком пра́дзьво. Мілашавічы.

ПРАДЗЯ́НЫ прым. Канаплінны, ільняны. У нас в'юць воло́кі прадзя́ные. Ліпляны.

ПРА́ДКА ж. Папрадуха. Вечэра́мі пра́дкі збіра́ліса на поседзё́нкі. Ліпляны.

ПРА́ТВА ж. Месца, дзе мыюць бялізну. Була́ на пра́тві, то́лько што прышла́, шма́цье пра́ла. Данілевічы.

ПРАЎДЗІ́ЦА ж., экспр. Праўда (у песнях). Ско́лько ў рэ́шэці водзі́цы, сто́лько ў мілого праўдзі́цы. З нар. песні.Тонеж.

ПРА́ЧКА ж. Пасудзіна для мыцця бялізны. Цэ́лы ты́ждзень стоі́ць моя́ пра́чка ко́ло рэ́кі. Маркоўскае.

ПРО́БКА ж. Затычка, корак. Як на про́бку наступі́ў, скуль тая́ й бо́йня о́зьмецца. Падварак.

ПРО́ВЕДЫ мн. Перадвясельнае наведванне невесты бацькамі жаніха. Свекру́ха прыхо́дзіла ў про́веды до сватоў. Вона́ пры́дзе ўдзе́нь і догово́рыцца, а ўве́чэры прыхо́дзяць сваты́. Тонеж.

ПРОГА́ЛІНА ж. Прагал. На прога́ліні накосі́ў колесні́к се́на. Данілевічы.

ПРОДО́ЛГІ прым. Прадаўгаваты. Продо́лгі ліст у е́того зе́ллейка. Чэмернае.

ПРО́ЗВІШЧЭ н. 1. Уласная назва, імя. У нас ме́сцо е, дзе ко́лісь буў той нако́т. Ужэ его́ нема́, а про́звішчэ е, му звом тэ ме́сцо Нако́том. Ліпляны. 2. Мянушка. Его́ про́звішчэ Руду́ха. Тонеж.

ПРОКАЎТНУ́ЦЬ зак. Праглынуць. А глейзаровы хлеб не мо́жно е́сць, пра́мо да́віць, не мо́жно прокаўтну́ць. Тонеж.

ПРОМІ́Ж прын. Паміж. Веліка́ ра́зніца проміж боршчэ́м і качано́м. Ліпляны. І туды́ гора́ і сюды́ гора́, Промі́ж ты́мі го́ранькамі Свеці́ла зора́. З нар. песні. Тонеж. Проміж шуламі кідаюць дзерэво. Там жа.

ПРОНІ́ЗІЦЦА зак. Знізіцца. Проні́зіўса самалё́т і дова́й гасі́ць – не пупа́ло. Тонеж.

ПРО́РЭЗАК м. Проразь. Пошы́ла руба́шкі да прорэ́зала про́рэзкі, іх на́до обкі́даць. Ліпляны.

ПРОСВІШЧА́ЦЬ зак. Прадзімаць. У се́нях дзве́ры дзірова́тые, і ве́цер це́рэз тые́ дзірочкі́ просвішча́е. Тонеж.

ПРО́СВІШЧЭ н. Прасянішча. На про́свішчы така́ ра́сна корто́пля ву́росла. Тонеж.

ПРОСЛА́ЦЬ зак. Послаць. Коно́плі просце́лемо, а пото́м іх у церні́цы тром. Тонеж. Ты там просцелі́ ему́ на лу́жку спаць. Падварак. Просцелі́ полові́нчыка і лега́й спаць. Буда – Лельчыцкая.

ПРОСЦІЛКА ж. Посцілка з партных нітак. Просцілку снуюць і ткуць з портного прадзьва. Ліпляны. Дзве просцілкі вішу прынесла. Астражанка. Трэбо просцілку защыць, дай, Грыша, грошоўку. Тонеж.

ПРОСЯНІК м. Верабей. Просо люблящь просянікі. Падварак.

ПРОТАЛОК м. Праталіна. Дзе проталок, верос ссекаюць на сечку. Тонеж.

ПРОТОК м. Палачка, якая ўстаўляецца ў цэўку. З чого б ето проток зробіць? Тонеж.

ПРОТЫЧКА ж. Прылада, якой ачышчаюць што-небудзь знутры. Вісіць на люльцы протычка для очысткі чубука от смальца. Мілашавічы.

ПРОХОЛОДВАЦЬ незак. Астываць. Беру воску і часць смолы, мешаю і воно загусае і прохолодвае. Ліпляны.

ПРОЦЕКАЦЬ незак. Працякаць. Коло лесу небольшы роўчак процекае. Тонеж. Крыша чароцяна год-два постоіць і процекае. Падварак.

ПРОЦІ прыназ. Супроць. Не стой проці ветру, а то заболееш. Тонеж. Ой, ты коліна луговая! Ой, проці ветроньку стояла! Ой, козаку свет зав'язала! З нар. песні. Тонеж.

ПРОШАК ж. Жабрак. Колісь от прошакоў отбою не було. Падварак.

ПРУТ м. Закруглены выступ у касе. Як вельмо велікі прут, то важко косіць. Ліпляны.

ПРЫБАГНУЦЦА зак. Уздумацца. Певень, як колі ему прыбагнецца, покрычаць, кукарэкуе. Тонеж.

ПРЫБЕДЗІЦЬ зак. Прынесці гора, бяду. Як кого война прыбедзіла, песні не будзе пець. Данілевічы.

ПРЫБОЛОТКА ж. Сыраежка з вострай шапачкай. Прыболотка гострэ росце. Падварак.

ПРЫБОЛОТУХА ж. Сыраежка з вострай шапачкай. У прыболотухі шапочка стоўбновата, гострэнька. Ліпляны. Прыболтухі стоўбноватые ростуць. Маркоўскае. Прыболотухі соляць. Тонеж.

ПРЫБОЛОЦЯНКА ж. Сыраежка з вострай шапачкай. Прыболоцянкі соляць. Тонеж.

ПРЫГОЛЕНІШЧЭ н. Ніжняя частка халяў. Чуні плотно беруць прыголенішчэ. Падварак.

ПРЫГОРНІЦА ж. Загнетак. Унь чавун стоіць на прыгорніцы. Калінаўка.

ПРЫГУМЕНОК м. Прыгуменне. Обгораджваюць прыгуменок, шчоб ніщто туды не ўлезло: свіньня, коровы, куры. На прыгуменку трова росце, а потом ее прокошваюць і на етым месцы сушаць снопу. Тонеж.

ПРЫДОБА ж. Выгода. Кур, качак разводзім: прыдоба тут для іх кругом. Маркоўскае.

ПРЫЗВУЧАЙКА ж. Прывычка. Коб не ета прызвучайка,то не курыў бу. Падварак.

ПРЫЗЕМЛЯНКА ж. Жаваранак. По весне прыземлянка вісоко летае. Данілавічы.

ПРЫЗНА́ЧЫЦЬ зак. Намеціць, зрабіць мечанне. Усі́х ка́чак прызна́чыла. Ліпляны.

ПРЫ́ЗЬМО н. Прылада ў вупражы для валоў. Ды́шаль прыкрэпля́ецца запаты́лком к калачу́ а калач к пры́зьму. Мілашавічы.

ПРЫ́МОРОК м. Прыпечак. Пры́морок з дошэк робляць на печку лазіць. З е́того боку пры́морок робі́лі. Тонеж.

ПРЫ́МОРОЧЭК м. Памянш. да «пры́морок». Моя́ ма́цер, бува́ло, седзі́ць на пры́морочку. Тонеж.

ПРЫ́ПЕК м. Загнетка. Зра́зу стано́віш чаву́ны на пры́пек, а пото́мака ў печ. У шы́йку кладу́ць мецёлку, шо зуме́тваюць пры́пек, лучы́ну ло́жаць. Тонеж.

ПРЫПІ́НДА ж. Фартух. З ро́сшэўкамі прыпі́нду робі́лі. Калі́наўка.

ПРЫС м. Прысак, гарачы попел. Ну й ло́ўко ж попечэ́цца корто́пля ў прысу́. Ліпляны. Прыс гара́чы – кладзі́ корто́плю. Астражанка.

ПРЫСКО́БІЦЬ зак. Замацаваць скабою. Прыско́біў ушу́ло, коб воно́ не шата́лос. Данілеві́чы.

ПРЫСТРЭ́К м. Хвароба з урокаў. Е́то на цебе́ напа́ў, ма́буць,прыстрэ́к: поцяга́е, полома́е. Трэ́бо тобе́ прыстрэ́ка пошэпта́ць. Ліпляны.

ПРЫТЫ́КА ж. Палка на канцы «крыла» у жаку. З двох бо́коў прыты́кі ста́ўляцца, як закрэпля́ем жак у рэке́. Ліпляны.

ПРЫХО́Д м. Збор людзей на рэлігійнае свята. Ці бу́дзе прыхо́д у Пудва́рку на Ўсыпле́нне? Буда – Лельчыцкая.

ПРЫЧА́ВІЦЬ зак. Прыціснуць. Моховікі гла́дзенькіе пу́до дном, і колі́ іх прыча́віць, то воны́ сіне́юць. Ліпляны. Па́лца прыча́віў. Падварак.

ПРЫЧА́ХНУЦЬ зак. Падсохнуць. Коб на дзень пого́да , то се́но прыча́хло б. Тонеж.

ПРЫШКЛЮДОВА́ЦЬ зак. Абчасаць склюдам. Бро́ўна прышклюду́юць, а пото́мака ў се́нцы іх ло́жаць. Ліпляны.

ПРЭ́СНЫ прым. Сыры. Напа́дае снег на прэ́сну зе́млю, а пото́мака вона́ до́ўга замерза́е. Тонеж. Була́ прэ́сна зі́ма. Падварак.

ПУГ м. Страх, перапалох. З то́го пу́гу лежа́ла тры ты́жні. Тонеж.

ПУГО́ЎНІК м. Пугаўё. Так бі́ла лошы́цу, шо й пуго́ўнік злома́ла.Тонеж.

ПУДВЕДЗЁНКА ж. Квяцістая хустка. Хороша́ ў цебе́ пудведзёнка. Астражанка.

ПУДВОРО́ТНІЦА ж. Падваротня. Пудворо́тніцу ро́бляць, коб не ла́зілі ку́ры, поро́ся́та ў хлеў. Ліпляны.

ПУДДЗЕ́ЛОК м. Хустка, якая па знешняму выгляду нагадвае шарсцяную. На пода́рок пры́в’е́зла мне небо́га пуддзе́лка. Падварак.

ПУДДЗЕ́ЛОЧЭК м. Памянш. да «пуддзелок». Купі́ла пуддзе́лочка і хо́піць на ле́то. Падварак.

ПУДДЗЕ́ЎКА ж. Кароткая верхняя цёплая вопратка. Ідзі́, Мехо́дзій, у ла́ўку і купі́ собе́ пуддзе́ўку. Падварак.

ПУДЗЕЛЁНКА ж. Назва грыба. Пудзелёнкі тро́шкі зелёные. Тонеж.

Пудзелёнкі сівенькіе, а пудо дном зеленоватые. Маркоўскае. По одному месту пудзелёнкі ростуць у порслях. Ліпляны.

ПУДКІ прым. Палахлівы. На пудкім коні ў Мозырэ не проедзеш. Падварак.

ПУДКЛЕЙКА ж. Паднарад у ботах. Пудклейку пудшываюць, коб холява не осаджвалаcа. Ліпляны.

ПУДКОЛОДНІК м. Назва птушкі. Вуверне бура дзерэвіну, і там пудколоднік кубло собе робіць. Данілевічы.

ПУДКРУЖ'Е н. Урочышча. Тонеж.

ПУДЛІЗНІК м. Падліза. З етым пудлізніком і говорыць не хочу. Тонеж.

ПУДЛЯДЗЬЕ н. Урочышча. Лельчыцы.

ПУДМЕТОК м. Падносак. У чоботох пудмёткі набіваюць. Данілевічы.

ПУДОДНІ прым. Ніжні. Пудоднее шмацьё шыюць простымі ніткамі. Тонеж.

ПУДОРВА ж. Пашкоджанне ўнутраных органоў у выніку празмернага напружання фізічных сіл. Золотнік з пудорвы тожэ робіцца, але ето не грыжа. Ліпляны.

ПУДОСОК м. Тупая сякера. Дай ему сокеру, так вон спашэ ее соўсім і прынесе пудоска. Тонеж.

ПУДПАЛЬНІК м. Скавароднік. Я скорэй пудпальніка спеку з того цеста, што пекуць боханкі. Тонеж.

ПУДПАР м. Поле, якое пакідалася пад пасеў азімых культур. На пудпары сеем. Падварак.

ПУДПЛЕТАНКА ж. Падплет. Пудплетанкой постолы плетом. Маркоўскае.

ПУДСАНКІ мн. Кары. Зірнуў – на пудсанках хлопчак седзіць. У кожух его ўмотаў. Тонеж. Бабка шворнем проймаецца ў перэдніх і задніх пудсанках. Там жа.

ПУДСАЧЫК м. Падхватнік. Пудсачык такі круглы. Мілашавічы.

ПУД'ЯЗІК м. Маленькі язь, язік. Ну й ласы еты пуд'язік на чэрвя. У нас тут чэловек одзін як поедзе на рэчку, кручэчком нацягае пуд'язікоў до пропасці. Ліпляны.

ПУК /1/ усеч. дзеясл. Пук. Як только хто шкрабнуў, бобер пук ў воду. Ліпляны.

ПУК /2/ м. Звязка, пук. Прынёс пук лозы. Данілевічы.

ПУК /3/ м. Выгіб пілы. У етой піле пука нема. Данілевічы.

ПУКОВАСТЫ прым. Пукаты. Як вубіраеш пілу, гледзіш, коб пуковаста була. Данілевічы.

ПУНКТ м. Асобная частка ў музыкальным творы, калена. П'яты пункт кадрэлі граецца, як лявоніха. Ліпляны. Кадрэлю на п'яць пунктоў граюць. Лельчыцы.

ПУРЭЙ і ПІРЭЙ м. Пырнік. Мотыкой вудзераюць жонкі пурэй. Тонеж.

Ця́пкамі пурэ́й збіва́ем і ўскра́й зно́сем. Мілашавічы. Як орэ́ш пурэ́й, набіра́ецца вон на сошнічо́к. Данілевічы. Поро́с пірэ́й, заглушы́ў увесь ав'ёс. Буда-Лельчыцкая.

ПУСТА́НІК м. Нагрудная паркалёвая частка сарочкі з саматканага матэрыялу. З пуста́ніком соро́чкі ко́лісь шы́лі. У руба́шкох з пуста́ніком наплечнік робі́лі з пе́ркалю. Тонеж.

ПУ́СТКА ж. Хата, у якой не жывуць. У п'я́тай ха́ці жыву́ць, а шо́стая – пу́стка. Тонеж.

ПУСТО́ЛЬГА ж. экспр. Нядбайны чалавек, гультай. Пусто́льга ты, тру́цень. Як то́лько жо́нка з тобо́ю жыве́! Астражанка.

ПУСТОЎШЧЫ́НА ж. экспр. Негаспадарлівы чалавек. Не ходзя́ін вон, а пустоўшчы́на. Тонеж.

ПУСТРЭ́К м. Урок. Пустрэ́кі бува́юць намо́ўленые, нагаво́раные, ве́траные, жано́чые й дзяво́чые. Пустрэ́к – е́то як хто наўро́чыць. Ліпляны.

ПУСТЫ́ прым. 1. Пусты. Вона ж цэ́лы каза́н корто́плі з'е́ла і пусты́ каза́н на засло́нье пуста́віла. 2. Слабы, малы, хваравіты. Не́йка пуста́ вона́: голова́ болі́ць, ка́жэ. Тонеж. Так собе́ чэлове́чэк, а пусты́ вон не́кі. Падварак. 3. Тонкі,гнілы. Шма́цья наве́шаюць сто́лько, што як пуста́ жэ́рдка, то оборве́цца. Тонеж.4. Неўрадлівы. Пуста́ зе́мля – нічо́га не ро́дзіць. Тонеж. Хай пустэ́ жы́то, а я пойду́ ра́ненько і роблю́ до са́мого ве́чэра. Сярэднія Печы. Дзеўба́ў, дзеўба́ў косо́ю і нічо́го не надзеўба́ў – пу́сты ав'ёс. Маркоўскае.

ПУСТЫ́НЯ ж. 1. Зямля, непрыгодная для земляробства. Маркоўскае. 2. Хата, у якой не жывуць.Там пусты́ня: нема́ ніко́го, вые́халі ўсе. Маркоўскае. 3. Негаспадарлівы чалавек. Пусты́ня ты, а не ходзя́ін. Данілевічы.

ПУСЦЕ́НЬКІ прым. Памянш. да «пусты́». Зі́на така пусцюшэнька, ско́лькі чого́ по́мніць. Тонеж.

ПУСЦЮ́ШЭНЬКІ прым. Памянш. да «пусты». Зі́на така́ пусцю́шэнька, а ско́лько чого́ по́мніць. Тонеж.

ПУХ м. Абдзіркі ад круп, высеўкі. Як пудсева́ем, пух уле́тае, а пшэно́ застае́цца ў но́чвах. Тонеж.

ПУХА́ ж. 1. Тупая частка яйца. На селе́ мужчы́ны, бува́ло коштую́ць яйцэ́ й гово́рацъ: «От у мене́ крэпа́к: побі́ў носка́ – перэверні́ пухо́й». Тонеж. 2. Задняя частка лодкі. У пусе́ седзе́ў. Ліпляны.

ПУХІ́Р м. 1. Прышч. Увесь відо́к ее́ ў пухіро́х. Падварак. 2. Мазоль. Поба́, які́е пухіры́ наму́ляў. Падварак. 3. Вадзянка. Пухіры́ от просту́ды бува́юць, на це́лі воны́ посхо́пваюцца. Лельчыцы.

ПУЦ м. 1. Калун. Мой пуц спаха́ўса. Ліпляны. Пуц са́ма тоўшчэ́йша соке́ра, коло́ць ей дро́ва до́брэ. Лельчыцы. 2. Цялярская прылада, якой ачэсваюцца бярвенні, клёпкі. Ло́жэш кле́пку ў стано́к і пу́цэм оббіва́еш. Данілевічы.

ПУЦЭВА́ЦЬ незак. Ачэсваць «пуцэм». Клепча́р, ходзі́ пуцэва́ць. Данілевічы.

ПУ́ЧКА і ПУ́ШКА ж. Мяккая верхняя частка пальца. Застрэмі́ў дзе́рэво ў пу́чку. Тонеж. Ну й мороз, аж пу́шкі до золе́за прыліпа́юць. Буда – Лельчыцкая.

ПУЧО́К м. Памянш. да «пук /2/». Мо пучко́ў тры крыжо́ўніку прыв'ёз з Мозырэ́. Ліпляны.

ПУЧЭ́ЛЬКА ж. Невялікая звязка тытуну. Маркоўскае.

ПУЧЭ́ЧЭК м. Памянш. да «пук /2/». Рэ́жэм цюцю́н у пучэ́чкох і меша́ем з корэнца́мі. Маркоўскае.

ПУ́ШКА ж. Грыб, порхаўка. Ка́гуць, шо пу́шкі есць мо́жно. Маркоўскае.

ПУ́ШКАЦЬ незак. Шчыкатаць. Як я бою́с, як мяне́ хто пу́шкае. Падварак.

ПУ́ШЫЦЬ незак. Рабіць пухлым. А его такі пу́шыць е́та боле́знь. Ліпляны.

ПШЭНЯ́НЫ прым. Прасяны. Я ім ба́бку ву́несу е́ту пшэня́ну, і воны́ ра́ды. Тонеж.

П'Я́ЛО н. Буданчык для калыскі (на поле). Як п'я́ло ро́бляць, со́шкі ста́ўляць, коб лю́льку мо́жно було́ ве́шаць. Чэмернае.

П'Я́ТРА ж. Гара, чардак. Злезь на п'я́тра і поба́ – мо яйцэ́ ў ку́блі е. Ліпляны.

## *Р*

РАД м. Валок травы, скошанай касцом за адзін абход. Ко́сім траву́ і кладо́м ее́ косо́ю ў рад. Ты́е то́ўстые рады́ на́до переверну́ць, коб воны́ со́хлі. Ліпляны.

РАЗДЗЮ́ЖКА ж. Кавалак саматканай матэрыі з груба́й пражы. Сушы́лі зерно́ на радзю́жкох. Лельчыцы. Дру́га жо́нка раздзерэ́ дзеру́гу, да дзе́ці радзю́жкамі ўкрыва́е. Чэмернае.

РАДО́К м. Памянш. да «рад». Е́того го́ду пойшо́ў косі́ць, заткну́ў ко́су ў радо́к і ее́ не́хта ўзя́ў. Ліпляны.

РА́ЖКА і РА́ШКА ж. 1. Цэбрык з адным вушкам для вымярэння вагі зерня, кармлення свіней. У ра́жцы помешча́ліс пуд і дзе́сят ху́нтоў зе́рня. Намолоці́ў раз трыццаць ра́жэк пшэніцы. Данілевічы. Озьмі́ наста́ўніцу, то ра́шкі сві́ньям насіцьме́ш. Падварак. 2. перан., экспр. Твар. Вон одгодова́ў ра́шку за чужу́ робо́ту. Падварак.

РАЗ прысл. 1. Аднойчы. Ліпляны. 2. Раней. Ты́е разы́ самі пеклі́ хлеб. Тонеж. 3. Цяпер. Е́стые разы́ чарніцы ва́рым да ў сцекля́нкі заліва́ем. Тонеж.

РАІНІНА ПО́ЛЕ н. Урочышча. Так прабра́ла (высекла бярозкі) Раініна По́ле, шо одзі́н снежо́к кі́нула. Ліпляны.

РАКО́ЎКА ж. Гатунак бульбы. На грудко́х рако́ўка вусоха́е. Падварак.

РА́ЛО /1/ н. Раздвоены ствол дрэва. У хвоі, у ду́бі, у осі́ні быва́юць ра́лы, колі́ два стволы́ іду́ць уго́ру. Маркоўскае. Дзе́рэво з ра́лом на со́ху ідзе́. Буда - Лельчыцкая.

РА́ЛО /2/ н. Ткацкі станок. Ко́лісь поўко́тваюць у хаты́ ра́ла, а е́то ўжэ цепе́р понаву́чаліса да поробі́лі ста́ва. Тонеж.

РАМ м. Падстольнік. Тры раму ў хатох кладуць, а як пуд колодку, то большэ. Тонеж.

РАМБІНА ж. Ягада з рабіны. У лаўку рамбіну прымаюць. Падварак.

РАМЕНЬ м. Рэмень. Грапнік – ето ж у тры сталькі заплетаны рамень. Тонеж.

РАМОВЕ н. Пачастунак, звязаны з пабудовай хаты. Як раму покладуць у хаці, даюць рамове. Давай рамове, буду стукаць у рам сокераю, колі не дасі. – Будзе вам горэлка, только не стукай. Тонеж.

РАПА ж. Салёная вада. Ото боршчэ насоліла – голая рапа. У дзежку кладуць м'ясо, з его сцекае рапа. Сярэднія Печы. Робім рапу да кропім сено. Ліпляны.

РАСНЕНКІ прым. Памянш. да «расны». На брукоўнішчы кортопля була така рacненька. Ліпляны.

РАСНО прысл. Урадліва, пышна, разгаліста. У етым годзі расно росце кортопля. Падварак.

РАСНЫ прым. Урадлівы, разгалісты, пышны. Што струкоў богато ў горосі, у мене вон такі расны. Ліпляны. Тацьяно, як у цебе кортопля? – Така пустэ, не расна. – Ну, што ў мене така расна, штук сорок пуд одным корчэм. Там жа.

РАТАЙ м. Араты. Ратай дзержыцца за ручкі ў сосе, шчоб вона з землі не вускаківала. Ліпляны.

РОБІЦЬ незак. 1. Рабіць. На траву рожкі робляць. Падварак. Хай як вона знае так і робіць. Тонеж. З гусіна, курына пер'я робляць перыны. Ліпляны. 2. Працаваць. Дзень і ноч роблю. Чого ж ты, Руднічыха, негожа? – Робіла на ўсіх. Тонеж. Людзі жывуць, робляць на трахторах. Ліпляны. Мой зяць трудовіком ў школі робіць. Сярэднія Печы.

РОБОЦЯГА аг. р. Працаўнік. Такі ўжэ робоцяга еты чэловек: на цэлы дом дзерэва нацягаў. Маркоўскае.

РОБОЦЯШЧЫ прым. Працавіты. От яка рабоцяшча дзеўка! Трэбо було ее ўзяць, не носіў бу ражкі свіньям. Лельчыцы.

РОВЕЦ м. Баразна. Граблямі ўгрэбае жонка ў ровец гной. Мілашавічы. Пройшлі шчэ по одному роўцу і поехалі ў лес. Буда – Лельчыцкая.

РОГАК м. Хвароба злакавых раслін, сажа. З жыціны вустрыкнецца еты рогак, вон такі чорны. Лельчыцы.

РОГАЛЬ м. Няўдалы хлеб. Ох, мамко, якого рогаля спекла! Забяражніца.

РОГАТКА ж. Прылада для вымярэння зямельнай плошчы. Рогаткай поле мераюць. Тонеж. Ідзе брыгадзір з рогаткою – померае. Астражанка.

РОГАЧ м. 1. Дзяржанне, ручка ў сасе. Тонеж. 2. Дышаль у возе для валоў. Рогач – доўга жэрдка, дзе волы ходзяць. Ліпляны.

РОГЕЛЬНЯ ж. Прылада для лоўлі рыбы. Лоўляць рыбу рогельняй удвох. Одзін з однэе стороны рогельні, а другі з другой бoўтаюць воду коло берэга, а потомака знімаюць рогельню. Мілашавічы.

РОГО́ЖА ж. Балотная расліна, рагоз. Обціра́юць рого́жу жонкі́ да ў поду́шкі пух сы́плюць. Ліпляны. З рого́жы подушкі ро́бляць. Тонеж.

РОГО́ЖЫНА ж. Рогозіна. Плюха́ росце́, як рого́жына, і кія́х уро́стае на ве́рхі. Чэмернае.

РОД м. 1. Род, радня. Хто ў раду́ е́сця таке́й? Тонеж. Пусці́, міле́нькі, До бро́ду по во́ду, До бро́ду по во́ду Поба́чыць ро́ду. З нар. песні. Тонеж. 2. Парода (пра жывелу). Тут худо́ба не з тако́го ро́ду. Тонеж.

РО́ДЗІЧ м. Сваяк. Мой ходзя́ін госцю́е ў сваі́х ро́дзічэй цэ́лы ты́ждзень. Тонеж.

РОДО́ЎКА ж. Назва грыба. Родо́ўкі едзя́ць, воны́ ры́жые. Маркоўскае.

РОЖ ж. Жыта. У рож, бува́ло, поло́жаць е́того хрэсце́чко і засева́юць по́ле. Ліпляны. У ка́доўб сы́палі рож. Данілевічы.

РО́ЖА ж. Шыпшына. Унь пуд окно́м у мене́ така́ нагла ро́жа росце́. Данілевічы. Ко́ло мі́лого дворо́чка жо́ўта ро́жа расцвіла́. Не злюбі́ў мене́ мой мі́лы, бо судзьба́ моя́ така́. З нар песні. Там жа.

РОЖДВО́ н. Коляды. Перэ́д Рождво́м Куцья́, а перэд Новым го́дом – шчэдрэ́ц. Тонеж.

РОЖКІ́ мн. Прылада да касы для збірання падрэзаных сцяблоў. Некато́рые мужчы́ны на траву́ рожкі́ ро́бляць. Падварак.

РОЖКО́ВЫ КЛЮЧ м. Гаечны ключ. Данілевічы.

РОЖО́ЎКА ж. Прылада для лоўлі рыбы з трохсценнай сеткай. Рожо́ўку ста́ўляць на́ноч. Е рожо́ўка мэ́траў на тры́ццаць. Ліпляны.

РОЖЭСТВО́ н. Коляды. Мой сын буў мо́кры наве́к да просты́ў і от Рожэства́ ло́гом лежы́ць соўсі́м. Тонеж.

РОЗАПНУ́ЦЬ зак. Расставіць, рассаваць. Жака́ розапне́ш – і захо́дзіць ры́ба. Ліпляны.

РОЗБО́Й м. Банда. Зрослі́ его́ сы́ны і пошлі́ ў розбо́й. Тонеж.

РО́ЗВЕДЗЕНЬ м. Доўгі брус, які злучае пераднюю і заднюю часткі воза. На до́ўге дзе́рэво ро́зведзень перэста́ўліваецца. Тонеж.

РОЗВО́РА ж. Тое ж , што «розведзень». Коне́ц розво́ры стырчы́ць за драбі́намі. Розво́ра дзе́ржыць перэ́да й за́да во́за. Маркоўскае.

РОЗВОРО́ТКА ж. 1. Прылада для разводу зубоў у піле. Ось сціска́е піла́, дай мне розворо́тку. Данілевічы. 2. Развод зубоў у піле. На хво́ю шырэ́й розворо́тку ро́бім, а на ду́ба – вужэ́й. Данілевічы.

РОЗГО́НКА ж. Акучнік. Розго́нкою корто́плю оку́чваюць. Тонеж.

РОЗГО́РТВАЦЬ незак. Рассцілаць (снапы). На кры́шы сно́пу разго́ртваюць. Падварак.

РО́ЗГОЎКІ мн. Разгавенне. На ро́згоўкі ходзя́йка ка́жному по кусо́чку яі́чка дае́, а пото́мака ўжэ емо́ са́ло. На Велікдзе́нь розгове́ўса да еж усе́ скоро́мное. Тонеж.

РОЗДУ́МАЦЦА зак. Адумацца. А пото́мака вона́ розду́маласа і за́ра жыве́ з сваі́м чэлове́ком. Тонеж.

РОЗДУ́НУЦЬ зак. Разагнаць (пра вецер). Ве́цер розду́не хма́ркі, да й не бу́дзе до́ждзіку. Тонеж.

РО́ЗКА ж. Розга, пруток, ветка. Ро́зкі рэ́жэм на мецёлкі. Маркоўскае. То́нкіе ро́зкі скру́чваем. Ліпляны. Брусні́чнік росце́ ро́зкой. Тонеж.

РОЗМЕ́РАЧ м. Сталярны цыркуль. Трэ було́ б розме́рача купі́ць. А то без его́, як без рук: не могу́ нічо́га зробі́ць. Данілевічы.

РОСА́ ж. Травяністая расліна, расянка. У мошку́ на боло́ці роса́ росце́. Уціра́й е́ю ві́док – хоро́ш бу́дзе. Падварак.

РОСКА́ПВАЦЦА незак. Распырскваццa. Як крэ́сяць, роска́пваюцца і́скры. Ліпляны.

РОСКЕ́П м. Дышаль у возе для валоў. З двох бо́коў роске́па воло́ў ста́уляць. Маркоўскае.

РО́СКІДКА ж. Від ворыва. На ро́скідку ору́ць у два заго́ны, а на склад – у одзі́н. Падварак. На ро́скідку вора́ць лу́ччэ, чым на склад. Ліпляны.

РОСКОТРУБА́ЧЫЦЦА зак., экспр. Раскудлаціцца. Чого́ ты роскотруба́чыласа? Ой, Зо́йка, яка́ ты роскотруба́та. Падварак. Роскотруба́чылас і бежы́ць бі́цца. Там жа.

РОСКОТРУБА́ЧЫЦЬ зак. Раскудлаціць. Не́ка е́та ба́ба несамові́та: роскотруба́чыць ко́сы да ідзе́ на село́. Тонеж.

РОСО́Л м. 1. Расол. Му росо́л п'е́м з корто́пляй. Мілашавічы. 2. Шаткаваная капуста з унутраных лістоў качана. Росо́л ку́шаюць у сыро́м ві́дзе. Мілашавічы. 3. Халодная страва з зеляніва. У во́ду ходзя́йка кі́дае кроп, пе́р'я цыбу́лькі, сы́пле соль – і росо́л гото́ў. Тонеж.

РО́СПІЛ м. Рэз. Ва́жко пілі́ць дро́ва, колі́ ро́спіл ву́зкі. Данілевічы.

РОСПОТЛЫХА́ЦЦА зак. Раскудлаціцца. Напіла́с, распотлыха́лас – аж гі́дко гледзе́ць. Падварак.

РОСПУ́КВАЦЦА незак. Распускацца (пра пупышкі). На гру́шах, я́блонях, по́чка роспу́кваецца, і ро́біцца цвет. Ліпляны.

РОСХО́ДНІЕ ДОРО́ГІ мн. Скрыжыванне дарог. Ко́ло Стодо́ліч на росхо́дніх доро́гах бу́ў дру́гі пост. Маркоўскае. Зна́харка зе́лья нава́рыць да вуліва́е на расхо́дніе доро́гі. Чэмернае.

РОСЦЕ́ГАЦЦА незак. Слацца, трасцягвацца. Ко́рэнь бобо́ўніку расце́гаецца по зе́мле. Ліпляны.

РОСЦЕ́КАЦЦА незак. Расцякацца. У боло́ці бога́то жабу́ру, во́зьмеш его́ – і вон расце́каецца по руке́, як со́плі. Маркоўскае.

РОСЧА́ВІЦЬ зак. Раздавіць. Мо его́ дзе машы́на росча́віла? Ліпляны. Так пога́но пахне́ смердзю́ха, як па́льцам ее́ росча́віш. Падварак.

РОСЧО́МАЦЦА зак. Апрытомнець, прыйсці у сябе. Коб я росчо́малса ране́й, то не було́ б тако́й беды́. Тонеж.

РО́СШЭЎКА ж. Карункі ў навалачках, настольніках, фартухах. Як я дзе́ўкою була́, плелі́ ро́сшэўкі ў насто́льніцы. Ліпляны. Кручко́м плету́ць ро́сшэўкі, зу́бу рукові́цы. Хорошо заты́каны ро́сшэўкі. Тонеж. З ро́сшэўкамі

прыпінду робілі. Калінаўка.

РОСЬ ж. 1. Раса. По росі будом жаць. Ліпляны. 2. Імжа. Уплюнуласа рось на цэлы дзень. Тонеж.

РОЎЧАК м. 1. Раўчук. Коло того лесу небольшы роўчак процекае. Тонеж. 2. Выкапаная канаўка, равок. От хаты прокопаю раўчака, і вода весною бежыць. Падварак.

РОХЛЯ ж. Свіння. От ужэ вугодовала рохлю, мо пудоў пятнаццаць будзе. Буда-Лельчыцкая.

РОШТ м. Рыштаванне. Закопваюць стоўбцы і рошт робляць, як хату стаўляць. По рошту ходзяць. Тонеж.

РУБАНЕЦ м. Палена. Дай мне шчэ рубанцы – бліны не спеку. Данілевічы. У косцёрчыку рубанцы сохнуць добрэ. Ліпляны.

РУБАЦЬ незак. 1. Калоць. Шчэпочкі рубаюць такіе смоловые. Тонеж. 2. Сячы. Коб лес не рубалі, полесоўшчыка стаўляць. Падварак. На опоўзнік рубаюць берэзы да клодуць его на стог, шчоб сено злеглоса да вода сцекала. Тонеж.

РУБЕЛЬ м. Жэрдка для ўсціскання воза ці сена. З берэзы, хвоі рубля робляць. Пукладзе чэловек на целегу колеснік сена да рублем прыцісне, а ўжэ на сані – воз. Тонеж.

РУБЕЦ м. Страўнік. Колісь з лося рубца обцягну – пуд сала. Мілашавічы.

РУБНЕЎ м. Урочышча. Данілевічы.

РУДА ж. 1. Цвёрды пласт зямлі. У нас у городзі аршын до руды. Падварак. 2. Неўрадлівая зямля. На Сімоновай Поляні одна руда. Падварак. 3. Бруд, гразь. Его ж руда заедае. Тонеж. П'яны зробіць така руда. Мілашавічы.

РУДЗЁНКА ж. Гнілая груша – дзічка (плод). Пуд грушэю пузбірай рудзёнок свіньям. Мілашавічы.

РУДЫ прым. 1. Чырвоны, рыжы. Даўней руда дзеўка саромеласа, а цеперэка косы робляць рудые. Падварак. 2. Нікчэмны, брудны. Руды сам, руду жонку ўзяў, руды музыка граў, рудэ веселье скэкало. Падварак.

РУКА ж. 1. Рука. А вон узяў за дурасць да руку зламаў. Мілашавічы. 2. перан. Бок. З дзеўчынае рукі спевае сваха. Тонеж. 3. Блізка. До Букчэ як рукою достаць. Тонеж. 4. Замёрзнуць. Ну й мороз: рукі ў шпарэ зайшлі. Лельчыцы. 5. Паздаравець. Поговорыў рожу – і як рукою отняло. Чэрнае. 6. Стаміцца. Як помахаеш пранікам, то рук не чуеш. Астражанка.

РУКОЎЯТКА ж. Рукавіца. Дзе мое рукоўяткі? Падварак.

РУЛІ мн. Страва з салёнай вады і кавалачкаў хлеба. Рулі, рулі, а боханку хлеба здулі. Наробіць, бувало, жонка етых руляў да нарулісца й косе. Тонеж.

РУЛЬКА ж. Руля, ствол у стрэльбе. Рулька осаджваецца ў ложы. Маркоўскае. Шроту сыплюць у рульку. Ліпляны.

РУМЯНОК м. Рамонак. Еты румянок усюды росце. Падварак.

РУЧАЙКА ж. Верацяно з напрадзенымі ніткамі. Напрадуць жонкі ручайкі, а потомака кладуць іх на печ, шчоб воны посохлі. З ручаёк ніткі мотаюць у

клубок. Тонеж.

РУЧКА /1/ ж. 1. Ручка. Ратай дзержыцца за ручкі ў сосе, шчоб вона з землі не вускаківала. Ліпляны. 2. Калочак у кассі, за які трымаюцца праваю рукою пры касьбе. Тонеж. 3. Вусік. У горошэку круцяцца ручкі по етых палкох. Мое гуркі попускалі ручкі. Зара будуць цвісці, расходзяцца ва ўсе бокі: тые туды ручку пусцяць, тые туды. Ліпляны. 4. Планка, да якой прымацоўваюцца драбіны воза. У оплены ўдоўбваюцца ручкі дзераўяны, а драбіны легаюць на етые ручкі. Маркоўскае.

РУЧКА /2/ ж. Рад травы, пакос. Шчэ ету ручку пудверну і пойдом. Падварак. Пушла да перэкідала ручкі сена. У Баровом рады называюць, а ў нас – ручкі. Мілашавічы.

РУШНІЦА ж. Паляўнічая стрэльба. Мой бацько наб'е клоч'я ў рушніцу да ў лес ідзе. Чэмернае. Побеглі мужчыны з рушніцамі да ўбілі мадзведзя. Сярэднія Печы. За опліску рукою берэшса, як стрэляеш з рушніцы. Мілашавічы.

РУЯ ж. Чарада. У пиліпоўку легко було натрапіць на рую воўкоў. Тонеж.

РЫБАК м. Гліст. Коб з гарбузы зернета еў, не було б рыбакоў. Мой Грыша лежаў на рыбакоў, у его два клубкі іх було. Тонеж. Піжма находзіць сілу для поражэнья рыбакоў. Ліпляны.

РЫЖАВАНЬЕ н. Травяністая расліна, бадзяга. Натрэш цело рыжаваньем – тыждзень голкі коляць. Данілевічы.

РЫЖЫ прым. Чырвонашчокі. Сегоні прыехаў хлопчак, рыжы, татэк ягодка. Падварак.

РЫЛО н. 1. Лыч. Падварак. 2. перан., экспр. Твар. Даць бу по етому рылу! Ліпляны. 3. Верхняя вузкая частка бутэлькі. Данілевічы.

РЭДКІ прым. 1. Рэдкі. Зварыла рэдкі крупнік. Буда-Лельчыцкая. 2. Вадзяністы, малакрухмальны. У мене картопель рэдкі, а ў Хрысці – жоўценькі. Тонеж. Як кортопля рэдкая, тоўком на коўмакі. Астражанка. 3. Абястлушчаны. Верха скінула, а рэдкі кісляк дзецям дае. Ліпляны. Рэдко молочко ўзнаюць по хвосту корові. Колі макушка хвоста жоўтая, молочко густэ, а колі – сіня, молочко рэдко. Чэмернае.

РЭДЧАК м. 1. Рэдкая матэрыя, марля. Тонеж. 2. Цадзілка. Озьмі рэдчака і працадзі молочко. Буда-Лельчыцкая. Дай рэдчака я процаджу молоко. Дзяржынск.

РЭЖА ж. Верхні слой глебы, пераплецены карэннямі травы. Трава з етой рэжы хорошо росце. Данілевічы.

РЭЖОЎКА ж. Двухпалотная рыбалоўная сетка з буйнымі і дробнымі вочкамі. Буда-Лельчыцкая.

РЭЗАК м. Від асакі. Накосіў рэзаку на пудсцёл. Падварак.

РЭЗАНКА ж. Хустка без махроў. Ганно, купіла б ты собе рэзанку. Падварак.

РЭЗАНКІ мн. Бульбяны суп. Сегоні зварыла рэзанкі й боршч. Тонеж. Ой, ужэ етые рэзанкі надоелі. Дзаржвнск.

РЭЗА́ЧКА ж. Дызентэрыя. Рэ́жа рэза́чка по жыво́му, і по́йдзеш опраўля́цца кро́вею. Цепе́р ужэ́ рэза́чкі нема́. У зе́ллейка от рэза́чкі вот такі́ кра́сны вершо́к. Тонеж.

РЭЗІ́НА ж. экспр. Гумавы абутак. Поносі́ў е́тые рэзі́ны – і козі́нец напа́ў. Падварак.

РЭЗІ́НОВЫ прым. Гумавы. Кле́ілі рэзі́новые чу́ні. Данілевічы.

РЭ́ПАНЫ прым. Патрэсканы. Жа́бу рэ́паные е. Ліпляны. Коза́ чо́рная зве́рху, рэ́паная, а пу́до дном, як мох, шо ко́зья шэрсць. Тонеж.

РЭШО́ТНІК м. Грыб, падобны на махавік. Рэшо́тнік і махові́к не однэ́: рэшо́тніка не беру́ць, а махові́ка мо́гуць браць. Маркоўскае. Рэшо́тнікі по грудо́х, по по́рослях ростуць. Данілевічы.

РЭШО́ТО н. 1. Рэшата. Пое́хаў мі́лы по дро́ва, Загорэ́ласа дубро́ва, А мі́ла тушы́ла, Рэшото́м во́ду носі́ла. З нар. песні. Тонеж. 2. Прылада для лоўлі рыбы. Рэшо́то ста́ўляць зімо́й. Ліпляны.

РЭШО́ЦІК м. Памянш. да «рэшотнік». Рэшо́цікі чэрэна́мі росту́ць. У рэшо́ціка пудо дном я́мочкі. Ліпляны. Рэшо́цькі, маховікі́, маслюкі́ – е́то ўсе соўя́кі. Тонеж.

## *С*

САГАНО́К м. Чыгунчык. Унь жэ ко́ло кове́шніка сагано́к стоі́ць. Падварак.

САМОВА́Л м. Вывернутае бурай дрэва. Пудколо́днік пуд самова́лом ку́бло ро́біць. Данілевічы.

САМОВІ́ТЫ прым. Паважны, сур'ёзны. От ужэ́ повезло́ мое́й браці́хі: такі́ дола́дны, самові́ты ў ее́ чэлове́к. Падварак.

САМОДЗЕ́ЛКОВЫ прым. Самаробны. У сорочко́х ко́лісь булі́ самодзе́лковые кручкі́. Тонеж. Самодзе́лкова ва́ленка мякчэ́йша. Ліпляны.

САМОЕ́Д м. Скупы чалавек. От самое́д е́ты чэлове́к, ця́гне собе́ усе́ ужэ́ і до колхо́зных бурако́ў добра́уса. Лохніца.

САМОТУ́ЖКІ мн. Ручныя санкі. А трэ́бо ў млін, ускі́не ходзя́ін, мешо́к на самоту́жкі і поцёг. Маркоўскае. Ужэ́ сне́гу напа́дало бога́то, мо́жно самоту́жкі вуця́гваць. Чырвонабярэжжа.

СА́ЧЫК м. Кароткая вопратка на падкладцы, пінжак. Ты б са́чыка надзе́ла да зама́танку замата́ла, а то вунь яка́ ве́я на дворэ́. Новае Палессе.

СВА́ШКА ж. Назва грыба. Пуд сарае́жку сва́шкі пудхо́дзяць, росту́ць воны́ о́сенью. Сва́шка бе́ленькая пудо дном, а зве́рху кра́сная така́я, не ве́льмо кра́сная, але пудхо́дзіць. Ліпляны.

СВЕТ м. 1. Зямля, навакольнае асяроддзе. Ле́я пузаліва́ла ўсё на све́ці. Тонеж. 2. Многа чаго-небудзь, вялікая колькасць. Шчэ накопа́ла на перэко́пішчы свет корто́плі. Тонеж. 3. Моцна плакаць. Стою́ я одна́ да так пла́чу, што свет у слеза́х топлю́. Тонеж. 4. Сапсаваць жыццё. Яка́ там ее́ жы́тка: зав'яза́ў ей чэлове́к свет, і сам пом'ёр. Падварак. Ой, ты колі́на лугова́я! Ой

проці ветроньку стояла! Ой, казаку свет зав'язала! 3 нар. песні. Тонеж. 5. Жабраваць. У войну по свету ходзіла. Тонеж. 6. Далёка. Лось бежыць край свету. Мілашавічы.

СВЕТОВА ЗАРА ж. Зорка Венера. Светова зара сама яснейша. Тонеж.

СВЕЦЁЛКА і СВЕЦІЛКА /1/ ж. Дружка на вяселлі. У хлопца на веселы дзеўка свецёлкою бувае, вона дзержыць свечкі. Падварак. Свецілка дзержыць свечкі, а ккнязек седзіць. Падварак.

СВЕЦЁЛКА /2/ ж. Вясёлка. Перэд дождзём свецёлка набірае воду. Маркоўскае.

СВІНАРЭЙКА ж. Грыб, свінушка. Свінарэйкі такіе сівенькіе губ'які. Маркоўскае.

СВІНУХА ж. Грыб, свінушка. Свінухі тоўстые понаростали, а нема колі іх браць. Маркоўскае. Богато свінух чэрвівых, а так воны смашные. Тонеж.

СВІРОПА ж. Свірэпка. Ніхто не сее свіропу, а скуль вона берэцца. Як була голодоўка, свіропу собірали і тоўклі з ее коржэ. Вона цвіце жоўтым цветом, як горч'як які. Тонеж.

СВІРЭПА ж. Свірэпка. На полі свірэпа глушае ўсе, погано ето зелье. Тонеж.

СВОЙНЕЙШЫ прым. Больш блізкі. Раз свойнейшы, то вон становіцца першым маршалком на веселы. Тонеж.

СЕГОНІ прысл. 1. Сёння. Дзеду, зробі мне клеўца. – Не, сегоні не зроблю. Ліпляны. От у мене трэпетало сегоні серцэ. Там жа. 2. Цяпер, у наш час. Колісь хлопцы стояць і песні спеваюць, а сегоні етого нема. Сегоні ўжэ не продом, і става пузгнілі. Ліпляны.

СЕДАЛО н. Курасадня. Змерклосе ўжэ, а тых курэй ніяк на седало не згоніш. Падварак. Колісь у кучцы булі куры, а зара ў хлеві, на седалі. Ліпляны.

СЕКАЦЬ незак. Сячы. Качана зрэзаем, а храпу секаем короўцы. Падварак.

СЕЛЬНІК м. 1. Застаронак для сена звычайна ў хлеве. На сено робім сельнік у одрыні. Ліпляны. 2. Сяннік. Трэбо сельнік напхаць сеном, а то тэе саўсім поцерлоса. Цепер ўжэ мало ў кого сельнікі е: усе матрацы купляюць. Астражанка.

СЕМЕРОГА ж. Назва грыба. Семерога така, як коза, ее не беруць, не ядуць. Тонеж.

СЕНОЖАЦЬ ж. Луг. Жывокост росце на сеножаці, у корчох. Ліпляны.

СЕОДНО прысл. Усе роўна. Цімофееўка хоч і дождзем пропадзе сеодно хорошо пахне, там усякіе духі е. Астражанка.

СЕРБАЦЬ незак. Сярбаць. Наварыла дзецям каган крупніку і хай сербаюць. Глушкавічы. Сергей, а Сергей, ходзі юшку сербаць. Падварак.

СЕРНІКІ мн. Запалкі. Як нема здачы, то давай сернікі. Чырвонабярэжжа. Етыя сернікі запаліць не мона. Дзяржынок. На карніз кладуць жонкі сернікі. Тонеж.

СЕРПОКРЫЛ м. Чорны стрыж. Серпокрыл упадзе на землю, лопае-лопае

крыламі, а ўзняцца не можэ: ножкі ў его короткіе. Данілевічы.

СЕРПОРЭЗНІК м. Травяністая расліна, крываўнік. Пчолкі мед беруць з серпорэзніка. Маркоўскае.

СЕРЭД прыназ. Пасярод. Бобер серэд возера зробіць шопу і жыве там. Ліпляны. На волокі е трохі покосіць. Серэд грудоў або мхоў бувае волока. Мілашавічы.

СЕРЭДОЛЬШЫ прым. Сярэдні. У баўька му двох серэдольшые булі, а меньшые з войны не прышлі. Падварак.

СЕСТРУХНА ж. Дваюрадная сястра. Грыпіна моей мацеры сеструхна. Дзяржынск.

СЕЧКА 1. ж.Чарада ваўкоў у час іх вяселляў. Колісь трапіў сечку воўкоў у лесі – і пропаў. Ліпляны.

СЕЧКА 2.ж. Пасечаная трава, салома для жывёлы. Корові насеком сечкі да опаром кіпятнем, штоб мякка була. Ліпляны.Дзе проталок, верас ссекаем на сечку. Тонеж.

СІВАКІ прым. Сіваваты. Бобёр загаціць воду – так рукамі не зробіш; хвост ў его сівакі, лопаты. Тонеж.

СІВОДРАКА ж. Сіваграк, сіваваронка. Вельмо холоду сіводрака боіцца, вона само ранне ў поўрэ ўлетае. Канапелька. У дупашках водзіцца сіводрака, збірае вона по земле чэрвячкі, мошэчкі. Ліпляны.

СІВУЛЬКА ж. Сівая сыраежка. Сівулькі такіе цюпкіе губ'які. Маркоўскае.

СІК-СІК-СІК! Вокліч на авечак. У нас овечкі звуць: сік-сік-сік! Тонеж.

СІКА ж. Назва рыбы. Плоць шырокая , а сіка вузкая, вона маленькая і зверху ходзіць. Лельчыцы.

СІМОНОВА ПОЛЯНА ж. Урочышча. На Сімановой Поляні одна руда. Падварак.

СІНЬЧЫК м. Сініца. Зімой сіньчыкі коло хат летаюць. Тонеж.

СІНЯК м. Птушка, попаўзень. По дзерэву сіняк ходзіць уніз головою.У вороночкі сіняк яйцэ несе. Данілевічы.

СІНЯЎКА ж. Маленькая рыбка. Коб хоч якў сіняўку зловіць. Маркоўскае. Зловіў одну сіняўку. Буйнавічы.

СІТКА ж. Птушка, пліска. Бусько сітку прынёс пуд крылом. Прылеціць сітка – не трэбо світка. Тонеж.

СІТОЧКА ж. Памянш. да «сітка». Сіточка летае ў поўрэ. Данілевічы.

СКАЛІ мн. Пчаліная разведка. Пчолкі вельмо далеко летаюць у скалі. Баравое.

СКАЛЯЦЬ зак., экспр. Вельмі зняважыць словамі. Хлопчак сам упаў, а вона мене скаляла нізашчо. Падварак.

СКАТ м. Вязанка лапцей. Як ідзеш у Мозырэ, беры п'яць скатоў постолоў. Тонеж.

СКВОРОК м. Скварка. Зара сілай не зоставіш дзеці скворка з'есці. Падварак.

СКЕ́БКА і СКЕ́ПКА ж. Лучына, трэска. Нарuба́ем ске́пок – і хоро́шо пудпа́ліваць імі печ. Ліпляны. У по́свеці ске́бкі полілі́. Мілашавічы.

СКЕ́ПАЦЬ незак. Шчапаць, сячы. На лучы́ну ске́паем осмо́ла. Данілевічы.

СКІК-СКІК! выкл. Скок-скок! Конопля́нік скік-скік по земле. Тонеж.

СКІКУ́Н м. Конік, насякомае. Бу́дзе скіка́ць скіку́н – хапні́це его́. Ліпляны.

СКІКУ́НЧЫК м. Памянш. да «скікун». Надзяе́м на кручка́ скіку́нчыка, вон сла́дкі, і хвата́е его́ ры́бка. Ліпляны.

СКЛО́БІЦЬ незак. Здымаць кару скобляй. За ру́чкі беро́м скло́бка да скло́бім дзе́рэво. Тонеж.

СКЛО́БОК м. Скобля. Дзе́рэво скло́білі скло́бком. Тонеж.

СКО́ПІЦЬ зак. Скласці ў копы. По́хмуркі хо́дзяць, а се́но шчэ не ско́піла. Тонеж.

СКО́РКА ж. Скарынка. По́рышса ў іх цэ́лы дзе́нь, а воны́, як соба́чцы, кі́нуць ско́рку хле́ба. Тонеж. От у мене́ хлеб не ўда́уса: на ско́рцы сеў. На ні́жнюю ско́рку хлеб сеў: трэ́бо стро́іць дзе́жку. Там жа. Глёўкі хлеб садзі́цца на ні́жнюю ско́рку. Маркоўскае.

СКО́СОК м. Пракос. Прайшо́ў два ско́скі да й кі́нуў – ва́жко косі́ць, ко́су трэ́бо настро́іць. Тонеж.

СКРОЗЬ прысл. Заўсёды, скрозь. Ко́ньска рого́жа жо́ўтым цве́том цвіце́ скрозь. У Во́ўчым скрозь гру́ды велі́кае. Асражанка.

СКРЫПЕ́ЛЬ м. Базідыяльны грыб, губа. Ко́лісь берэ́ чэлове́к е́ты скрыпе́ль да крэ́сьво крэ́ша. Данілевічы.

СКУГАЧО́Ў РОГ м. Урочышча. Дзе пасе́ялі карто́плю? – У Скугачо́вым Рогу. Лельчыцы.

СКУ́ДОВА прысл. Адкуль. Ску́дова ву ідзе́це? Тонеж.

СКУ́ДО-ТО прысл. Аднекуль. Ка́рпы ску́до-то найшлі́. Ліпляны.

СКУ́ЛЬ прысл. Адкуль. Як на про́бку наступі́ў, ску́ль та́я бо́йня о́зьмецца. Падварак. Ніхто́ не се́е свіро́пу, а ску́ль вон берэ́цца. Тонеж.

СЛЕПА́Й м. Незабудкі. Хоро́шы буке́т з слепа́ю. З робо́ты бу́дзеш іці́ – нарві́ слепаю́. Астражанка.

СЛЕПА́К м. Сляпень. Е чо́рныя й сі́венькіе слепакі́. Маркоўскае. По весне́ комарэ́ напада́е на това́р, а пото́мака шчэ ўся́ка мошкора́: оводэ́, слепакі́ й му́хі. Тонеж.

СЛЕПЕТА́ ж. зборн. Дзікія пчолы. У цар-ду́бі е слепета́. Данілевічы.

СЛЕПУ́ШКА ж. Газнічка. Запалі́ слепу́шку, а то це́мно. Падварак. У це́бе хоч слепу́шка е, а ў нас це́мно. Дзяржынск.

СЛІЖ м. 1. Тоўстае бервяно або палена, якое выкарыстоўваецца для ўскочвання па ім бярвенняў на воз, на зруб, на козлы. Вуру́бваем сліжы́ і кача́ем на воз ду́ба. Данілевічы. 2. Тоўсты брус, які кладуць па баках маста для ўмацавання насцілу. Падварак.

СЛІЗІ́ЦЬ незак. Выдзяляць слізь. Раз бо́лька чэ́шыцца і слізі́ць – значыць,

рожа. Чэмернае.

СЛОЙ м. Гліняны паліваны посуд з покрыўкай. Слой е такі з накрыўкою для масла. Тонеж.

СЛОКОТ м. Ласкатанне. От ужэ слокоту боіцца моя дзеўка. Падварак.

СЛОКОТАЦЬ незак. Ласкатаць. Падварак.

СЛОН м. Услон, заслон. У хаці одзін слон да той оборочаецца. Мілашавічы. Думала, думала, дзе етого шохвера положыць, а потомака два слона пуставіла, і вон спіць. Тонеж.

СЛОНОК м. Памянш. да «слон». Стоян робліцца, як слонок: пудо дном у ім е седзелка. Ліпляны.

СЛУКА ж. Птушка, слонка. У слукі дзюба длінна, і вона чэтырэ яйцэ несе. По груду коло воды жыве слука. Данілевічы.

СМЕРДЗЮХА ж. Палявы клоп. Так погано пахне смердзюха, як палцам ее росчавіш. Падварак.

СМЕРОК м. Змярканне. Му смерком буді ўжэ дома. Падварак.

СМЕТНІК м. 1. Сметнік. Разбіў то не ўцекай, а хоч позбірай чэрэп'е да вукінь на сметнік. Лохніца. 2. Верабей. Не ўспееш вунесці курам, як сметнікі етые шапкою налетаюць. Дзяржынск. Кіяхі сметнікі чысто поўедалі. Падварак.

СМЕХАЦЬ незак. Прасміхаць. Зав'езуць етые нашы словы ў Мозырэ да будуць смехаць нас. Мілашавічы.

СМОЛЁНЫ дзеепрым. Абпалены, смалены. Сало з смолёного кабана смашное. Тонеж.

СМОЛОВІЦА ж. Назва балота. У Смоловіцкіх Рогох е болото. Му звом его Смоловіца. Колісь тутака смолу добывалі. Чэмернае.

СМОЛОВІЦКІЕ РОГІ мн. Урочышча. У Смоловіцкіе Рогі колісь не ўлезеш возом. А ето ўжэ зара тамака зрубалі, вудралі ўсё. Чэмернае.

СМОЛОВЫ прым. Смаляны. Шчэпочкі рубаюць такіе смоловые. Тонеж. Коб не було дзірок у чэлюшчы, поліла б етые твое смоловые дрова. Данілевічы.

СМОРКАЧ м. Ёрш. Нічого не клюе – одные сморкачэ. Буда-Лельчыцкая.

СМОРКАЧЭ мн. Соплі. У его ж навек сморкачэ пуд носом вісяць. Буда – Лельчыцкая.

СМУГА ж. Адкрытая гразкая мясцовасць на балоце. Мо ў етой смузе качкі е? Падварак.

СМУКАЦЬ незак. Смыкаць, цягаць, вырываць. Важка жытка була колісь: цэлу зіму смукаюць жонкі кудзелю, слепяцца. Падварак. З стога сено смукаць важко, а трэбо. Там жа. Му смучай смукаем на шчоткі. Тонеж. На кацюшку жонка смучэ прадзьво з грэбня. Ліпляны.

СМУЧАЙ м. Травяністая расліна, падвей. Як цвіце смучай, звом его чорнаголоў. Му смучай смукаем на шчоткі. Тонеж.

СНІГАР м. Хахлатая сініца. Вуводок у снігарэй большой. Данілевічы.

СНІТКА ж. Птушка, пліска. Прылецела снітка, то скідай світку. Мілашавічы.

СНІ́ЦЫ мн. Пярэдняя і задняя часткі калёс. Сні́цы – е́то о́плень і наво́снік.Тонеж. Промі́ж сні́цамі заса́джваецца ды́шаль. Маркоўскае.

СОКЕ́РА ж. Сякера. Дава́й рамо́ве, бу́ду сту́каць соке́раю ў рам, колі́ не дасі́.-Бу́дзе вам горэлка, то́лько не сту́кай. Тонеж.

СОКЕ́РКА ж. Памянш. да «сокера». На тобе́, сы́нку, го́струю соке́рку ды зруба́й ты, сы́нку, у по́лі таполі́нку. 3 нар. песні. Ліпляны. Узяла́ соке́рку – і муляка́ наму́ліла. Там жа.

СОКОТА́ЦЬ незак. Квахтаць. Кво́кля соко́чэ. Тонеж.

СОЛЁ́НКА ж. Аблупленая вараная бульбіна. Сярэднія Печы.

СОЛОВЕ́ЙКО 1. м. Салавей. Цэ́лу ноч, бува́е, солове́йко пое́. Маркоўскае. Хо́рошо шчэбе́чэ солове́йко. Тонеж.

СОЛОВЕ́ЙКО 2. м. Кісліца. Солове́йко ў ле́сі ўжэ е. Мо нарво́м его́ на боршчэ́? Тонеж.

СОЛОВЕ́ЙКОЎ ШЧАВЕ́Р м. Кісліца. Солове́йкоў шчаве́р кі́слы, дзе́ці его́ рвуць да еду́ць. Тонеж.

СОЛОМА́ХА ж. Зацірка. Ко́лісь солома́ху вары́лі, заціра́лі ее́ рука́мі ў но́чвах. Ліпляны. Стоўко́м жы́то ў сту́пі да коло́цім солома́ху. Мілашавічы.

СОЛО́МЕНІК м. Сяннік. За́ра то́лько стары́е да негожы́е на соло́менікох спляць. Падварак.

СОЛОНІ́ЦЫ мн. Урочышча. Куда́ на робо́ту? – А ў Солоні́цы по́йдом. Тонеж.

СОН м. Сланечнік. Два мешкі́ со́ну налуза́ла і шчэ тро́хі е на горо́дзі. Ліпляны. Насы́п у кішэ́ню со́ну. Вусаў.

СО́НЕЧНІК м. Сланечнік. Ша́пкою ле́таюць коноплюкі́ пу-над со́нечніком. На гра́дках дзе гарбуза́, а дзе со́нечніка жо́нка ўстры́кне. Маркоўскае. Дзев'яцьсіл цвіце́, як со́нечнік. Тонеж.

СОПЛІ́ВЕЦ м. Ёрш. У е́том ме́сцы одны́е соплі́ўцы беру́цца. Дзяржынск.

СОПЛЯ́К /1/ м. Ёрш. Мо́жно бога́то сопляко́ў налова́ць, а есць у іх нема́ чого́: одны́е колю́кі. У той я́мі одны́е сопля́кі́. Буда-Лельчыцкая.

СОПЛЯ́К /2/ м. Ледзяш. На стрэ́чанье соплякі́ от такіе́ до́ўгіе. Дзе́ці зла́маюць соплякі́ да смо́кчуць. Тонеж.

СОРОМЯ́ЖЫ прым. Сарамлівы. Падварак.

СОТСЕ́ЛЕ прысл. Адсюль. Такі́ лес буў сотсе́ле і до Ле́нчыц. Чэмернае.

СОТСЮ́ЛЬ прысл. Адсюль. У поміда́рніку па́сынкі іду́ць сотсю́ль і сотсю́ль. Ліпляны.

СОТТУ́ЛЯ прысл. Адтуль. Открыу́ па́зухі, а бло́хі плы́гі – плы́гі сотту́ля. Тонеж.

СО́ЎНЕШНІК і СОЎНЕ́ШНІК м. Сланечнік. 3 горбузы́ зе́рнета бе́лые, а з со́ўнешніка – чо́рные. Тонеж. Ву́рвала мне ма́мо соўне́шніка, а того со́ўнешніка ороб'е́ поклева́лі. Астражанка.

СО́ЎНЯХ м. Сланечнік. По горо́дох со́ўнях росце́. Мілашавічы.

СОЎЯ́К м. 1. Падасінавік. То я то́лько й беру́ соўя́ка й гры́ба, а во́сенью –

зелені́цы. Ліпляны. 2. Ядомы грыб, апрача баравіка. Рэшо́цікі, моховікі́, маслюкі́ – е́то ўсе́ соўя́кі. Што ты набра́ла? – Соўя́коў. – А які́х ты соўя́коў набра́ла? – Рэшо́цікоў, маслюко́ў, маховіко́ў. Тонеж. 3. Мухамор. Е́тые соўя́кі е кра́сные й бе́лые, іх не беру́ць. Тонеж.

СОХА́ ж. 1. Апорны слуп з двума каротка адрэзанымі сукамі ў гаспадарчым будынку. Дзе́рэво з ралом на соху́ ідзе. Буда-Лельчыцкая. 2. Задні вертыкальны брус у каркасе кроснаў. Вороці́ла лежы́ць на со́хох. Тонеж.

СО́ЦЬЕ н. Соты. Пчо́лкі ж са́мі со́цье ро́бляць. Тонеж.

СО́ШКА ж. Акунчік. Обжэну́ свою́ карто́плю со́шкою – і робо́та моя́ ўся. Мілашавічы.

СОШНІ́К м. Лямеш. Сошні́к пудо дном ідзе́, зе́млю пудрэза́е. Маркоўскае. Ко́лісь чэлове́к ву́копае ко́рня і зро́біць соху́, то́лько сошнікі́ кова́ль поро́біць. Тонеж.

СОШНІЧО́К м. Памянш. да «сошнік». Як орэ́ш пурэ́й, набіва́ецца вон на сошнічо́к. Данілевічы.

СО́Я ж. Сойка. З е́стых гороб’е́ў е со́я і е дрозды́. Соя пудхо́дзіць пуд соро́ку, то́лько вона́ чуць коро́чэ, на тоўшчыну́ тро́хі тоўшчэ́й. Тонеж. На зі́му со́я жо́лудзь но́сіць. Данілевічы.

СПАХА́ЦЦА незак. Затупіцца. Мой пуц спаха́ўса. Ліпляны. Спаха́лос мое ле́звіе, трэ́бо було́ б его́ пудтачы́ць. Данілевічы.

СПАХА́ЦЬ зак. Затупіць. Дай ему́ соке́ру, так вон спа́шэ ее́ соўсі́м і прынесе́ пудо́ска. Тонеж.

СПАХО́ВЫ. прым. Адхоны. Дзе спахо́вы бе́рэг, там траві́цка росце́. Ліпляны.

СПЕ́ВАЦЬ незак. Спяваць. Городо́к такі́ чуба́ценькі, по ле́ту спе́вае хо́рошо, ві́соко ўго́ру ле́тае. Ліпляны.

СПЕВУ́ХА ж. Спявачка. Шчэ до во́йны на́шы спеву́хі ў Москву е́здзілі, пе́лі там ко́лішнія пе́сні. Тонеж.

СПЛЕ́СКАЦЬ зак. Прыпляскаць, зараўнаваць рыдлёўкай градку з бакоў. На́сця, сpléскала б ты хоч розо́ру на гра́дку.Тонеж.

СПЛО́ШЫЦЬ зак. Памыліцца, даць маху, прамахнуцца. Ба́чу: па зе́мле гра́е глушы́ца з глушцо́м, беску́рка наўзгато́ві була́ – і спло́шыў. Маркоўскае.

СПЛЮ́СКНУЦЦА зак. Сплюшчыцца. Коб коша́ра не сплю́скнулас, ў ей е обручэ́. Маркоўскае.

СПЛЮ́СКНУЦЬ зак. Сплюшчыць. На кова́дле сплю́скне кова́ль тобе́ зале́зо, як хоч. Тонеж. Мак сплю́скне но́ч'ю. Ліпляны.

СПОД м. Апечак. Спод ро́бляць дзерэўя́ны. На спод кладу́ць цэ́глу. Астражанка.

СПО́ДНІ прым. Ніжні. У спо́днім ка́мні жо́рван е бруч шыро́кі, коб мука́ шла ў ту́ю воро́нку. Тонеж. Шво́рнік удо́ўбвалі ў спо́дні жо́рван. Падварак.

СПОЛ м. Коўшык для вылівання вады з лодкі, савок. Бога́то во́ды ў ло́дцы – озьмі́ спо́ла да ву́лі. Астражанка.

СПУД м. Жах, страх. Жоўта́чка напада́е з спу́ду. От спу́ду рамо́нак помога́е. Ліпляны.

СПУДЗІ́ЎКІ мн. Урокі. Моя́ сестру́хна заболе́ла з спудзі́вок і два дне лежа́ла. Буда-Лельчыцкая.

СПУДРУ́ЧНЫ прым. Карэнны конь у запрэжцы парай. Шле́йку надзею́ць на роле́йного коня́, а на спудру́чного – хому́т. Падварак.

СПУСТ м. Сталярная прылада ( спуск з доўгай калодкай ). Клепчарэ́ стру́жаць кле́пчыну стру́гом, а пото́мака бо́кі – спу́стом. До мэ́тры спуст у дліну́. Данілевічы. Кле́пкі спуска́е клепча́р спу́стом, шчоб во́да не це́кла, шчыльне́й воны́ прыстава́лі. Тонеж.

ССЮ́ЛЬ і ССЮ́ЛЯ прысл. Адсюль. У горо́сі зе́лье е таке́. Воно́ не так што ссю́ля і ссю́ля ідзе́. Як воно́ звецца – не зна́ю. По ле́ту мо зна́ў бу. Ліпляны.

СТАВО́К м. Драўляны каркас у рагельні, на які нацягваецца сетка. На ставо́к нацяга́ецца це́нето. Мілашавічы.

СТА́ЙЛО н. 1.Месца для кароў у жаркі летні час. Як нема́ здро́коў, то това́р на ста́йле лежы́ць. Тонеж. 2. Калода для пчол на дрэве. От хоро́шэе ста́йло пуста́віў на ду́бі, бу́дуць у мене́ пчо́лкі. Маркоўскае.

СТАНО́ЎНІК м. Частка сталярнага станка. По́сле спу́ста дзе́рэво ўста́ўляюць у стано́ўнік. Данілевічы.

СТАРА́ТЛІВЫ прым. Старанны. Мой небо́ж такі́ стара́тлівы: обла́дзіўса на зі́му – лю́бо гля́нуць. Падварак. Неве́хна моя́ стара́тлівая, до́брая. Тонеж.

СТА́РЫ субст. прым. Месяц, які ўбывае да паловы. Коб боршч уда́ўса, трэ́бо его́ ў ста́рым склада́ць. Маркоўскае.

СТА́РЫК м. Старае русла ракі. У ста́рыку мо́жно ры́бу налова́ць. Маркоўскае. За ле́то ста́рык ву́сох і рэкі́ полові́на. Падварак.

СТАТУ́ЛЬ прысл. Адтуль. Стату́ль і стату́ль его́ окружы́лі. Лельчыцы.

СТАХЕ́Й м. Ашуканец, падманшчык. Ну й стахе́й – абу-што ву́думае. І ў кого́ вон такі́ стахе́й уда́ўса. Астражанка.

СТАЯ́К м. Стаячы калодачны вулей. Маркоўскае.

СТАЯ́Н м. 1. Стойка для дзяцей, якія не навучыліся яшчэ хадзіць. Стая́н ро́бліцца, як сло́нок; пу́до дном у ім е седзе́лка. Ліпляны. 2. Стаячы калодачны вулей. Озьмі́ лі́ну – пойдо́м стаяна́ пуднімаць на хвою. Маркоўскае.

СТО́ЙЛО н. 1. Масток на дрэве для вулляў. На го́лье зро́бім сто́йло з дзе́рэва і ву́лей ста́ўліем. Ліпляны. 2. Ву́лей на дрэве. Ву́лей на хвоі – сто́йло, а ста́йло для това́ра. Мілашавічы.

СТОДЫ́ прысл. Туды. А немчура́кі е́халі стоды́, на село́. Тонеж.

СТОКОЛО́С м. Травяністая расліна. Стоколо́с як жы́то, то́лько ма́ленькі – ма́ленькі. Лельчыцы.

СТОЛЕ́ТНІК м. Травяністая расліна, альяс. Столе́тнік лечэ́бно зе́лье. Дзяржынск.

СТО́ЛЕЦ м. Табурэтка. Коб е́то ўзяў да сто́льца пума́заў белі́лом. Ліпляны.

СТО́ЛОК м. Услончык, табурэтка. Седа́й на сто́лку. Падварак. Поста́ў сто́лка к гру́бі і грэ́йса. Астражанка.

СТО́ЛЯ ж. Столь. Сто́лю і сце́ны ма́жам разо́ў тры ў год. Тонеж.

СТОНО́Г м. Макрыца. У стоно́гі но́жэк бога́то. Маркоўскае.

СТОНО́ЎНІК м. Травяністая расліна, крываўнік. У стоно́ўніку круго́м лістка́ зу́бчыкі, росце́ по по́рослях. Его́ па́раць і п'юць от жывота́. Ліпляны.

СТОРЧЭВЫ́ прым. Цэнтральны (пра корань дрэва). По торфя́нікох ко́рні ў хвоі розла́пісты, а сторчэво́го нема́. Данілевічы.

СТОЎБ м. 1. Слуп. Тонеж. 2. Комін (дымавы). На кры́шу стоўб вуво́дзіцца. Тонеж. 3. Пяро-насеннік у цыбулі. У стоўб пушла́ моя́ цыбу́лька. Ліпляны. 4. Здвоены след зайца. Бежы́ць, бежы́ць за́яц, завернуўса да тым сле́дам наза́д,- е́то стоўб. З е́стого стоўба́ плы́гнуў у бук – паз. Ліпляны.

СТОЎБЕ́Ц м. 1. Невялікі стоўб. Зако́пваюць стоўбцы́ і рошт ро́бляць, як ха́ту ста́ўляць. Тонеж. 2. Звычайна дубовая падстаўка, укапаная пад вугал будынка. У стоўбцо́х ро́бляць пазы́. Данілевічы.

СТОЎБНОВА́ТЫ прым. Выпуклы, прадаўгаваты, падобны на конус. У прыболо́тухі ша́почка стоўбнова́та, гострэнька. Маркоўскае.

СТОЎБУ́Н м. Электрык. На мое́м столе́ харчава́ліса стоўбуны́. Маркоўскае.

СТОЎБУ́Р м. Кветканоснае сцябло. Як хто одгрэбе́ цыбу́льку, то вона́ не йдзе́ ў стоўбу́р. Гу́сто посе́еш гуркі́, і воны́ іду́ць у стоўбу́р; на ім ні за́в'язі – нічо́га нема́. Со стоўбу́ра се́ю е́тые зубкі́ на весне́ ў радо́чкі. Ліпляны.

СТО́ЎКА ж. Кучка снапоў, пастаўленых на полі для сушкі. У сто́ўку сно́пу ста́ўляць. Падварак.

СТРА́ДА ж. Цяжкае жыццё, мука. Наве́к у стра́дзі жыву́: чэлове́к з во́йны не прыйшо́ў, дзе́ці одна́ годова́ла. Маркоўскае.

СТРО́ІЦЬ незак. 1. Будаваць. Тонеж. 2. Гатовіць страву. У чы́сты чацве́р побо́льш стро́яць вечэ́ру. Ліпляны. 3. Навадзіць касу. От ву́косіў ці́пец чы́сто. Той его́ ву́косе, хто ўме́е до́брэ стро́іць ко́су. Ліпляны.

СТРОМЕ́ЛЬ м. Урочышча. У Строме́лі рос то́лько граб, дуб, я́сень, бере́за. Тонеж.

СТРУБІ́ЦЬ зак., экспр. Спаліць, знішчыць, пусціць у трубу. Бу́дзь хітрэ́й, а то ба́ньку мо́гуць струбі́ць. Падварак.

СТРУ́ГА ж. Багністае старое месца рэчкі, крыніцы. У нас вот боло́то, а ў дру́гу сто́рону – стру́га. Ко́лісь там бе́гла во́да, а цепе́р усе́ зарасло́. Стру́гі гру́зкіе такі́е: ідзе́ш по ей, і вона́ гне́цца. Чэмернае.

СТРЫЖА́К м. Частка дарогі паміж каляінамі. От дзі́во: на стрыжаку́ гры́ба ўзяла́. Буда-Лельчыцкая.

СТРЫ́ЖЭНЬ м.1. Стрыжань. Круго́м обгрызо́м морко́ўку, а стры́жэня вукі́даем, як емо́. Ліпляны. 2. Агрэх. Чому́ того стры́жэня не ву́кінуў, як вора́ў по́ле? Падварак.

СТРЭМ'Е н. Незамёрзлае месца на ледзяной паверхні рэчкі. Ко́лісь я чуць

не ўпаў у стрэ́м'е. Данілевічы.

СТРЭЧА́ЦЬ незак. Сустракаць. Колі прые́дзеце к нам, то бу́дом стрэча́ць. Тонеж.

СТРЭЧА́ЦЦА незак. Сустрэкацца. На стрэ́чэнье зіма́ з ле́том стрэча́еццa. Ліпляны.

СТУ́ЛЕКА прысл. Адтуль. Ходзі́ла на рэ́ку шма́цье праць, а сту́лека прышла́ – ха́та заму́кана. Лельчыцы.

СТУЛЬ прысл. Адтуль. Ко́лісь мой ба́цько пое́хаў на кварта́л, А воу́кі́ іду́ць стуль, от Карачы́нского, як това́ру чэ́рга. Ліпляны. Зале́з мой хлопча́к у ко́панку, посіне́ў, а не вула́зіць. Чуць я его́ стуль ву́дубіла. Тонеж.

СТУ́ЛЬВАЦЦА. незак. Сціскацца. Коб дзержа́лос, не сту́льволос пру́цья, у кошэ́ е вое́. Мілашавічы. Обручэ́ ў жаку́ ста́уляць, шчоб не сту́львалос це́нето. Маркоўскае.

СТУ́ПА ж. 1. Ступа. Цюцю́н у сту́пі тоўклі.́ Тонеж. 2. Яма ў рацэ ці возеры. Сту́па там, дзе глы́бко, кру́ціць во́ду ў сту́пі. Ліпляны.

СТЫРЧА́ЦЬ незак. Вытаркацца, вусоўвацца. Ідзе́ е́ты чэлове́к на село́, і пля́шка наве́к стырчы́ць з карма́на. Падварак. Коне́ц разво́ры стырчы́ць за драбі́намі. Маркоўскае. Жукі́ так об'е́лі корто́плю, шо то́лько цуру́болкі стырча́ць. Астражанка.

СУ́ГОЛОВАШКА ж. Драўляны брус, які накладваецца на падушку ў калёсах. У су́головашку ўдо́ўбваем ру́чкі, коб драбі́на дзержа́лас. Падварак.

СУГО́РОК м. Пагорак. Як нема́ песка́, на суго́ркох травіцка росце́. Падварак.

СУКНЯ́ ж. Спадніца з лентамі. Ле́пей накладзі́ сукню́, а то спадзе́. У мене́ е́тых сукне́й мо штук дзе́сяць, але поно́сяцца. Дзяржынск.

СУКО́НКА ж. Кароткая суконая панчоха. Наткні́ суко́нкі, а то сёні хо́лодно ў чо́ботох. Данілевічы.

СУ́КРАК м. Смольны кавалак хваёвага карча са скручанымі валокнамі. Нема́ сіло́ў су́кракі е́тые руба́ць. Мо жо́нка так іх зімо́й пупа́ліць? Коб е́то дро́ва булі́, а то одны́е су́кракі; бач, як удушы́уса. Падварак.

СУЛІ́МА ж. Атрута, нячыстая сіла, нячысцік (у пагражальных выразах і праклёнах). Тра́сца тобе́ до сулі́мы! Буда-Лельчыцкая. Сулі́ма б цебе́ ўзяла́! Падварак.

СУПЕСО́К м. Пустая неўрадлівая глеба сівого колеру. На супеску́ й трава́ не росце́. Падварак.

СУ́ТКІ мн. Вугал у хлеве, адгароджаны для сена; кармушка. Буда-Лельчыцкая.

СУТО́Н м. Тоненькі лёд на рэчцы ці возеры. На суто́ні не про́йдззеш. Новае Палессе.

СУТОНЕ́ЦЬ незак. Змяркацца. Ужэ́ сутоне́е, а вон воле́шніку шчэ не наруба́ў. Новае Палессе.

СУХА́РЫК м. Маленькі дзяцел. Данілевічы.

СУХОВІ́К м. Малы дзяцел. Е велі́кіе дзя́тлы і мале́нькіе – суховікі́. Буда-Лельчыцкая.

СУХОПА́Р м. Тушаная бульба. Прыста́ў на обе́д сухопа́р, а то надое́ў булён. Прыбалавічы.

СУ́ША ж. Суш, сухмень. Е́ты год опе́нькоў не бу́дзе, бо ве́льмо су́ша була́. Падварак.

СУШНЯ́ ж. Сушыльня. От як пуска́лі трэпа́лку, брыгадзі́р говоры́ў: «Ідзі́, дзед, да сушню́ обгля́нь». Попе́рэдно лён су́шаць у сушне́, а пото́мака ў трэпа́лку его́ подаю́ць. Ліпляны.

СУШЧЭ́ПОК м. Гэблік для першпачатковага грубага стругання. Мохры́сту до́ску сушчэ́пком чы́сцяць. Як по́сле сушчэ́пка мо́ха нема́ на до́ске, чы́сцяць её фуга́нком. Данілевічы.

СУЯ́РОК м. Зернавыя культуры, якія сеюць вясною. Суя́рок – е́то ов'ёс, пшэні́ца, про́со. Падварак.

СХА́ПВАЦЦА незак. Імгненна з'яўляцца, застываць. Прыкладзе́ гу́бку к кра́мене, сха́пваюцца і́скры – гу́бка загара́ецца. Сха́пваецца лой, як алеба́стр той. Ліпляны.

СЦЕ́ГАЦЦА незак. 1. Сцягвацца. Падварак. 2. Укарочвацца, праходзіць марудна, доўга (пра час). Ой, да мне дзень не сце́гаецца, а ноч пры́дзе – не сплю. Сярэднія Пэчы.

СЦЕ́ГАЦЬ незак. Сцягваць. Супо́ня сце́гае хамута́ і зжыма́е гужэ́ на огло́блях. Маркоўскае.

СЦЕ́КАЦЬ незак. Сцякаць. На опо́ўзнік руба́юць берэ́зы да клоду́ць его́ на стог, шчоб се́но злегло́са да во́да сце́кала. Тонеж.

СЦЕКЛЯ́НКА ж. Шкляная банка. Лісі́цы жо́ўценькіе, цепе́р іх пообраба́тываюць – да ў сцекля́нкі. Ліпляны. Не ўспе́еш зане́сці сцекля́нкі, як ужэ́ іх не прыма́юць. Дзяржынск.

СЦЕ́КЦІ зак. Зарасці. Про́со сце́кло косцеру́хою. Сярэднія Печы.

СЦЕЛЬНІ́К м. Прыстасаванне для сот і мёду ў калодзе. Дзе́сяць сцельніко́ў у коло́дзі мо́жэ буць. Чэмернае.

СЦЕНЯ́ЦІЦЦА зак. Зацягнуцца лёдам. Сценя́ціласа ўжэ крыні́чка. Падварак.

СЦЕ́РВО н. 1.Труп жывёлы, падла. Лежы́ць яко́ сце́рво, так ліс бу́дзе ходзі́ць, ходзі́ць, чуе да не пудходзіць, не то шчоб сме́ло прышо́ў да еў. Ліпляны. 2. перан. Нікчэмны, распусны чалавек. У наро́дзі молодо́м сце́рво повело́са. За е́то варт его́ біць. Сярэднія Печы.

СЦЕСНЯ́ЦЦА незак. Сціскацца. Як ро́бяць помо́ст, до́шкі сцесня́юцца ўплатну́ю. Ліпляны.

СЦЁБКА, СЦЁПКА і СЦЕ́БКА ж. Будынак для захавання гародніны, варыўня. Збе́гай, до́нька, у сцёбку – прынесі́ сло́ік ква́су. Астражанка. За́рэ шчэ ста́ўляць газю́шкі ў сцёбкох. Падварак. Я свое́ буракі́ не закопа́ла, а положы́ла ў сцёпку. Новае Палессе. У сцёбку жар ношу́,і корто́пля не ме́рзне зімо́ю.

Дзяржынск.

СЦЁБОЧКА ж.Памянш. да «сцёбка». Хочу помазаць сцёбочку, а гліны шчэ нема. Тонеж.

СЦЁПЛІЦЦА зак. Нагрэцца, зрабіцца цёплай. Ужэ сцёпліласа вода ў чавунчыку. Тонеж.

СЦЁПЛІЦЬ зак. Нагрэць, зрабіць цёплай. Коб его воду сцёпліць да ногі помуць. Тонеж.

СЦІРКА ж. Дошка для мыцця бялізны. Хай бу ты, сынок, сцірку бабі прынёс. Чырвонабярэжжа.

СЦІСЦІ зак. Сціснуць. Коб сцісці ношай, трэбо два чэловекі. Падварак. Его ж сціслі ўдвох і повелі пуд рукі. Ліпляны.

СЦІХА прысл. Ціха (у песнях). Цекла рэчка невелічка, цекла вона сціха, хто не буў на Украіне, той не бачыў ліха. З нар. песні. Тонеж.

СЦЯГЕНЬ м. Сувязь загнутых верхніх частак палазоў з пярэднімі капыламі. Падварак.

СЫР м. Тварог. З кіслого молочка отчаўліваем сыроводку да сыра роблім. Тонеж. Збеглоса молодзьво на сыр. Ліпляны. Гнётом вучаўліваюць сыроводку з сыру. Падварак.

СЫРОВОДКА ж. 1. Сыроватка. Прымаку сыроводку ў глеку дае, а сама сметану есць. Тонеж. 2. Суп з проса і сыракваши. Зробіла сыроводку, і дзеці смашно поелі. Лохніца.

СЫТНІК м. Травяністая расліна. Пошла б ты, донька, да накосіла сытніку кобану. Тонеж.

СЯЖ м. Збудаванне для лоўлі рыбы ноччу. Сяж строіцца только на рэке, дзе мілко. Ліпляны.

## *Т*

ТАДЭЙ прысл. Тады. На полі зара добрэ ўсе росце: цепер жэ ўдобрэнье, а тадэй его не було. Маркоўскае.

ТАЙКА ж. Сяброўка. Сохвея навек моя тайка: му з ею шчэ на поседзёлкі, на музыкі ходзілі. Буда – Лельчыцкая.

ТАЛАН м. Шанцаванне, доля, лёс. Мо такі мой талан: ходзяін з войны не прыйшоў, дзеці одна годовала. Падварак.

ТАМА прысл. Там. Унь тама мулін набрала цэлу гладышку. Тонеж. Ой, пошла ўдоўка Дорожэчкі гледзеці, а тама ведзе Перэпёлочка дзеці. З нар. песні. Там жа.

ТАМАКА прысл. Там. У войну му тамака, у Чэрнігові, оставілі волы. Тонеж. Кагуць, шчо ў такой квадры погода, а тамака негода. Падварак. Дуга ў дзірку ўстрэмляецца, а тамака коса пробіваецца палцы на два. Там жа.

ТАТАРНІК м. Аер. Татарнік росце вісоко. На пол кідаем татарнік, у пляшкі стаўляем. Ліпляны. Пуд хлеб пудсцілалі татарнік. Там жа.

ТАТЭК злуч. Як. Сегоні прыехаў хлопчак, рыжы, татэк ягодка. Мо на дворэ холодно? Бач, шчокі наружавіла, татэк ягоды. Падварак.

ТАЧАНКА ж. Тачка. По дошцы етою тачанкою возілі недалеко гліну, песок. Падварак.

ТВОРБА ж. Прынада для пчол. Маркоўскае.

ТВОРЫЦЬ незак. Класці ў вулей прынаду для пчол. Ходзіла по лесі, творыла вулье. Сярэднія Печы. Воскодавамі му вулье творым. Падварак.

ТОБТО і ТОПТО мадальн. сл. Праўда. Ты, тобто, не пойдзеш сегоні по ягодзі. Новае Палессе. Топто, ты посадзіла ўжэ кортоплю? Дзяржынск.

ТОВАР м. Буйная рагатая жывёла. На парыніне товар вельмо добрэ есць травіцу. Товару даюць здрок, як заболее. Тонеж. Заспала сегоні, а товар далеко погналі. Сярэднія Печы.

ТОГДЫ прысл. Тады. Уперэд шнурэм отоб'е, а тогды шклюдом прочэсвае. Тонеж. Вубіраюць драчку, а тогды ложаць у шпар. Сярэднія Пэчы. Колісь яблык поп посвяціць, а тогды ўжэ іх едуць. Мілашавічыю Пороху сыпле ў рульку, а тогды пістоны закладае. Ліпляны.

ТОК /1/ м.1. Гумно. Перэд стаўляй тока, а тогды хату. Сярэднія Печы. З стога зімою скідаюць жыто – да ў ток. Ліпляны. Склалі ўжэ ўвесь хлеб у ток. Маркоўскае. 2. Месца ў гумне для малацьбы. На току б'ем жыто. Тонеж. 3. Земляная падлога. Колісь бўў у хатох ток. Зімой по ім не пройдзеш босы – холодно. Тонеж. Тые разы набівалі ток у хаці. Ліпляны.

ТОК /2/ м. Жыр. Перш ток мочайце, а потом будзеце вускаркі есці. Астражанка. Дзеці ток помочалі, а вушкаркі свіньє вукінула. Прыбалавічы.

ТОЛОКА ж. Дапамога ў працы гуртам. Прадзьво продом – толоку збіраем. Тонеж.

ТОЛОКОВАЦЦА незак. Працаваць па просьбе гуртам. Дзеўкі толокуюцца сегоні ў Хрысці. Тонеж.

ТОНКАШКУРКА ж., экспр. Пястуха. Ну й тонкашкурка ты – нічога не скажы. Падварак.

ТОПАЛКА ж. Тапачка. Хочу топалкі купіць, а ў лаўцы іх нема. Тонеж.

ТОПЕНЬ м. Ручная лавушка з лазы ў выглядзе конуса. Можно й топнем богато рыбу наловаць. Ліпляны.

ТОПЛЕНІК м. Патануўшае бервяно. Некоторые вуцягаюць топленікі на дрова. Ліпляны. Упадзе топленік на дно і лежыць тамака, пока хто не вуцягне. Лельчыцы.

ТОПЛЯК м. Патануўшае бервяно. Топлякі вуцягаюць, сушаць і потомака плаваць. Лельчыцы.

ТОПТАНКА ж. Бульбяная каша. Мі навек ету топтанку емо з кісляком Прыбалавічы.

ТОПТУХА ж. Бульбяная каша. Кожан дзень топтуха й топтуха. Мо булён які зварыла б? Мілашавічы.

ТОПЧАНЫ мн. Прылада для памолу зерня коньмі. На топчанох можно

було́ крупу́ драць. Падварак.

ТОРОКА́ТНІЩА ж. Урочышча. Тонеж.

ТОРФЯ́НІКІ мн. Тарфянішча. По торфя́нікох ко́рні ў хвоі розла́пісты, а сторчэво́го нема́. Данілевічы.

ТОЎДЫ́ прысл. Тады. Ідзі́ за́ра ў ла́ўку, тоўды́ по́зна бу́дзе. Ліпляны.

ТОЎКУ́Н м. Страва з пер'я цыбулі. Сёні на обе́д я вам тоўкуна́ зроблю́. Падварак.

ТОЎКЦІ́ незак. Таўчы. Трэ́бо ж шчэ тоўкці́ про́со – за́ўтра не бу́дзе колі́. Падварак.

ТОЎСТАДЗЮ́БЕЦ м. Крыжадзюб. Данілевічы.

ТОЎЧО́НКА ж. Бульбяная каша. Озьмі́ тоўчо́нкі ў чаву́нчыку. Заберажніца.

ТОЎШЧЭ́ЗНЫ прым. Вельмі тоўсты. Ох, які́ тоўшчэ́зны це́леш ! Астражанка.

ТОЎШЧЭ́ЙШЫ прым. Таўсцейшы. Як дзе́рэво тоўшчэ́йшэ, венко́ў бу́дзе не бога́то. Тонеж.

ТО́ЧКА ж. Мядзведка, насекомае. Поточы́ла то́чка зе́млю, гуркі́ зрэ́зала. Падварак. У то́чкі голо́ўка перэшчы́кана. Маркоўскае.

ТО́ЧНЫ прым. Тлусты ( пра кавалак сала). От ужэ́ то́чное са́ло: зажа́рыш его́ – і ву́скарок нема́. Маркоўскае.

ТО́Я ж. Травяністая расліна. У ко́сы то́ю заплетаюць. Тонеж. Коб не бурку́н і не то́я, то була́ б дзе́ўка мо́я. Там жа.

ТПРУ-БУЦЬ выкл. Вокліч на волоў. Тонеж.

ТРАБЯ́НКА ж. Каўбаса з ўнутранасцей. Трэ́бо за́ўтра зробіць трабя́нку, а то ўсе откла́даваю і откла́даваю. Падварак.

ТРА́ПІЦЬ зак. Знайсці, напаткаць. Тут то́чкі ( насякомае ) я не тра́піла. Маркоўскае. Сего́ні ороб'я́чэ кубе́льцэ тра́піла ў ле́сі. Канапелька. Е́стые го́ды дзень бро́дзіш по ле́су і гры́ба не тра́піш. Тонеж. Ко́лісь тра́піў се́чку воўко́ў у ле́сі – і пропа́ў. Ліпляны.

ТРАПКА́Ч м. 1. Звязка з канцоў кроснаў, у якую ўвязвалі пасуду з ядой. Зро́бім, бува́ло, трапкача́ і несо́м у ім еду́ косара́м. Ліпляны. 2. Палатняная покрыўка для дзяжы. Дзе́жку накрыва́лі трапкачо́м. Маркоўскае.

ТРОСЦЬ ж. Пласцінка ў бердзе. У бе́рдо ўста́ўліваецца тросць. Промі́ж тро́сцю ні́ткі іду́ць. Тонеж.

ТРОЯ́Н м. Адзінка вымярэння даўжыні. Дзе́рэво троя́намі вумера́лі. У трояне тры са́жны. Тонеж.

ТРУТО́ЎКА ж. Матка трутняў. Маркоўскае.

ТРУШКІ прысл. Трушком. Пятна́ццаць вёрст мо́жэ лошы́ца тру́шкі бе́гці. Маркоўскае.

ТРЭ мадальн.сл. Трэба. Трэ ў хізо́к корто́плю перэне́сці. Прыбалавічы.

ТРЭ́БЕЛ м. Свердзел. Дзі́рку ў сцене́ мо́жно трэ́белом прове́рціць навы́лет. Ліпляны.

ТРЭПА́ЛКА ж. Ільномялка. Попе́рэдо лён су́шаць у сушне́, а пото́мака ў трэпа́лку его́ подаю́ць. Як пуска́лі трэпа́лку, брыгадзі́р говоры́ў: «Ідзі́, дзед, да сушню́ обгля́нь». Ліпляны.

ТРЭ́ПАЦЬ незак. Трапаць. Лён трэ́паюць – отрэ́пкі леця́ць. Данілевічы.

ТРЭПА́ЧКА і ТРЭПА́ШКА ж. Трапло. Трэпа́чкою лён трэ́палі. Тонеж. Поло́ж трэпа́шку на осло́н. Вусаў. Пуд трэпа́шку лён ідзе́ опо́сле церніцы. Маркоўскае.

ТРЭЦЯ́К м. 1. Поле, якое тры гады не ўгнойвалася. На трэцяку́ грэ́чку се́елі. Ліпляны. После спа́саўкі на трэцяку́ се́юць жы́то. Маркоўскае. 2. Плата за арэндную зямлю. Маркоўскае.

ТУДО́Ю, ТУДЭ́Й і ТУДО́Й прысл. Туды. Шла тудо́ю пе́шкі, а наза́д шо́хвер пудвё́з. Тонеж. Не едзь тудэ́й: там па́нька. Чэмернае. Робі́лі шо́пу да возы́ ста́вілі тудо́й, шоб не мо́клі. Тонеж.

ТУЛУ́Б м. Корпус у жаку. У тулу́б ове́ршэк уста́ўліваецца, коб захо́дзіла ры́ба. Мілашавічы. З ву́сцья ры́ба попада́е ў тулу́б і наза́д не мо́жэ ву́йсці. Маркоўскае.

ТУЛУ́П м. Доўгая зімняя вопратка з аўчын. Тулу́п без зобо́роў шы́лі. Ліпляны. На поўшу́бок тулу́па напіна́лі. Данілевічы.

ТУ́МНА прысл. Цьмяна. Учо́ра заходзі́ло со́нца ту́мна – дождзь бу́дзе. Тонеж.

ТУРБОВІ́НКА ж. Сцяблінка. Як уро́дзяць помідо́ры, на ка́жной турбові́нцы іх бога́то. Ліпляны.

ТУ́ТАКА прысл. Тут. Ту́така наве́к ры́бу ло́ўляць. Маркоўскае.

ТУШО́НІКІ мн. Тушаная бульба. З м'я́сом тушо́нікі ту́шаць да шчэ й са́ла ліну́ць і тро́шкі кро́пу. Тонеж. У тушо́нікі ўкро́пу тро́шкі пудліва́ем. Ліпляны.

ТУШО́НКА ж. Тушаная бульба. Сего́ні заста́віла на обед тушо́нку. Лельчыцы.

ТЫ́ЖАНЬ і ТЫ́ЖДЗЕНЬ м. Тыдзень. Петрыко́ўцы по два ты́жні коледова́лі. Маркоўскае. Ты́жняў два ўжэ не ідзе́ брыгадзі́р у ха́ту. Ліпляны. У нас таке́ се́но: касі́лі воны́ ўдво́х цэ́лы ты́ждзень і накосі́лі два во́за. Тонеж. У него́ду ку́чкі стоя́ць на по́лі два ты́жні. Сярэднія Печы.

ТЫНКО́ЎКА ж. Тынк. У цено́х ужэ́ ву́дзерласа тынко́ўка. Ліпляны.

ТЫРСА́ ж. Пілавінне. На пудоко́ннік кладу́ць ва́ту, сы́плюць тырсу́ да ўста́ўляюць окно́ зі́мне. Тонеж. Як цынку́ем хаты́, то тырсу́ сы́плем у песо́к і ў глі́ну. Данілевічы.

ТЫЧКО́ВЫ прым. Звязаны з тычкай. Пехо́тка росце́ невысо́ка, куста́мі, а тычко́ва квасо́ля ўе́цца на па́лкі. Ліпляны. Тычко́ва квасо́ля лу́ччэ. Тонеж.

ТЭ́БЕЛ м. Свердзел. Тэ́бел вукі́дае стру́жку наве́рх. Тонеж. Тэ́блом прокру́чваем дзіркі́ і б'ем у іх колка́. Тонеж.

ТЭЙ займ. Той. Пое́халі, як тэй каза́ў, уху́ есці. Лельчыцы. Поб'е́ жо́нка колкі́ ў сцене́ да снуе: бе́гае по ха́ці то ў тэй край, то ў тэй. Тонеж.

ТЭ́ЛЬМАНКА ж. Гатунак бульбы. Коб ты мне тэ́льманку обменя́ла – хо́чу

ею город посеяць. Падварак.

ТЭРНОЎКА ж. Вялікая хустка з кіціцамі. Е шэрсцяны тэрноўкі. Тонеж. Поба, поба! Замотала тэтноўку і говорыць не хочэ. Буда-Лельчыцкая. Тые разы за дзесяць копеек озьмеш хусту – тэрноўку. Мілашавічы.

## У

УБРАЦЬ зак., экспр. Прагна з'есці, нічога не пакінуўшы. Намочала трохі ў місі коржыкоў. Нехай Мані зостанецца, а то сама уберэш. Ты ж у мене навек есі коржыкі. Тонеж.

УБРЭДЗЬ прысл. Уброд. Тут только ўбрэдзь перэезд. Тонеж. Дзе рэчку перэйсці? – Да унь там убрэдзь. Ліпляны. З посветом ідзем убрэдзь біць рыбу. Мілашавічы.

УВАБРАЦЬ зак. Забраць. Усё хочэ ўвабраць пуд свае рукі, мало шчэ ў ее свого шмацья . Маркоўскае.

УВАМЛЕЦЬ зак. Стаць мяккім вільготным. Пуд парам земля ўвамлее і лучча дае ўроджай. Падварак.

УВЕРНУЦЦА зак. Вярнуцца. Мой чэловек казаў, шчо, пока немца не оджану, не ўвернуса домой. Тонеж.

УВОРОТ м. Прыбытак ад пасеваў. У тым годзі хто пасееў кортоплю на нізу, каеўса: уворотy нема. Падварак.

УВОЧЭВІДКІ прысл. Хутка. Вон жэ только стаў робіць і ўвочэвідкі ўдушыўса. Падварак.

УГЛЕДАЦЬ незак. Выглядваць, глядзець. Я угледала, угледала ее на вуліцы, а вона ў хаці седзіць. Тонеж. У быстрой рэцэ волна грае, там Моруся потанае. Ее матухна ўгледае. З нар.песні. Тонеж.

УГЛЯНУЦЬ зак. Пабачыць, убачыць. Трэ мне ўглянуць, як Іван ііцьме домоў. Падварак.

УГОВОРАЦЬ незак. Замаўляць. От поганюкі ўговораюць тожэ. Там его й не богато говорыць. Чэмернае.

УГОЛОДЗІЦЬ зак. Пакінуць без корму. Вон ўзяў мед по самые прыткі да ўголодзіў пчолкі. Ліпляны.

УГРЭБАЦЬ незак. Угрэбваць. Узімку жонка жар угрэбае ў кобачку, коб цепло було. Ліпляны. Граблямі угрэбаюць гной у ровец. Мілашавічы.

УДАРНІК м. Жалезнае кольца ў верхняй частцы ручкі долата. Данілевічы.

УДВОХ прысл. Удвух. Ношай удвох зав'язваюць.Сярэднія Печы. Дзеці му погодовалі і осталіса ўдвох з бабую. Тонеж.

УДОЎБАЦЦА незак. Удзёўбвацца. Спіцы ўдоўбаюцца ў колодкі ў обод. Тонеж.

УДОЎБАЦЬ зак. Удзяўбці. Трэбо шчэ ўдоўбаць колкі ў сценку, хай жонка кросна снуе. Тонеж.

УДУШЫЦЦА зак. Спацець. Коб ето дрова булі, а то одные сукракі; бач,

як удушыўса. Падварак.

УДУШЫЦЬ зак. Узмыліць (пра каня ). Ето ж не чэлавек, а азіят некі: так лошыцу ўдушыў. Падварак.

УЖАЛОБІЦЦА зак. Расчуліцца. З войны богато сірот зосталоса; друга жонка ўздумае ўсё ето да так ужалобіцца, шчо й рады не можно даць. Тонеж.

УЖАЛОБІЦЬ зак. Расчуліць, выклікаць жаль. Венгура можэ ўжалобіць і развеселіць кого хоч. Тонеж.

УЖЭ прысл. Ужо. Кагуць, шо ўжэ грыбу понаросталі ў лесі. Мілашавічы.

УЗДРОЧЫЦЦА зак. Разбягацца ад укусаў машкары. Пасцвіў чэргу, да ўздрочыўса товар, гоняў его цэлы дзень. Тонеж.

УЗДРОЧЫЦЬ зак. Выклікаць сверб у жывёл (кароў). Напаў здрок на товар, да так уздрочыў, шчо тэй бежыць край свету. Тонеж.

УЗДУМАЦЦА зак. Успомніцца. Мо шчэ ўздумаюцца песні? Богато іх ведала. Тонеж.

УЗДУМАЦЬ зак. Успомніць. Як уздумаю свого чэлавека, бачу его перэд собою. З войны богато сірот зосталоса; друга жонка ўздумае ўсё ето да так ужалобіцца, шчо й рады не можно даць. Тонеж.

УЗДУХА ж. Прыўзнятая паверхня багністага балота. Станеш у плаў – по боков усхопваюцца ўздухі. Данілевічы.

УЗІРА ж. Вузкая прасека ў лесе. На ўзіры грыбоў набрала. Данілевічы.

УЗЫВАЦЬ зак. Заклікаць, зваць. Старшы сват узывае короваем усіх весельнікоў. Тонеж.

УКАЗНІК м. Указчык, дарадца. Коб не було ў вас указніка, усе б ву по свету пойшлі. Тонеж.

УКІСАЦЬ незак. Укісаць. У бочцы квас з берэзы, клёна ўкісае, стане такі рэзкі. Без рошчыны хлеб не ўкісае. Тонеж.

УКРОП м. Кіпень. У тушонікі ўкропу трошкі пудліваем. Ліпляны.

УЛЕТАЦЬ незак. Улятаць. Пух улетае – пшэно зостаецца ў ночвах.Тонеж.

УНЕКА часц. Вунь Унека маці ідзе. Астражанка. Унека сколько дзядзько рыбу наловаў. Там жа.

УНЁ часц. Вунь. Тамака, унё за Янавым городом, траву косіў. Тонеж.

УНОЎЦАВА прысл. Нанава. Зробіў уноўцава плот. Падварак.

УПЕРЭД прысл. Раней, спачатку. Дзерэво ўперэд шнуром отбіваюць, а тогды шклюдом прочэсваюць. Тонеж.

УПОВАЦЬ незак. Разлічваць. Нам только жыць да на добро ўповаць. Падварак.

УПРАМУЮ прысл. Напрамую. Як нема ветру, то ўпрамую ідзе дым з коміна. Ліпляны.

УПРАЎЛЯЦЬ незак. Апрацоўваць, даглядаць. А му тые соткі негожые ўпраўляць. Ліпляны.

УПУНІЦЬ зак. Супыніць, суняць. Дзевок тых упунілі, а я плакала. Тонеж.

УРАННІ прысл. Раніцою. Уранні з'ела только тры вускаркі і вупіла

шкля́нку ча́ю. Лельчыцы.

УРО́ВЕНЬ прысл. Нароўні. Закі́даюць жэнь на голі́ну ўро́вень з ву́льем. Тонеж.

УСПЛЕ́НЬЕ н. Рэлігійнае свята 25-27 жніўня. На п'яцё́нкі ў Дубро́ўках го́сці, а ў Ху́торы на Успле́нье й провадну́. Падварак. На жы́то зе́млю ворýць по́сле Успле́нья. Ліпляны.

УСТРЫКНУ́ЦЬ зак. Утаркнуць. Ходзя́йка на горо́дзі устрыкне́ там горбуза́, там со́нечніка. Маркоўскае. Зро́біць дру́гі чэлове́к такі́ зубе́ль: па́лку рошчэ́піць, лучы́нку ў ее́ устрыкне́, запа́ліць і пудку́рвае пчо́лок. Тонеж.

УСТРЭМЛЯ́ЦЬ незак. Убіваць, устаўляць. Дуга́ ў дзі́рку ўстрэмля́еецца, а та́мака ко́са пробіва́еецца па́лцы на два. Падварак.

УСУ́Х м. Дрэва з амярцвелай унутранай часткай. На дро́ва ўсух беро́м. Данілевічы.

УСХА́ПВАЦЦА незак. Усхопліваацца. Капне́ дождзь – ба́лбушэчка усха́пваецца. Тонеж.

УТОПА́ЦЬ незак. Тануць. Чэлове́к утопа́е, а воны́ стоя́ць, як моня́кі які́е. Тонеж.

УХО́ДЗІНЫ мн. Наваселле. Ма́ло хто за́ра ўхо́дзіны спраўля́е, збера́цца чэлове́к п'яць-шэсць, вы́п'юць горэ́лкі – і ўсё. Падварак.

УЦЕ́КАЦЬ незак. Уцякаць. Уме́рла жо́нка ў курэне́, кі́нулі ее́ ўсе і побе́глі ўце́каць. Я за ее́ – на пле́чы і дублю́. Тонеж.

УЦІРА́ЛЬНІК м. Ручнік. У мене́ шчэ й за́ра е ўціра́льнікі, насто́льнікі свое́ робо́ты. Ліпляны. До ўціра́льніка прышыва́лі ґару́нкі. Падварак. Насто́льніца шэ́ршы за ўціра́льніка. Тонеж.

УЧА́ДЗЕЦЬ зак. Учадзець. Дру́гі по́йдзе по богні́цы – голова́ болі́ць, а я не ўча́дзею. Ліпляны. От буяшніку ўчадзець можно. Тонеж.

УЧКУ́Р м. Палачка для зашпільвання. Ра́ньшэ пошы́е хто штаны́, загарта́е мотузка́ і ўста́ўляе учку́р. Ліпляны.

УША́К м. Вушак. Год ро́біць одры́ну, а ўсё ўшака́ стано́ўліць. Тонеж.

УШПА́РАЦЬ зак., экспр. 1. Прайсці. Дру́га ба́ба ў шэсцьдзесят год ушпа́рыць со́рок кіломе́траў і шчэ до́ма по́рацца. Тонеж. 2. Ударыць. От як ушпа́ру меце́лкою по крыло́х, то не бу́дзеце ў огоро́д ле́таць. Тонеж.

УШУ́ЛО ж. Шула. Коб хоч ушу́ла прыве́зці на одры́ну. Тонеж. Што стоі́ш, як ушу́ло! Лельчыцы. Прыв'ёз дзе́рэво на ўшу́ло, а як паз ву́брацъ. Падварак.

## *Ф*

ФА́ДРА ж. Фаза, квадра. У ме́сяцы е чэты́ры фа́дры, одна́ фа́дра – до молодзіка́. Тонеж.

ФА́ЛДА ж. Зборка, складка,. Хо́чу, коб мне пошы́лі пла́цье з фа́лдамі. Маркоўскае.

ФАМІЛЬЯ́НТ м. Аднафамілец, цёзка па прозвішчу. Морко́ўскае звецца по

фамільянтох. Маркоўскае.

ФІЦЫЯНТ м. Франтон. Трэбо було б фіцыянта зобіць. Сярэднія Печы.

ФЛАНГОВЫ прым. Зроблены паўз два бакі, на дзве створкі (пра дзверы). Пятдзясаткі ідуць на флангóвые дзверы. Тонеж. На дзве половінкі отчыняюцца флангóвые дзверы. Данілевічы.

ФЛАНДЗОВЫ прым. Зроблены паўз два бакі, на дзве створкі (пра дзверы). Фландзóвые дзверы робляцца з двумамі половінкамі. Тонеж.

ФЛЯГА ж. Металічная салдацкая пляшка. З войны шчэ ў мене фляга е. Данілевічы.

ФОРТКА ж. Брамка, веснічкі. Запні фортку, коб куры на вуліцу не выходзілі. Тонеж.

ФУГАНОК м. Гэблік для гладкай апрацоўкі дрэва. Як после сушчэпка моха нема на доске, чысцяць ее фуганком. Данілевічы.

ФУТ м. Адзінка ваымярэння даўжыні. У сажны чэтырнаццаць футоў. Тонеж.

## X

ХАЙ часц. Няхай. Хворобу хай з'есць: не йшла за того хлопца, будзе седзець за вусадку. Тонеж.

ХАМУЦІК м. Кольца ў ніжняй частцы ручкі долата. Хамуцік набіваем, коб ручка не расколóлас. Данілевічы.

ХАЛЕПА ж. Слота, хлюпота, дрэннае надвор'е. Ну й халепа: у таку погоду ходзяін собаку на двор не вугоняе. Буда-Лельчыцкая.

ХАПЧЫК м. Чапяла. У кутку хапчык стоіць. Тонеж.

ХАРЧ і ХАРЧЫ мн. Яда, харчаванне. Колісь торба була на харч. Маркоўскае. А его шурак наберэ торбу харчоў, як ідзе пасціць товар. Тонеж.

ХАРЧАВАЦЦА незак. Сталавацца. На моем столе харчаваліса стоўбуны. Маркоўскае. У мене харчаваўса одзін копач; дзень робіць, а ноч з дзеўкамі ходзіць. Падварак.

ХАРЧАВАЦЬ незак. Карміць. Кожан за свого сына харчаваў вучыцеля по дню, по два, по тыжню. Падварак.

ХАУТ м. Дрэва з выгніўшым асяродкам. У хауці е только яке порохно. Маркоўскае. От хороша хвоя ўпала, а ето хаут: дзіркі погнілі. Лііпляны.

ХАУТНЫ прым. Спарахнелы. На хаціну хаутна дзерэвіна не йдзе. Маркоўскае.

ХВАРТУК м. Фартух. Вукорміла ўсе дзеці з хвартука. Тонеж.

ХВІЛЯ ж. Вецер. Хвіля пуднімае волну і б'е ў лодку. Ліпляны. Схопіласа така хвіля, што дзерэво можэ поломаць. Як ухопіла хвіля кучкі да як поперла іх по полю. Тонеж.

ХВІРАНКА ж. Фіранка. Запні хвіранку. Ліпляны.

ХВОЙКА ж. Хвошч. Дзе хоч, хвойка пробіваецца, вуполоць ее не можно.

